№2 (123)
/сакавік-красавік/ 2023

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

паэзія

Уладзімір Някляеў



...І мовіў Бог, вар'ят, прарок, паэт:
"Шлях на Галгофу – шлях круты. Высокі.
Прайдзі яго – і ты ўратуеш свет!
Ты зменіш час!..

# Вар'ятня

***Паэма***

*Памяці Людмілы Някляевай-Гембіцкай*

Бог захварэў. І мы Яго лячылі.
Ён нас любіў – і мы Яго любілі,
Таму Ён не памёр...
*(З ранніх вершаў).*

***1***

...І быў вар'яцкі дом. І ціха ў той вар'ятні
Канаў стары паэт. Пад ім – матрасік ватні,
На ім пацёрты плашч, паношаны вятрамі...

Ён век свой дажываў між яваю і снамі,
Якімі поўны быў вар'яцкі дом.

«Усё маё жыццё за мной гарыць агнём!
Да попелу! Да тла! І тое ж будзе з вамі!» –
Прарочыў ён...

Ды што нам да прарокаў!

Ягоны голас, як рыпенне крокваў
Пад ветрам, чуўся нам. І мы пілі віно,
П'янелі, цалаваліся. Даўно
З табою мы ў каханні вар'яцелі.

«Вар'яцтва – гэта лепшае, што мелі
Усе, хто нарадзіўся на зямлі», –
Вяшчаў прарок...

Мы згодныя былі.
Шчаслівыя ў вар'яцтве, знялі мы,
Што ў ім займелі...

«І апроч турмы,
Апроч вар'ятні, мы не маем дома», –
Прарок вяшчаў...

І гэта нам вядома
Было даўно, бо мы згубілі дом.

«Прыкідваемся мы, нібы жывём, –
Ён прамаўляў. – А што жыццё? Чужына!
А смерць – Айчына!»

«Дык чаму ж тады
Вы тут?.. Не на Айчыне?..»

«Бо жанчына
І сын мой тут. І я шукаю сына,
Якому сёння трыццаць тры гады.
Выпадкам вы яго не сустракалі?»

«Магчыма. А як зваць яго?»
«Хрыстом».

І як зямля пад хуткім цягніком,
Нябёсы над вар'ятняй задрыжалі.

«Вы Бог?» – спытаў я.
І з усіх вакон
Святло лінула. Сціх нябесны звон,
І ў цішыні, імя якой Нямая,
Паэт прамовіў: «Ведама здавён:
Калі ёсць Бог, дык сэнс Сусвету – Ён,
І сэнсу ўсё астатняе не мае.

Так у нямых не мае сэнсу слых,
Так карабель без сэнсу, калі тоне...»

«О, колькі ў свеце слоў, як пухіры, пустых! –
Не вытрывала ты. – Яны ў любым законе,
У кнігах, клятвах, споведзях людскіх!..»

Тут дзверы расчыніліся – і ў іх
Паўстаў Хрыстос. Такі, як на іконе.

Укленчыў прад старым: «Павінны быў я сёння
Прыйсці ў бацькоўскі дом...»

«Нармальны псіх...» –
Сказала ты.

«Дазволь да ног тваіх
Прыпасці...» – як маліў, Хрыстос казаў.

Вар'ят вар'яту ногі цалаваў,
І бацька са слязьмі глядзеў на сына,
Шаптаў: «Ты не павінны... не павінны...
А маці дзе?..» – спытаў.
І голас быў на зломе...
І пацямнелі вокны ў божым доме.

«Яна не хоча з намі... Я адзін...»
«Што кажа?..»
«Што і Бог, і Божы Сын
Не тыя... Не такіх яна хацела...»

І ў твар вар'яту кінулася кроў:
«Хацела не яна! Хацела цела,
Што прагла, ненасытнае, грахоў,
Прымаючы юрлівасць за любоў,
Жаданне за каханне!.. Што сказала
Яна яшчэ?»

«Што ў нас любові мала,
Што той, якая ў ёй, пад сэрца у яе,
Ні Бацьку і ні Сыну не стае,
Таму на свеце й валадарыць зло...»

«Чаму так цёмна тут? Хто выключыў святло? –
Накінуўся на нас вар'ят стары,
Бо ў доме болей не было нікога. –

Няма святла, а вінаваціць Бога!..
Ну? Што яшчэ?..»

«Што людзі – не звяры,
Што ўсе яны страшней за ўсіх звяроў!
Сабе падобных рвуць яны няспынна,
Бо ў сэрцы Бога вымерла любоў,
Калі раскрыжаваць дазволіў Сына,
А калі Сына не пашкадаваў,
Дык анікога Ён не пашкадуе,
Таму й пануе зло, і смерць таму лютуе!..
Вось Божы дар! Вось што Гасподзь нам даў!»

«Яна казала гэтак?..»
«Слова ў слова.
Сказала, што перарабіць нанова
Ты мусіш свет...»

«Дзеля жанчыны?!. Свет?!.
Яна ўсё думае, што я паэт?
Не Бог, што свайго слова не мяняе?!» –
Узроў стары вар'ят. І ў цішы, што Нямая,
Укленчыўшы, сказаў Ягоны Сын:
«Ні горад Віфсаід, ні горад Харазін,
Ні места, дзе мяне раскрыжавалі,
Хрыста за Твайго Сына не прызналі,
Таму, пакуль Ты іх не пакараў,
Прасіла Маці, каб не пасылаў
На крыж мяне Ты зноў, каб зноў Пілат
Не вымыў рукі...»

«Што?.. – спытаў вар'ят. –
Ты што сказаў?.. Пра што яна прасіла?..»

Нечалавечая
У ім
Скразіла сіла,
І ты яе адчула, і з Хрыстом
Укленчыла, і ўвесь вар'яцкі дом
Укленчыў, сталі сцены на калені!..

«О, Божа! Да цябе мае маленні, –
Прасіла ты. – Яві сваю любоў!
Хай Сынава не праліецца кроў,
Хай згіне зло, што правіць баль ад веку,
Хай кат кап'ём не ўдарыць пад рабро,
Хай запануе на зямлі дабро

У кожным зверы, кожным чалавеку!
Змяні наш свет! Перарабі! З'інач!..»

І ты заплакала...
Вар'ят сказаў: «Не плач.
Укленчыўшы, з кален не ўстануць сцены.
Сатканыя часы, як паясы,
І чалавек ва ўсіх вяках нязменны.
Змяняюцца абставіны. Часы».

«А хто змяняе час?»
«Ён сам сябе змяняе».
«Ён Бог?»
«Ён Бог. Цячэ – не працякае,
Ва ўсе вякі і розны, і адзін...
Ты просіш, каб на крыж не ўзняўся Божы Сын?
Што ж, хай не Ён. А хто ўзамен яму?
Каму за ўсіх на мукі аднаму?
Каханаму твайму?.. Хай скажа: ён бы змог?..
І глянуў на мяне вар'ят, як Бог.

«О, не! – ты закрычыла. – Не! Не ён!..»

«Ты хочаш, каб я сам парушыў свой закон,
Падмурак, на якім стварыўся свет, –
Казаў, як Бог, вар'ят, прарок, паэт, –
Каб аніхто за гэту навіну
Не заплаціў ніякую цану,
Каб вы займелі новы свет за так?..
Крыж – Божы знак! А калі іншы знак
Патрэбны вам – плаціце Сатане!
Жывіце ў новым свеце без мяне!
Свет ваш тады! Не трэба мне чужога!..»

Ён хітраваў... Ці не?.. Як зразумець старога?..
Жыць можна ўсяк. Але ніяк – без Бога,
Хай нават Ён вар'ят ці ашуканец...

Хрыстос сказаў мне ціха: «Гэта шанец».

І ты Яго пачула. І ў вачах
Мільгнула нешта... Не, не Божы страх,
Не жах, што страціш... Іншае... Кім станеш,
Адправіўшы каханага на крыж...

Стаяла на каленях ты паміж
Хрыстом і мной, між намі выбірала...

«Няхай ідзе... – нарэшце ты сказала.
І паглядзела на мяне. – Ідзі... –
І з плачам узмаліла. – Не судзі!»
І, як Хрысту, мне ногі цалавала.

«Ты звар'яцела?» – я пытаў вар'ятку.

«Табе паклалі ўжо да неба кладку,
Ступі – і несмяротным стань!..»

«Скажы
Што мне рабіць не на маім крыжы?»

«Ён твой цяпер! Ты выбраны! Абраны!
Дык узыйдзі! Стань Богам, мой каханы!» –
Больш за вар'ятку вар'яцела ты,
А я ўяўляў апошні шлях пусты,
Галгофу, крыж, які цягнуць на спіне...

«Гасподзь з табой. І Ён цябе не кіне, –
Казаў Хрыстос. – І Сынам назаве».

«Чаму ж не сам Ты?..»

«Лепей сіраціне...
Смерць Сына
Маці не перажыве».

«Дык і мая...»

«Ты сірата. Не стала
Тваіх бацькоў. Забраў іх сёння Бог».

І я адчуў, як чорны камень лёг
Мне на душу. І як яна сканала.

«Дык што? – пытаў Хрыстос, – бацькоў пабачыць хочаш?
Абняць на свеце тым?.. З раднёй пабыць тры дні...
Што ў цябе тут? Ні дома, ні радні,
Сірочыя, пустыя дні і ночы.
Як Бог, цяпер ты ў свеце адзінокі...»

І мовіў Бог, вар'ят, прарок, паэт:
«Шлях на Галгофу – шлях круты. Высокі.
Прайдзі яго – і ты ўратуеш свет!

Ты зменіш час!..»
Прыдумаў, не іначай,
Ён за мяне мой шлях... Мне толькі крыж падняць...
Ужо й мая каханая не плача,
Ужо й бацькі не будуць шкадаваць.

Дык за каго памерці на крыжы,
Калі на ўсёй зямлі ад краю і да краю
І мне чужыя ўсе – і я для ўсіх чужы?..

«Кахаеш ты мяне?..» – спытаў я.

«Так, кахаю... –
Зірнуўшы на Хрыста, сказала ты. –
І я хачу, каб прыгубіў мой любы
Сусветнай славы кубак залаты!
Дык прыгубі! Табе паданы кубак,
Дасланы зорнай поштаю нябёс
Шыпучы, як віно ў тым кубку, лёс!»

«Як спакушае! – моўчкі думаў я. –
Шыпіць не як віно, а як змяя».

Я спакушаўся славай... Ды не коштам
Жыцця! Не так, каб на крыжы канаць!
Хай нават увакрэсну. А навошта?..
Няма адказу ад нябеснай пошты –
НЕ ДАДЗЕНА на тое адказаць.

Вось побач Бог... І Сын. І ўсе ў вар'ятні.
На небе і зямлі яна адна.
І ўсё жыццё, нібыта арышт хатні:
Ні кроку да дзвярэй ці да вакна.

Нічога, што вышэй за іх, не ўбачыць.
«НЕ ДАДЗЕНА!» – адзін закон здавён.
І Бог нічога ў свеце не з'іначыць,
Бо Ён такі, як свет, і свет такі, як Ён.

І славячы Яго, тут кожны прагне славы!
Але не на крыжы, дзе і цвікі ў іржы,
І ўжо сам крыж паточаны, трухлявы,
І храмы ўжо з нябытам на мяжы,
І статак Божы трэба пугай гнаць
У храмы тыя, каб ён славіў Бога!..

«Дык адкажы мне, – я спытаў старога, –
Ці варта гэты статак ратаваць?
Вось Сын Твой – ратаўнік... І колькі ўжо вякоў
З грудзей яго цячэ жывая кроў –
І п'юць яе, і плоць Яго ядуць,
Цалуюць крыж, але на крыж не йдуць,
Як Ён пайшоў, хоць зноў і зноў, і зноў
Над светам велікодны гул званоў
Плыве і кліча ўзвысіцца! Не змог
Ніхто пачуць той звон...»

І раптам Бог
Абняў, пацалаваў цябе: «Марыя!
Ён у сабе ніколі не адкрые
Таго, хто нашым Сынам мог бы стаць,
Бо ён не здольны ні ахвяраваць,
Ні свет людскі ён палюбіць не здольны,
Як палюбіў наш Сын...»

І ты сказала: «Вольны
Ты ад любові, ад мяне і Бога...»

І зразумеў я ўсё, і ў той жа час – нічога.

Я з Божай Маці піў віно ў вар'ятні?..
Я першы на зямлі, ці я астатні,
Хто ў божым доме абдымаўся з ёй,
Як неба абдымаецца з зямлёй,
Калі Марыя не была Марыяй,
Якая стала ёй – і Сыну ногі мые,
А на мяне з пагардаю глядзіць:
«Ты тут для жартаў Божых, для забавы...»

Дык як мне быць? Ці выпіць кубак славы,
Ці кубкам ганьбы смагу наталіць?

Які мой знак, мой лёс, мая дарога?
Хто б мне сказаў?.. На ўсёй зямлі – нікога!
І я стаяў прад Маці і прад Богам,
Не цямячы, хто ён, і хто яна,
І тут душа гукнулася са дна,
З-пад каменя: «Скінь гэты камень чорны!» –
І крутануў я камень той, як жорны,
Душу раздзёршы да жывой крыві,
Да енку, крыку: «Госпадзі, яві
Сваю любоў! Дай мне сканаць без мукі!..»

Душа мая ўзляцела, і на рукі
Яе ўзяла Марыя, як дзіця,
Надзела ёй вянок з лаўровага лісця,
Люляла на руках і калыхала,
Пяшчоціла, туліла да шчакі,
І лёгка-лёгка на руку з рукі
Душа мая, як ластаўка, лятала...

«Як матылёк... – казаў стары прарок. –
Усё жыццё людское – матылёк,
А столькі ў ім гардэчы, столькі пыхі,
Што лаўра не хапае на вянкі...»

Ягоны голас плыў... ледзь чутны... ціхі...
Скрозь Божы свет... скрозь Бога... скрозь вякі...

«Цяпер ты ведаеш, хто ты такі, –
Казаў Хрыстос. – Чый сын ты. Чый каханак. –
І да дзвярэй падвёў. – Зірні на ганак».

Я паглядзеў. І свой убачыў крыж.
Марыя за руку ўзяла: «Дрыжыш?..»

«Не бойся, не дрыжы...» – сказаў Хрыстос,
Узяў мой крыж і за мяне панёс.

Спытаў, калі ступілі за парог
І рушылі ў крыжовую дарогу:
«Дык ты вар'ят? Ці не?..» І не сказаў я Богу,
Што не. Што не вар'ят. Бо лепей я, чым Бог.

***2***

Я на Галгофу йшоў. За мной вар'ят з вар'яткай.
Дарогу нам перацякла рака –
І крыж цераз яе паклаўся кладкай...

«Што скарастаць з лаўровага вянка?
Лятучы пах? Зямное славы дым?
А крыж твой мог бы стаць мастом тваім», –
Казаў Хрыстос.

За рэчкай перад ім
Гара сцяной паўстала, да якой
Ён крыж прыставіў: «Лесвіцай мог стаць...»

Мы на гару ўзышлі.

«Раскрыжаваць,
Ты мне дапамажы сябе самога,
Каб свет не вінаваты быў у тым,
Што ў ім раскрыжавалі Сына Бога,
Закатавалі на крыжы святым, –
Падаў Хрыстос цвікі. Адзін быў залаты. –
Два сам магу ўвагнаць... А трэці – ты,
Адной рукой не справіцца самому...
Прашу: вазьмі! Пара сыйсці мне з дому
Вар'яцкага, якім стаў сёння свет,
Дзе ўсе, забыўшы Божы запавет,
Даўно жывуць па царскіх запаветах,
І дзе, як месяц, што ідзе на ветах,
Ідуць на скон і вера, і любоў,
Таму ўзыйсці на крыж я мушу зноў,
Пакуль прамень надзеі не пагас...»

«Але ўваскрэснуць можна толькі раз!
Не дадзена Табе ўваскрэснуць двойчы! –
Усклікнула Марыя. – Божа! Ойча!
Не дай, каб у нябыт сышоў твой Сын!..»

«У правую руку, – прасіў Хрыстос. – Адзін.
Вось гэты. Залаты. І слава на вякі:
Ты станеш тым, хто ўбіў
у крыж Хрыста
цвікі!» –
Казаў Ён мне, а я глядзеў на Бога,
Які на словы сынавы ківаў:
«Так... слава на вякі... ты ж прагнуў славы...» –
І я ўявіў той славы твар крывавы,
І глянуў у яго – і жах мяне працяў,
Але не жах зямны... Касмічны жах, глыбінны,
Які лунаў між зор і між планет ляцеў,
Праз тое жах,
Што Бог
Напраўду звар'яцеў,
І звар'яцелі Сын і Маці Сына,
Убачыўшы, што свет, які стварыў Гасподзь,
Дзе п'юць людскую кроў і паядаюць плоць,
Дзе забіваюць брата куляй братняй,
Што гэты Божы дом,
Што гэты свет –
Вар'ятня!

І я зірнуў на гэты свет з гары...
Людскія ў ім круціліся віры,
Агонь з агнём круціўся, смерч са смерчам,
Вайна з вайною і жыццё са смерцю,
І кроў, што выцякала з тых віроў,
Кроў і людзей, і птушак, і звяроў
Закручвалася новымі вірамі,
Дзе патаналі разам з ваярамі
Іх дзеці, жонкі, сёстры і бацькі,
І енк, і крык ляцеў ва ўсе бакі,
Уніз і ўверх, да ўсіх і да нікога,
І чулася ў тым крыку скрозь вякі:
«Калі ў вар'ятні Бог, хто ў небе замест Бога?!
Як зваць яго? Адкуль ён? Хто такі?!.»

Няма адказу. Скрозь вякі – нічога.

НЕ ДАДЗЕНА.

Нябёсы зрушыў крык –
І ўзяў я ў Сына Бога
Трэці цвік.

### *3*

Мы на гары жылі. З гары далёка
Было відно. Пад намі сінявока,
Вачамі рэк, азёраў і крыніц
У неба, поўнае грамоў і бліскавіц,
Зямля глядзела... І жыццё зямное
З бляяннем коз і пахам сырадою
Цякло, плыло скрозь час
пад нематой
Халодных зорак, вечнасці пустой,
Якую Бог напоўніў сам сабою,
Каб людзі, што жылі пад той гарою,
Не страшыліся вечнай пустаты...

На той гары ўзвышаўся храм святы.
Быў божы дом пры ім. Вар'ятня.
Я і ты,
Бог і Марыя, да якіх з блуканняў
Вярнуўся Сын, спазнаўшы боль расстанняў,
І горыч страт, жылі ў вар'ятні той,
У храме тым і ў вечнасці пустой.

«Я б не дайшоў сюды, – казаў Марыі Сын, –
Калі б не ўзняўся жураўліны клін,
Які падняў мяне на гэтую гару».

«Цябе ён да крыжа твайго падняў, –
Заплакала Марыя. – Я памру,
Я не перажыву...»

А Бог спытаў:
«Ты дзе блукаў аж трыццаць тры гады?
Якія землі бачыў? Гарады?
І як там быў прыняты Божы Сын?»

«Я бачыў Віфсаід і Харазін,
Там кідалі мне ў спіну камяні
І страшылі, што спаляць на агні...»
«За што?»
«За тое, што прарочыў царства Бога,
Калі ўвесь свет паверыць у Яго.
І свет чакаў... А царства не было...»

«Ты толькі гэта помніш з усяго?
Агонь і камяні? І больш нічога?
Свет чалавечы быў табе не рады?»

«Тваё Імя паўсюль мяне вяло,
Але нідзе не бачыў я спагады,
Нідзе любові я не адчуваў», –
Сказаў Хрыстос.

І доўга Бог маўчаў.

Нарэшце мовіў: «Ведама здавён:
Калі ёсць Бог, дык сэнс Сусвету – Ён,
І сэнсу ўсё астатняе не мае,
Бо толькі Ён – спагада і любоў
З пачатку свету і павек вякоў...»

«Дык хай жа Сыну Бог паспагадае! –
Усклікнула Марыя. – Ёсць каму
Пайсці на крыж! Навошта зноў Яму?
Іх процьма пад гарой! А Ён у нас – адзін!..
Калі і Віфсаід, і Харазін
Збівалі Сына Бога камянямі,
Глуміліся з яго, тварылі здзек над намі,
Чаму ў тым вінаваты Божы Сын?

Чаму не ты?..» – ступіла да мяне
І глянула Марыя вочы ў вочы
Так, як навекі зараз пракляне. –
Чаму ты не прызнаешся ў віне?
Ты з Віфсаіду? З Харазіну ты?..»

«Я з-пад гары.
Убачыў храм святы,
Пачуў прарока, які тут прарочыў,
Падняўся на гару, каб лепш пачуць...»
«І што пачуў?»
«Што прыдуць з-пад гары... ужо ідуць,
Каб храм парушыць, зноў раскрыжаваць
Таго, хто ім назваўся Божым Сынам,
Каго Ісусам з Назарэту зваць...»

«Дык гора Віфсаіду з Харазінам! –
Усклікнуў Бог! – І ўсім, хто пад гарой,
Дзе праз бязвер'е – лютасць, гвалт, разбой!» –
Прасцёр Ён на ўвесь свет сваю далонь,
І пакаціўся з далані агонь,
І паліліся воды за агнём,
І скрозь агонь з вадою напралом
Пабеглі людзі з долу на гару,
Каб зратавацца...

«Я з зямлі сатру
Усіх, каго стварыў! – крычаў Гасподзь. –
П'юць кроў Хрыстову, паядаюць плоць,
Але не вераць! П'юць і паядаюць!
Яшчэ й багоў з цароў сваіх ствараюць
І моляцца на іх!.. Сатру з зямлі!..»

А людзі беглі з-пад гары, плылі,
Гарэлі і тапіліся, крычалі:
«Даруй нам, Божа!..»

«Што ж раней маўчалі? –
Пытаўся Бог. –Чаму пусты быў храм?
Лянотна на гару было падняцца вам?
Але ж узбеглі вы, як прыпякло!»

І ў голасе спагады не было,
І не было любові ў словах Бога, –
І ўсе папёрлі ў храм! Адно аднога
Штурхалі! І тапталі тых, хто ўпаў!..

«Спыніцеся! – Хрыстос ім закрычаў. –
У Божы храм ідуць не па прымусе!»

І з храма крыж зляцеў...

«Мне страшна... я баюся...» –
На ўз’юшаны натоўп глядзела ты...

«А што нам Бог! Без нас Ён храм пусты!» –
Пачуўся раптам крык з глыбінь натоўпу,
І Бога страсянула, быццам токам,
І Ён прасцёр далонь...

«Даруй нам! Не карай! –
Узвыў натоўп. – Мы верым! Верым! Верым!»

Ды ветрам захліснула ў храме дзверы,
Рассцежыўшы ў вар’ятні...

«Вось вам рай!
І вось вам пекла! – грымнуў голас звыш. –
Вам у вар’ятні жыць, пакуль над храмам крыж
Адзін з вас
сілай веры
не ўзнясе!»
І як знямелі, замаўчалі ўсе.

Маўчаў і Віфсаід, і Харазін...
«Дык я адзін з іх...» – мовіў Божы сын
У цішыні, якая ўсіх гняла,
І лёг на крыж... І хмара наплыла
На сонца, і сцямнела ўсё наўкол,
Але відаць было і ў цемры, як анёл
Зляцеў з нябёс і ўсім раздаў цвікі...

«Цвік увагнаць – і слава на вякі», –
Сказаў Хрыстос. І здрыгануўся храм –
Так рынуліся ўсе... А Ён сказаў: «Я сам.
Каб не было ў тым нічыёй віны...»

«Ты не ўваскрэснеш! Станеш, як яны! –
Марыя закрычала. – Пыл і прах!..»

І ў голасе яе быў смерці вечны страх,
І сціх натоўп, як пад вадой агонь,
А я адчуў, як апякло далонь.

Бог запытаў: «Ты чуў Марыю, Сын?..»
Хрыстос прамовіў зноў: «Я з іх адзін», –
І паглядзеў з чаканнем на мяне:
«Ты трэці цвік узяў. Дык ты гатовы?.. Не?..» –
І я хацеў сказаць, што так, гатовы,
Што здраджваць свайму слову не прывык,
Але ўва мне замгліліся ўсе словы,
Акамянеў між вуснамі язык...

«Не бойся, – ты сказала. – Дай мне цвік.
Ніколі я не мела залатога
Ані свайго цвіка, ані чужога...»

«Вазьмі», – падаў я цвік.
Хрыстос зірнуў на Бога,
З крыжа свайго: «Ты чуў? Яна з усіх – адна».
І ўсклікнуў Бог: «Не! Толькі не яна!»
«Чаму?.. – Хрыстос спытаўся. – Бо жанчына?
Бо Магдалена?..»

«Хто яна?..» – не змог
Уцяміць я пачутае...

А Бог
Усклікнуў зноўку: «Не! Не ў тым прычына!»
«А ў чым?..»
«Не час ёй... Не прыйшла пара...
Пазней... як хусткай галаву накрые...» –
Прыдумваў нешта Божа, і гара
Шапталася: «Зноў хітрыкі старыя...
Марыя... Магдалена... Не пара...»

«Яна сястра твая...» – заплакала Марыя.
І Бог сказаў Хрысту: «Яна твая сястра».

*4*

То гасла, то ўзгаралася зара.
То снег сцяной. То дождж, нібы з вядра.
То плыў туман, то дым... Ён горкі быў, не хатні.
Галгофай называлася гара,
Дзе храм стаяў, і дзе жылі ў вар'ятні
Бог і Марыя, іх Дачка і Сын:
Хрыстос і Магдалена...
Я адзін
Не быў нікому на гары раднёю,

Як тыя ўсе, хто жыў тут пад гарою,
Як над гарою жураўліны клін,
Які прынёс Хрыста на крыж Ягоны,
Каб я ўзышоў на крыж замест Яго...

І Ён глядзеў з крыжа.
Чакаў.
І быў пагляд замглёны...

І не пачуў я голасу свайго,
Які казаў: «Такіх, як я, мільёны!
Свет не заўважыць страты аднаго,
Калі ён чалавечы сын, не Божы,
І застанецца Віфсаід варожы,
Варожы застанецца Харазін...»

І гнеўна Бог спытаў: «А чый ты сын?»
«Нічый. Бо Ты забраў маіх бацькоў!»

«Але ж спачатку даў. Цячэ ў табе іх кроў.
Яна – як і ў Хрыста. Ва ўсіх сясцёр, братоў,
Якіх без ласкі Бога ты б не меў», –
Сказала ціха ты...
І Бог суцішыў гнеў.

Ён неадрыўна на цябе глядзеў
З любоўю нават большай, чым на Сына.
«Прыйшла пара, – сказаў. – І гэтаю парой
Ты стала ўсім, кім можа стаць жанчына:
Дачкой, каханкай, маці і сястрой».

«Яшчэ й святой», – падумаў я, згадаўшы
Вар'яцкія і дні, і ночы нашы,
Агонь той жарсці, у якім згараў...

Хрыстос сказаў: «Я ўсё ёй дараваў.
Не так, як Бог. Як брат сястры даруе».

І я адчуў, як ува мне віруе
Сляпая рэўнасць... Чорная да дна...
І крыкнуў я: «Дык хай тады яна!..»
«Што хай яна?..»
«На скон! На крыж! За брата! –
Крычаў я так, нібы ўвесь свет глухі. –
Ты перад ім хіба не вінавата?
Распусніца! За ўсе твае грахі
Хай шугане нябесная адплата,

Як полымя шугае са страхі!
Хай нават ты пакаешся ў віне,
Ні боль, ні жаль мяне не праціяне,
І вогненная паглыне геена
Усё, што ў нас было!..»

«Якая сцэна!» –
Ты ўсклікнула... і ўздыбіла мяне:
«Я не кахаў цябе, Марыя-Магдалена!»

Здалося: неба зараз палыхне...
І дрыжыкі прайшлі па храмавай сцяне,
Калі ступіла ты да Сына Бога:
«Прашу цябе: сыйдзі з крыжа чужога.
Ён мой...»

Хрыстос устаў:
«Я паміраць не раю.
Рай у жыцці. А смерць – выгнанне з раю», –
Сказаў Ён і замглёнымі вачыма
Зірнуў на Бацьку, быццам на айчыма,
Які глядзеў на крыж...

«Чаму ён твой?
Ты хочаш стаць пакутніцай? Святой?
Ці нават той... ці тым... кім ты не можаш стаць? –
Няўцямна Бог пытаў, хоць мог і не пытаць,
Бо ты ўжо на крыжы была...
– Пакайся!!!» –
Ён страшна крыкнуў, калі ты ўзнялася,
Да храма паплыла... вышэй, вышэй... над дахам
Спынілася... натоўп глядзеў і ахаў,
А ты адтуль, дзе ластаўкі, стрыжы,
Дзе ўстала ты над храмам на крыжы,
Спытала: "Божа! Ойча мой, скажы,
Я гэта ад Цябе пачуць павінна:
Чые пакуты большыя? Ці Сына,
Якім ахвяраваў дзеля любові Бог,
Ці Маці, што ў крыві яго нявіннай,
Як рыба, б'ецца ля Ягоных ног
У муках – не па сіле чалавечай?..»

Замёр натоўп.
А Бог сказаў: «Гардэча...
Хіба сваёй ты сілай падняла
Над храмам крыж?.. Ты помніш, кім была?..
Распусніцаю! Цацкай для забаў!..»

«Вісіць... – натоўп шаптаў. – Ніхто не прыбіваў...
Дык як вісіць?.. Няўжо яна святая?..»
«А, можа, ведзьма?..»
«Ведзьма не лятае
Над Божым храмам на святым крыжы...»

«Скажы мне, Божа! Ойча, адкажы
Хоць аднаму на свеце чалавеку:
Калі Ты гэты свет пазбавіш здзеку,
Што дзеецца няўмольна век ад веку
Над намі? Над людзьмі, якіх ты сам стварыў!
Яшчэ скажы: ці Ты пра нас забыў,
Ці кінуў нас у гэты свет крывавы
Жывымі цацкамі для Божае забавы,
Каб здзекавацца з цацак сам Ты мог?!.

Ці гэта ўсё не Ты,
а нейкі іншы
бог?» –
Зляцеў на божы дом твой голас камянём,
І гэтак крыкнуў Бог, што раскаціўся гром:
«Бог той, хто Бог!
І Сын яго – хто Сын!
А ты, як Віфсаід і Харазін,
Не хочаш Бога мець такім, які Ён ёсць?! –
Не боская душыла Бога злосць,
Якая, мусібыць, Яго сляпіла,
Бо так ты не казала...

– Тая сіла,
З якой ты на гары святой жыла,
Якая крыж над храмам падняла,
Яна – мая! А ты сабе ўявіла,
Што стаўшы мне дачкой, ты роўня сіле той?..

Дык ведай: не была ты мне дачкой!
І не была ні маці, ні сястрой
Ты майму Сыну!.. Ты магла быць імі
З грахамі і сваімі, і чужымі,
Але не станеш імі ўжо ніколі!

Я даў табе жыццё. Ты захацела болей
За тое, што я даў. Чаго не можа мець
Жыццё тваё. Што мае толькі смерць.
Ну дык прымі яе як Божы дар!..»

Ударыла маланка з цёмных хмар
У крыж – і ён упаў. Зляцеў пад ногі Сыну,
Які шаптаў: «Я гэты свет пакіну...
Калі ёсць Бог, дык сэнс Сусвету – Ён,
І сэнсу ўсё астатняе не мае...»

Я вар'яцеў: «Што за жахлівы сон!
Марыя-Магдалена, ты святая!
Даруй ты мне ў апошнюю хвіліну
За подлы страх!..» – агнём пякло мне рот...

А ты лунала неба пасярод,
І бег дзівіцца на цябе народ,
І з Віфсаіду бег, і з Харазіну,
З мястэчка Крэва, з горада Смаргонь...
А ты, злятаючы, кружылася паволі,
Як парушынка лёгкая з таполі,
Пакуль не легла Богу на далонь.

*5*

Наўкол Галгофы шмат чаго не стала:
Бог пабурыў, пракляўшы, гарады,
Заліў вадой палі, агнём спаліў сады, –
Усё панішчыў. А гара стаяла.

Плыў час над ёй. Вясна зіму змяняла.
Дакуль з гары той вока дасягала –
Паўсюль відзежы... Здані, міражы.
Сапраўднага жыцця як не бывала...

На той гары над храмам ты паўстала,
Але не плоць і кроў, а срэбра на крыжы.

І я маліўся на цябе штоpанку...
Хрыстос і ўдзень, і ўноч сядзеў на ганку
Вар'ятні. І глядзеў на храм, на крыж,
Нібы пытаўся: «Як ты там вісіш?»

Ён ціхі быў, як вецер у саломе.
А Бог злаваў: «Што гэта ў нашым доме!
Ці ты прыбі яе, ці прывяжы,
Каб не вісела, як не на крыжы,
І не здзіўляла свет...»

«Яна ўвесь свет здзівіла
Так моцна, што мацней і не здзівіць, –
Казаў Хрыстос. – Адкуль такая сіла?
Скажы мне, Ойча: як яна вісіць?»

«Не ведаю. Ніколі сам такога
Не бачыў. Ты прыбіў бы... Прывязаў...»
«Ёсць таямніца ў свеце і для Бога?» –
Спытаў Хрыстос.
І Бог не адказаў.

Ён сумаваў. Хадзіў вакол гары,
Як некага шукаў. І птушкі, і звяры,
І гады ўсе за ім паўзлі, ляцелі,
І Божай ласкі ўсе яны хацелі,
А Ён нікога з іх не заўважаў...
Ён сумаваў.

А мне Хрыстос шаптаў:
«Парушыў, папаліў усё, што мог...
Каму цяпер паказваць: вось я – Бог!
Звярам і гадам?.. Дык таму й сумуе...»

Ён думаў, што Гасподзь яго не чуе,
А Бог пачуў, бо чуе ўсё і ўсіх...

«Мой любы Сын! Мы на гары ўтраіх,
А я нібы адзін, калі яе не стала...
Чаго ўзлаваў я? Што яна сказала?
Няхай у словах трохі перабрала,
Але ж не чуў ніхто, апроч сваіх.
Чаму ж тады я не стрымаў свой гнеў?
У чым прычына?.. Што маўчыш? Знямеў?»

«Сказала праўду! Вось у чым прычына! –
Ускочыў Божы Сын, нібы яго пружына
Падкінула. – І хто сказаў?.. Жанчына!
Распусніца!» – крычаў на ўсю гару
Хтыстос, і я баяўся, што памру
Раней, чым прыбярэ мяне Ўсявышні...

Не бацька і не сын, я быў тут лішні,
Я стаў адзін, калі яе не стала,
Калі яна над храмам залунала
У срэбры, што на сонцы зіхаціць,

І я спытаў: «Чаму б не ўваскрасіць,
Калі мы без яе асірацелі?..»

І журавы над храмам узляцелі,
І над гарою пачалі кружыць,
Нібы чакаючы...

«Хай уваскрэсне, Ойча!
Хай ажыве!» – Сын на калені ўпаў,
І са слязой у голасе сказаў
Гасподзь: «Я б ажывіў... Яна сама не хоча...»

«Чаму?»
«Не кажа. Проста: не хачу.
Ні так ні сяк з ёй не дайсці да згоды.
І я ўсё думку ў галаве кручу:
Вось пройдзе час, адродзяцца народы,
Да Бога вернуцца, і з гэтае нагоды
Спытаюць: "Што за крыж? Каго мы Богам
бачым?.."

Каму і як мы гэта растлумачым?
Мне днём і ноччу галава баліць:
Як з гэтым быць?..»

«Дык можна пераліць, –
Знячэўку, быццам з голаса чужога
Сказаў я Богу, хоць казаць нічога
Не думаў. – Пераплавіць срэбра можна...
Яе ў Хрыста...»

І глянуў асцярожна,
Як на вар'ята, на мяне Хрыстос,
А Бог не стаў чакаць: маланкаю наўскос
Падсекла крыж – і срэбра пацякло
Так, як ліецца Божае святло,
І ў ім мільгаў твой твар, нібы на абразах,
І набываў абрысы Бога...
Жах
Мяне абняў! Так неба абдымаў
Я ў снах, калі між зоркамі лятаў,
Жахаючыся ўпасці ў іх агонь,
І ўсё мацней мне правую далонь
Пякло, нібы ў яе ўвагналі цвік,
І я сціскаў, душыў у горле крык:

«Каханая! Марыя-Магдалена!
Цябе Гасподзь вяртае з праха, з тлена,
Каб пераліць у Бога, у Хрыста,
Каб свет пачаўся з чыстага ліста,
Наноў каханне наша пачалося!» –
Крычаў я сам сабе, а срэбра ўсё лілося
Жывой ракою, у якой плыло
Усё, што будзе, і што ўжо было,
Што Бог і на гары, і пад гарою
Стварыў з любові Божай, са святла,
Каб выйшаўшы адтуль, дзе вечная імгла,
Была ты ў свеце Божаю дачкою
І Божай маці, і Яго сястрою,
І Божаю каханкаю была.

***6***

Бог пагасіў апошнюю зару
На небасхіле. На краёчку самым...
Гары не стала. Землятрус гару
У друз і пыл парушыў разам з храмам.

Адна вар'ятня засталася цэлай.
Такой, як і была. Нібы яна зляцела
На крылах з той Галгофы, той гары...

І жыў у ёй вар'ят, прарок, паэт стары,
Які ўжо не прарочыў, і даўно
Нічога не пісаў. «Напісаны ўсе перлы», –
Казаў ён. І пытаўся пра адно:
«Як ты жывеш, калі яна памерла?»

Я сам не ведаў... «Дык спытайся ў Бога, –
Казаў стары вар'ят. – Ці да Яго дарога
З парушанай гары занесена пяском?..»

Дарога тая легла пояском
Тваёй сукенкі... І на ёй – нікога...

...Раней, калі яшчэ вар'яцкі дом
Быў на гары, і ў ім паэт прарочыў,
Я з Богам сустракаўся часцяком:
Іду па Крэве – Ён насустрач крочыць
З усмешкай бацькі, з дзедавым кійком,
І неадрыўна мне глядзіць у вочы.

Не абяцае раю той пагляд...

Заходзім пад руку мы ў дзедаў сад
(Які табе і мне здаваўся раем),
Галінкі райскіх яблынь прышчапляем...

Мой Бог! Калі вяртаюся назад –
Набыта ў кіпень! Гэтак вар'явала
Каханне ў нас!..

А сад наш выспяваў,
Ты райскім яблыкам мяне пачаставала,
Спакусніца...

Калі цябе не стала,
Я Бога анідзе не сустракаў.

*Жнівень-кастрычнік 2022,*
*Крэва, Мінск, Кракаў.*

Леанід Дранько-Майсюк



...праўда (вочы жыцця!)
часцей засмучае,
чым радуе...

# Скрыня. Куфар. Камода

***Проза з той кніжкі, якая можа быць***

## Скрыня

Каб зрабіць скрыню, куфар, камоду – у сталярні спяваў гэбель, у кузні стагнала кавадла; сталяр ішоў да каваля, каваль прыходзіў да сталяра; дрэва ўцiскалася ў жалеза, жалеза ў дрэва...

О, скрыня, куфар і камода – мэбля, якая зачароўвала, і першая тут яна, цьмяна-шэрая немаляваная, з плоскім векам, скрыня.

Так, спачатку была скрыня, потым куфар, а тады ўжо й камода...

Скрыню штукавалі з габляваных смаловых (часам дубовых) дошак таўшчынёю ці не 10 мл, ставілі колы з ясеню ці грабу, упускалі замок, прымацоўвалі металёвыя ручкі; скрыню акоўвалі (і для моцы, і для вока!) бляшанымі істужкамі-палосамі.

Ствараліся жалезныя таямнічыя малюнкі, у якіх угадваліся то чарадзейныя істоты з рагамі, дзюбамі і пазурамі, то нязвыклыя карані, сцябліны і лісце, то амаль дзіды, вухналі і цвікі...

Скрыню грузнай не рабілі.

Пры пажары (а пажары часта здараліся!) першымі ратавалі такія рэчы, як скрыня, таму гэтыя рэчы мусілі быць лёгкімі, пад'ёмнымі.

Зазвычай у скрыню складалі ўжыванае, але патрэбнае адзенне – лахі, ку́нтахі, усялякае «кошмары́нне» і рахамонне, тыя ж чорныя запінкі для работы ў гародзе, гумо́ўцы[1], які іншы збіты абутак.

Скрыня стаяла ў сенях, у сцёпцы[2], а то і ў адрыне.

Этнограф Міхась Раманюк не памыліўся, калі напісаў пра гэту адметнасць нашага побыту.

Памыліліся іншыя даследчыкі – у грунтоўным томе змясцілі здымак давыд-гарадоцкай скрыні, а падпісалі, што гэта давыд-гарадоцкі куфар[3].

Аднак у нас гэта розныя віды мэблі – і па сваім ужытку, і па вонкавым абрысе, і па тым, дзе што стаіць, і нават па ўспрыманні.

На жаль, і найбольш вядомае навуковае даведачнае выданне памылкова сцвярджае: скрыня – тое самае, што і куфар[4]...

І слоўнікі гавораць пра тое ж[5], але хай сабе...

Дык вось, гэта праўда, што скрыня стаяла ў сенях, у сцёпцы або ў адрыне, а ў хату яе ўносілі іншы раз тады, калі з'яўлялася лішняя душа, якой не было дзе спаць.

Аднойчы ў дзяцінстве я спаў на скрыні, пастаўленай на альпенскія цагліны.

Тады якраз прыйшла ранняя вясна, Гарынь пачынала хутка разлівацца, вада ўжо ўкацілася ў гарод і двор, магла ўлезці і ў хату, таму ў хаце ўсё падмасцілі, каб не падмокла.

На падмошчанай, паднятай над падлогай, кароткай скрыні я спаў, каб змясціцца, наўскасяк і на ўсё жыццё запомніў, як праз радно, якім было заслана века, у плечы ўядалася акова – рогі, пазуры, дзюбы; карані, сцябліны, лісце; дзіды, вухналі, цвікі!

І асобна – двое завесаў, якімі века мацавалася да задняга бока, да яго верхняй дошкі...

Скрыня – самае прыдатнае месца, каб да самай раніцы не заснуць, круціцца і думаць пра ўсялякае, і сярод іншага пра тое, што ў нас на разумнага кажуць: хітры, таму ў нас: хітрая галава – значыць, разумная галава!

*24 лістапада 2021 г., серада, 22 г. 22 хв.; Менск.*

## Куфар

Куфар на жалезных колах – не скрыня, яго цанілі больш, таму ставілі ў хаце.

Ягонае з выгібам века гаварыла пра свята і сціплую задаволенасць ад жыцця.

---

[1] Гумо́ўцы (*давыд-гарадоцкае*) – гумавыя боты.
[2] Сцёпка (*давыд-гарадоцкае*) – кладоўка.
[3] Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі, т. 2, с. 255; Мн., 1985 г.
[4] Беларуская савецкая энцыклапедыя, т. 9, с. 565; Мн., 1973 г.
[5] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. 5, с. 186; Мн., 1983 г.

Калі слова «каханне» яшчэ не палохала гаркотаю дзявочыя вусны, а словы «ой, нешта будзе» ўжо давалі вуснам саладосць, то ў гэтую кароткую пару дзявочыя вочы штодня глядзелі на куфар.

І гэта невыпадкова.

Калі мелася на выданні дачка, – яе вена трымалі ў куфры...

З часам паняцце вена пашырылася, выйшла, калі так можна сказаць, за межы куфра.

Венам пачалі называць і зямлю, і карову, а не толькі грошы, упрыгожанні, ручнікі з вышыўкамі і квяцістыя дзявочыя строі, якія чакалі сваёй пары пад распісаным векам.

І вось тая пара прыходзіла, і з'яўлялася асалода, якая, няхай на момант, але з'яўлялася адвеку – дзеўка па́дала за хлопцам, хлопец па́даў за дзеўкай, а раз так, то спраўлялі заручыны, куфар перавозілі ў хлопцаву хату, ішлі пад вянец, а пасля царквы садзіліся за вясельны стол...

Праз усе гады ў куфры хавалі ўсё лепшае і каштоўнае; там збіраліся рэчы, як той казаў, і таго, і гэтага часу – трубкі льнянога палатна, крам[1], адрэзы крэпдэшыну, бастону і таннага штапелю, гафтаваныя кашулі, усялякія камізэлі і казачы́ны[2], на падрост пашытае дзіцячае адзенне, кра́йкі[3], цёмна-чырвоныя і залацістыя шалі, чарнабуркі на гузіках, а таксама жаночае далікатнае – ваўняныя панчохі, налі́снікі[4], га́лькі[5]...

Ды ці мала што можна было знайсці ў куфры!

Так, века з сярэдзіны пунсавела роспісам – хвалістыя кветкі і выгнутыя сцяблінкі; зрэдку, здаецца, і нотныя знакі, ці праўдзівей – нейкія дзіўнаватыя ўзоры, падобныя да нотнай азбукі.

Упушчаны замок адмыкалі вялікім ключом, паднятае века падпіралі доўгай жалезнай зашчапкай.

Але калі-нікалі для большай надзейнасці гаспадар прыстройваў яшчэ і вісячы складны замочак, у які ўкладваў керанку.

Калі б нехта спрабаваў употай адамкнуць гэты хітры замочак, то, не ведаючы, праткнуў бы керанку (рэдкую паперыну!), замену якой хутка не знайшоў бы, ці зусім не знайшоў бы такую паперыну і не здолеў бы схаваць след сваёй дробнай шкоды.

І вось па гэтым знаку (пашкоджаная керанка!) гаспадар і даведаўся б – у куфар лезлі!

Хатнія рэчы мелі розум, у якім панаваў спакой, і спакой гэты гаварыў: «...у кожнага свае коні ў галаве, таму як е, хай так і будзе!..»

Куфар даваў радасць.

Збіраючыся ў царкву, гаспадыня любоўна даставала з яго святочнае ўбранне – кашміровую спадніцу, паплінавую кофту, хвартушок з белай ко́леншчыны[6] і атласную хустку з цікавым незразумелым усходнім упрыгажэннем, і хустку гэтую называла турэцкай.

Вымала (зноў жа любоўна!) хромавыя чабаткі, або на малінавых шнурках румынкі – халяўкі з самага верху абшытыя футрам!

Калі ж было добрае надвор'е, абувала вішнёвага колеру чаравічкі...

---

[1] Крам – тканіна, якую набіралі ў крамах.
[2] Казачы́на – фасон жаночага (часам і мужчынскага) адзення.
[3] Кра́йка – паясок з узорам.
[4] Налі́снік – станік.
[5] Га́лька – камбінашка.
[6] Ко́леншчына – баваўняная тканіна.

У куфры з правага боку святлела прадаўгаватая шуфлядка з прымкнутым вечкам.

Гаспадыня адмыкала шуфлядку і брала з яе вялікія жоўтыя нанізаныя на суравую нітку каралі.

А ў шуфлядцы зіхацелі пярсцёнкі, завушніцы, бранзалеты, крыжыкі, ланцужкі, прыгожыя старыя гузікі, гаспадароў гадзіннік, срэбная чарачка, проста грошы і не проста грошы, а нешта большае – мікалаеўскае золата!

Таксама ж магла бліснуць і якая-небудзь з часоў прэзідэнта Масціцкага фераньерка, а на самым дне ляжалі метрычныя пасведчанні ды іншыя важныя паперы, прыціснутыя заўсёды сур'ёзнымі пячаткамі...

Куфар на гулкім ходу!

Жадаючы такой пагляднай мэбляй абставіць хату, ішлі да сталяра.

Майстра абзада́чвалі[1], і ён браўся падганяць сасновую дошку да сасновай дошкі, у каваля заказваў акову, плаціў кавалю сам, а тады дарабляў – абабіваў аковаю каробку і века, сшываў іх завесамі, ставіў на восі колы, упускаў замок, укручваў ручкі, пакрываў сваю работу чорным лакам.

Куфар з векам танчэйшым за бакі і дно выходзіў як вазок – ого, якія колы, а якія моцныя восі, і скрозь акова, на кожнай дошцы – металёвыя звілістыя птушкі, пачваркі, га́ды, стрэлы, крыжы і, здаецца, райскія дрэвы.

Але каваныя жалезныя колы цешылі найбольш.

Пусціш іх па давыд-гарадоцкім польскім бруку, на ўсе ягоныя тры з паловаю кіламетры, і з трывалых шасцікантовых трылінак пасыплюцца ва ўсе бакі зыркія каляровыя зоркі.

Некалі адзін дзядзька так і зрабіў; чалавек быў поўны радасці, жонка яго таксама.

Людзі добрае натуры.

Праўду не зводзілі да хлусні, а хлусню да праўды не ўздымалі, работы не баяліся, а зарабіўшыся, маглі (на пацеху суседзям!) заместа: засвярбела ў галаве, сказаць: загалавела ў свярбе!

А-а, маўляў, хай смяюцца...

Дай, Божа, здароўя ўсім, то і нам лягчэй будзе...

Дык вось, яны заплацілі сталяру і не павезлі свой набытак дадому падводаю, а выпхалі на каменную дарогу вуліцы Касцюшкі, па-народнаму – Альшанскай вуліцы, і нібыта сказалі: «Хай будзэ багато звону!»

І звону-грукату было!

Так яно й павялося, нават звычаем стала – новаму куфру даць праехацца па брукаванцы.

Хоць трохі, метраў сорак, каб гэта паглядзець – а мо колы саскочаць?!

Як усё добра, то на фурманку і дадому.

Але там, дзе «трохі» – гэта не казка, а першы раз было як у казцы, таму й запомнілася...

Куфравы гром бег па даху магістрата, аканіцах аптэкі і па ганку паліцэйскай бібліятэкі.

Водгулле амаль маланкавых удараў адбівалася ад чырвонага коміна млечарні, рудога вільчыка шпіталя і абрынылася на філію палітычнай паліцыі.

Па бруку ляскалі ледзь не перуны, яны глушылі балаголаў і пудзілі коней.

Адзін фурман вёз на электроўню дровы, – знячэўку ён выпусціў з рукі

[1] Абзада́чваць – даваць задатак.

пугаўё, а ягоны конь занатурыўся, бо для каня зусім не куфар, а нейкі празмерна грымлівы чорны самаход пёрся насустрач!

– Коб вас ціхля́нка[1] ву́разала! – крычалі ўслед вясёламу дзядзьку і ягонай жонцы.

– А на вас коб чорна да цэ́мна! – адмахваліся ад праклёну сваім праклёнам шчаслівыя гаспадары новага куфра.

Колы, здаецца, не прапускалі ніводзін камень, і паперадзе куфра жахала блізка навальніца!

Забыўшыся на авёс, галубы ўзляталі над конавяззю, а каты, пачуўшы грукат, як апараныя, адскоквалі ад ятак і рыбных крамак.

Сарока піла, але так і не напілася з пажарнай бочкі «Стражы агнёвай», – ашалела ўскінулася пад самае неба, а з пажарнай часці, дзе якраз паказвалі кіно, выбеглі збітыя з панталыку гледачы, так і не даглядзеўшы карціну.

Збянтэжаная кухарка прыпала да шырокага кухоннага акна, палову якога закрывала фіранка з вышытым надпісам *Smacznego*[2], а ў гарбарні Фінкельштэйна адзін з гарбароў таксама збэ́чыўся[3] і заместа лазовай тоўчанай кары ўсыпаў у чан дубовую тоўчаную кару.

З Хорскае гміны здзіўлена круглелі чыноўныя вочы, і тым часам заклапочаны млынар Хаім Барухін (каб даведацца – а ці не гарыць?!) вызірнуў з млына.

– Defilada wojskowa[4]! – сыпалі са школкі дзеці.

А іхні кіраўнік Мечыслаў Байбар, ажно прысядаючы, рагатаў ля школьнай брамы:

– Rozbо́j na ro̒wnej drodze[5]!

Пачуўшы пра «rozbо́j», у карцёжні падхапіліся з-за карцёжнага стала зацятыя гульцы – палкоўнік Стэфан Заёнц, капітан Казімір Мікульскі, паручнік Альфонс Ваньтоўскі, камендант паліцыі Юзаф Зёла, кіраўнік пошты Францішак Манкевіч і бургамістр Стэфан Бэднарчык.

А на стадыёне клуб жаўнераў і каманда «Макабі» спынілі гульню ў футбол, бо свісток суддзі стаў нячутны.

Ксёндз Юзаф Чайка, рабін Шнэур-Залман Шапіра і бацюшка Бяляеў, кожны заняты сваімі думкамі, выпадкова сутыкнуліся на рагу і адзін з адным забыліся паздароўкацца, бо перад імі нечакана ўзнік ён – чорны бліскучы куфар!

А гаспадар тартака Мордух Рымар вёў жонку Бушкех, дачку Рахель і сына Берла ў рэстаран «Варшавянка», але так загледзеўся на куфар, што завёў іх у рэстарацыю «Палессе».

У гэту хвіліну натарыус Альфонс Тускевіч расказваў дырэктару Беларускага музея Антону Луцкевічу (пан Антон толькі што прыбыў з Вільні!) пра знаходкі, якія адкрыліся ў час археалагічных раскопак тутэйшай Замкавай гары.

Натарыус не дагаварыў, а дырэктар не даслухаў – паўз іх, раскідваючы каменна-жалезныя зыкі, прамільгнуў куфар!

Службовец з касы Стэфчыка апавядаў ціхмянаму просьбіту, што кідальніца кап'я Марыя Кваснеўская здабыла на Берлінскай алімпіядзе

[1] Ціхля́нка або ціх – істота давыд-гарадоцкай дэманалогіі.
[2] Смачна есці! (*польск.*)
[3] Збэ́чыўся (*давыд-гарадоцкае*) – збіўся з толку, памыліўся.
[4] Вайсковы парад! (*польск.*)
[5] Тут літаральна: разбой на роўнай дарозе! (*польск.*)

бронзавы медаль, і хацеў далей апавядаць, што гэты медаль больш важны, чым золата і срэбра немак Флейшар і Кругер, бо гэта польскі медаль, але службовец тут жа «обопне́ў»[1], не здолеў гаварыць – ля касы Стэфчыка вырас куфар!

Навучэнцы платных купецкіх курсаў чыталі ўголас газету: «Sukces polskiej piłkarskiej drużyny olimpijskiej!»[2] – маўляў, ура, нашы выйгралі ў каманды мадзьяраў 3:0, але тут гарачае паветра, што цмокнула з-пад куфра, выхапіла з рук скамечаную газету і занесла яе на параход «Норвід», які ўжо выйшаў на сярэдзіну Гарыні і развярнуўся ў бок Прыпяці, і ягоныя пасажыры з квіткамі да Пінска падумалі: «А ў Пінску нам не паверацьць, калі мы раскажам пра куфар!»

Але навошта, каб верылі, калі яно проста ёсць!

З куфра, абсыпанага каляровымі зорамі, не зводзілі вачэй і дзяўчаты кравецкіх курсаў, і вучні школы «Тарбут», і афіцэры штаба 17-га батальёна корпуса памежнай аховы.

Але самы шчыры быў гэты абразок – на куфар, як на жаданае прыстанаўле́нне[3], зачаравана глядзелі хлопчык Васіль і дзяўчынка Люба!

*3 снежня 2021 г., пятніца, 16 г. 56 хв.; Менск.*

## Камода

Даўней у нас гаварылі: трэба дуб[4] – ідзі да Якава Куста; хочаш мець фаску – ідзі да бондара Концуба; думаеш пра свайго воза – ідзі да стэльмаха Есіпа Паўловіча.

А як не можаш без камоды, – «онёо́»[5] сталярня Якава Клубушкі!

Ішлі, праўда, не толькі да іх, да іншых умельцаў таксама, але іншых упаміналі менш (у каго якое шчасце!), таму неяк само па сабе ў галовах склалася, што толькі Якаў Куст (хай і за большыя грошы!) вымайструе самы гонкі дубок, бондар Концуб – самы зручны цэбрык, стэльмах Паўловіч – самыя зграбныя калёсы, а сталяр Клубушка – самую файную камоду.

І сапраўды ж, гэтыя майстры былі з найбольшым прыродным дарам тонкага ўмельства, і той жа Клубушка лічыўся ці не самым удалым у нас камодчыкам...

Камода – святочная будоўка з падвойным дном на дзве шуфляды, якія змяшчаліся ўнізе, блізка ад колаў.

Камода шанавалася гаспадарамі больш за куфра, і ад майстра-камодчыка вымагала і больш далікатнага ўмення.

Тое незабыўнае ўменне-майстроўства дыхала павольным разлікам, пахам жывіцы, нагостраным на асялку жалязкам, празрыстымі стружкамі з фуганка, насліненай уедлівасцю хімічнага алоўка...

У скрыні камода ўзяла плоскае века, у куфра – жалезныя, але шырэйшыя колы, а разам ад скрыні і куфра – крыху аковы, бо толькі на дно – туды, дзе колы.

Замочная адтуліна камоды, – як гербавы знак!

Родная скрыні і куфру, – камода адрозная ад іх!

---

[1] Обопне́ць (*давыд-гарадоцкае*) – анямець, знерухомець.
[2] Поспех польскай алімпійскай футбольнай каманды!» (*польск.*)
[3] Прыстанаўле́нне (*давыд-гарадоцкае*) – тэатральны спектакль.
[4] Дуб (*давыд-гарадоцкае*) – лодка.
[5] Онёо́ (*давыд-гарадоцкае*) – вунь.

Шэрая скрыня таіла ў сенях цвёрдую надзею, чорны куфар захоўваў у хаце трывалае задаволенне, – камода ж, маючы колер яечнага жаўтка, стварала ў хаце сонца.

Вясёлая на вока ярка-жоўтая камода атулялася шклістым арнаментам, у якім блюзнілася і далёкая марская хваля, і блізкі пеўневы хвост, і блакітны водсвет пабеленай столі.

Узоры, якія йшлі ад душы...

Размалёўваў камоды (куфры таксама!) наш мастак Барыс Сыса.

Іншы раз на распісаную і светлаваную лакам камоду ставілі цацачны кошык з цукеркамі.

Я памятаю выразныя абрысы таго каляровага кошыка і ведаю: тое, што не забываецца, якраз і мае добра бачныя контуры...

А яшчэ я знаю: сапраўднае хараство заўсёды сціплае, і ўладальнікі гэтага хараства і надалей мелі творчую схільнасць, ідэі, намеры, задумы, але ў 1950-я, 1960-я гады прыйшла мода на шафы, шыфаньеры і на так званыя сценкі.

Пашырылася мэблевая прамысловасць, запанаваў канвеер, і ці не кожная асобная майстэрня спазнала заняпад, і наогул паволі заняпала ўсё цудоўнае саматужніцтва.

Такая праўда, а праўда (вочы жыцця!) часцей засмучае, чым радуе.

Тая праўда адышла ў мае родныя кадацкія гароды, як і тое жыццё, якое мела простыя з'явы і няпростую загадку – смерць.

Так, у тым блізкім да поту і мазаля звыклым жыцці калолі свіней, білі трусоў, рэзалі авечак, лупілі кароў, секлі зелле, рубалі дровы, а дабра ў тым жыцці жадалі гэтак: каб па табе ў царкве не пазванілі!

Аднак жа радасць у тым дзіцячым жыцці з'яўлялася штодня...

Аднойчы кошык з цукеркамі саставілі з камоды на акно і паднялі сонечнае века.

У камодзе я ўбачыў плюшавы сак і белыя гузікі нафталіну; яны заблыталіся ў каракулевым каўняры, які ляжаў у кутку асобна.

З-пад гэтага старасвецкага каўняра дасталі шандал, кружок воску і суканыя ільняныя ніткі...

Воск трошкі падагрэлі ў металёвай місцы на прыпечку, пры гэтым глядзелі, каб у міску не нападала з коміна сажы, а тады цёплую і мяккую масу раскачалі, уклалі ў яе навошчаную нітку і ссукалі свечку.

Калі свечка падсохла і астыла, яе абстукалі зверху да нізу мокрай кляновай лыжкай і нават, крыху лінуўшы вады на стол, пакачалі ў вадзе.

Не хацелі, каб свечка была матавай, а то і зусім цьмянай; хацелі, каб яна – жоўтая з лёгкім зялёным адценнем – блішчэла, як струна!

Века апусцілі, кошык паставілі на камоду, у свечцы запалілі нітку, і нітка, блакітна загарэўшыся, ператварылася ў кнот.

Гэта было вельмі прыгожа – на камодзе свечка ў шандале і кошык з цукеркамі.

*10 снежня 2021 г., пятніца, 21 г. 36 хв.; Менск.*

Валянціна Аксак



...Ззянне і бляск ападання
лістоты апошняй у сэрцы –
нішто,
калі ў красавіцкай душы
прарастае ружанец...

# У мярэжы злоўленая на чужым гаўбцы

## *ХРЫСТОСІК НА ВЯСЁЛЦЫ*

Хіжыя хмары.
Шызоідны вецер.
Залева садомагаморная.
Цемра і золь.
Немінучасць Тартару.
Жагнанне амаль
незварушнымі пальцамі.
Погляд апошні
ў свінцовую столь.
Ды раптам здалося –
прабліснула штосьці.
Яшчэ і яшчэ.
І вось паказаліся
ручкі маленькія,
якія рашуча
анучкай блакітнаю

змываюць з нябёсаў
застылую твань.
Сонца ўсміхнулася
ды з куфра таемнага
вясёлку дастала,
як цацку малому.
Хлопчык яе
купалам выгнуў
ды ўсеўся на ёй.

## *ХАРАСТВО*

Вы не ў сілах,
танкі,
нас перамагчы.
Нас,
садоўніц, кветкаводак
і аматарак прыроднае красы
не знішчаць вашы гусеніцы
і жэралы вагню
не маюць столькі,
каб спапяліць вясёлку
ў гародчыках пры кожнай
спаконвечнае сядзібе.
Шляхетны стан,
да ведама кіроўцаў танкаў,
не толькі пра наш гонар
і годнасць валадароў,
але і пра такую дробязь,
як харащво
пры ўсіхніх
нашых
маяратах і маёнтках.

## *ГІНУЦЬ ВЯРГІНІ*

На досвітку дождж
разбаўляе маю
густаватую каву,
якой я іду напаіць
вяргіні,
што ў смазе знямоглыя
гінуць.
Заварваю турку літровую
потым сабе
і ў павуцінне навінаў нырцую.

А з сеціва
глядзіць на мяне
барадаты асілак,
які ўжо ніколі-ніколі
не ўбачыць,
як гінуць вяргіні
на хутары незнаёмым.
Гаспадыня вяргіняў
не паспела зварыць таму волату
на прыску ад спаленай хаты
бадзёрнага ўзвару.
Танк вар'яцкі
апярэдзіў абодвух.

### ЛАСТАВЯНЯТЫ

Ластавяняты вынырнулі сёння
з-пад цёплае страхі,
весела шчабечуць штосьці
ды крэсляць кола першае
вакол прытульнай хаты.
Здзіўлена ўзіраюцца
ў блакітны далягляд
й рашуча рассякаюць
пагодны краявід,
каб хутка даляцець
да ўспененых аблокаў.
Яшчэ не ведаюць,
што кожны новы ўзмах
свабодных крылаў
іх набліжае
да свету
коршакаў і груганоў.
Вунь яны
ў захмарных высях
ужо цікуюць,
калі маляты
адважна стануць
аддаляцца
ад роднага гнязда.

### І ТОЛЬКІ МЕСЯЧЫК

Лапінка поплаву.
Бору акрайчык.
Адхон хуткаплыннай ракі.

Выган за вёскай.
Мурожны дыван загумення.
А мо што інакшае
з кветкаю вогнішча,
пры якім я сама.
І толькі месячык
спусціцца ў госці.

## *КАМЯНІ І КІРЛІ*

Падробленыя,
нібы падробныя,
рэбрамі паўтыканыя
на ўзбярэжжы ў бетон
увязненых хваляў.
Не прагуляешся ўздоўж іх
з сябрам апоўдні.
Не затулішся ўвечар з каханым
у выбіранку на мяккім жвірку.
Не змайструеш з сынамі ў нядзелю
пясчаных палацаў.
Цёплыя валуны
сталі сталі друзам халодным
на роднай рацэ.
Калючым.
Апастылым.
Толькі кірлі яшчэ
ўмудраюцца неяк
не раніцца
аб звыклыя краявіды.

## *САМОТНАЯ*

Каханы адляцеў
у шматкалёрны вырай,
а мне пакінуў
чорныя дубцы вярбы
ў пахілым краявідзе
і берагі застылае ракі.
Ратуюся на дыванках
яшчэ не скутай
да дна марозам
графікі
і на алейных
чорна-белых фарбах
недасяжных даляглядаў.

## НА ТЫТАНІКУ ЎДВАІХ

Ты спіш,
каханы мой.
Відаць, што захістала
і цябе.
Найвытрывалага.
Не ўсведамляеш шчэ,
што ля стырна
на нашым караблі
ўжо аддаюць загады
два вар'яты,
адзін аднаму супярэчныя.
Каманда мітусіцца.
Не ведае,
каго з іх слухаць.
Утопяць нас
у гэтай бездані халоднай.
Але ты спі.
Я кавы папіла,
а ты ж не любіш
гэты рытуал на золку.
Марфеевы абдымкі
на світанку
ты і сёння ўблытаў
у маю кунегу.
То й дзякуй Богу!
Прачнемся,
злітныя ў адно,
у новым,
іншым свеце.

## ЗДЗІЧЭЛА ПАПЯРОЎКА

Здзічэла папяроўка.
Яблык мо з гарэх.
Малінаўка яе крыху
перасцігнула цяжарам,
а смакатою –
што тая лебяда нябеленая
ў галодны год.
Дулі ў долі з порхаўкамі,
падбоем ім маліны
спрэс чарвівыя
ў суплёце
з акрапіўнымі ажынамі.
Далей не йду.

Ды й немагчыма выблытацца
з валадарства
сумніку.
Загінуць тут прасцей,
чым перамагчы.
Вікторыі жаданай
не стае цяпер
трывалых вояў,
якія ўмеюць
хоць працерабіць
зарослы сад
ды пасмакаваць
плады
з дзядоўскіх дрэваў.

## *КАЛЮЧАЕ ШЧАСЦЕ*

Блукаю ў бацькавым садзе.
На пні натыкаюся,
ублытваюся ў голле,
зачапляюся за карчы.
Нічога не пазнаю.
Дзе ранэтка?
Куды дзеўся штрыфель?
Чаму замест стромкіх ствалоў шафранаў
разлегліся вербалозы?
Папінка й антонаўка ацалелі.
Але дабрацца да іх праз аржанец
не маю ніякай мажлівасці.
Кружляю вакол нахабнага блёкату.
Чартапалох засціць мой шлях
праз прагал на аселіцу.
Там прывідны поплаў.
На ім я калісьці ў рамонкаў
пра долю пыталася.
Мецьмеш усё.
Але калючае шчасце тваё.
Сказалі.
Не памыліліся.

## *PRIMITIVO*

А ў Апуліі ўжо свята.
Саспела першае.
Дон Франчэска,
пробашч кляштара

ў далёкай Джойя дэль Кале,
узрадуйся.
Не прапала марна
і праз два стагоддзі
тваё старанне апярэдзіць іншых
у новым коле карагодаў Бахуса.
А мы?
Што мы?
Далучымся.
Наколькі можам
у абставінах
зусім
не апулійскіх.

### *З'ІНАЧЫЦЬ*

Што б гэта значыла,
калі раптам на вулцы
ні з таго ні з сяго
да цябе пачынае
заляцацца мурын.
Прытым
малады і прыгожы.
Няўжо ў яго гэткія
кепскія справы
ў стасунках
з тутэйшымі
даступнымі
і пажадлівымі.
Лепей пра гэта
не думаць,
а пастарацца
з'іначыць
абрысы паставы
з гульнёй
перакуленых лічбаў
60 на 90
у стане,
клубах
і ва ўзросце.

### *НЕ АДЧУВАЮ*

Лета лістом абляцелым
у Лету сплывае з наўколля,
агаляе трымклівыя дрэвы

і летуценныя душы,
у адчай уганяе залежных
ад датаў календара.
Не паддавайся наступствам
натуры зрудзелай,
а мілосна ўсміхайся, –
нашэптваюць ружы.
Я паслухмяная ім
і не адчуваю
сачэння скрозь пальцы
чвырку верадлівага
ў кірунку
няўмольнае
Леты.

## *МОЙ ЛЁС*

Узгорысты.
Пахілы.
Пакручасты.
Каму як хочацца,
так і абзывае
мой лёс.
Не ўтручваюся ў спрэчкі.
Жыву.
І ведаю,
што на верхавіне
мацнейшыя вятры.
Але спускацца долу
ў цішэйшы краявід
не буду.
Хіба што некалі
садзьме адсюль
якойсьці бурай.
Ну але яе тады
я ўжо
не пабачу.

## *ПРАРАСЦЕ КРАСАВІК*

Прэлым лісцем сутонне
мяне абміне,
заскарузлым галлём
ноч абыдзе,
дасвецце абдыме
валошкавым туманом,

а ранак сустрэне
загойнаю ранай
на целе,
душы,
на ўсім краявідзе,
на якім у кастрычніку
прарасце красавік.

## *ТУЛІПАНЫ*

Саджаю ў глебу
лістападаўскую
туліпаны
і кажу ім:
тут вясной наступнаю
жывіце.
А яны пярэчаць мне.
Сама, маўляў,
бадзяешся па свеце,
а нам загадваеш,
дзе й калі мы мусім
расцвітаць.
Ну то іх спрабую
абразуміць,
што ў землях іншых
час туліпанаў
не супадае
з нашым сакавіком.
І тады наогул
дзеля якой патрэбы
вам хоць недзе
трэба красавацца.

## *ПРАРАСТАЕ РУЖАНЕЦ*

Золата дзікае скіфаў
і пробу чырвоную Троі,
а нат і сарматаў чаканку
я аддаю за вось гэты
выклік прыродзе і людзям.
Ззянне і бляск ападання
лістоты апошняй у сэрцы –
нішто,
калі ў красавіцкай душы
прарастае ружанец.
Жыву ў ім,
і дзячу яму.

## *СУТОННЕ*

Ага.
Сутонне.
Спасціглы краявід
аквамарыну німбаў.
Бель вэлюмаў завоблачных
на шатах
убранняў Найдасканалай.
Два колеры абранага народу.
Спрадвечныя.
І шчэ якісь тутэйшы,
да якога аніяк
дапяць
не атрымоўваецца.
Ну, вы ведаеце самі,
што ў краіне шэрых,
хай іх тысячы адценняў,
ніяк не спалучыць
смарагдавы й лазурковы.
Марыя
ў свае пятнаццаць год
умела апрануцца так,
каб нам заўсёды
млела
замануцца
ў яе двухколерны
адвечны рай.

## *ЗАЛАТЫЯ ХРЫЗАНТЭМЫ*

Прыгоствы ліпеньскіх барваў
з майго кветніка змылі
жнівеньскія дажджы,
дазволіўшы раскашаваць
адно невыводнай красе
тваіх улюбёнак.
У водсвеце іх
залатых каронаў
купаецца сонца,
засланяючы далягляд
ад вераснёўкага наступу
сіберу срэбра.
У гняздзечках суквеццяў
утульна багоўкам.
Далоні летняга госця
дораць цяпло
пальцам садоўніцы.

## *КАСТРЫЧНІК-2022*

Бабіна лета цвісці адмовілася.
Праўда, нейкая самадумная
ўсё ж раскрылася
для апошніх
кастрычніцкіх матылёў.
Відаць, не чытае навінаў.
Не хочацца думаць,
што самадайка,
а ў такіх, як вядома,
гешэфты свае.
Ну й хай сабе.
Галоўнае,
што ўсе яны разам
не зацвілі.
Захлынуліся
цяжкім паветрам
з усходніх вятроў,
ці кроўю ў дажджы
суквецці іх чуйныя
напаіліся шчэ
на пачатку вясны.
Гэтым кастрычнікам
дыхаю толькі спадзевам
пра буянне ўсіх красак
наступнай вясной.

## *АПОШНЯЯ*

Заўтра тут пойдзе снег
і ўраўнаважыць колеры
застылага краявіду.
Тое адбудзецца заўтра,
а сёння
простая хрызантэма
апошнія шаты восені
зашыфравала ў код
будучай квецені.
Далучымся
ў сполахах ружаў
і ў пералівах лілеяў.
Выйдзем
вітаці вясну.

### *БАЛОТНЫЯ ЛЮСТРЫ*

Белыя чаплі ў густых чаратох
пасталі пры чортавых вокнах,
каторы ўжо дзень
незварушна ўзіраюцца
ў нерухомыя чорныя вочы
ў спадзеве заўважыць у іх глыбіні
адбіткі сваіх выкшталцоных паставаў.
Ні рыбіны, ні жамярыны
даўно не было ім на спожыў.
Іх лёгкія целы зніцелі
і хутка набудуць бязважкасць,
а блакітныя зрэнкі
смугою зацягнуцца,
ператворацца ў твань,
якая ніколі й нікога
ў сваёй тарфяной амальгаме
тут не люструе.

### *ШАРАЯ ГАДЗІНА*

Ні сонца,
ні зораў,
ні месяца ў небе.
Ніводнай лісцінкі
на ясенях на зямлі.
Камлі і галіны
на клёнах любімых
накрэслены
рэзкаю кардыяграмай.
Анамнез дыязназу –
што мёртваму грэлкі.
Пакіньце ў спакоі
спачылага.
Выратаваць –
не дапамагчы.

### *ВЕЧАР УСІХ СВЯТЫХ*

Першым днём лістапада
кагось атулілі анёлы,
ад кагось адагналі шаленцаў,
ну а некаму
шарай гадзінай
пагрукалі дэманы ў дзверы.

Якраз ў часіну,
калі ўсе святыя
спаткаліся
на таемнай вячэры.

### *ВЕРНЕМСЯ*

Сутонне ў чорны час
яшчэ не перайшло.
Азуркава шчэ ззяюць
бліскаўкі ў нябёсах.
Мая рука
шчэ цёплая ў тваёй.
І хочацца віна,
а з ім – інтымных асалодаў.
Ну а пасля шукаем
іншых апраўдаўнняў
прысутнасці сваёй
вось тут і зараз,
забыўшыся
пра кропку невяртання.
Куды? Чаго? Калі?
Аднойчы.
Мы прыхінемся
да магілаў родных,
і ўсклікнем:
 "Вось мы і дома!"
Каторыя адразу скамянеюць,
а каторым дых займе
пры спадчынных крыжах
што колькі ўцямнае прамовіць
у свой астатні дзень.

### *СУЦЯШЭННЕ*

У мярэжы злоўленая
на чужым гаўбцы
толькі й маю,
што спярэшчанае неба.
Суцяшаюся
нясцерпнай роспаччу
і бездапаможным болем
за тых шматлікіх,
каму ў часіну гэтую
акраец сонца
ўбачыўся з-за кратаў.

Уладзімір Міхно



…справядлівасць няхай сабе
і не пануе ў свеце, аднак, яе варта шукаць,
за яе варта змагацца..

# Квадратны цвік

***Аповесць***

*Заканчэнне. Пачатак у №1 (122).*

* * *

Вось і закончылася франтальная праверка ў Сматрычах, засталося правесці выніковы педсавет, падвесці вынікі і на пяць гадоў «адпусціць» школу на давер?

Даўно Лідзія Паўлаўна гэтак не вагалася, прымаючы канчатковае рашэнне. Сёння яна мусіць выступіць перад педагогамі школы. Яна, загадчыца, павінна сказаць сваё апошняе, рашаючае слова, якое і стане прысудам. Для некага наступіць час расчаравання, пераацэнкі каштоўнасцяў, а як жа, на тое і існуюць франтальныя праверкі. Камусьці будзе вельмі непрыемна...

Яе, загадчыцу раённага аддзела адукацыі, педагога дасведчанага дый кіраўніка не з дылетантаў, школа ў Сматрычах уразіла настолькі, што проста дабіла. Так, яна сама з горада, дагэтуль, і не падазравала што ў вёсках яшчэ захаваліся школы,

дзе матэрыяльная база на нулі. Мы разважаем пра шматступеньчатую школу будучыні, пра суцэльную кампутарызацыю педагагічнага працэса. А тут нават няма спартыўнай залы. Добра, калі на вуліцы свеціць сонейка, а як дождж ільле за каўнер. Урокі фізкультуры праводзяць прама на калідоры, вузкім і цесным, а ў класах у гэты час хоць вушы затыкай. Калі фізкультура на калідоры, то ўся школа не працуе, пакутуе. Пабудаваць у Сматрычах спартыўную залу – для раённага бюджэту, мусіць, тое ж самае, што для краіны пабудаваць новую касмічную станцыю. Ніколі гэтага не будзе.

Ёй, Шышкінай, сорамна глядзець у вочы настаўнікам, якія ходзяць па падлозе, што вось-вось праваліцца, заходзяць у класы, якія немагчыма нават і класамі назваць. Ці то пакойчыкі, ці загончыкі? Вокны маленькія, на сценах трэшчыны, на столі – шызыя, доўгія плямы ад пацёкаў. Што яна будзе казаць і як глядзець у вочы гэтым настаўнікам, калі зноў во затрымліваюць зарплату? Выдалі пакуль толькі часткова аванс і больш нічога ў бліжэйшы час не абяцаюць. Сорамна і крыўдна не столькі за сябе, колькі за краіну, якая заўсёды была і будзе лапатніцай. Настаўніка зняважылі і пакрыўдзілі... І ўсё ж... І ўсё ж... Не матэрыяльная база здзівіла і абурыла Лідзію Паўлаўну ў Сматрычах. Здзівілі і абурылі самі настаўнікі. Вось жа і працуецца ім не соладка, а шкадаваць іх абсалютна не хочацца. Не хочацца, бо яны да настаўнікаў не падобныя... Лідзія Паўлаўна ўспамінае маці сваю, нябожчыцу. Працавала пасля вайны ў драўлянай школцы, мо ў гэткай жа самай, як у Сматрычах, калі не горшай. Чарніла не было – пісаць. Рабілі з ягады-крушыны. Сшыткаў не было – сшывалі самі са старых пажоўклых газет. А дзяцей было колькі! У класах вучылася па трыццаць-сорак чалавек, былі паралелі. Пазней, у падлеткавым узросце – а вучылася Лідзія Паўлаўна на выдатна – нават правярала... сшыткі. Маці давярала. А што было рабіць? Прывалачэ маці дадому дзве гаспадарчыя сумкі адных толькі сшыткаў, якія трэба да заўтрашняга праверыць. Сама сядзіць над сачыненнямі, дыктоўкамі, а дачцэ дасць лягчэйшае – дамашнія практыкаванні. Спачатку падстрахоўвалася, пераправярала, а потым убачыла, што Ліда яе талковая, пісьменная, уважлівая, памылак не прапускае, і паверыла, даверылася ёй. Каб хто даведаўся, напэўна, раздраконілі б на ўвесь раён. Але ж, каб не правярала ў дзяцінстве сшыткі, ці стала б Лідзія Паўлаўна настаўніцай.

А тут – сядзяць у класах па тры-пяць вучняў, а настаўнікі як у кіпень апушчаныя... На ўроку самі сабе распавядаюць, быццам дзеці для іх і не існуюць. Настаўніца Сяўніцкая на дошцы робіць столькі граматычных памылак, што ад сораму не ведаеш, куды схаваць вочы.

У дырэктара школы... кульгае методыка выкладання. Сама, як прадметнік, Пагодзіна выглядае шэрай і безаблічнай. Як яна можа наведваць урокі і рабіць заўвагі іншым настаўнікам? Якое мае маральнае права?

Пра дырэктара – размова асобая. Складваецца ўражанне, што Пагодзіна не толькі не можа, але і не хоча нічога рабіць для школы, што адбывае тут павіннасць і некуды, пэўна, збіраецца сысці. Цікава, каго ашчаслівіць? Ды ёй проста пляваць, якая столь у школе і як вядуць урокі настаўнікі. Калі ў адсутнасці спартыўнай залы Пагодзіну не абвінаваціш, то вядро вапны, столь пабяліць, яна знайшла б, калі б захацела. Калі б захацела, знайшла б і магчымасць хоць крыху ажывіць калектыў. Зразумела, што ў школу зараз ідуць з вуліцы і – праз грошы, бо ў школе, хоць і са спазненнем, і з затрымкамі, але зарплату ўсё ж выдаюць, і куды большую, чым у калгасе. Зразумела, у вёску зараз не кожны паедзе, а едуць тыя, хто не ўладкаваўся

ў гарадскіх школах: ці то месца не знайшоў, ці, як тая Сяўніцкая, надта ж многа памылак на дошцы робяць. І ўсё ж гэта не зусім так, бо чамусьці ў іншых вясковых школах знаходзяць сабе прафесійна прыдатных настаўнікаў. Многае, вельмі многае ў школе залежыць ад дырэктара, гэта Лідзія Паўлаўна ведае па ўласным кіраўнічым досведзе. Трэба душой хварэць за школу. Калі гучна не заявіш аб сабе, аб сваіх бедах, ніхто цябе не пачуе і ў раёне, ніхто не стане дапамагаць. Цяпер Лідзія Паўлаўна валодае сітуацыяй у Сматрычах. Але дапамагаць Пагодзінай з кадрамі яна не збіраецца. Пасалць сюды добрых спецыялістаў, значыць, загубіць іх. Трэба карэнным чынам мяняць сітуацыю. Трэба мяняць дырэктара.

Пагодзіна не пацерпіць любога добрага спецыяліста. Па прыклад хадзіць далёка не трэба. У школе ёсць пару сапраўдных педагогаў. Пры іншых умовах яны маглі б тут адкрыць... сваю аўтарскую школу. Без гратэску... Аксана Валер'еўна Кармен – моцны, высокага класу матэматык, спецыяліст, якога пашукаць у любой з сярэдніх школ. А вопыт Квадратнага Віктара Фёдаравіча трэба, увогуле, абагульняць і вывучаць, чым метадычныя службы і павінны заняцца. На жаль, абагульнялі і вывучалі ў аддзеле адукацыі дагэтуль іншы «вопыт» Сматрыцкай базавай школы.

Ламалі галовы, як спыніць раздрай у калектыве, як патушыць бясконцыя лакальныя канфлікты, якія апошнім часам перараслі ў татальную вайну. Зараз Лідзія Паўлаўна добра разумее гэтых двух настаўнікаў, пра якіх ёй дакладвалі дагэтуль ледзьве не як пра дыверсантаў ды бунтароў. А як жа, Пагодзіна так і дакладвала: Квадратны паводзіць сябе агрэсіўна і заклікае да страйку. Але ж як можна цярпець побач гэтую шэрасць, яшчэ й ваяўнічую, якая стараецца збіць цябе з ног. Вайна на выжыванне. Квадратны – асоба, а неануча. Асоба неардынарная, супярэчлівая, часам дзіўная і незразумелая. Але ён, бясспрэчна, таленавіты чалавек, а таленту можна дараваць многае, прынамсі, тое, што нельга прабачыць пасрэднаму і шэраму чалавеку.

Дык чаму ж у Сматрыцкай школе бушуюць і ваююць? А таму, што тут няма чым больш заняцца. Вучыць дзяцей такія настаўнікі, як Пагодзіна, не ўмеюць і не хочуць – абы плацілі грошы. А хто можа і ўмее, таму не даюць. Бо на яркім фоне больш яскрава праявіцца твая бяздарнасць, і ты мусіш альбо пачаць працаваць па-сапраўднаму, альбо пакінуць цёпленькае наседжанае месца. Вядома, Лідзія Паўлаўна не так многа часу правяла ў гэтай школе, але ёй чамусьці здалося, што нават дзеці разумеюць усю абсурднасць сітуацыі. Яна бачыла жывыя, светлыя – здаровыя вочы дзяцей, і ёй па-чалавечы было шкада гэтых хлопчыкаў ды дзяўчынак, у якіх нядошлыя настаўнікі скралі будучыню, адабралі перспектыву. Цяжка нават уявіць, што было б, калі б ёй у дзяцінстве трапіліся вось такія ніякія настаўнікі? Яна б не змагла пасля васьмігодкі пайсці вучыцца далей, яе б, вясковую, у дзявятым-дзясятым класе, у райцэнтры, заклявалі гарадскія «вундэркінды». Страшна падумаць, але настаўнікі могуць перакрэсліць, «зарэзаць» будучыню ў дзіцяці. Лідзія Паўлаўна прымярала свой лёс да лёсу сматрыцкіх дзетак, і ёй станавілася ўсё горш і горш. Вунь колькі ў той час з іхняй вясковай школкі павыходзіла спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, вунь колькі яе аднакласнікаў пайшлі вучыцца далей. А куды пойдуць гэтыя дзеткі? Яе настаўнікі былі і весялейшымі, і знаходліва-аптымістычнымі. Яны спявалі ў хоры, ставілі п'есы, яны раз'язджалі па ўсёй акрузе з канцэртамі, са спектаклямі – весялілі ўсё навакolле. Людзі простыя бачылі, як у вёсцы жывуць настаўнікі, зайздросцілі ім, ганарыліся імі. А хто пазайздросціць

гэтым «звараным» настаўнікам, прышлым, чужым? Вось чаму разбягаецца вёска, раствараецца ў горадзе. Людзі проста хочуць, каб іх дзеці нармальна вучыліся. Яна, Шышкіна, выйшаўшы замуж за ваеннага, таксама стала гарадскою. Яна таксама здрадзіла сваёй бядотнай маленькай вёсачцы, дзе калісь нарадзілася, яна здрадзіла сваёй маме-нябожчыцы і вінаватая перад ёю. Вінаватая, бо зараз не ведае вясковага жыцця, не адчувае яго пульсу. Едучы ў Сматрычы, Лідзія Паўлаўна як бы вярталася на радзіму сваю маленькую – пакаяцца, ды каяцца было позна. Вёска, пакінутая сваімі лепшымі сынамі і дочкамі, дайшла вось да такога абсурду, што стала адстойнікам... І цяпер яна злосна здзекуецца з нас: вось, маўляў, любуйцеся, чаго нарабіла вашая здрада...

Вось аб чым трэба сёння казаць ёй, загадчыцы аддзела адукацыі, на выніковым педсавеце ў Сматрычах. І пра многае яна скажа, не хаваючыся, прама ў вочы. Ці захочуць зразумець? І таму яна, Лідзія Паўлаўна Шышкіна, хвалюецца цяпер, як школьніца...

– Вас можна на хвіліначку? – думкі яе перапыніла жанчына сярэдніх гадоў, інтэлігентна, з густам апранутая, але гэта не была настаўніца. Настаўнікаў тут Лідзія Паўлаўна ведае ўсіх. Жанчына нясмела прачыніла дзверы, для пэўнасці азірнулася па баках і, карыстаючыся тым, што ў настаўніцкай нікога не было – ішоў урок – паўшэптам загаварыла:

– Вы загадчыца з «раяна»? Мне сустрэцца з вамі трэба, пагаварыць.

– А чаго шэпчаце? – здзівілася Лідзія Паўлаўна. – Гаварыце ўголас, тут жа няма нікога. Калі ласка, праходзьце, сядайце, расказвайце.

– Ды тут, шаноўная, і сцены слухаць умеюць, – не пагадзілася кабета. – Я маці аднаго з вучняў гэтай школы, – зноў панізіла яна голас, – працую тут намеснікам дырэктара па гаспадарцы. Сын мой, Віця, вучыцца ў дзявятым класе, а класным кіраўніком у іх настаўнік, які беларускую мову вядзе, Віктар Фёдаравіч Квадратны. Дык вось, я не ведаю, з-за чаго вы сюды прыехалі, мо ўжо ў курсе, ды разбірацца прыехалі, а толькі я вам так скажу, шаноўная: гнаць трэба такіх настаўнікаў са школы паганай мятлою і блізка да дзяцей не пускаць.

– Квадратнага? Гнаць са школы? – насцеражылася Шышкіна. – Чакайце, вы часам не блытаеце?..

– Паблытаеш тут, – пакрыўдзілася ад недаверу кабета, – зямля б іх не насіла, настаўнікаў такіх.

– Вельмі цікава. Ну, што ж, сядайце, расказвайце.

– А што тут расказваць? Гнаць і ўсё... Вы, напэўна, ведаеце, што майго сына давялі да самазабойства. Яго збіў аднакласнік Серада, ёсць тут такі бандыт-рэцыдывіст. Па калоніях цягаецца, турма па ім плача, а ў гэтай школе збіраюць усю шваль і вучаць. Збіў майго Віценьку, скрываніў прама на ўроку ў Квадратнага. Міліцыянер прыязджаў, разбіраліся. Ды Кватратны выгарадзіў бандыта. Яны з гэтым Серадою, можаце сабе ўявіць, сябры!

– Сябры? Ну... ну, і што?

– Як што?! Аднаму шаснаццаць, а другому пад сорак. Якая тут можа быць дружба? Хіба вы не разумееце?.. Што ў іх можа быць агульнага?

– Ну, так не трэба казаць. Віктар Фёдаравіч – неардынарны чалавек, асоба творчая, ці мала... Ён вельмі любіць дзяцей – гэта адразу бачна. Дзіўнаваты крыху – а хто з нас без дзівацтваў?

– Неардынарны! Творчы! П'юць яны разам – вось і ўся неардынарнасць...

Лідзію Паўлаўну пачынала раздражняць субяседніца: яе нахрапісты,

безапеляцыйны тон, якога Шышкіна ўвогуле цярпець не магла. З багатага жыццёвага вопыту яна ведала, што любога чалавека можна і растаптаць, і абняславіць, варта толькі захацець і паставіць сабе мэту. Аднак пра тое, пра што казала зараз незнаёмка, чула яна ўпершыню. Вядома ж, факты, калі яны сапраўды мелі месца, заслугоўваюць увагі. Трэба выслухаць, трэба разабрацца:

– Што ж, абвінавачванне сур'ёзнае. Калі ў вас ёсць пераканаўчыя доказы, кажыце...

– Не-не, я ж нічога, – спалохалася раптам кабета. – Хай сабе што хочуць робяць. Якая мая справа! Толькі, – жанчына зноў перайшла на шэпт, – завошта ж маё дзіцятка да пятлі давялі? Яны ж усім класам на яго наехалі, прыніжалі, здзекваліся. Той бандыт усіх падбухторыў, нацкаваў. Вось і не вытрымаў мой хлопчык несправядлівасці такой, – жанчына заплакала, зачмыхала носам, дастала насавічок і тут жа смачна высмаркалася, – ён жа ў мяне, божачкі, казюлькі не пакрыўдзіць. Ён жа біцца ніколі не біўся. А то аднаго разу ўвечары чакаю свайго Віцю, не дачакаюся дадому. Цямнее ўжо, я туды, я сюды. Аж ён у Квадратнага на печы, п'яны ў дыміну. Паверыце, я адной нагою на тым свеце была. Мой хлопчык і корак панюхаўшы атруціцца, грама ў рот век не браў. А тут, уяўляеце, яшчэ з адным падшыванцам дзень нараджэння адзначалі, ды прама ў класнага кіраўніка. Адсурд, мае вы людцы! Дажыліся-даскакаліся. А ўсё таму, што настаўнікі зарабляюць грошай ахапак, і цяпер у школе збіраецца наўра ўсялякая.

Лідзія Паўлаўна не даслухала філасофіі сваёй субяседніцы. Паплыло ў галаве, памутнела. Гарачая хваля, абрынуўшыся, настойліва грукала ў скроні. Няўжо ўсё гэта праўда? Няўжо яна памылілася ў Квадратным? Не можа быць! Шмат пабачыла яна за доўгі свой настаўніцкі век людзей і добрых, і злых, і шчырых, і хлуслівых. Дабро і зло яна навучылася распазнаваць па вачах. Не падабаюцца ёй вочы незнаёмкі: хітрыя, бегаюць разгублена, чапляюцца, за што трапіцца, а ўчапіцца, запыніцца не могуць. Вачам як бы сорамна за тое, пра што кажа язык, вось і бегаюць, і не ведаюць, куды ўцячы. І потым, чаму яна шэпча? Каго баіцца? Калі ўсё гэта праўда, трэба крыкам крычаць і нікога не баяцца. Але ж і не прыслухацца Шышкіна таксама не мела права. Надта ж суровая размова, надта сур'ёзныя абвінавачванні. І яшчэ адзін момант вельмі ж ёй не падабаўся: што абмяркоўваюць яны паводзіны Квадратнага за вочы, усё роўна, як бабы з Камароўкі, разводзяць плёткі. Не, так нельга. Нават на судзе абвінавачанаму прадастаўляюць адваката і не пазбаўляюць апошняга слова. А тут, здаецца ж, пакуль яшчэ не суд. А міжволі даводзіцца быць трацейскім суддзёю, нават параіцца няма з кім. Запытацца ў дырэктара? Але ж Пагодзіна з Квадратным – ваяўнічыя арміі. Наўрад ці тут выпадае спадзявацца на аб'ектыўнасць. Што ж, давядзецца пашырыць тэматыку на педсавеце, выслухаць усіх зацікаўленых і зрабіць высновы. Давядзецца разлічваць на сваю інтуіцыю. Толькі б не падвяла...

– Вы кажаце, дзеці з Квадратным гарэлку пілі?

– Пілі і п'юць заўсёды. Далібог, не брашу, каб мне з гэтага месца не сысці. Не сябры яны ніякія, а сабутэльнікі. Рука руку мые, чорт чорта крые... А я не хачу, каб майго сына настаўнікі спойвалі. Слухайце, даражэнькая, вы ж усё можаце, вы ж там, у раёне, начальніца вялікая. Прашу вас, перавядзіце гэтага пустадомка ў якую іншую школу, абы з вачэй. Ці ж яму не ўсё роўна, чыіх дзяцей вучыць гарэлку піць? А мы вам толькі дзякуй скажам. І тога бандыта даўно пара ў турму. А як не будзе каму яго выгароджваць, міліцыя хутка падшукае яму цёпленькія нары...

У дзверы рашуча пастукалі. На парозе паўстаў высокі, стройны юнак, ён быў запыханы і цяжка дыхаў.

– Здрасте, – прывітаўся па-руску, – а Виктора Фёдоровича можно?

– На ўроку Віктар Фёдаравіч, – адказала Шышкіна, але ўбачыла раптам, як змянілася з твару яе субяседніца, спачатку нервова перасмыкнулася, спалохалася чагосьці, але затым пасмялела, хітра ўсміхнулася, з'едліва ўсклікнула:

– А вось і ён сам. Калі ласка, палюбуйцеся, усе на ўроках, а ў яго персанальныя канікулы.

– Гэта і ёсць Серада?

– Ён самы, згадалі свіна, а ён ля тына.

– Зайдзіце на хвілінaчку, малады чалавек, – запрасіла Шышкіна, – дарэчы, сапраўды, а чаму вы не на ўроку? Як вас завуць?

– Володя, – усміхнуўся хлопец. Ён ужо супакоіўся, паравёў дыханне. Усмешка ў яго хаця і з выклікам, і з іроніяй, але – светлая, не злая, не нахабная. Не падобна, што гэта «адмарозак» і бандыт. – Понимаете, здесь дело очень срочное. А вы... а, вы точно из этих, из проверяющих. Тогда извините, ради Бога, – хлопец хацеў выйсці.

– Пачакай, – спыніла яго Шышкіна, раптам перайшоўшы на «ты», – ты, Валодзя, з дзявятага класа, прыехаў сюды нядаўна?

– Так точно, а что?

– Нічога. Проста бачу, гаворыш не па-нашаму. Падабаецца табе вучыцца ў гэтай школе? Як цябе прынялі ў калектыве?

– Нормально, а что? – хлопец насцярожыўся. – Да лучше всех!

– Што ж, ахвотна веру, – засмяялася Лідзія Паўлаўна, – паспрабаваў бы хто такога пакрыўдзіць... А сам ты нікога часам не крыўдзіш? Плечы вунь якія шырокія. Аднакласнікі, можа, баяцца цябе?

– Зачем меня бояться, я ведь не кусаюсь, – Валодзя не мог зразумець, куды хіліць гэтая незнаёмая цётка.

– Бачу, ты здзіўлены і дастаткова заінтрыгаваны. Не будзем болей гуляць у хованкі. Давай пагаворым шчыра. На цябе, Валодзя, скардзяцца. Б'ешся, кажуць, праходу людзям не даеш. Як ты гэта растлумачыш?

– Кто говорит? А! Так вон оно что! – зірнуў хлапец на Навумаўну так, што тая аж рот раскрыла, не чакала, што начальніца наладзіць «вочную стаўку». – Не эта ли вам здесь уже успела «настучать»? И она ещё имеет наглость жаловаться?

– Валодзя!

– Вось бачыце, а што я вам казала? У кайданы такіх і на ланцуг. Гарбатага магіла выправіць.

– Она ещё, идиотка, прибежала «стучать», – халераваў Серада. – И о чём же она вам здесь наплакалась? Небось, опять на Виктора Фёдоровича бочки катит?

– А пры чым тут Віктар Фёдаравіч? – спакойна запыталася Шышкіна. – Ці не адвакатам ты ў яго працуеш? Я думаю, твой класны кіраўнік у абаронцах не мае патрэбы, пакуль...

– И вы туда же?! – здзівіўся, відавочна засмуціўшыся, хлопец. – Вот-вот, вы правильно сказали, «пакуль»... Но если эти шавки его в конце концов съедят, – Валодзя кіўнуў на Навумаўну, – то адвокат ему понадобится. Иначе погибнет человек. А ведь он ни в чём, ни в чём не виноват. Вы верите? – вочы падлетка глядзелі так шчыра, так адчайна прасілі паверыць,

што Лідзія Паўлаўна... паверыла. Яна ўвогуле верыла дзецям больш, чым дарослым.

– Добра, тады адказвай хуценька. Толькі папярэджваю: не трэба грубіць, не трэба людзей зневажаць. Ты ж ужо дарослы чалавек, Валодзя, бачыш, як непрыемна, калі зневажаюць цябе.

– А я не хочу, не хочу быть взрослым! – узарваўся хлопец. – Вы все считаете, что только вы знаете истину и говорите правду! Вы все присвоили себе право судить других! – ён памкнуўся пабегчы.

– Стой, Валодзя, стой! – усхвалявалася Лідзія Паўлаўна. – Адказвай хуценька: чаму ты абараняеш свайго класнага кіраўніка? Павер, гэта вельмі важна, а я... я паспрабую паверыць табе...

Ён пільна, упершыню за час размовы з сапраўднай цікаўнасцю зірнуў у вочы незнаёмцы. Дзіўная нейкая цётка, і зусім не падобная да астатніх дарослых...

– Журнал – мой друг! – вырвалася неасцярожнае.

– Які журнал? – не зразумела Шышкіна.

– То есть Виктор Фёдорович, – зніякавеў Валодзя.

– Цяпер вы зразумелі, што тут творыцца! – урачыста ўсклікнула Навумаўна, бы толькі гэтага і чакала. – Мянушка такая ў педагога Квадратнага. Зразумелі? У іх тут ва ўсіх мянушкі, як у зэкаў.

– Што ў вас агульнага з Віктарам Фёдаравічам? Разумееш, Валодзя, дружба да многага абавязвае. А гэты чалавек на шмат гадоў старэйшы за цябе, настаўнік, – як не чула Навумаўны Шышкіна.

– Ну и что? Да какая разница – годы?.. Важно, какой человек...

– Сабутэльнікі яны, кажу вам.

– Гэта праўда, Валодзя?

– Аг-га! Значит, уже и так донесла! Ну, стерва, ну, не ожидал! Погоди же, я тебе сейчас... А я её, падаль, стеснялся выдать чужому человеку.

– Божа ж мой, – загаласіла Навумаўна, якой болей хавацца не мела сэнсу, губляць не было чаго, а лепшы сродак абароны – наступленне, – чаму ж яны тут вучаць, я ў выканкам пайду скардзіцца!

– Да хоть президенту. Беги быстрее, что же ты стоишь!

Шышкіна спахмурнела:

– Ты не адказаў на пытанне, Серада.

– Ах, да, ну, конечно же, собутыльники! – хлопец адчыніў дзверы, высунуў галаву ў калідор. – Заползай, мой друг! Давай, быстрей валяй, а то мне некогда.

Зацкавана азіраючыся, зайшоў невялічкага росту хлапчук з доўгім, як у бусла, носам. Вочы ў яго бегалі гэтак жа напалохана-лісліва, як і ў кабеты. Лідзія Паўлаўна здагадалася, што гэта быў той самы Віця, пра якога толькі што гаварылі.

– А мы вам подарочек приготовили по случаю своего будущего выпускного вечера. Ану, Буслик, показывай!

Той дрыготкімі пальцамі дастаў з кішэні пачак з-пад цыгарэт, адкрыў і высыпаў на даланю дзве маленькія залатыя завушнічкі. У вачах у хлопца стаялі слёзы.

– А теперь рассказывай, – ласкава папрасіў Серада, – чего молчишь? Кого будем поздравлять, мамку твою или вот эту тётеньку? Может быть, тётеньку, она хорошая, а мамку ты уже поздравил... Рассказывай, как вы с Милки, извините, с Маратом – это наш одноклассник – решили отметить его день

рождения. Как поехали в город, набрались там до поросячьего визга, а затем по пьяни подвалили к Журналу, пардон, к Виктору Фёдоровичу. Как он вас, бухих, уложил спать, пожалел вас, чтобы вы не сдохли под забором. А ты его, вместо того, чтобы поблагодарить за гостеприимство, подставил жестоко, с-сученок. Ой, извините, ради бога, с языка срывается, иных слов для него не нахожу. Чё же ты молчишь, гнида? Ты давай, рассказывай, пока я тебе при свидетелях пасть не порвал, чтоб уж было не обидно, когда мать зазря к*а*пает на меня. Колись, как ты украл у мамки своей серьги, решив их пропить потом, а чтобы всё было чин-чинарём, затихарил в укромном местечке. А дома сказал, что потерял у Журнала по пьяни. Помнишь, как мамка твоя прилетела на крыльях к Виктору Фёдоровичу с обыском и, вместо того, чтобы поблагодарить его за постель для сына на печке, вытоптала своими вонючими сапогами его паласы, перевернула всё в доме вверх тормашками. Серёжки эти искала, не нашла и ушла, даже не извинившись... Вот вы, простите, не знаю, как вас звать...

– Лідзія Паўлаўна.

– Вот вы, Лидия Павловна, говорите, что нельзя ругаться, надо быть повзрослее и повыше всего этого. И Журнал мне говорит то же самое. Не вмешивайся, говорит, в наши взрослые дела. Ни в коем случае не тронь вот этого говнюка... А как его не трогать, когда он подонок, когда он хороших, честных людей готов под статью подвести за то, что они его разумному, доброму, вечному учат. Знаете, сколько Виктор Фёдорович пережил, поседел весь, когда этот хроник в петлю полез? Ведь он не за себя переживал, а за нас: за меня и за этого... А вот и благодарность. Да, я много по жизни глупостей наделал, но на подлянку... на подлянку не каждый ведь способен. Это люди особого сорта. И порой им ничего без кулаков не докажешь. И не всегда вас, взрослых, слушаться надо. Послушай я Журнала и не тронь сегодня это мерзкое существо – завтра они с мамкой и Журнала бы за решётку упрятали, и меня туда же. А так пойду на любое судилище вот с этим вещдоком, – ён кіўнуў на завушніцы, – и кому угодно докажу. Ведь справедливость... справедливость – она же есть, правда?

І зноў – той жа самы позірк. Быццам гэта ад яе залежыць, ці ёсць на свеце справядлівасць. І так хочацца згодна кіўнуць гэтаму наіўнаму падлетку. Дый хлусіць яна не можа, не мае права. Лідзія Паўлаўна, паклаўшы на далонь, разглядвала дзве маленькія завушнічкі, як бы пыталася ў іх, ці сапраўды ёсць справядлівасць на зямлі? Але залацінкі маўчалі, толькі хораша, прыгожа пераліваліся каменьчыкі. Што адказаць? Хіба толькі тое, што пакуль на зямлі ёсць добрыя, спагадлівыя, справядлівыя людзі, не варта вельмі адчайвацца. Справядлівасць няхай сабе і не пануе ў свеце, аднак, яе варта шукаць, за яе варта змагацца. І галоўнае – не губляць надзеі...

Яна, дасведчаны педагог, ці не ўпершыню сустракае вось такога падлетка. Шмат дзяцей за доўгія гады настаўніцтва прайшло праз яе лёс. Але такога: смелага, напорыстага, адважнага, спрытнага на язык і... ранімага, з аголенымі нервамі, з абвостраным пачуццём справядлівасці, з, бадай, дарослаю разважлівасцю і сталасцю думкі і, разам з тым, – дзіцячай гарэзлівай наіўнасцю, такога падлетка яна не бачыла. Усяго за некалькі хвілін размовы яна не тое, каб запаважала, але моцна стала сімпатызаваць Валодзю, лічы, палюбіла яго па-мацярынску. І такі вось – прайшоў праз зону! Гэтае мілае дзіця называюць у школе «бандытам»?! Смешна, каб не сумна. Сумна, каб не страшна...

За думкамі яна і не заўважыла, як моўчкі сышла ганарлівая кабета, зразумеўшы, што ў яе тут нічога не выгарыць. Следам пабег і яе сын, так і не прамовіўшы ні слова. Куды пайшлі? Рабіць чарговую брыдоту? Кагосьці ахайваць, зневажаць? Мо шукаць іншую, больш уплывовую інстанцыю, куды можна скіраваць свае плёткі-скаргі? Яна не паспела нават сказаць ім пару ласкавых на развітанне ды вярнуць завушніцы. Самае страшнае – калі б на яе месцы аказаўся які чынуша-верхагляд, у настаўніка Квадратнага былі б вялікія непрыемнасці. Мажліва, яго нават выгналі б са школы, і колькім бы дзецям не дасталося яго чуйнай і добрай душы, яго неацэннага педагагічнага вопыту. І колькі б дзяцей выраслі маральнымі інвалідамі, «выхоўваючыся» ў такіх настаўнікаў, як, скажам, Сяўніцкая.

– Ідзі, Валодзя, ідзі пакуль на ўрок, – папрасіла заміж адказу, якога ўсё яшчэ чакаў хлопец.

Але раптам празвінеў званок, і яна ўсміхнулася:

– Вось. І на ўрок ты таксама спазніўся. Што ж, бяжы, гуляй, пакуль настаўнікі твае не бачылі... Сярод дарослых табе і праўда пакуль няўтульна, павер, яшчэ паспееш пабыць дарослым. Не спяшайся...

Калі няўклюдна ўваліўся ў настаўніцкую Квадратны, задыханы, зрабіўшы гераічнае ўзыходжанне па стромай панскай лесвіцы на другі паверх, як на Эверэст, Шышкіна непрыкметна падышла да яго, падала завушніцы і, усміхнуўшыся, прашаптала, каб ніхто не чуў:

– Гэта вам, Журнал Фёдаравіч, падарунак ад лепшага і, між іншым, сапраўднага вашага сябра, – і гучна звярнулася да ўсіх: – Таварышы, не забудзьце, калі ласка, сёння пасля ўрокаў выніковы педсавет...

* * *

Мы з Аксанай Валер'еўнай сядзім побач, ляніва перакідваемся словамі. Насамрэч мне прыемна, што вось не адзін, а ёсць хаця з кім пашаптацца. Далей – болей, мы з Аксанай адчужаемся. Ці то мне так здаецца? Працуем разам, а бачымся толькі падчас кароткіх збежак на перапынках, у настаўніцкай. І то не заўсёды. Часта пасылаем вучняў памяняць журнал, а самі застаемся па класах. Мо таму і адчужаемся-аддаляемся?

Здавалася б, нічога не адбываецца. Мы зараз у школе ні з кім не канфліктуем, не ўступаем у адкрытую канфрантацыю, але ж атмасфера, паверце, настолькі наэлектрызаваная, што, здаецца, дастаткова адной іскры, каб адбыўся выбух. Навошта нам з Аксанаю лезці на ражон і правакаваць духоўны Чарнобыль? Хай працуюць, як хочуць, хай робяць, што ўздумаецца. Хай падавяцца тымі прэміяльнымі, якія аніяк не могуць падзяліць. Адны гатовы лізаць з-за іх, выбачайце, вядомае месца дырэктару, другія нават становяцца ў дыбкі. Не за ідэю, не дзеля дзетак – за тую паганую капейку, якой ніколі не бывае дастаткова. Так што зараз у нашай школе самая галоўная педагагічная праблема – падзяліць прэміяльныя. Дзіва, што на гэтым педсавеце пакуль яшчэ не пачалася лаянка. Мабыць, замінаюць чужыя людзі.

Колькі ж клопату мела сёння Ала Міхайлаўна! Думаеце, яна заперажывала, што мы ўсёй школай дружна ўляпаліся, паказаўшы на ўроках, чаго мы вартыя? Думаеце, яе загрызла сумленне, што сустракае чужых людзей у такой недагледжанай школе – у іншых хлявы лепшыя? Пагодзіну другі дзень хвалюе, як накрыць для правяраючых паляну, колькі браць гарэлкі, што

прыдумаць на закусь. Прыехалі! Далей няма куды, бо дырэктар на поўным сур'ёзе лічыць, што ад гэтай самай паляны будзе наўпрост залежаць змест выніковай даведкі, якую ў хуткім часе прышле аддзел адукацыі. Учора, калі «раяно» паехала, Ала Міхайлаўна так і заявіла:

– Хочаце, каб усё было добра, хочаце спакойна працаваць, прыносьце заўтра саленні, варэнні, а на гарэлку нашкрабем крыху прафсаюзных грошай.

Як жа, разагналіся, панеслі... Жыву пакуль яшчэ не бяды, але насіць у школу дамашнія закаткі не збіраюся прынцыпова. Увогуле, не пайду на той шабас, і ніхто мяне не прымусіць.

Я хаця змоўчаў, Аксана ж не вытрымала, падкалола:

– А колькі слоікаў марынаваных памідораў патрэбна для вышэйшай адзнакі маёй працы?

Дырэктарка збялела, ды не паспела рот раскрыць, як яе апярэдзілі шаўкі. Баба накінулася, як коршак на курыцу, гатовая вочы выдзяўбаць:

– Вам, Аксана Валер'еўна, прэстыж школы да задніцы, выбачайце. І на калектыў вам напляваць. Ведаем, гардыня вышэй за ўсё. Як жа! У вас прынцыпы. А ў мяне ўнукі. І ўсе есці хочуць. Я не збіраюся іх прынцыпамі карміць. Не падмажаш – не паедзеш. Вам на сябе напляваць, але навошта нам палкі ў колы ўстаўляеце?

Такую філасофскую платформу Баба падвяла, так выстраіла аргументацыю, як бы Аксана, далібог, у яе з кішэні грошы выцягнула і пакінула бедную Сяўніцкую галоднай. І слова сказаць не дала – вось бы ёй такі імпэт да ўрокаў... Давяла дзяўчыну да слёз. Хіба ж Бабу пераканаеш? Каб нешта Сяўніцкай даказаць, з ёй трэба ваяваць яе ж зброяй, але лаяцца па-базарнаму Аксана не ўмее, ды і статус педагога не дазваляе. Ну, што рабіць, калі яны з Бабаю жывуць у розных вымярэннях?

А Барытон толькі ўхмыльнуўся, як жарабец перад выгулам, зрабіў выгляд, што вельмі здзівіўся і ўголас пашкадаваў:

– Не думаў я, Аксана Валер'еўна, што вы такая бедная.

І, калі ўжо на тое пайшло, ён, маўляў, можа аказаць маладзейшым калегам гуманітарную дапамогу.

Тут не вытрымаў я:

– Толькі не падкідвайце, калі ласка, Сяргей Міхайлавіч, сваю гуманітарную дапамогу мне пад браму, магу не знайсці.

Атрымалася добрая артпадрыхтоўка. Ну. а закончылася ўсё, як заўсёды: Ала Міхайлаўна зрабіла сваё рэзюме:

– Я не збіраюся нікога прымушаць (і за тое дзякуй). Але проста ў чарговы раз мы скінулі свае маскі (і то праўда). А я даўно ведаю, што ў калектыве ёсць людзі, для якіх уласныя амбіцыі вышэй за агульныя інтарэсы.

На тым і разышліся, як кажуць, кожны пры сваіх. Разышліся, каб зноў сустрэцца сёння на педсавеце.

У нас у школе – як на Блізкім Усходзе. За сталом перамоваў мы спакойна сябе адчуваем толькі ў прысутнасці пасярэднікаў. Добра, што на свеце ёсць раённае начальства. Але ж колькі, скажыце, так будзе працягвацца? Як слаўна, што хутка заканчваецца навучальны год. Будзе лета, а ўвосень... Увосень, дасць Бог, мо што пераменіцца? У нашай школе толькі адно абнадзейвае: тут кожны год мяняюцца настаўнікі. Як на вакзале пасажыры – адны з'язджаюць, другія прыязджаюць, і ўвосень можа настолькі змяніцца калектыў, што нават і не пазнаеш...

Слухаем мудры даклад нашай Алы Міхайлаўны. Завяла, як бацюшка

«алілую». Пеўчых не хапае. Хаця б не з паперкі. Не было часу вывучыць, гарэлку ж даставала...

– Навучальна-выхаваўчы працэс у нашай школе ў святле рэформаў у адукацыі набірае абароты і пераходзіць у новую стадыю... – глыбакадумна сцвярджае Ала Міхайлаўна. Мусіць, чыюсьці перадавіцу перадрала з газеты.

Цікава ж, цікава, у якую такую новую стадыю пераходзіць наш навучальна-выхаваўчы працэс? Мінаем стадыю кісла-свалачной, агурочна-расольнай «срады абітанія» ды пераходзім, павярнуўшыся на сорак градусаў, да руска-горкай, пшанічна-сматрыцкай...

Цікавы не столькі сам даклад, колькі яго слухачы. Баба раскрыла рот ад захаплення, ледзьве слінаю не давіцца, бадай, пасля кожнага слова згодна ківае галавою, а пальцам падперла вуха, ператварыўшыся сама ў слых. Сярод нашых калегаў ёсць, аказваецца, таленавітыя акцёры. Вось не адкрылі б у свой час у раёне педвучылішча, і не было б у нас гэтулькі выкапнёвых педагогаў з пашаноўным стажам і з мінімальнай адукацыяй. І хто ведае, мо Сяўніцкая трапіла б у сталіцу, вывучылася б на актрысу, і не давялося б ёй закапваць свой талент у Сматрычах. Сёння нашая «актрыса» прыперлася ў школу ўжо з дзвюма гаспадарчымі сумкамі. Нябо свіныя плечы валакла. Ох, і цяжкая ж ты, педагагічная ноша! А мо ўчора Баба дзеля сваёй далейшай педагагічнай кар'еры асвежавала ўсіх чыста сваіх свіней ды заўтра ўжо не будзе чым пахваляцца?

Смяёмся, а трэба плакаць. А людзі жывуць і не ведаюць, што можна жыць па-іншаму. Гэта іх кураседня, гэта іх столь...

– ...Арыентацыя адміністрацыі на метадычныя аспекты вучэбна-выхаваўчага працэсу...

Цікава, ці разумее Ала Міхайлаўна сама, пра што зараз чытае з паперкі?

Барытон, той разумее... Гераічна спрабуе справіцца з дрымотаю, ды яшчэ прытым і закансерваваць разумны выгляд твару, а выгляд такі ўжо ядавіта-горкі, хоць ты закусвай. Няйначай зноў з бадуна... Падводзяць былога ідэолага ўмоўныя рэфлексы...

– Недаацэнка настаўнікамі ролі ўзаемін у вучэбна-выхаваўчым працэсе, неразвітасць у некаторых педагогаў рэфлексіі, якая б заахвочвала да канструктыўных узаемін...

– Вось гэта ўжо бліжэй, – шапчу Аксане, – пачала пра рэфлексіі, ці не збіраецца перайсці на персаналіі.

Няўжо ізноў трэба будзе расчахляць гарматы?

– Рыхтуйце дальнабойную артылерыю, Віктар Фёдаравіч, – усміхаецца Аксана, усё роўна як прачытала мае думкі.

А так не хочацца ваяваць, зусім як бальшавікам у сямнаццатым: ні міру, ні вайны, і армію распусціць... Можа, гары яно гарам, схавацца ў акопе, перачакаць?

– Можна было б прадоўжыць, але названыя прычыны, на нашу думку, з'яўляюцца найбольш сур'ёзнымі. Іх пераадоленне магчыма толькі сумеснымі намаганнямі, сутнасць якіх – дэмакратызацыя і гуманізацыя адукацыі...

– Можа, хопіць, Ала Міхайлаўна, нас гуманна адукоўваць, не на сімпозіуме, – даволі рэзка абарвала раптам Шышкіна, якая дагэтуль слухала ўважліва і нават пазначала нешта сабе ў сшытку. – Стамілі зусім.

І Баба зноў згодна заківала галавою. Анекдот!

– Мы думалі, у вас ёсць канкрэтныя прапановы...

– Дык я ж канкрэтна... зараз, – збялела Пагодзіна.

– Дзякую, сядайце, калі ласка, павінен жа быць нейкі рэгламент...

Асадзіла! Што ж, тым лепей, не спатрэбіліся гарматы...

– Для таго, каб гаварыць пра рэформы ў навучальна-выхаваўчым працэсе, паважаныя калегі, – паднялася Шышкіна, – трэба, як мінімум, арганізаваць гэты самы працэс... Калі вы не супраць, я выкажуся коратка і не займу шмат вашага часу. Ітак, у вашай школе прайшла франтальная праверка. Вынікі яе будуць абагульнены і ў самы бліжэйшы час даведзены да калектыву. Даведка рыхтуецца. Што хацелася сказаць ужо зараз. Калі вы збіраецеся тут працаваць, – Шышкіна ва ўпор глядзела на дырэктара, – калі вы, шаноўныя калегі, збіраецеся тут працаваць разам, вам трэба неадкладна заняцца аздараўленнем мікраклімату ў калектыве. Дзеці чакаюць вашага прымірэння і паразумення... Калі ж вы збіраецеся разыходзіцца, то ўсё роўна трэба падумаць аб тым, каб разысціся цывілізавана. Пры ўсім пры тым, што існуюць сапраўды сур'ёзныя праблемы ў навучальна-выхаваўчым працэсе, якім вы, Ала Міхайлаўна, кіруеце, я не схільная драматызаваць сітуацыю. Прысутнічаюць амбіцыі, ёсць непрыемныя і нават абуральныя моманты, па кожным з якіх можна і трэба разбірацца, але ёсць у вашым калектыве і парасткі таго, што абнадзейвае і нават натхняе. Так, натхняе, і не ўсміхайцеся скептычна, Віктар Фёдаравіч. Я бачыла ў вашай школе дзяцей, якіх бы сама вучыць палічыла за гонар...

– То прыязджайце, Лідзія Паўлаўна, да нас, вельмі просім, праўда, калегі? – заззяла Баба, як медны пятак.

– А што, і прыехала б, Вікторыя Аляксееўна, – умомант ахаланіла яе Шышкіна, – на жаль, закон не дазваляе загадчыцы мець дадатковыя гадзіны ў школе. А я з задавальненнем папрацавала б з такмі дзецьмі, як... Валодзя Серада... Хлопец вярнуўся з калоніі. І дзякуй вам, што вы ў сваёй школе прынялі яго, як свайго, абагрэлі яго душу. Думаю, атрымаецца з яго сапраўдны чалавек, асоба. Аднак я не збіраюся тут раздаваць кампліменты. Размова ідзе якраз у іншым рэчышчы. Вы ўжо выбачайце, калегі, за праўду, але ў мяне склалася ўражанне, мажліва, я памыляюся, што некаторыя дзеці ў вас выглядаюць больш сталымі, чым асобныя дарослыя, у тым ліку і настаўнікі. І тут, паверце, стаіш разгублены і думаеш: дык хто ж каго вучыць павінен? Зразумейце, я не лічу, што ваш калектыў хранічна не здольны працаваць, проста думаю, што вы мала працуеце над сабою. У тым ліку і бязграматна арганізаваны кантроль з боку адміністрацыі. Разумею, настаўнікам зараз цяжка займацца самаадукацыяй і самакантролем. Якія святкі, калі дзяруць падаткі?! Разумею, што вы пастаўлены на калені ў матэрыяльным плане, і заміж таго, каб самаадукоўвацца, мусіце абзаводзіцца гаспадаркаю, якая зусім не садзейнічае павышэнню вашага інтэлектуальнага ўзроўню. Разумею, што многім з вас дасталася незайздросная доля транзітных настаўнікаў, пераезды-пераходы забіраюць ваш каштоўны час. Але ж, зразумейце, дарагія мае калегі, нельга нам апускаць рукі, бо ў дзяцей нашых нікога, акрамя нас, не засталося. Самі бачыце, якія зараз, у пераважнай большасці, бацькі, якія законы пануюць на вуліцы. Калі апусцім рукі мы ці, наадварот, падымем рукі ўгору, наша будучыня акажацца без перспектывы. І гэта, паверце, не прыгожыя словы – гэта суровая наша рэальнасць, якой мы павінны глядзець смела ў вочы. Таму давайце ж забудзем на міжсабойкі, хаця, разумею, усе мы людзі, ва ўсіх амбіцыі. Давайце на час забудзем пра фінансавы стымул і выгаду. Усе грошы не забярэш і, урэшце, на той свет іх не возьмеш. Давайце ўспомнім пра сваю высокую, выключную місію ў грамадстве. Няма грошай, затрымліваюць

зарплату і аванс. Урэшце, хочацца верыць, што так не будзе заўсёды, што абавязкова нешта зменіцца, зыначыцца, скранецца з мёртвай кропкі. Трэба верыць, паважаныя, бо без аптымізму жыць яшчэ цяжэй, чым без грошай... Такім чынам, вынікі праверкі далі нам багата матэрыялу для абагульненняў і высноў. Вынікі, прама скажам, несуцяшальныя, і я хачу вам сказаць, што з гэтага часу над школай будзе ўзмоцнены кантроль з боку аддзела адукацыі. Рыхтуйцеся да сур'ёзнай працы, калегі. Поспехаў вам і мабілізацыі сіл.

Ну, вось і трапілі мы на кручок, што і патрабавалася даказаць. Зрэшты, іншага я і не чакаў, бо загадчыца, па ўсім відаць, не з разявакаў.

– Але, забылася сказаць, – дадала Шышкіна, – мы ўбачылі вашу матэрыяльную базу, акая нават не паддаецца ацэнцы. Мы будзем імкнуцца вам дапамагчы, але на сённяшні дзень, як ні шкада, рэальна дапамагчы вам нічым не можам. Трэба вышукваць унутраныя рэзервы.

Вось так і заўсёды. Старая песенька.

– А школу не зачыніце? – вырвалася ў мяне, нават сам не чакаў.

– Толькі ў тым выпадку, калі вы тут «зачыніце» яе самі, – усміхнулася Шышкіна мне персанальна, – ва ўсякім разе, пакуль пытанне так не стаіць.

– А ў перспектыве, калі запрацуюць «ступені»? – упёрся я як баран.

– А ў перспектыве ад вас залежыць, якая тут будзе школа. Раптам аўтарская школа Віктара Фёдаравіча Квадратнага? Хіба такую мэтазгодна зачыняць?

Пеканула! Гэтую «аўтарскую школу» мне тут доўга не забудуць. Калегі зірнулі на мяне, як на марсіяніна, і з некаторых іхніх фізіяномій можна было счытваць медыцынскі дыягназ: востры прыступ сардэчнай недастатковасці на фоне моцнага стрэсавага шоку...

«Вячэраць» у Сматрычах Шышкіна адмовілася катэгарычна, што таксама робіць ёй гонар.

Дырэктар, якую рэзка «абсадзілі», так і не справілася з шокам, пабаялася прапанаваць застацца на вячэру, затое Сяўніцкая падышла гогалем:

– Можа, Лідзія Паўлаўна, не пагрэбуеце з намі каліўца ў рот укінуць? У нас тут усё натуральнае, экалагічна чыстае.

– Дзякуй, Вікторыя Аляксееўна, у мяне муж таксама цудоўны кулінар. І, мусіць, ужо зачакаўся, – Шышкіна дыпламатычна зірнула на гадзіннік, – так што выбачайце, другім разам...

Усе зразумелі, што другога разу не дачакаюцца. Следам за загадчыцай паспяшаліся развітацца і метадысты. Давядзецца Бабе спажываць паляндвіцы альбо ў гордым адзіноцтве, альбо ў кампаніі з Пагодзінай ды Барытонам. Трэба ж гора замачыць.

Франтальную праверку перажылі – «енаральная парапіца» скончылася! Гара звалілася з плячэй...

...Пасля бурных і, мы з Аксанай смяяліся, эпахальных падзей франтальнага тыдня намнога пацішэла ў школе. Ці то лета дыктавала свае законы? Распачаўшыся так рана, яшчэ ў красавіку, лета і не думала адступаць. Ішоў май месяц, які паводле дарэформавага правапісу называўся траўнем. Сапраўдны травень. Буяла ваўсю маладая, аксамітна-зялёная лістота. Толькі ў траўні лістота мае той непаўторны колер свежасці і маладосці – нават не зялёны а цёмна-салатавы, яркі, насычаны, напоўнены жыццём – колер, што ўсяляе аптымізм, змушае-штурхае да дзеяння, хвалюе душу. Лезла ваўсю трава, і не толькі крапіва ды шнітка пад плотам, забуялі, шуганулі пожні, расправіла крылы, раскусцілася азіміна. Рана выгналі ў поле каровы. Зараз кароў доўга

ў хляве не трымаюць, няма чым карміць, а сёлета – тым болей, калі такая ранняя выдалася вясна.

Дзіва, што і ў школе запанавала зацішша, дзеці, хоць ты іх на вяроўку навязвай, не хацелі сядзець за партамі, быццам бы і слухалі, што ім кажаш (паспрабавалі б не слухаць), а думкамі былі дзесьці далёка, луналі над школаю, над вёскаю, над зямлёю. І адказвалі дзеці нехаця, пад прымусам, як бы вяртаючыся на ўрок з таго віртуальнага свету, дзе толькі што былі. Пэўна, не трэба ў траўні вучыць дзяцей, усё роўна каэфіцыент карыснага дзеяння ад такой вучобы, бадай, нулявы. Нельга навучыць з-пад палкі, а клопату з дзецьмі – па вушы. Ну, ды не мы, шараговыя настаўнікі, зацвярджаем тэрміны навучальнага года, усё вырашаюць там, у высокіх кабінетах, і часта людзі, для якіх рэальная, практычная школа засталася ці то пазаўчарашнім днём іхняе кар'еры, ці то ўвогуле яны ў школе ніколі не працавалі. Ці не таму такія незразумелыя, надта «завумныя» многія падручнікі? Ці не таму такія маларэальныя і заблытаныя рэкамендацыі часам спускаюцца зверху?

Па-ранейшаму, ледзьве выпадала вольная хвілінка, а ці нават на звычайным дзесяціхвілінным перапынку, дзеці бегалі на возера купацца, зручна – спускайся з гары і ныряй. Прыбягалі на ўрок з мокрымі галовамі і пасінелымі губамі, сядзелі-дрыжэлі. Якія тут веды!

Угаворвалі, ушчувалі, прасілі мы іх – нічога не дапамагала. Нарэшце сабралі лінейку, дырэктар аб'явіла загад па школе, які забараняў купацца. Кожнаму далі распісацца ў журнале па тэхніцы бяспекі. Адным словам, аб'явілі мы надзвычайнае становішча і ўвялі каменданцкую гадзіну. І тады нашы дзеці пачалі хітраваць. Купацца ўсё роўна бегалі, але цішком, нырца не давалі, а калі здаралася нырнуць, то насуха выціралі галаву ручніком. А стрыжка зараз у хлопцаў вядома якая. На галаве расліннасці не намнога болей, чым на барадзе. Яно і не заўважыш, хто купаецца. Мы ў іх узросце, помню, ваявалі з дырэктарам за кожны волас на галаве. Хто каратка стрыгся, лічыўся ледзьве не лохам. А ў іх усё наадварот. Мода мяняецца... Мяняецца мода, мяняюцца погляды на жыццё, час мяняе і саміх людзей...

А што зробіш, калі стаіць спякота і дзецям хочацца купацца? Іх можна зразумець. І ўсё роўна, колькі ні пільнуй, не ўпільнуеш. Але ж і нас, настаўнікаў, зразумець можна. Крый Божа, няшчасны выпадак – і ты за кратамі...

Пасля франтальнай праверкі яшчэ радзей пачала паяўляцца ў школе Ала Міхайлаўна. Таксама спякота паўплывала?.. Ці то дырэктарка зразумела, што песенька яе спетая, а ці гэта была яе новая тактыка, новая метода працы з калектывам – дыстанцыйнае кіраванне? Ды мы надта па ёй і не сумавалі. Кажуць, баба з воза – каню лягчэй, а калі начальства не вісіць над душою, працуецца не толькі лягчэй, але і ахвотней. Ніхто з нас, паверце, не сачкаваў, не прагульваў, і ўрокі былі ўрокамі, і веды заставаліся такімі ж самымі. Напэўна, мае думкі камусьці пададуцца смешнымі і дылетанцкімі, але... Кажуць, Бог стварыў начальства, каб кіраваць намі ды каб быў парадак. А я думаю, Бог проста пашкадаваў пэўную катэгорыю людзей, якія не ўмеюць нічога, акрамя як выдаваць бязглуздыя ўказанні ды псаваць падначаленым нервы. Узяў Бог ды і працаўладкаваў няшчасных. Так пайшло начальства...

Прымчалі былі да нас зноўку мамзелі з аддзела адукацыі, прывезлі доўгачаканую даведку, дзе чорным па белым усё было распісана, па кожным прадмеце і па кожным настаўніку. Сабралі нас, зачыталі тую даведку, і нічога мы ў ёй новага, чаго не ведаем пра сябе, не знайшлі, усё чаканае, усё па тэме. Нейкія асобныя ўказанні былі падрыхтаваны і для дырэктара, нам іх, праўда,

не зачыталі. Але гледзячы па тым, з якою кіслаю фізіяноміяй хадзіла Пагодзіна, нічога прыемнага ёй даведка не прынесла. Хтосьці падумае, што я па-злому радуюся. Ды не, не прывык я радавацца чужому гору, дый няма калі жоўцю плявацца, сваіх клопатаў хапае. Добра толькі тое, што нас пакінулі ў спакоі.

Пакінулі ў спакоі, але ж спакойна мы сядзець не прывыклі, і вось самі знайшлі сабе новы занятак і клопат.

А пачалося ўсё з таго, што неяк аднойчы ў школе загаварылі пра юбілей. Не помню, хто першы падкінуў такую ідэю. Не выключаю, што мае дзевяцікласнікі. Мы з імі часам так загаворымся, што можам не толькі да дня нараджэння школы дагаварыцца, але і да дня нараджэння Сусвету. Потым неяк я рызыкнуў загаварыць пра юбілей у настаўніцкай і, як ні дзіўна, усе аднагалосна мяне падтрымалі, усе зацікавіліся-загарэліся. Можна сказаць, школа займела нацыянальную ідэю, якая хаця на нейкі час згуртавала, нават акрыліла наш... тут я мушу спыніцца і падумаць, які падабраць назоўнік да азначэння «наш». Дом? Калектыў? Альбо, як мой Валодзя кажа, – «крысятник»?

Юбілейнічаць зараз модна. І справа не толькі ў тым, што ёсць нагода пап'янстваваць за прафсаюзныя грошы. На юбілей збіраюцца госці. Госці прыязджаюць з падарункамі. А падарункі бываюць розныя, у залежнасці ад рангу ды сацыяльнага становішча гасцей. Не думаю, што мы ўспрытнімся накапаць сабе багатых спонсараў, якія імгненна ашчасліваць нашую школку-прабабку, але няхай нават той самы аддзел адукацыі падорыць які тэлевізар не першай свежасці – і то хлеб. А калі ж яшчэ раскашэліцца рай-выканкам, ды скіне нам са свайго раю нябеснага музычны цэнтр для дыскатэк, гэта будзе мяжа нашых прыземленых вясковых мар.

– Размечтались, – спусціць мяне Валодзя з неба на грэшную зямлю, уважліва вывучыўшы мае юбілейныя апетыты, – а «Мерседес» шестисотый вам в нагрузочку не подкатят? В лучшем случае надейтесь на приличный магнитофон.

І тым не меней, школьны юбілей – гэта выгадна, хаця і клопатна, гэта модна і, разам з тым, прыбыткова. Вось таму і загула школа, падхапіўшы свежую ідэю.

Але ж ідэю мала ўхваліць, трэба ёй яшчэ і займацца. Займацца ж юбілеем ніхто з маіх калегаў, вядома, не захацеў. Ледзьве толькі настаўнікі пачулі пра размеркаванне добраахвотных і неаплачваемых юбілейных нагрузак, кожны зноў схаваўся ў сваёй норцы. Кожны падумаў пра сваё: Сяўніцкая – пра свіней, Барытон – пра недабудаваны катэдж, Пагодзіна – пра тое, што хутка яна нам памахае ручкаю, гэта ўжо, лічы, не яе школа, а значыць, навошта парыцца? На тым нашы юбілейныя памкненні пакрысе і заціхлі б. І пахавалі б мы сваю нацыянальную ідэю, калі б не дзеці.

Дзецям няма справы да таго, што ў Сяўніцкай галадаюць свінні. Аднойчы пачуўшы пра юбілей, яны мяне штодня даставалі: «Віктар Фёдаравіч, калі?..»

І я здаўся... Я зноў зразумеў, што мне болей за ўсіх трэба ў гэтай школе, і адказаў дзецям чароўным словам: «Хутка...»

Хутка не хутка, але мы з дзевяцікласнікамі вырашылі рыхтавацца да юбілею самі. Перш-наперш нам трэба было раскапаць гісторыю школы. А і сапраўды, колькі ж нашай школе гадоў? Няўжо пра гэта немагчыма даведацца? Апрача таго, што будынак нашай школы пабудавалі яшчэ паны, мы нічога не ведаем. Ведаем толькі прозвішча пана, які жыў у гэтым будынку. Нямнога засталося ў нашай акрузе старых людзей, якія б маглі нам нештачка цікавае расказаць, але такія яшчэ ёсць. І мы з хлопцамі вырашылі

не марудзіць: распытаць-разведаць усё, што яшчэ магчыма. А пачалі сваю навукова-даследчую экспедыцыю мы... са школьнага гарышча, на якое колькі гадоў ужо ніхто не лазіў. Вартаваў гарышча вялізны замок, пакрыты іржою і пылам тысячагоддзяў. Але ж у каго ключ? Пэўна, у Навумаўны. Во гора!

– Надзея Навумаўна, нам патрэбен ключ ад замка, што не пускае на гарышча, – паспрабаваў я культурна ды ласкава падступіцца да боскага намесніка.

– Навошта ж вам ключ? – Навумаўна не чакала такой маёй дзёрзкасці і на пачатку нават шчыра, па-чалавечы здзівілася.

Не хацелася мне выступаць перад ёю са справаздачаю, ды нічога не папішаш, прыйшлося:

– Шукаем гістарычныя звесткі пра школу, думаем, штосьці знойдзем на нашым гарышчы, – працячком прыкінуўся я.

Гэта ўжо было занадта. У Навумаўны тут жа выраслі клыкі і скінулі маску з яе твару:

– А якое права вы маеце збіраць гістарычныя звесткі пра гэтую школу? Хто вас упаўнаважваў?

Давялося ёй даходліва растлумачыць мае, а заадно і яе паўнамоцтвы. Шкада, што гэта адбылося пры дзецях, ды нашы дзеці чулі і не такое.

Пасля гэтага Навумаўна, расчырванелая, як гарбуша ў таматным соўсе, пайшла на хітрасць:

– Няма ў мяне ніякага ключа.

– А ў каго ж ён?

– Не ведаю, пытайцеся ў дырэктара.

Пытаюся ў Пагодзінай, дзякуй Богу, яна сёння ў школе. Ала Міхайлаўна кажа:

– Ключ у «заўхоза».

Добра хаця ў дырэктара на гэты раз хапіла мазгоў не распачынаць буру ў шклянцы вады з-за нейкага ключа. Навумаўна ж падала мне злашчасны ключ, як гранату-«лімонку», на выцягнутай руцэ.

А хлопцы тым часам прынеслі, паставілі вялізную лесвіцу-складанку ды ледзьве не пабіліся, каму першаму лезці адкрываць Амерыку. Зразумела, Калумбам стаў Валодзя, але ж залез на гарышча ўслед і ўвесь дзявяты, апрача Бусліка, якога маці не пусціла туды пад страхам гільяціны. Хлопец нават заплакаў, і мне зноў стала яго шкада. Ну, чаму Віцьку так не пашанцавала з маці?.. Залезла б на гарышча ўся школа, ды мае «навуковыя супрацоўнікі» на правах старэйшых усю астатнюю малечу шуганулі і нікога не пусцілі. І добра, бо хто ведае, ці вытрымала б старая прагнілая столь натоўп трагладытаў. Тым болей, што Навумаўна тут жа паставіла нам ультыматум:

– Спаліце школу – я не ў адказе.

Ды я і сам баяўся. Спаліць то мы не спалім, а вось растаптаць, як сланы, – гэта заўсёды калі ласка. Загадаў хлопцам быць надзвычай акуратнымі і – палез сам услед за імі. Эх, і цяжкая гэта работа – з балота цягнуць бегемота. Я пра тое, як падцягвалі хлопцы з усяе сілы на гарышча тоўстага і няўклюднага свайго класнага кіраўніка – аж паджылкі трэсліся. Любавалася ўся школа. Малыя дзеці – з непрыхаванай зайздрасцю, як быццам мы, самае меншае, стартавалі на Марс. Настаўнікі – хто са здзіўленнем, хто з раздражненнем, а большасць, відаць, палічыла, што Квадратны звар’яцеў, бо я ўжо не ўпершыню прылюдна паказваю сваю гнюсную сутнасць, прымаючы вобраз гарэзы-падлетка.

На гарышчы было даволі змрочна, да таго ж можна было пакаўзнуцца на... галубіным памёце. Апрача яго, мы, бадай, нічога тут не ўбачылі. Электрычнасці няма, лямпы запальваць мы не адважыліся. Хлопцы свяцілі кішэнным ліхтарыкам, які прынеслі з дому, бэлькі пагрозна рыпелі, дошкі крыху прагіналіся пад цяжарам нашых раскормленых целаў, але ўсё абышлося. Старыя панскія будынкі перажывуць яшчэ і нашых унукаў. Хлопцы зазіралі цікаўна ў кожны куточак, шукалі таемныя сховы пад кроквамі ды латамі, але нам не шанцавала. Праўда, у адным куце мы наткнуліся на цэлае багацце: акуратна перавязаныя шпагатам ляжалі стосамі тамы поўнага збору твораў Леніна і Сталіна. Цвёрдыя, цёмныя вокладкі, добрая папера. Адно што галубы крыху папсавалі іх, вельмі ж апалітычныя ў нас птушкі, ім няма справы да справы пралетарыяту, а на ідэалогію класікаў марксізму-ленінізму ім... самі бачыце... Мы не сталі спускаць уніз нашую знаходку. Усё роўна Навумаўна ў печы спаліць. Хай ляжаць, хай чакаюць сваёй светлай будучыні...

Валодзя ішоў з ліхтарыкам папярэдзе, ды раптам як крыкне:

– Пацаны, нашёл!

Тыя кінуліся стрымгалоў, ледзьве з ног мяне не збілі.

Знайшоў Валодзя вялізны нож. Цясак. Можна сказаць, кінжал. Сапраўды, падобна было, што стары. Як яго не заўважылі нашы папярэднікі, якія, падазраю, лазілі сюды неаднойчы і, мусіць, неаднойчы шукалі тое-сёе? Ці не таму, апрача галубінага памёту, тут ужо знайсці не было чаго? Ды хто шукае, той знаходзіць. Нож, бадай, хаваўся ў пілавінні, якім была засыпана столь, і яго цяжка было заўважыць.

Хлопцы радаваліся сваёй знаходцы, як бы яны знайшлі тут скрыню з золатам. Усё дзіцячае насельніцтва школы было на сёмым небе ад шчасця. Валодзя хадзіў у героях, а ўсе астатнія – па локці ў іржы, бо кожны лічыў за шчасце хаця дакрануцца да нажа, як індусы – да свяшчэннай каровы. Урэшце, нож мне давялося канфіскаваць і пакласці ў шафу пад замок. Дзецям растлумачыў, што забраў для археалагічнай экспертызы. На самой жа справе баяўся, каб яны, чаго добрага, адзін аднаго не зарэзалі, вырываючы нож з рук.

Так слаўна і безвынікова закончылася наша першая гісторыка-археалагічная экспедыцыя. Але мы не гублялі надзеі, не апускалі рукі і вырашылі прадоўжыць пошук.

Добрыя людзі параілі схадзіць да бабулі Антоніхі. І вось мы, сабраўшыся пасля ўрокаў, вясёлай гаманкой кампаніяй шыбуем па вёсцы. Людзі азіраюцца на нас, хто скоса, а хто здзіўлена. Ніколі ж не хадзілі па вуліцы цэлым класам, хіба толькі ў поле працаваць, але ж зараз не сезон, вясна. Думаюць мо, ідзём збіраць каменне. У нас на Віцебшчыне каменне расце ў полі лепей як бульба, і саджаць не трэба, адно збірай штогадовыя ўраджаі.

Ды нам без розніцы, што пра нас падумаюць. Мы сёння – следапыты і, як гэта раней казалі, цімураўцы. Хтосьці, напэўна, забыўся пра такое састарэлае слова, якое час ужо залічыць у шэраг моўных архаізмаў. Знайдзіце зараз дзівака, які б добраахвотна ўзяўся дапамагаць бабульцы па гаспадарцы ці хоць бы саступіў ёй месца ў аўтобусе. Людзі ашалелі ад долараў, якіх усё ім мала. І дзеці – не выключэнне. А з каго ім браць прыклад?

Але вось мы ля хаты бабулі Антоніхі. Маленькая, лядашчая яе хата-істопачка ўрасла ў зямлю, пахіліліся платы, зусім аб'ехаў хляўчук, пацвельваючыся шчарбатым вуглом са сваёй незайздроснай долі.

Старую мы ўбачылі на падворку. Хлопцы здзівіліся: нямоглая бабулька насіла на каромысле ў вёдрах... дровы. Сагнецца сяк-так Антоніха, накладзе

штук пяток сечаных палак у адно вядро, у другое, падчэпіць вёдры на каромысел, на плячо павесіць і паклыпала, адною рукою на кій абапіраецца, другою вёдры папраўляе. Праўду казала мая маці: пажывеш – Кузьму бацькам назавеш. Трэба ж неяк свайму гору спагадаць. Камусьці бабуля недзе ўдружыла бутэльку, калі не болей, за тое, што парэзалі ёй дровы, пабілі, а скласці ў граду сумлення не хапіла – яшчэ трэба бутэльку стаўляць, а дзе ж тае гарэлкі набярэшся, хай яна рэчкай сплыве, такая доля...

Хлопцы здзівіліся і – захіхікалі, ледзьве ўголас не зарагаталі. А я праз той іхні смех не ведаў, куды вочы падзець, хоць прадавай іх, было, ад сораму.

– Ану, гумарысты, наперад, на міны! – скамандаваў я, узлаваўшыся, – і каб праз дзесяць хвілін усе гэтыя дровы былі ў градзе, ды роўненька шыхтаваліся, як салдаты ў шарэнзе.

Хлопцы радасна кінуліся на бабулін падворак, ледзьве не збілі старую з ног, адабралі вёдры, апаласнулі іх, збегалі, прынеслі са студні свежанькай халоднай вады і дружна, увішна ўзяліся за дровы. Усё ж вясковыя дзеці – не раўня гарадскім абібокам, якія швэндаюць па вуліцы, рукі ў кішэні, ды пакутуюць, не ведаючы, дзе падзець свой вольны час. Малайцы мае работнічкі, праца ў іх руках так і гарыць, як быццам сумавалі па ёй, але ж бацькі ім тут, у вёсцы, не даюць сумаваць па працы. І чаго я злуюся, і на каго злуюся? Мабыць, на сябе самога, за тое, што забыўся, з віду выпусціў бабулю Антоніху, над якой даўно трэба было ўзяць шэфства. Раней, калі я вучыўся ў школе, хадзілі мы цугам дапамагаць адзінокім ды састарэлым. Мода такая была, і ніхто не смяяўся. Называліся цімураўцамі. Ды як бы ні назваць, сутнасць не мяняецца. Добрая гэта справа. Дый міласэрнасць, па-мойму, катэгорыя вечная, як і каханне, як і іншыя лепшыя чалавечыя памкненні. Дык чаму ад яе так лёгка адмовіліся ў школе – і настаўнікі, і вучні? Хіба выхоўваць дзяцей на прыкладах чалавечай спагады і міласэрнасці – загана? Хіба гэта ідэалогія?..

Ажыла бабуля Антоніха, радасцю засвяціліся яе вочы, здавалася, нават зморшчын паменела на твары, пераараным, як з баронамі хто ездзіў, глыбокімі складкамі, войкнула знячэўку старая, перахрысцілася:

– Матка найсвенша, скуль жа вы ўзяліся, такія хлопцы-малойцы? А не ж, дзеткі, вы зараз запэцкаецеся, дровы яшчэ сырыя, з*і*мныя.

Ды дзеці яе не слухалі, насіліся з дрывамі навыперадкі, хто каго абгоніць. Нас пасадзілі на лавачку, у цяньку, і пакуль мае паўшадэлкі забаўляліся з дрывамі, бабуля Антоніха расказвала ўсё, што ведала пра нашу школу. Дзеці, хоць і занятыя працаю, ды таксама вушамі стрыглі, на хаду лавілі кожнае Антонішына слова, было ім таксама цікава.

– Пра школу? А што ж я, дзеткі, вам раскажу? – бабуля безнадзейна махнула рукою, – Старая ўжо. Каго маладзейшага спыталі б. Я і таго не помню, што ўчора было...

– Хіба ж маладзейшыя раскажуць? Вы, можа, адзіная сведка гісторыі нашай школы.

– І то праўда, дзеткі. Загасцілася я ўжо, на Боскі ложак пара, – уздыхнула бабуля, – нават сама дзіўлюся, колькі жыць можна, а ўсё жыву. Сыноў пахавала, унукі ў зямлю сышлі... А я, сынок, у вучэльню і сама хадзіла. Толькі ж нядоўга, адну зіму. Болей не выпала. Мы, дзетка, без мамкі гадаваліся. Мамка наша памерла, калі мне ішла дзясятая вясна. Помню, казалі, грудная жаба да яе прычапілася. Я мамку як зараз помню. Курхукала вельмі, высахла, як быльнёг, а ўсё працавала, працавала... І засталося нас у бацькі шасцёра, як

бобу. Я – самая старэйшая. Вось калі мамка памерла – а было гэта ўвесну, на Дабравесце – я болей у школу і не пайшла. Не было калі вучыцца, трэ было сям'ю карміць.

– У нашай школе вучыліся? – не паверыў я.

– Вучылася, толькі не тут, у пакоях у Грамніцкага. Тут пасля, як палякаў прагналі, бальшавікі школу зрабілі. А я вучылася яшчэ пры Мікалаі, у школе, за возерам, на тым беразе, у ліпняку. Там былі толькі чатыры класы. А далей хадзілі ў мястэчка, у Гаранцы... А навошта ж вам, дзеткі, пра даўняе ведаць? Школа ж тая, Ліпніцкая, даўно, яшчэ ў вайну, згарэла. Невядома, ці нашы, ці немцы спалілі. Тут бой ішоў. Лятаалі снарады з абодвух бакоў. Думалі, усе паляжам. Ажнуль век яшчэ не зжылі. А школа згарэла, як свечка, нейчы снарад трапіў.

– Чакайце, бабуля. Дык то ў Вялікую Айчынную было? – здзівіўся я. – Выходзіць, да самай вайны ў Ліпніках дзяцей вучылі?

– Вучылі, у Ліпнікі падшыванцы хадзілі, а большыя – у пакоі Грамніцкага.

– Зразумела, значыць, там была пачатковая школа. Але чаму ўсе не вучыліся тут, у панскіх пакоях?

– Усе хіба ж бы памясціліся? Ведаеш, колькі тады дзяцей было? Зараз вунь і нараджаць няма калі. А даўней людзі, хоць і пагаравалі, ды не маркоціліся. Д*а*ўна і мужыкі былі пеўнымі, а цяперака мрэ народ, як мухі, а каторыя шчэ клыпаюць, дык нібы сонныя. Хай я, старая калека, ад ветру рассыпаюся, дак мне ўжо, дзіцёнак, сто чацвёрты гадок пайшоў. Я, чалавечак, на каго толькі не працавала: і на пана, і на Саветы, і палякам, і немцам акопы капала...

Мой працоўны дэсант справіўся з дрывамі і неўзаметку шчыльным колам акружыў нашу лаўку. Моўчкі стаялі хлопцы, вушы развесілі аж на плечы, уважліва слухалі.

– Так вы ещё на пана работали, вот здорово! – усклікнуў Валодзя.

– Раскажыце, як вас паны эксплуатавалі, – загарэліся хлопцы.

– Каго? Нікога яны не катавалі, – недачула бабуля.

Хлопцы засмяяліся:

– Ды не, мы пытаемся, як яны вас прымушалі працаваць, а ці здзекваліся?

– Божа, збаў! – перажагналася Антоніха. – Ніхто не здзекваўся. Ого! Наш пан быў добры. А прыгожы! Вусы чорныя, доўгія, як у Будзённага. Убачыць – усміхаецца. А пані якая была, дзеткі! Золата, не чалавек. Гэта ж яна, пухам ёй зямелька, мяне, сірацііну, ад дзесяці гадкоў узяла да сябе ў пакоі. Я там на кухні дапамагала. Кухар у нас быў строгі, калі што не пагонаму, можаш і апалоніка схапіць. А пані-нябожчыца, бывала, пакліча, пальцам кіўне, а ці сама да кухні падыдзе і цукеркамі нас частуе. Падушачкі такія былі раней, а мяккія, а салодкія! Я пасля ніколі такіх падушачак не бачыла. Не да цукерак было, – уздыхнула бабуля.

– І гэткіх добрых паноў прагналі? – здзівіліся, не паверылі хлопцы.

– Але. Назбягалася тады пустадомкаў, як крумкачоў на мерцвячыну. Калі пачулі, што ў Піцеры нецііхоты, хацелі ўвогуле чырвонага пеўня Грамніцкаму падпусціць. Вось бы і не было ў вас, дзеткі, зараз школы.

«Дзеткі» заўсміхаліся хітра, відаць, уявілі, як бы пустадомкі «чырвонага пеўня» Грамніцкаму падпусцілі і зараз не трэба было хадзіць у школу. Але сказалі па-іншаму, даросла і разважліва:

– Усё роўна новую школу пабудавалі б.

– Але нешта ж не спяшаліся Саветы школу будаваць, – самотна ўсміхнулася бабуля, – будаваць, дзеткі, цяжэй, чым паліць ды руйнаваць. Дзякуй Богу, пані

не дачакалася таго куламесу, – казала Антоніха пра рэвалюцыю, – ганьбы хаця не зведала. Бо яе чулае сэрца не вынесла б тае здзечы...

– А дзе ж падзелася пані?

– Звяла яна, маладая і прыгожая, зялёная яшчэ, як майская ружа. Памерла ад сухотаў сэрца.

Дзеці былі надзвычай здзіўленыя катэгарычнымі дыягназамі хваробаў, якія стаўляла Антоніха, як у сук ляпіла: то грудная жаба, то сухоты сэрца. Ды ўніверсітэтаў яна не заканчвала, былі ў бабулі свае жыццёвыя ўніверсітэты, свая філасофія, простая і натуральная, як само жыццё.

Я любаваўся мудрым і цягавітым чалавекам, які, пражыўшы цэлае доўгае стагоддзе, нават з гакам, здолеў захаваць не толькі светлую, ясную памяць, не толькі храналогію падзей, якіх у яго жыцці было мех з верхам, але і жывучасць сваіх жыццёвых поглядаў, сваёй жыцейскай, сялянскай філасофіі. Нарадзіўшыся і пражыўшы век простай сялянкаю, век свой парабкаваўшы, не важна, на каго: на пана, на Саветы, на акупанта, які прыходзіў на яе родную зямлю, нахабным чужынцам урываўся да яе на падворак, у хату – бабуля Антоніха, тым не менш, захавала тую шляхетнасць, якая ўзвышала і ўзвышае яе ў жыцці. Ёй не ўласціва псіхалогія лёкая. Мабыць, таму я з зайздрасцю і павагай слухаў згорбленую, але не сагнутую, не пастаўленую на калені старую. Глядзеў і думаў: вось яны, нашы сяляне. Зірнеш, быццам бы ў хамуце, а зачэпіш – глядзі, каб не ўбрыкнуў каторы ў зубы...

Тым часам Антоніха і бедавала, і адначасна абуралася:

– Паклалі нашу пані ў дамавіну ў любімай яе зялёнай сукенцы, касу ёй доўгую заплялі, на палец надзелі персцень залаты. Пахавалі ў фамільным склепе, ажнуль там, за сматрыцкаю гарою, ля Чырвонай Раніцы. Там былі панскія могілкі...

– Чакайце, а хіба Чырвоная Раніца – не бальшавіцкая назва? – здзівіўся я.

– Не, назва даўнейшая. Век свой вёску так называлі. А могілкі панскія пры Саветах ужо рассыпалі, бульдозерам зруйнавалі, калі рабілі дарогу. Ну, як жа так можна, скажыце? – пыталася бабуля ці то ў нас, а ці ў самога неба. – Як можна будаваць дарогу на чалавечых касцях?.. Калі разбурылі фамільны склеп, мы бегалі глядзець. Наша пані ляжала, як жывая, усё ў той жа зялёнай сукенцы і з доўгаю касою. А груканулі па дамавіне – з'ехала ў груд. Міліцыянер у нас быў тады, участковы. Ён выхапіў пярсцёнак з труны, быццам бы збіраўся здаць у казну, ды Бог яго ведае, куды здаў. А толькі тога міліцыянера ў хуткім часе маланка забіла.

– Як забіла маланка? – аж падскочылі хлопцы, якія паселі былі ля лаўкі, на траву, слухалі.

– А вось так, – урачыста заявіла Антоніха, – сядзеў ён ля хаты, раптам лівень нечаканы і гром, з яснага неба. Хата цэлая засталася, а чалавека – на галавешку... А той фамільны склеп другі хцівец – людзям жа ўсё мала – разбіў-разабраў на цэглу. Ды з цэглы печ сабе зрабіў. Даўнейшая цэгла, ведаеце, якая трывалая была, гэта не зараз, што ў руках рассыпаецца. Зрабіў печ, а праз год у яго хата згарэла, ледзьве сам выскачыў. Зноў жа, пярун пацэліў. Пабудаваў новую на тым самым месцы – і тая згарэла. Казалі, дзеці гулялі ды спалілі. Не ведаю зараз, дзе той хапуга, з'ехаў некуды далёка, аж у Заходнюю...

Хлопцы былі настолькі ўражаныя Антонішыным расповедам, што прыціхлі, як не пахаваліся пад лаўку. Расповед і сапраўды быў нечым падобны да містыкі, але ж вельмі хацелася яму верыць. Тым болей, што я ўжо ад кагосьці чуў гісторыю пра разбурэнне панскіх могілак, пра чалавека,

якога забіла маланка. Хацелася верыць, бо менавіта так і павінна быць у жыцці, бо вандалізм, кім бы ён ні быў учынены і пад якім салодкім соўсам ні падаваўся, ёсць нішто іншае, як звычайнае дзікунства і цемрашальства. І вышэйшая справядлівасць патрабуе, каб вандалізм быў пакараны. Ці ад людзей прыйдзе тая кара, ці з неба спусціцца, але так яно павінна быць.

– А на той дарозе, дзеткі, – працягвала пужаць Антоніха, – і да гэтага часу гінуць людзі. Хто пад колы трапіць, хто на машыне разаб'ецца. Дзіва што. Па касцях ездзяць.

– А вы, бабуля, верыце ў Бога? – закінулі хлопцы фактычна рытарычнае пытанне.

– А як жа, дзеткі, – бабуля здзівілася і нават спалохалася, – хіба ж можна Богу не верыць?

Усе скептычна ўхмыльнуліся, і толькі адзін наш Божанька глядзеў на старую вельмі сур'ёзна і прасветлена. І тут Ахвяра вазьмі дый ляпні:

– Дык чаму ж Бог, калі ён ёсць, не даў вам *лю*дскага лёсу? Вы пахавалі сыноў, мужа?

Бабуля спалохалася яшчэ болей, перажагналася нават і са страхам няўцямна прагугнела:

– На ўсё, дзеткі, Божая воля... Даруй, ім, неразумным, Божанька, даруй, яны й самі не ведаюць, што кажуць...

Я зразумеў, што мае «багахульнікі», якія не прывыклі нічога прымаць напавер і пры любым зручным выпадку распачынаюць навукова-папулярныя сімпозіумы, проста так з Боскай воляю не пагодзяцца і, чаго добрага, могуць старую давесці да інфаркту ці нават адправіць у магілу. Трэба было мяняць тэму.

– Вы не назвалі нам прозвішча настаўніка, які вас вучыў.

– Авой, дзеткі, не помню, – пляснула рукамі, засмяялася Антоніха, – столькі ж гадкоў прайшло. Хутка забудзеш, як і самую завуць. Ведаю, што настаўнік той быў з Гаранцаў. Ён і пры Саветах, адразу пасля рэвалюцыі, тут дзяцей вучыў, а калі палякі прыйшлі, уцёк. Як цяпер помню, па полі ад іх уцякаў...

– Значыць, школа існавала і да рэвалюцыі?

– Была, дзеткі, сама ў яе хадзіла...

– Дык калі ж яе заснавалі? – пытаўся я хутчэй у самога сябе і сам сабе адказваў. – Цяпер мы пра гэта ўжо наўрад ці даведаемся. Бабуля, а вы не помніце, хто тут быў дырэктарам пасля палякаў, і затым, і перад германскай вайною, і пасля яе?

– А балесь іх ведае, – уздыхнула старая, – шмат тут было ўсялякіх і настаўнікаў, і дырэктароў. Нейкі ці то Макарскі, ці Макараў доўгі час быў, але яго хапун схапіў у трыццаць сёмым. Быў Вінаградаў перад вайною. А ў вайну дзяцей не вучылі. Пры немцах тут гарнізон стаяў. У пакоях была камендатура, а ў Ліпніках, за возерам – склад са зброяй. Можа, таму яго і разбамбілі? Школу толькі ў сорак чацвёртым аднавілі, увосень. Прыезджых было шмат настаўнікаў, з акружэнцаў. Трапляліся і такія прыблуды, што працавалі па ліпавых дакументах. Усяго, дзеткі, хапала. Я чаго ведаю, бо ў той час у школе падлогу мыла...

– О, выходзіць, вы таксама з нашай кагорты. Рыхтуйцеся, бабуля, запросім на наш юбілей.

– Рыхтуюся ўжо, дзеткі, – сумна адмахнулася Антоніха, – яшчэ гэтае лета пажыву, а па восені, як бульбу капаць, пэўне, пайду ўжо дадому, – зноў агаламшыла маіх дзяцей Антоніха загадкавым, містычным прароцтвам.

Мо падзейнічаў гіпноз, але болей яны не супраціўляліся, не спрачаліся, паслухмяна сядзелі ля лаўкі, на аксамітнай майскай траўцы, ды ўважліва слухалі.

Настаў час развітвацца. І, як ні запрашала Антоніха ў хату, мае жэўжы так і не рызыкнулі пераступіць парога. Спужаліся. Хаця дапамагаць Антонісе згадзіліся ахвотна. Мы вырашылі: бярэм неадкладна шэфства над бабуляй. Развіталіся і паабяцалі хутка прыйсці... Тады яшчэ ніхто з нас не ведаў, што гэта была першая і апошняя сустрэча...

* * *

Зараз я ўспамінаю пра тую далёкую незабыўную сустрэчу з бабуляй Антоніхай, як і многія іншыя эпізоды з жыцця майго дзявятага, з лёгкай скрухаю ды шчымліваю настальгіяй. Пачуццё незваротна страчанага, таго, чаго ўжо ніколі не вернеш, не адновіш, не ўваскрэсіш, хіба толькі зрэдзьчас зможаш пракруціць у памяці, як пракручваеш стары зношаны дыск з любімымі, дарагімі сэрцу мелодыямі, прыгнятае, трывожыць душу...

Вось і ўсё! Закончылі дзявяты клас і развіталіся са школаю мае юныя філосафы: Мілкі, Ахвяра, Божанька, Пячэнне, Буслік. Адбыўся яшчэ адзін мой выпуск. Колькі іх было ўжо і, дасць Бог, будзе. Прыйдуць новыя дзеці, стануць падлеткамі, затым абрастуць пер'ем і рынуцца навыперадкі з родных гнёздаў у дарослае жыццё. Працягваецца жыццё і працягваецца маё настаўніцтва. У верасні зноў набяру пяцікласнікаў і буду іх гадаваць, клапатліва даглядаць, вырошчваць. Але яшчэ доўга ў кожным з іх буду пазнаваць сваіх непаўторных бэйбусаў з дзявятага класа выпуску двухтысячнага года. Буду раўніва параўноўваць і сумаваць па сваіх дзевяцікласніках. У новым класе мне доўгі час будзе пуста і няўтульна: будзе не хапаць тых, каму не проста прысвяціў апошнія пяць гадоў жыцця, але аддаў часцінку душы і сэрца. Банальна, напэўна занадта пыхліва і ненатуральна гучаць гэтыя словы «аддаць часцінку душы і сэрца», але па-іншаму не скажаш. Такі ўжо, відаць, наш настаўніцкі лёс – з кожным выпускам адрываць і часцінку самога сябе, сваёй энергіі, сваёй радасці і трывогі, сваіх лепшых чалавечых якасцяў. Ці не таму бліжэй да пенсіі настаўнікі становяцца і нервовымі, і капрызнывмі, як дзеці, а на схіле веку нервы нашы зношваюцца зусім, і пад восемдзесят мы зноўку перажываем чыёсьці ранняе дзяцінства. Ды што там восемдзесят! Настаўнікі часцей не дажываюць да такіх гадоў, паміраюць ад інфарктаў ды інсультаў – прафесійная наша хвароба. Мы проста перагараем, як перагарае лямпачка, якая ўвесь час ярка свеціць. Хто толькі мне ні раіў: не бяры да галавы, можна ж і сапраўды з глузду з'ехаць. Што за мода – перажываць за лёс кожнага твайго вучня? Хіба ж можна прапускаць праз сэрца кожны іх учынак, кожны свядомы ці несвядомы крок па жыцці? А калі па-іншаму не магу? Часам зайздрошчу тым настаўнікам, якія ўмеюць працаваць ад званка да званка і ад зарплаты да зарплаты спакойна, асцерагаючы сябе. Але часцей я... шкадую іх...

Наперадзе ў мяне доўгае і пустое лета, вольнае ад школьных спраў. Таму і доўгае, таму і пустое. Буду сядзець, склаўшы рукі, час ад часу пазіраць на наш выпускны фотаздымак і – успамінаць. Дзякуй Богу, мне ёсць што ўспомніць.

Фатограф трапіўся талковы, можна сказаць, таленавіты. Мы стаім на школьным двары, у засені клёнаў, злева ад нас школа, а справа – возера. Прыгожы вясновы пейзаж, які дзесьці ўдалечы ўмела адкрывае шырокую перспектыву. Валодзя наш самы высокі ў класе і па-даросламу сур'ёзны,

як заўсёды, элегантны, у касцюмчыку і пры гальштуку. Усё як у жыцці. У Вадзіма крыху адчужаны ды рассеяны позірк, быццам бы не прыляцеў яшчэ, не спусціўся на зямлю. Сама наіўнасць – Марат, просты сялянскі, працавіты хлопец, камусьці будзе добры муж, шчасце ў сям'і. Серафім, як заўсёды, строіць лыбы, дзякуй Богу, што хоць нікому не прыстроіў рожкі. Хітравата-зацяты позірк у Віці, і таксама яшчэ несур'ёзны, дзіцячы. Забыты крыўды, выветрылася варожасць. Віця Буслаеў мне такі ж дарагі, як і ўсе астатнія дзеці. Яшчэ ж дзеці. Якімі мы іх выхавалі, такімі і будуць па жыцці...

Ва ўсіх напалеонаўскія планы. У Сматрычах ніхто заставацца не збіраецца, і нават у райцэнтры вучыцца будзе адзін толькі Валодзя. Астатнія прыцэліліся да Мінска. Лета пакажа, хто дзе апынецца, жыццё вызначыць...

...На школьны юбілей мы так і не ўзбіліся. Вельмі ж позна спахапіліся. Да канца навучальнага года заставаўся адзін месяц. Ды хто ж на травень месяц плануе такія сур'ёзныя мерапрыемствы? У траўні трэба падводзіць вынікі і любавацца педагагічнымі дасягненнямі. Ну, а паколькі любавацца нам асабліва не было чым, заканчвалі год моўчкі і спакойна, без лішняе нервознасці і канфліктаў. Хтосьці выцягваў вучняў на троечкі, хтосьці ўвогуле вырашаў свае справы. Не ведаю, чым займалася наша Ала Міхайлаўна, толькі ў школе яна паказвалася хіба ў тыя дні, калі па раскладзе ў яе былі заняткі. Без дырэктара нам жылося вольна і творча.

Я ўжо сказаў, пра юбілей мы не тое, каб забыліся, але дружна, не згаворваючыся, пракінулі яго, адсунуўшы на няпэўны тэрмін. Праўда, мы з дзявятым працягвалі збіраць гістарычныя звесткі пра школу. Раскапалі нават пару імёнаў былых настаўнікаў, што калісь працавалі ў гэтай школе. Звязаліся з імі. Ды расказалі яны нам нямнога. То забывалі імёны, то падзеі. Ведама, было даўно і нікому зараз не рупіць тая гісторыя. З'ездзіў я ў горад, пакапаўся ў гістарычных архівах краязнаўчага музея, аднак і там вывудзіў небагата. Даведаўся толькі, што ў дваццатых гадах у раёне пачалі масава адкрывацца школы, і было іх столькі, што нам зараз такая колькасць і прысніцца не можа. Лічы, у кожнай вёсачцы школа была, а дзе не школа, там лікбез. Тыя ж самыя настаўнікі, якія ўдзень вучылі дзяцей, увечары прыходзілі ў сельскія хаты-чытальні, куды збіраліся дарослыя і нават старыя людзі, бэкалі-мэкалі, змагаючыся з непісьменнасцю.

Пра Сматрыцкую школу ў музеі звестак не захавалася. Гаварылася толькі, што ў суседнім мястэчку, у Гаранцах, яшчэ пры цары працавала царкоўна-прыходская школа, а ў райцэнтры было народнае вучылішча. Тое ж самае чулі мы і ад старажылаў. У архіве я знайшоў асабовыя справы некаторых дырэктараў, якія працавалі ў нашай школе, праўда, пасля вайны. Даваенны архіў згарэў. Тым не менш я зрабіў выснову, што дырэктары ў нас мяняліся вельмі часта. Адных, як тога Макарскага (а ці Макарава?), хапаў НКУС, другіх забіралі ў армію, а пасля на фронт, адкуль яны ўжо не вярталіся. Некаторых проста не прымаў калектыў, і яны, не спрацаваўшыся, мусілі пакідаць сваю пасаду. Хочаце верце, хочаце праверце, але я прыйшоў да высновы, што войны і міжсабойкі ў нашай школе – своеасаблівая традыцыя. Ці то стаіць школа на якімсьці знакавым месцы, дзе перакрыжоўваюцца злыя электрамагнітныя палі (зараз на гэта модна ссылацца), а ці проста тут сярод настаўнікаў заўсёды знаходзіліся амбіцыйныя людзі, якія прэтэндавалі на дырэктарскае крэсла. Як бы там ні было, але школе моцна не шанцавала.

На тым і спыніўся наш гістарычны пошук. Ішоў май, і настаў час маім хлопцам падумаць пра экзамены.

Экзаменаў мы з імі не баяліся. Па-першае, гэта самы моцны клас у школе, прычым па ўсіх прадметах, і калі ўжо не здасць экзамены дзявяты, то хто іх здасць? А па-другое, што такое экзамены ў сельскай базавай, дзе ведаеш здольнасці кожнага вучня, як «Ойча наш»? Была б мая воля, увогуле экзаменаў за курс базавай не праводзіў бы, а выстаўляў адзнакі гадавыя і заносіў іх у атэстат. Лішняя трата часу і нерваў.

У тым, што ўсе мае дзевяцікласнікі спакойна, без завалаў напішуць пераказ па беларускай, я ніколькі не сумняваўся, бо ведаю, хто і колькі памылак робіць. Які б ні далі тэкст, усе, што ў зборніку, мы праштудзіравалі. Можна пахваляваца крыху за Аксану. Матэматыка ёсць матэматыка, там бываюць розныя нечаканасці, а паколькі ў камісіі я не буду, а ад Пагодзінай, якая там старшынёю, можна чакаць дробных паскудстваў, то трэба трымаць вуха востра. Але я не думаю, што дырэктар пачне пагалоўна «рэзаць» дзяцей. Да таго ж ведаю, што за кожнага свайго дзевяцікласніка я перагрызу горла любому.

Экзамены – не канец свету, але расслабляцца мы не прывыклі. Таму напрыканцы я вырашыў з паўмесяца патрымаць сваіх траглядытаў у яжовых рукавіцах. Бо варта толькі распусціць, як лета ўдарыць ім у галаву і пераможа, і будзем потым на кансультацыі ды на экзамены вылоўліваць іх на беразе возера ці выцягваць з вады. Мы ў свой час дрыжэлі перад кожным іспытам як асінавыя лісты. Сучасныя ж дзеці ідуць на экзамен з алімпійскім спакоем і думаюць пра што заўгодна, толькі не пра школу.

А яшчэ мы актыўна рыхтаваліся да апошняга званка. Агідна, калі на апошнім званку выпускнік стаіць як стаўпень, слова сказаць не можа. І чаму я такі ненармальны? Сам дзіўлюся. І тым не меней не магу вытрымаць абыякавасці і разгільдзяйства. Хочацца, каб усё выглядала прыгожа і годна.

І вось мы загадзя ўзяліся за справу – самі для сябе рыхтавалі грандыёзнае тэатральнае дзейства пад назваю «Развітальны званок». Для сябе. Болей нікому гэта не трэба.

Зноў усё паўтарылася, як тады, калі вёў драматычны гурток. Сам сачыніў сцэнарый, сам падабраў патрэбную музыку ды запісаў на магнітафон. Зноў ваявалі за месца ў клубе, бо ў школе нашай не парэпецірыеш. І потым кожны вечар праганялі з хлопцамі рэпертуар. Падключылі сюды не толькі дзевяцікласнікаў – уся школа так ці інакш была задзейнічана. Адным словам, мы зноў разгарнулі бурную дзейнасць пад раўнівыя і, бадай, ненавісныя позіркі многіх маіх калегаў. Божа, за што ў нас так не любяць актыўных і творчых людзей?! Мы давялі сваё выступленне, бадай, да аўтаматызму. На свяце апошняга званка была распісана літаральна кожная хвіліна, кожнаму раздадзены даручэнні. Хтосьці адказваў за кветкі, іншы – за музыку, гэты – за яўку гасцей, той – за касцюмы. Словам, кожны адчуваў сваю гістарычную місію ў гэты незвычайна адказны для нас дзень. Месца для экспромту, бадай, не заставалася.

А прыйшоў той дзень – і ўбачыў я сваіх хлопчыкаў, разгублена-ўрачыстых, акадэмічна-радасных і па-даросламу строгіх, убачыў цень журботы і трывогі на іх яшчэ дзіцячых тварыках. Трывогі перад невядомасцю, перад будучыняй, проці якой яны апынуцца, пакінуўшы сцены школы, безабароннымі, а мо і бездапаможнымі. Нават заўсёды вясёлы прыкаліст Серафім сёння выглядаў сур'ёзным, разважліва-спакойным. Убачыў я сваіх дзетак, як на вяселлі, перад

урачыстасцю, якая неўзабаве зменіць назаўсёды іхняе жыццё, і – разгубіўся, і паплылі перад вачыма кругі, і заплылі вочы слязьмі. Слязьмі шчасця і разам – неасэнсаванае трывогі...

Не меўшы сваіх дзяцей, я, напэўна, не магу ведаць і сапраўднага шчасця, якое адчуваюць бацькі, калі выпраўляюць дзяцей у самастойнае жыццё. Я думаю, што гэта вельмі складанае пачуццё: да шкадавання дамешваецца гонар, да радасці – трывога. Але ж усё тое, разам узятае, і называецца сапраўдным шчасцем. На той незабыўнай лінейцы я таксама адчуваў сябе шчаслівым, бо хто мог сёння адважыцца сказаць, што гэта не мае дзеці?..

А затым, як і было запланавана, пачалося наша грандыёзнае свята, падчас якога ўжо не было калі паддавацца сентыментальнасці. І ўсім тое свята спадабалася: і дарослым, і дзецям – гэта бачна было па вачах. А мой метадыст, якая прысутнічала ў нас на апошнім званку, яшчэ новы чалавек у школе, дый у аддзеле адукацыі, глядзела выступленне з шырока раскрытымі вачыма і потым прызналася, што ніколі нідзе дагэтуль не бачыла падобных мерапрыемстваў і што яна ўсім зараз будзе расказваць пра апошні званок у Сматрыцкай школе. Прыемна, вядома, але ў той час нам было не да кампліментаў.

Далі сабе пярэдых толькі тады, калі выправіліся на апошні развітальны круг: спачатку вакол школы, затым ля возера і – па вёсцы. Мы засталіся адны, нам ніхто не перашкаджаў радавацца, плакаць, сумаваць. Мы адкінулі ўсе ўмоўнасці і зразумелі раптам, што мы – родныя людзі...

Ішлі па вёсцы і сустрэлі... хаўтуры. Дарэчы, хтосьці казаў – добрая прыкмета. Не верачы ў прыкметы, можна і так здагадацца: на хаўтурах развітваешся з мінулым, пасля чаго наступае нешта істотна новае, нязведанае, чаго і пабойваешся, і адначас прагнеш убачыць. Такая ўжо сутнасць чалавечай натуры: нас заўсёды цягне да нязведанага, і тое здаецца нам зваблівым, чаго яшчэ не пражылі.

Насустрач нам ішла жалобная працэсія. Якая там працэсія – некалькі чалавек клыпалі ўслед за труною, якая ціха калыхалася на возе.

Хавалі... бабулю Антоніху. Памерла бабулька таксама ціха, як і пражыла сваё нялёгкае, доўгае і годнае жыццё. Памерла, не дачакаўшыся, калі зноў увосень будуць капаць бульбу. На гэты раз бабуліны прароцтвы не спраўдзіліся, падвяло яе прадчуванне. Лёсу не загадаеш...

Памерла Антоніха, а мы за сваімі пампезнымі справамі нават і не чулі, што ў вёсцы хаўтуры. Імгненна змяніўшы кірунак, мы далучыліся да працэсіі, пайшлі ўслед за труною за вёску, на могілкі, каб аддаць Антонісе ў апошні раз даніну павагі і хоць неяк сябе рэабілітаваць у сваіх жа вачах, бо нябожчыца нас ужо не папракне і не пакрыўдзіцца. Што тут казаць, і хлопцы мае, і сам я адчувалі віну перад гэтым чалавекам, якому пры жыцці нічым не дапамаглі.

Мы сёння развіталіся з дзяцінствам і яшчэ з дзіцячай цікаўнасцю зазіралі нясмела ў дарослае жыццё. Пакуль ішлі на могілкі, быў час падумаць. І, вы не паверыце, думаў я пра... новых сваіх пяцікласнікаў, якія прыйдуць да мяне ўвосень. Тады я не ведаў яшчэ, што новых ўжо не будзе...

## Частка трэцяя

Сэрца балела, не так моцна, але натужна, дакучліва. Боль, распачаўшыся пад левай лапаткай, блукаў па целе: то аддаваў у руку, то сціскаў у абцугах ключыцу, а то распаўзаўся па грудзях метастазамі ва ўсе клетачкі, павольна,

але назойліва. Ва ўсім целе адчувалася слабасць, хацелася прылегчы, супакоіцца, ды Шышкіна не дазваляла сабе расслабіцца, ведала, ад гэтага нічога не зменіцца, а толькі змарнуеш час. Нікуды не падзенецца, пройдзе прыступ і сам. Не ўпершыню. Сэрца ж яшчэ маладое, трывушчае.

Лідзія Паўлаўна дастала з сумачкі нітрагліцэрын, вывудзіла з бутэлечкі мікраскапічную таблетку, паклала пад язык, адкінулася на спінку крэсла, чакала, пакуль зашуміць у галаве, сцісне скроні, пачуецца пульс. Усяго на колькі секунд, затым палягчэе і, звычайна, адступае боль. Некалькі імгненняў – і ты зноў здаровы чалавек. Гіпертонікі, у адрозненне ад іншых хворых, народ цікавы: вясёлы, рухавы, энергічны. Ад прыступу да прыступу жывуць прыпяваючы. І калі раптам сціскае сэрца, не войкаюць, не скардзяцца на сваю хваробу – не паспяваюць. Хаўкнуць разок – ды за таблетку. А калі міне небяспека, адступіць боль – навошта скардзіцца? А пра тое, што кожны такі прыступ можа стацца апошнім імгненнем жыцця, стараюцца не думаць. Шмат будзеш думаць – хутчэй адправішся ў лепшы свет.

Людзі чамусьці кажуць пра «лепшы свет» з іроніяй, а і сапраўды, яшчэ невядома, дзе лепей – тут ці там? Абы не пакутваць. Каб толькі перанесціся ТУДЫ за адно імгненне...

Сёння зноў на планёрцы ў райвыканкаме старшыня рабіў разнос. Як панядзелак, так Лабаты ўсім пер'е скубе. Спачатку было смешна глядзець на тую «кумедыю», а з часам стала проста агідна і сорамна. Ці ў яго дома з жонкай нелады, ці то ніяк не можа галаву пасля выхадных у парадак прывесці? З галавою ў Лабатага і сапраўды апошнім часам нешта нядобрае. У панядзелак не можа ўспомніць, якія ён загады аддаваў у пятніцу, часцяком сам сабе супярэчыць: загадаўшы адно, адмяняе другое, атрымліваюцца накладкі. Злуе, кіпяціцца.

Чаго злуеш? Навошта на падначаленых злосць зрываеш, калі ведаеш, што ніхто, акрамя цябе самога, не вінаваты ў тым, што ў цябе баліць галава ды калоцяцца рукі...

Сёння дасталося на планёрцы ўсім: і беднаму аграпраму – за марудныя тэмпы жніва. Жнуць-малоцяць гэтых калгаснікаў, як каму ўздумаецца. Б'юць і плакаць не даюць. Быццам той аграпрам вінаваты, што малаціць няма чым. Калі ў калгасе два камбайны ў полі – то вялікая раскоша, астатнія стаяць колам на мехдвары. Разукамплектавана ўсё, дабіта, няма запчастак, няма за што іх купіць. Збіраюць камбайны з таго, што даўно час выкінуць у лом, бо па дзесяць, па дваццаць гадоў служаць дэталі. Тэхніка ломіцца ледзьве не на кожным кроку. Камбайнер паўдня ляжыць пад машынай, каб хаця пасля абеду выехаць у поле. Надвор'е – як па заказе. Калі яшчэ было, каб падчас жніва стаяла такая сухмень, і колькі яна пратрымаецца? Надвор'е спрые – а ўборка паўзе як па смале.

Зразумела, што Лабатага падганяюць там, наверсе. І нікому не хочацца выляцець з крэсла, але ж, калі ты разумны чалавек, разваж цвяроза, ці хто тут вінаваты? Ці той жа селянін, якому і так трэба помнік стаўвіць за тое, што яшчэ дагэтуль не кінуў, не рынуў, а працуе, збірае да кучы тое ламачча і нешта жне, і неяк косіць. Задарма, за капейкі. Працуе проста так, па звычцы, па завядзёнцы, бо ўсё жыццё працаваў альбо «за палачку», альбо задарма. Трэба помнік ставіць, а не псаваць людзям нервы бязглуздымі разносамі. Людзі – не жывёла, ім не пастух патрэбен, а талковы, рэальны памагаты...

Дасталося і культуры. Слаба забяспечваюць, бачыце, ідэалагічны фронт жніва. Дакладней, калі той самы камбайнер ляжыць пад машынаю ды

спрабуе круціць заржавелыя гайкі, трэба неадкладна пасылаць да яго фальклорны калектыў і скакаць перад ім, і песні спяваць.

Яна, Лідзія Паўлаўна, хаця і не літаратар, аднак менавіта так, вобразна, уяўляе тое самае ідэалагічнае забеспячэнне жніва. Ідыятызм і шызафрэнія! Стварыце калгасніку такія ўмовы, калі б ён не пільнаваў у полі ўзыход і захад сонца, а змог бы працаваць пазменна, хутка ды якасна. А галоўнае, каб грошы зарабляў, а ў вольны час меў магчымасць паехаць хоць у тэатр, хоць у кіно. І не трэба яму песні пад камбайнам. Вось і ўся ідэалогія. Каб працаваць пазменна, патрэбны людзі. Каб заставаліся ў калгасе прыстойныя людзі, а не адны алкаголікі, трэба селяніна за чалавека лічыць, трэба плаціць яму за працу, а не ладзіць бясплатныя камедыі ў полі... Вось і ўся палітыка...

Ці разумее гэта Лабаты? Вядома ж, разумее, прапіў мазгі, але ж не да такой ступені. Ды закручвае гайкі, бо па-іншаму проста не ўяўляе сваёй працы. У іх, у «першых» – стыль такі, яшчэ з тых часін, калі камуністычнымі сакратарамі сядзелі ў райкамах. Павеяў іншы вецер – перафарбаваліся. На гэта мазгоў хапіла, ды тут вялікай навукі не трэба. Абы нос быў па ветры. Унюхаў, куды павеяла, развярнуўся-перабудаваўся і зноў выстройвай сваю кар'еру. Вось як выправіць справу: калгасы падняць з калень, культуру, адукацыю выратаваць ад немінучае пагібелі – гэтага яны не ведаюць. Ім і не трэба, галоўнае, ведаць, каму і як патрапіць... А з падначаленымі застаецца адно – крычаць, злосць спаганяць, тупаць нагамі, каб людзі думалі-бачылі, што ты працуеш, стараешся. Бачаць, ды не вераць. Простага чалавека на мякіне не ашукаеш.

Напэўна, і ніхто зараз не ведае, як можна выратаваць, паставіць на ногі і селяніна, і рабочага, і тога ж інтэлігента. Калі не забяспечыць яму людскага жыцця, дык хоць бы вярнуць тое, якое яшчэ нядаўна меў. Не раскашаваў, ды хаця пачуваў сябе чалавекам... Растапталі, прынізілі нас. Хто шулер, хто прайдзісвет, у каго болей нахабнасці і гострыя ваўчыныя кіпцюры – той жыве. Затапталі нашу чалавечую годнасць...

Дасталося і ёй, Шышкінай. Загадчык аддзела адукацыі павінен персанальна адказваць за кожны баявы лісток у кожным чырвоным кутку на кожнай ферме. Дажыліся... Вярнуліся і да баявых лісткоў, і да чырвоных куткоў. Вось толькі камбайны, тыя, што пры Саветах былі, назад у поле не вернеш... А што, Лабаты быў бы не супраць адклікаць настаўнікаў з адпачынку ды запусціць іх у поле каласкі збіраць. Зусім як пасля вайны. Тыдні тры засталося да верасня, а яго, старшыню райвыканкама, не цікавіць, што ў палову школ яшчэ і зайсці няма як. Ні рубля, ні капейкі не «абламілася» з мясцовага бюджэту школам на рамонт. Адукацыю, мусіць, пасадзілі на самаакупнасць. Вышуквайце сродкі самі. Гэта як – урокі платныя даваць? Дырэктары школ кінуліся туд-сюд, да старшынь калгасаў. Тыя адно паглядзелі на іх, як на дзівакоў, зноў жа, не далі ні капейкі. Адкуль возьмуць? Самі канцы з канцамі звесці не могуць. Бацькі ўзбунтаваліся: мала таго, што дзяцей у школу няма за што адправіць – яшчэ й класныя кіраўнікі просяць грошы на фарбу. Адным словам, хто дзе што выпрасіў, той тым і шчаслівы, а большасць школ так і засталася – не беленая, не фарбаваная, не кажучы пра нейкі іншы, больш сур'ёзны рамонт. Добра там, дзе хаця яшчэ сцены трымаюцца. А як вунь у Сматрычах – згнілі і сцены. Пакуль што Лабатага ўсё гэта мала цікавіць. Вось калі пачнецца аб'езд школ, тады паляціць пух і з загадчыцы, і з дырэктараў. Ідзіце, настаўнікі, у поле, малюйце баявыя лісткі на фермах, не бяда, што вам да гэтага часу так і не выплацілі цалкам адпускныя...

А ў Сматрыцкай школе, да таго ж, і дырэктара няма. Нечакана Пагодзіна, вынырнуўшы з адпачынку, паклала на стол заяву па ўласным жаданні. Жаданне зразумелае: убачыла, што халявы больш не будзе. Пакінула заяву ў аддзеле кадраў і знікла. Ёй, Шышкінай, нават і на вочы не паказалася. Трэба ж быць такім нахабным! Хаця б зазірнуць у бессаромныя яе вочы. Школу ў чэрвені як зачыніла, так і пакінула. Мабыць, за ўсё лета і прыбіральшчыца з анучай па падлозе не прайшлася. Тут бы не па ўласным жаданні, а ўзяць ды зволіць па артыкуле. Ды рукі не хочацца паскудзіць...

Спякота невыносная. Хутка восень, а лета зусім забылася пра ўсе нормы і правілы прыстойнасці – смажыць, парыць, пячэ... Дзе ж тут вытрымае нават здаровы чалавек. Боль, нягледзячы на нітрагліцэрын, не хацеў адпускаць сэрца, хаця і стаў далёкім, неакрэсленым, прытупіўся. Але сядзець і прыслухоўвацца да яго болей не ставала часу. Шышкіна націснула клавішу на пульце камутатара, паклікала да сябе кіроўцу. Трэба неадкладна ехаць у Сматрычы і вырашаць пытанне наконт новага дырэктара. Марудзіць нельга ні дня...

* * *

Штосьці здарылася. Прыслалі ганца з тых дзяцей, хто зараз ходзіць на практыку. Мяне тэрмінова выклікаюць у школу. Адклікаюць з адпачынку? Але ж яшчэ цэлых два тыдні я мог гуляць, бо на працу мне выходзіць, лічы, перад самым навучальным годам. Сёлета позна пайшоў у адпачынак. Пакуль прыняў экзамены – ледзь не на кожным іспыце быў у камісіі. Пакуль зрабілі выпускны. Выпускны ўдаўся на славу: і вясёлы, і хлебасольны, і шчымліва-радасны, і трывожна-ўрачысты. Прынамсі, для мяне. Хаця стараўся не падаваць выгляду, дамовіліся слюні не распускаць – мужыкі ўсё ж. Выгляду не падаваў, наадварот, бадзёрыўся і іх, выпускнікоў, падбадзёрваў. А ўсё роўна на душы кіпела, бурліла, віравала. Даў волю пачуццям, толькі калі на раніцы схаваўся ў сваёй хаце. Прыйшоў, паваліўся стомлены на канапу і... расплакаўся. І скажы, Журнал Фёдаравіч, што ты не дзіця. Добра, што пацаны не бачылі, маглі б не зразумець. А мо і зразумелі б, мы ж навучыліся разумець адзін аднаго. Болей не хачу ўзгадваць пра выпускны, каб не пасыпаць соллю свежую рану. За лета паспеў ужо абабіцца-прызвычаіцца, ці то змірыцца са сваёй незайздроснай доляю. Сустракаеш і праводзіш. Ты вырасціў, выгадаваў іх, дзяцей, паклаў, як на алтар, душу сваю, здароўе, спапяліў самога сябе. Дзеля чаго? Дзеля таго, каб радавацца, што яны пайшлі ў самастойнае жыццё? Каб чакаць – а ці дачакаешся – ад іх хоць якой вестачкі? Каб аднойчы, праз пяць гадоў стараннай і карпатлівай працы, якая часам межавала з самаахвярнасцю і стала часцінкаю асабістага лёсу, прыйсці ў школу і ўбачыць там пустэчу, і пустэчу адчуць у душы? І зноў усё пачаць з нуля?..

Што ж здарылася? Выклікала не Пагодзіна. Дзякуй Богу, я яе два месяцы не бачыў і – адвык. Сталі спакойнымі нервы. Выклікала... Шышкіна. Што гэта азначае? Хто і што зноў на мяне накляпаў? Я вылез з агарода, доўга з дапамогаю памідораў і шчаўлюка адмываў рукі, якія болей нагадвалі рукі селяніна, чым інтэлігента-настаўніка: парэпаліся, сталі шурпатымі і зямлістымі. Апрануў касцюм, чыстую кашулю, завязаў гальштук. Я ж настаўнік, і што б там ні здарылася, а ці на дыван, а ці на трон, трэба ўзыходзіць годна.

А так слаўна было забыцца на час, што ты настаўнік, і хаця на два месяцы

зашыцца ў агародзе, прытаіцца ў засені аркіх летніх кветак, што забуялі-расцвілі ў палісадніку, адчуць сябе вольным, як цёплы ліпеньскі ветрык, паймець неабмежаваныя, бадай, касмічныя магчымасці. Хочаш – будзь дома, хочаш – сядай на веласіпед і едзь у вандроўку. Ездзілі з дзецьмі аж на далёкую Сяляву, жылі там колькі дзён у будане, лавілі рыбу, лічылі зоркі ў начным небе. Рамантыка! Нездарма Бог прыдумаў лета. Напэўна, для таго, каб чалавек не забываў, што ён – частачка вялікага Сусвету, маленькая касмічная пылінка... А чаму ж не адпачыць? Справа зроблена. Хлопцы мае ўсе без выключэння паступілі вучыцца далей, неўзабаве раз'едуцца па далёкіх і блізкіх гарадах. Мы расстанемся, але на душы спакойна. Адчуванне сумлення выкананага абавязку. Ці толькі абавязку? Адчуванне, што пражыты пэўны жыццёвы этап – сумленна і плённа...

Падрыхтаваў я да школы і свой кабінет. Зноў жа, дапамаглі мае былыя дзевяцікласнікі, хаця я іх нават і не прасіў. Дзіва, прыйшлі самі, прынеслі фарбу, пабелку. Працавалі дні са два: бялілі, фарбавалі, клеілі. Кожны цвічок падбілі, кожную маснічанку праверылі, кожную завесу перакруцілі. Вычысцілі, вымылі вокны, нават нагляднасць мне дапамаглі прывесці ў парадак. А мы кажам, што прафесія наша няўдзячная, што рэальна яе плады трэба чакаць цягам доўгіх гадоў. Вось вам і прыклад. Падарылі мне выпускнікі кабінет – як цукерачку, хаця не абавязаны былі гэтага рабіць. Сказалі:

– Хай памяць добрая будзе пра нас, мы вам столькі клопатаў, столькі праблем прынеслі...

Не толькі памяць, гэта, мае вы слаўныя, настаўніцкі ганарар. Што тыя граматы, прэміі, званні!..

Давялося заказаць вялізарны торт і запрасіць на гарбату. Напэўна, то была наша апошняя сходка, але ў гэта пакуль не хочацца верыць, як не хочацца думаць пра тое, што будзе далей...

Адчыняю дзверы школы і – жахаюся. Два месяцы, бадай, не быў, думаў, тут хаця пафарбавалі, але ж якімі былі аблупленымі падлога, сцены, столь, такія стаяць і зараз. А пылу! Будзь здарова, Навумаўна!

Загадчыца чакае мяне ў настаўніцкай. Маўклівая, засяроджаная, ці то ўсхваляваная, а ці абураная?.. Убачыўшы мяне, аднак, заўсміхалася ці праз сілу выдавіла тую ўсмешку? Дэмакратычна падала мне руку. Павіталіся.

– Адпачываеце, Віктар Фёдаравіч?

– Пакуль так, яшчэ два тыдні засталося, – я чамусьці пачаў апраўдвацца.

А яна не даслухала:

– Стаміліся? – усміхнулася зычліва, прыязна.

– Не сказаць, каб стаміўся, а проста трэба было змяніць абстаноўку. І вельмі дарэчы...

– Ну, вось што. У хованкі з вамі гуляць не будзем, – твар загадчыцы зноў стаў засяроджаным, усхваляваным, – давядзецца спыніць вам адпачынак. Сядайце, калі ласка... Прымайце ж, Віктар Фёдаравіч, школу...

– Што-о?! – запрашэнне сесці аказалася вельмі дарэчы. Каб не прызямліўся на крэсла, мажліва, грымнуўся б на падлогу і разбіў сабе нос, як хлапчук. – Як гэта, выбачайце, разумець?

– А вось так і разумейце. Учора Пагодзіна прынесла заяву. Звальняецца. Нават да мяне не зайшла ў кабінет... Як вам падабаецца?

– Не ведаю, – разгубіўся я.

– А я ведаю... Ёсць, адным словам, намер прызначыць вас, Віктар Фёдаравіч, новым дырэктарам школы.

– Вы... Вы жартуеце?

– Ніколькі.

– Ёсць, значыцца, намер... А ці ёсць жаданне?.. Выбачайце, у мяне хтонебудзь запытаўся? Ці захачу я, ці змагу, ці наогул... – раздражнёна пачаў я і тут жа пашкадаваў, што гэткім тонам размаўляю з жанчынай. Стала няёмка.

– Вось і пытаюся. Дзеля гэтага і прыехала, – надзвычай ціха, спакойна і засмучана-стомлена адказала Лідзія Паўлаўна. І паклала мне на плячо сваю руку. І зазірнула ў вочы, – а вы крычыце, злуйцеся, Віктар Фёдаравіч, бо я вас разумею. Толькі... толькі не адмаўляйцеся... калі ласка.

Такія словы абяззброілі:

– Але я не хачу, я ніколі, ніколі не быў... Мне не патрэбна ўлада, кар'ера. Я не змагу. Я настаўнік, разумееце? Мне *гэта* не патрэбна!

– Разумею. Вы настаўнік, і таму не зможаце мне адмовіць. Бачыце, якая школа? Вам хочацца пачынаць навучальны год у такой школе? Я, вядома, магла б не падпісаць заявы, змусіць Пагодзіну прывесці ў парадак школу, затрымаць яе тут яшчэ на месяц. Вы думаеце, гэта нешта зменіць? Мне, Віктар Фёдаравіч, проста дзяцей шкада...

– Я... не змагу. Я, праўда... настаўнік, прадметнік я, Лідзія Паўлаўна...

– Зможаце... Дай Бог быць кожнаму такім настаўнікам... Між іншым, перш чым зайсці сюды, я адчыніла дзверы ў ваш кабінет...

– А гэта не я... Гэта ўсё – дзеці...

– Дзеці? – здзівілася загадчыца. – Ну, вось, а вы кажаце, не зможаце. Галоўнае – захацець... Ды ў вас столькі памочнікаў...

– Падумаць хоць можна? – узмаліўся я. – Параіцца...

– З кім? З Серадою? – заўсміхалася Шышкіна, прымусіўшы мяне густа пачырванець. – Настаў час, Віктар Фёдаравіч, прымаць самастойныя рашэнні... Калі ласка, думайце, даю вам тэрмін – да заўтрашняга дня. Заўтра я чакаю вас у аддзеле ў дзевяць гадзін раніцы. Заўтра ж і аформім загадам, – і, убачыўшы маё здзіўленне, дадала ўжо іншым тонам, – Віктар Фёдаравіч, даражэнькі, няма часу думаць. Трэба школу ратаваць. І вось што, складзіце да заўтрашняга спіс самага неабходнага для рамонту школы. Паглядзім, што ў нас там ёсць на складзе. Чым зможам, паспрабуем дапамагчы, у выглядзе выключэння, улічваючы тую абстаноўку, якая склалася ў вашай школе. Так што выбачайце, Віктар Фёдаравіч і – бывайце. Заўтра сустрэнемся. Спадзяюся...

Шышкіна паехала, пакінуўшы мяне думаць. А што думаць, калі і праўда няма часу, і хто яшчэ пойдзе дырэктарам у нашу развалюху, хіба самазабойца? Думаць не было часу, а абмяркоўваць не было з кім. Няма ў каго мне зараз запытаць парады, няма каму паплакацца ў камізэльку. Настаў такі час, што я сам і толькі сам прыняць павінен рашэнне. Так, прызнаюся шчыра, я не хачу быць дырэктарам. Мне гэта не патрэбна, я не кар'ерыст і ніколі ім не быў. Больш таго, я разумею, што маё дырэктарства можа па мне ж нанесці смяротны ўдар як па настаўніку-прадметніку. Я не ведаю, яшчэ не спрабаваў, але, мяркую, немагчыма быць адначас і адміністратарам, і добрым педагогам. Але...

Але мне надакучыла кожны раз падладжвацца-падстройвацца пад новага чыноўніка. Глядзець начальству ў вочы і пытацца, як здароўе ў яго свіней, я ніколі не буду. Значыць, увесь век ваяваць? Якая ж тут педагогіка?

Згадзіцца і ўзначаліць заўтра разбітыя начоўкі? Ну й доля!.. Выкінуць фінты і, як пакрыўджаны падлетак, паслаць усіх куды далей, адысці ўбок? Глупства і – дзяцінства. Прытым, дзяцінства не ў лепшым варыянце, бо гэта

ўжо будзе клініка – цяжкое дзяцінства. А на пакрыўджаных, між іншым, ваду возяць...

Даведаюцца Баба, Барытон – іх хопіць мандражка. Уявіў – і стала мне смешна, і захапіўся гэтым азартна, як падлетак. Самае смешнае, што Баба з Барытонам ні на хвіліну не сумняваліся – я і Аксана спім і бачым, як бы нам усесціся ў дырэктарскае крэсла. Вось пад такім азартным кайфам я і абдумваў прапанову. Не было ні страшна, ні сумна, было проста весела. Страшна, мабыць, заўтра будзе.

Яшчэ не ведаў, ці згаджуся стаць дырэктарам, але ішоў па школе і глядзеў на рэчы ўжо іншымі вачыма.

Тэрмінова выклікаў Навумаўну, як мага спакайней растлумачыў ёй:

– Прыязджала загадчыца аддзела адукацыі. Даручыла нам з вамі да заўтрашняй раніцы скласці спіс самага неабходнага для рамонту школы.

Гаварыў строга пратакольна, ні слова лішняга. Навумаўна здзеклíва, як заўсёды, зірнула на мяне, раскрыла рот, хацела нешта адчабусціць, ды так і не закрыла, яна раптам усё зразумела. Як збялеў яе твар, як перакасіла рот! Шкада было глядзець на чалавека. Мы доўга хадзілі з ёй па кабінетах, па складзе, былі ў майстэрні, школьнай сталовай, шасталі па хлявах, падлічвалі, прыкідвалі. Не толькі спіс для раёна, зрабілі мы інвентарызацыю школьнай маёмасці. Я ўбачыў нашага «заўхоза» зусім іншай: перапалоханай, бездапаможнай, але даволі... актыўнай. Хадзілі – быццам нябожчыка насілі. У той дзень я ўбачыў і зразумеў яшчэ вельмі многае. Школа наша аказалася пустая. На першы погляд гэтага і не заўважыш, але не было нават самага неабходнага. У дрыўніках – ні палена дроў, не кажучы пра брыкет. Якая там фарба – нават ніводнага пэндзліка мы з Навумаўнай так і не знайшлі. У школе не было крэйды, далёка не ўсе дзверы замыкаліся, бо замкоў не хапала. На ўчастку нехта актыўна падкопваў бульбу, лазіў па агуркі і моркву, трэслі яблыкі каму не лянота. На двары жнівень – самы час нарыхтовак, закатак, засолак, а на градках калі і абіралі агуркі, дык, мабыць, толькі зладзеі. Астатнія ляжалі пажоўклыя, вялізныя, пераспелыя, ледзьве не насеннікі, тое ж – і з кабачкамі. У школьным садзе ёсць свае парэчкі і смародзіна, падаюць, гніюць яблыкі, а тэхнічкі ў гэты час хто ў адпачынку, а хто ходзіць у школу дзеля адчэпнага, прыбраўшыся, як на вяселле. Што дзеці будуць есці зімою, чым мы сагрэемся ў маразы?..

І ўсё ж я сёння вырашыў не аддаваць ніякіх ні загадаў, ні распараджэнняў. Хаця пасля абходу школьнай гаспадаркі зразумеў, што вагацца мне не мае сэнсу, а адступаць няма куды. Альбо прымаць дырэктарства, альбо сыходзіць з гэтай школы ўслед за Пагодзінай і не паказвацца ў раёне ўвогуле, бо зірнуць у вочы Шышкінай я ўжо не змог бы. Без школы я сябе не ўяўляў, і таму спыніўся на першым варыянце, аб чым, напэўна, яшчэ не раз у жыцці пашкадую. Рашэнне прыняў, але выгляду не падаў, пакуль усё не будзе афармлена юрыдычна.

Напрыканцы Навумаўна апусціла вочы і ціха запыталася:

– Хіба Ала Міхайлаўна ўжо не дырэктар?

– Не ведаю, – пацісну ў плячыма я.

...Назаўтра я паехаў у горад.

У загадчыцы доўга не затрымаўся. Усё ўжо было афармлена як след, праведзена. Мне засталося толькі пацвердзіць сваю згоду. Шышкіна па-мужчынску цвёрда паціснула мне руку. На гэтым сентыментальнасць і закончылася.

– Віктар Фёдаравіч, – сказала Шышкіна, – я павінна была б даць вам нейкую паслабку з прычыны таго, што вы прымаеце школу за тры няпоўныя тыдні да пачатку навучальнага года. Але з той жа самай прычыны я і не магу гэтага зрабіць. Самі разумееце, што першага верасня мы з вамі не адкладзем. А таму даруйце мне, калі ласка, але на аб'ездзе школ мы будзем прымаць экзамен ужо ў вас. Адзінае, што я магу для вас зрабіць, гэта паабяцаць, што ў Сматрычы мы прыедзем у самую апошнюю чаргу. Можа, на два-тры дні пазней. І, як дамаўляліся, вы атрымаеце сёе-тое са склада.

Шышкіна сама адвяла мяне на склад і даручыла раяноўскаму «заўхозу» выдаць Сматрычам, па магчымасці, усё, што яны папросяць.

Загадчыца гаспадаркі, жанчына немаладая, убачыўшы мой доўгі спіс, усміхнулася аднымі вачыма, спачувальна зірнула на мяне і сказала:

– Мо што і знойдзем.

І вось я каралём хаджу па складзе. Не скажу, што тут надта багата, але і не зусім пуста. Выдалі мне крэйду. Далі кілаграмы са два цвікоў, пару замкоў, нават некалькі слоікаў фарбы для падлогі. Іншай фарбы тут не было, так што нашы аблупленыя сцены ў тым самым выглядзе сустрэнуць, мусіць, і чацвёртае тысячагоддзе. У мяне разгарэўся апетыт, запаліліся вочы на дармавізну. Я браў усё, што траплялася пад рукі: лінейкі, транспарціры, скрэпкі канцылярскія, лісты ватмана і паперу для пішучых машынак. Браў хутчэй для ачысткі сумлення, бо нічога іншага, больш істотнага, тут не знайшлося.

Хацелася цюлю і штораў на вокны. Не, хацелася спачатку карнізы, трэба было некалькі лістоў ДВП – абабіць падлогу ў тых месцах, дзе яна, з'едзеная грыбком, правалілася. А лепей бы дошак і – перасланць. Пазарэз быў патрэбен аргаліт на сцены ці хаця б водаэмульсіёнка. Заміж гэтага мне прапанавалі пабелку звычайную і параілі зліць туды малака – не так будзе брацца. Адным словам, спіс наш не задаволілі нават і на траціну, ды я і гэтаму быў рады. Тым болей, што добрая па натуры, спагадлівая «заўхозіха» паабяцала і яшчэ чаго-небудзь падкінуць і запрашала прыязджаць наступным разам. Даражэйшае, як вядома, не сняданне, а прывітанне. А вось пра транспарт малады, нявопытны дырэктар загадзя не падумаў. Трэ было б зазірнуць у кантору калгасную, мо далі б якую машыну. Хаця наўрад ці Буслаеў падчас уборачнай чымсьці дапаможа. Але за папытанне не даюць ні ў каршэнь, ні снядання..

Ды Бог мяне пашкадаваў. Акурат на вуліцы сустрэў... Валодзю. Ён сёння ездзіў у вучылішча, і дадому вяртацца нам выпала разам. Каб не сябар, загнуўся б я...

Мы з Серадою ўзвалілі на плечы рукзакі і падаліся на электрычку. Дарогаю хлопец кпіў з мяне:

– Ох, и непосильный груз взвалил ты, Журнал, на свои плечи. Не ровён час, похудеешь, – у адрозненне ад мяне, ён быў вельмі задаволены, даведаўшыся пра маё новае прызначэнне, лічыў, што настаў самы час падцерці нос маім незычліўцам.

Я ж так не лічыў і нават у думках не меў такога намеру. Усё ж, я не злапомны. Тым болей, што ў галаве роем раіліся іншыя думкі: ці паспеем, ці здамо той самы «экзамен», пра які казала Шышкіна? Вельмі мала засталося часу.

А Валодзя працягваў бесклапотна смяяцца:

– Журнал, может, мне училище бросить да к тебе завхозом устроиться? Возьмёшь, а? Всё больше будет толку, чем от Наумовны.

Я маўчаў, быццам не чуў яго насмешак. Пра сваё думаў...

Назаўтра па трывозе я падняў, лічы, усю школу. Не знайшлі нашы ганцы толькі Барытона, мабыць, недзе схаваўся на дачы. Зрэшты, была ўжо сярэдзіна жніўня, і мала хто не паспеў дагуляць свайго адпачынку. Праз дзень-два ўсе і так сабраліся б. Вось толькі што б мы рабілі, сабраўшыся ў школе, якая, даруй Бог, мала чым адрознівалася ад стайні?

Першымі адчулі змену ўлады тэхнічкі, вартаўнікі, «заўхоз» – словам, увесь наш тэхперсанал, які дагэтуль, самае цікавае, з месяц хадзіў на працу, бадай, у поўным складзе, бо свае кароткія адпачынкі паспеў адгуляць яшчэ ў чэрвені. Хадзіў на працу, але нічога не рабіў. Я ж кажу, ці намачылі прыбіральшчыцы хоць раз за лета анучы? Па школе насілася пылюка, як па пустыні Сахары. Фарбы не было, але ж пабелка на складзе ў нас знайшлася, можна было хаця пабяліць столь, прывесці ў парадак сцены. Пальцам ніхто не паварушыў. Нічога дзіўнага – не было каму кіраваць. Сказалі мне, што Пагодзіна за ўсё лета паяўлялася ўсё ж разы са два. Зачыніўшыся ў кабінеце, нешта там шукала ў сваім сейфе, забрала і знікла.

Дарэчы, ніхто не ведаў, дзе шукаць Пагодзіну зараз. Тэлефон яе хатні маўчаў. У горадзе таксама яе не бачылі. У Пагодзінай засталіся ключы ад сейфа, і мы не маглі дабрацца да пячаткі, да журнала загадаў, ды ці мала яшчэ якія паперы маглі быць у тым сейфе. Я стаў дырэктарам дэ-факта, але не дэ-юрэ. Пазваніў Шышкінай. Тая прасіла пачакаць яшчэ дзень-два, раптам Ала Міхайлаўна аб'явіцца, калі ж не, будзем узломваць сейф у прысутнасці міліцыі. Весела!..

Такім чынам, першымі адчулі змену ўлады тэхнічныя работнікі. Я правёў з імі нараду яшчэ на раніцы, пакуль настаўнікі не прыехалі з горада. Дапытвацца, хто і што зрабіў з іх за лета, не было часу і не мела сэнсу. Я для сябе вырашыў не варушыць мінулага. Што было, тое сплыло. Пачынаць усё роўна даводзіцца з чыстага ліста. Без лішніх дэбатаў размеркавалі, хто чым зоймецца на гэтым тыдні. Адны будуць бяліць і фарбаваць школу, другія тэрмінова, пакуль яшчэ можна нешта выратаваць, будуць працаваць у школьным садзе. Трэба абабраць ягады, закатаць кампоты, зварыць варэнне. Трэба пасаліць агуркі. Як ні шкада, але вырашылі палову застаўшыхся яблыкаў абтрэсці і здаць, хаця восенню з іх быў бы большы навар, але чакаць не выпадала. Тэрмінова патрэбны фарба, клей, шпалеры, а калі пашанцуе і хопіць грошай, купім яшчэ і дэдэрон на вокны. Карнізы мне паабяцалі... мае былыя дзевяцікласнікі. Лепш сто сяброў, чым сто рублёў. Даведаўшыся, што я дырэктар, хлопцы ўсе да аднаго зноў сабраліся ў маёй хаце, балазе, здаўшы экзамены, пакуль да верасня яны былі вольнымі. Ад майго новага прызначэння ўсе былі ў дзікім захапленні і слухаць нават не хацелі пра мае сумненні і згрызоты. Валодзя мне так і сказаў:

– Ты, Журнал, и умирая всё будешь сомневаться.

Дарэчы, нарэшце я здаўся, дазволіўшы сябрам называць сябе на «ты». Хлопцы шкадавалі, што я не стаў дырэктарам, пакуль яны яшчэ вучыліся. Во была б лафа! Дзівакі, яны так і не зразумелі, што «лафы» ніякай не было б, не той у мяне характар. А наадварот, я мусіў бы пакінуць іх клас новаму класнаму кіраўніку...

Паабяцалі, што прыйдуць і зноў дапамогуць мне. І прыйшлі, і дапамаглі. Мае дзеці, сябры мае, сталі нашымі першымі спонсарамі. Няшмат у нашай школьнай майстэрні засталося дошак. Ды, якія былі, усе пайшлі ў справу. Хлопцы вытачылі нам прыгожыя карнізы на вокны, аздобілі іх карункамі,

пакрылі марылкай і лакам, карнізы атрымаліся шыкоўныя. Добрая засталася памяць...

Зараз я ўспамінаю тыя першыя дні майго дырэктарства, як нейкі дзіўны, кашмарны сон. За два тыдні «штурмавых начэй Спаска і валачаеўскіх дзён» мы паспелі зрабіць болей, чым іншы раз паспяваеш за год. Не хапала вопыту. Якое там, яго проста не было. Я не ўмеў загадваць, не адважваўся спытаць строга. Я баяўся, каб нікога не ўкрыўдзіць, каб не паўстаць у вачах сваіх калегаў, з якімі толькі што, працуючы, адчувалі сябе на роўных, дыктатарам, дэспатам і самадурам. Тым болей, што, прынамсі ў першыя дні, я бачыў у іх вачах... страх. Асабліва баяліся тыя, хто дагэтуль быў у так званай «апазіцыі» да мяне. Зразумела, кожны сёння баіцца страціць працу. Яны, мае незычліўцы, прымервалі да сябе свае ж цуглі. Кожны думаў, што я паступлю з ім так, як паступіў бы ён са мною на маім месцы. Таму і лунаў у паветры дзікі, жывёльны страх.

Яшчэ не ведалі, як усё павернецца пры новым дырэктары, а я пакуль надта і не стараўся раскрываць карты. Наступіць час, і я ўсё раскладу па паліцах, як кажуць мае юныя сябры «развяду па паняццях». Але зараз галоўнае было паспець ачалавечыць школу да першага верасня. Дзякуй Богу, значэнне часовага «надзвычайнага становішча» даходзіла, па-мойму, нават да «апазіцыянераў». Надта мазоліла ўсім вочы такая вось школа... Таму, сабраўшы настаўнікаў, я таксама не разводзіў філасофіі. Проста паставіў умову: настаўнікі за два тыдні павінны здаць мне класы і кабінеты «пад ключ». Размеркавалі людзей, прыкінулі, што і як рабіцьмем. Усе ўважліва слухалі, ніхто не пярэчыў.

Толькі ж назаўтра я зразумеў: слухаць і не пярэчыць – мала. Трэба яшчэ, выслухаўшы, запомніць і зразумець. Аказалася, кіраваць настаўнікамі куды складаней, чым вучыць дзяцей. Кіруючы пяць гадоў сваім класам, я напрыканцы, як бы хлопцы сказалі, «прыпух і зажраўся». Бо дзеці разумелі мяне з паўслова, бо любы загад выконваўся адразу і дакладна. Лацвей так кіраваць, калі дзеці былі кемлівымі і знаходлівымі, чаго не скажаш пра большасць настаўнікаў і тэхперсаналу. Узяўшыся за працу, гэтыя пахвілінна хадзілі да мяне, як першакласнікі, і пыталіся, дзе што ўзяць і ці так яны робяць? Дарослыя, адукаваныя людзі. Спачатку мяне гэта здзіўляла, потым стала забіраць злосць. Пыталіся, дзе ўзяць швабру, у якую скрынку пакласці яблыкі і нават якім чынам пасаліць агуркі.

Пардон, я што, дзядуля Усявед? Я здзіўляўся, шалеў нават у душы, але выгляду не падаваў. Нарэшце зразумеў, што мушу распісваць кожнаму іхняе заданне ва ўсіх дробязях, як распісвалі мы, калі былі студэнтамі, планы сваіх урокаў. Я павінен казаць настаўнікам і тэхнічкам: ты заўтра прыносіш паперу і клей, ты не забудзь прыхапіць з дому доўгі і спрытны шуфлік. Вось так. Нешта падобнае было, калі мы рыхтавалі з дзецьмі вечарыны, спектаклі. Толькі на гэты раз спектакль ішоў не на сцэне, а ў жыцці. Многае мы мусілі прыносіць з дому, бо ў школе не было элементарнага.

Настаўнікі разышліся па класах, дырэктару з нямногімі памагатымі дастаўся вузкі і змрочны школьны калідор, да якога, прызнацца, я і сам не ведаў, як падступіцца, з чаго пачаць.

Пачнаць, напэўна, трэ было ад печак. Бо гэтыя печкі, па ўсім відаць, чысцілі апошні раз яшчэ да рэвалюцыі семнаццатага года. Дзіўлюся, як мы да гэтага часу не пагарэлі? Ну, й далі мы копаці! Палезлі ў печкі, выграблі тону сажы, чорныя, мурзатыя, як чэрці, знайшлі сабе новую працу і новую

праблему. Трэба было абмазваць коміны, а дзе і мяняць каласнікі. А скуль іх, тыя каласнікі, браць? «Вузка, цесна, мала!..»

Тут нічога не скажаш, выручыў Буслаеў. Каласнікі знайшліся ў калгасе. Першая шэфская дапамога! Навумаўна выкарыстала свае асабістыя сваяцкія сувязі. Баюся сурочыць, каб на гэтым тыя сувязі з калгасам не згарнуліся.

Ледзь не тыдзень валіліся мы з глінай і сажай. Зноў пацаны дапамаглі. Яны, у адрозненне ад нашага школьнага рабочага, не крактaлі кожнага разу і не хапаліся за спіну. Адносілі, падносілі, падавалі цэглу. І самі ляпілі. Зрабіліся запраўскімі печнікамі. І я смяяўся, што першую рабочую спецыяльнасць яны ўжо асвоілі.

Нарэшце печкі былі гатовы. Тым часам мы вылезлі з комінаў, завезлі яблыкі на спіртзавод, купілі фарбу і зноў памянялі прафесію. Былі мулярамі, сталі малярамі. Вось не думаў настаўнік літаратуры Віктар Фёдаравіч Квадратны, што атрымаецца з яго добры маляр і муляр. А трэба яшчэ, каб атрымаўся добры дырэктар школы...

А яшчэ праз тыдзень нашу школу-прабабку было не пазнаць. Прыхарашылася, засмяялася-заззяла кожнаю сваёю зморшчынкай, абвязалася для понту хусцінкаю-абрусам з яркіх восеньскіх кветак, радавалася наступленню верасня і новага сезону. Так на старасці гадоў сівыя бабулькі чакаюць прыезду гасцей: дзяцей, унукаў з горада. Хоць і тлумна стане ў хаце, хаця і ўстыне неўзабаве той гвалт і гоман, і захочацца зноў спакою ды цішыні, а ўсё ж сэрца акрыяе, памаладзее, напоўніцца жывасільнымі маладымі крынічкамі, і надоўга-надоўга хопіць старой тае жывое сілы. На ўспамін, на добры настрой, на доўгія зімовыя ночы, пакуль будзе адна чаўрэць, кожнага ранку зноў спадзеючыся прычакаць гасцей...

Старасць таксама бывае прыгожай... Заззяла свежапафарбаваная падлога. Калісьці шэрыя, бляклыя панелі, да таго ж, аблупленыя, у доўгім вузкім калідоры, бы ў тунелі, змянілі колер: сталі светларужовымі, як ранішняя заранка. І – о цуд – калідор перастаў быць падобным да тунеля. А класы... Кожны набыў свой твар, стаў індывідуальнасцю. Памянялі ж не толькі шпалеры, многія настаўнікі памянялі ў сваіх класах нагляднасць, перааформілі, паднавілі стэнды, павесілі новыя партрэты. І я, дзівак, падумаў, што настаўнікі памянялі не проста знешняе аблічча класаў, але і свой светапогляд, свае адносіны да школы, можа, пераглядзелі каштоўнасныя арыентацыі. Я разумеў: тое, на што зараз спадзяюся, пакуль застаецца толькі спадзяваннем, і нельга загадзя прымерваць ружовыя акуляры. І ўсё ж вельмі хацелася верыць, а часам нават і падмануць сябе. Бо я кожны дзень прыходзіў у школу, якая станавілася ўсё больш прыгожай, годнай. І я не мог не ганарыцца, што гэта мая школа, што, можа, упершыню ў жыцці я так наглядна бачу рэальны вынік сваёй стваральнай працы...

Як і абяцала Шышкіна, камісія з раёна завітала да нас у апошнюю чаргу, за пару дзён да вераснёўскай лінейкі. Прыехала шмат народу: былі людзі з выканкама, з санстанцыі, пажарнікі. І не ўсім прыкасцюмленым дзядзькам ды напудраным цёткам тут падабалася. Тым болей дзівіліся яны, калі Шышкіна, адчыніўшы дзверы нашае школы, ад нечаканасці пляснула ў далоні і войкнула. Яны, выпадковыя, пабочныя людзі, не разумелі, чым тут можна захапляцца? Школа як школа, не горшая, дый не лепшая за астатнія, са слабою матэрыяльнаю базаю, каб не сказаць убогая...

Шышкіна асцярожна патлумачыла:

– Усё, што вы бачыце, таварышы, гэта плён двухтыднёвай працы новага

маладога дырэктара. На жаль, так здарылася, што мы тут, у Сматрычах, мусілі памяняць дырэктара ў самы апошні момант. Усё лета школаю ніхто не займаўся.

Камісія моўчкі кіўнула і прыняла інфармацыю да ведама. Толькі з райвыканкама нейкі туз грэбліва кінуў:

– Вам урок, Лідзія Паўлаўна. З кадрамі трэба працаваць больш шчыльна.

Шышкіна пачырванела, але прамаўчала. Я павёў камісію ў нашую сталовую, якая многіх расчаравала. Відаць, спадзяваліся ўбачыць там стол, накрыты белым абрусам, і што-кольвек на стале... Убачылі ж нашых работнікаў, якія варылі павідла з яблык і рабілі салянку. У паветры патыхнула яўнай глухою раздражнёнасцю. А мяне гэта... рассмяшыла. Я не Пагодзіна, кілбасы з дому для кожнага чорта насіць не збіраюся. І за крэсла дырэктарскае зубамі трымацца не буду. Калі ласка, прымайце мяне такім, які я ёсць...

Падкінулі асцярожнае пытанне, маўляў, ці не занадта позна сабак кормім, калі ўжо час на паляванне ісці? Я адказаў спакойна:

– Лепей позна, чым ніколі.

Болей пытанняў не задавалі. Школу прынялі, адкланяліся і паехалі. Зрэшты, асабліва і не было да чаго прычапіцца. Хаця пры жаданні дакалупацца можна і да слупа. Напэўна, стрымала камісію ўсё ж тое, што я тут дырэктарам без году тыдзень.

А назаўтра пазваніла Шышкіна, засмяялася ў трубку:

– Напужалі вы Лабатага сваім вельмі ж сур'ёзным выглядам, Віктар Фёдаравіч.

– Гэта быў Лабаты? – вырвалася ў мяне, аж здранцвеў. Сорамна прызнацца, але старшыню райвыканкама я дагэтуль у твар не ведаў.

– Вось так, шаноўны, трапілі ў нерат... Начальства трэба ведаць у твар... Адным словам, віншую, прэмія вам усміхнулася. У Сматрычаў – першае месца ў раёне сярод сельскіх школ па гатоўнасці да навучальнага года.

Я не паверыў. Першае месца? Прэмія? Імгненна мільганула ў галаве:

– Няўжо, Лідзія Паўлаўна, нам на дэдэрон хопіць? Бачылі ж, вокны пустыя. Карнізы мы зрабілі, а...

– Вы мяне не зразумелі. Прэмія вам асабіста, Віктар Фёдаравіч, як кіраўніку... А дэдэрон і шторы на вокны я вам абяцаю. Пагавару з Лабатым, пакуль ён добры. Думаю, да дня настаўніка атрымаеце.

– Хаця б да юбілею школы... – вырвалася ў мяне.

– Ах, у вас яшчэ і юбілей? Што ж вы маўчалі? Ну, ведаеце, шаноўны, тут ужо шторамі не абыдземся, ды і вы павідлам не адмажацеся. І колькі ж вам гадкоў, калі не сакрэт?

– Іменна сакрэт фірмы, – аджартаваўся я, – колькі ў архіве накапаем, столькі і напішам.

– А, ну-ну, капайце і паболей... Так што віншую вас, Віктар Фёдаравіч, яшчэ раз, – ці то Шышкіна мела на ўвазе юбілей школы, а ці маю першую дырэктарскую прэмію, – толькі ж, глядзіце, нос высока не задзірайце...

А ўсё роўна было прыемна. Як тут не задраць нос? Прыемна, што нездарма мы ўсёю школаю пахалі тут, як тата Карла, па чарзе становячыся то камінарамі, то кухарамі, то прыбіральшчыкамі. Нашу працу заўважылі і ацанілі.

Мо гэта прыдасць мне сілы і ахвоты, надасць мужнасці, бо трэба запрагацца ў той воз, які не ведаю, ці пацягну... А прэмію – падзелім на ўсіх, кожны заслужыў!..

Заўтра я павінен правесці свой першы педсавет. Будзем размяркоўваць нагрузкі, будзем знаёміцца з новым калектывам. Я казаў, калектыў тут штогод мяняецца. Вось і сёлета нам прыслалі новага біёлага, маладую дзяўчыну, толькі пасля ўніверсітэта. Хочацца верыць, што яна створыць заміж былой «срады абітанія» свой новы жыццёвы асяродак. Прыслалі новую настаўніцу беларускай мовы. Таксама маладая. Учора крыху спазнілася, прыйшла і кажа:

– Прабачце *мне*, Віктар Фёдаравіч.

І вось гэтае словазлучэнне «прабачце мне», скарыстанае правільна ў беларускім кантэксце, абнадзейвае. Іншым разам слова спецыяліста гаворыць куды болей пра яго самога, чым дыплом. Мне вельмі хочацца перадаць свае беларускія гадзіны ў надзейныя рукі.

Вось і настаў час развітацца з самім сабою як з настаўнікам. Гэтага болей за ўсё і баяўся. Як будзе весці ўрокі ў маіх класах гэтае дзеўчанё? Як прыйсці і растлумачыць паслязаўтра дзецям, што я ў іх болей весці беларускую мову не буду, бо няма часу: трэба вунь па дровы ехаць у лясніцтва, брыкет даставаць. Ну й прафесія! І ўсё ж я аптыміст. Думаю, неяк наладзіцца.

Сейф узломваць не давялося. Вылавілі нарэшце Пагодзіну. Тая прымчала на рэйсавым аўтобусе, прывезла мне ключы, адкрыла сейф, паказала пячатку, паказала яшчэ нейкую папку, ці то з загадамі, ці то з тарыфікацыяй, і, працадзіўшы праз зубы «віншую», знікла. Гэтым жа аўтобусам з'ехала назад у горад.

Пагодзіна, аказваецца, паспела скласці тарыфікацыю, мне стала весела. Мы з Аксанаю, згодна тае тарыфікацыі, былі пасаджаны на голенькую стаўку. Затое пад завязку загрузілі гадзінамі пенсіянера Сяргея Міхайлавіча Барытона, не ўкрыўдзілі і Сяўніцкую. А самае цікавае, што частку маіх гадзінаў перадалі весці каму б вы думалі? Ніколі не ўгадаеце. Надзеі Навумаўне Буслаевай, буйному спецыялісту ў галіне беларускай філалогіі. Вось з такой тарыфікацыяй, пэўна, мне і трэба ісці на заўтрашні педсавет...

...Педсавет... Нарэшце зноў мы ўсе ў зборы. Бадай, той самы калектыў. І – не той. Не галоўнае, што прыйшлі маладыя, а разам з імі накаціла свежая хваля, адчуваеш гэта на экстрасенсорным узроўні. Галоўнае – усе, з кім я працаваў раней: летась, пазалетась, хто адварочваўся ад мяне, выбачайце, не вельмі эстэтычным месцам, хто грэбліва і звысоку пазіраў на мяне, здавалася, яшчэ ўчора, зараз зрабіліся зусім іншымі. На вуснах застыла загадзя падрыхтаваная ўсмешка – нябо, перад люстэркам дома рэпетаравалі? – а вочы спалохана бегаюць. Не хочацца глядзець у тыя вочы, куды прыемней назіраць за маладымі настаўнікамі, каго не скоўвае цяжар мінулых міжсабоек. Маладыя зараз – не той народ, быццам і не настаўнікі зусім. Няма той зашоранасці і скаванасці, напужанасці, якая перашкаджае жыць і працаваць. Мы, старэйшыя, палохаемся, трасёмся перад кожнай праверкай, баімося кожнага слупа, які за нас вышэй на галаву па рангу. Маладыя ж вунь, прыехаўшы, усю раніцу весела шчабяталі, ці то пра сваіх кавалераў, ці пра нейкі фільм па відаку, быццам і не ў школу прыехалі, быццам і не заўтра першае верасня. Я, каму пад сорак, дзіўлюся іхняй бесклапотнасці і адначас зайздрошчу ёй, вітаю яе. Каму заўсёды зайздрошчу па жыцці, дык гэта моладзі. А да тых вунь поліэтыленавых ўсмешак, што на тварах у маіх былых незычліўцаў, вельмі пасавалі б намордніκі.... Вочы б не глядзелі, але я перадужваю сябе, змушаю, настройваю на дзелавы лад. Бо з гэтага часу ў мяне не павінна быць ні любімчыкаў, ні ворагаў. Усе для мяне ў калектыве роўныя з сённяшняга дня, усіх я ацэньваю выключна па

прафесійных якасцях. Бо я дырэктар, кіраўнік, а кіраваць дарослымі – гэта вам не жарты жартаваць.

– Паважаныя калегі. Сёння мы пачынаем новы навучальны год. Сёння... Што хацелася б сказаць. Мы ўзялі добры разгон яшчэ два-тры тыдні таму. Мы можам працаваць. З'ядналіся разам, узяліся за справу і – за такі кароткі тэрмін адрамантавалі школу. Скажу болей, мы занялі першае месца сярод сельскіх школ раёна па падрыхтоўцы да новага навучальнага года і атрымаем прэмію.

І мае калегі нечакана дружна заапладзіравалі, усе без выключэння. Я засаромеўся чамусьці тых воплескаў і нават пачырванеў:

– Ну, пляскаць сабе ў ладкі мы будзем не раней чэрвеня, па выніках навучальнага года, а пакуль рана...

– Як рана, Віктар Фёдаравіч? – не даслухала мяне Сяўніцкая. – Хіба ж бы наша школа гэтак блішчэла, як тая дзяўчына на выданні, каб не вы... Калі б вы не ўзяліся адразу за дысцыпліну?.. Так што гэта вам апладысменты!

STOP! Вось яно, першае выпрабаванне. Здавалася, прайшоў агонь, ваду... Засталося толькі пераадолець вузкія, коўзкія медныя трубы. Цікава, як мае калегі ўспрымуць такі рэверанс Сяўніцкай? Моладзь здзіўлена яе разглядвае, быццам перад імі пітэкантрап ці рэліктавы гуманоід. Да іх, відаць, пакуль не даходзіць, у чым справа. Барытон схаваў вочы пад стол, яму сорамна. Аксана здзекліва ссунула бровы і, баюся, зараз нешта калючае выдасць. Астатнія ж не зрэагавалі ўвогуле. Ой, і цяжка ж будзе разварушыць такую інертную масу...

Раблю выгляд абыякавы і спакойна працягваю:

– Мы можам працаваць разам, калегі, і будзем працаваць, – я зноў выразна зірнуў на ўчарашніх сваіх непрыяцеляў. Барытон аж галаву ўвагнуў у плечы, Сяўніцкая спалохана апусціла вочы. – Ніхто не павінен баяцца. Ніхто не будзе пазбаўлены кавалка хлеба. Тым болей, што нас з вамі не так многа, і зноў, на жаль, давядзецца кожнаму быць загружаным пад завязку. Кажу «на жаль», бо ведаю, калі ў цябе пад трыццаць гадзін, вельмі цяжка пачуваць сябе настаўнікам і не скаціцца да ролі звычайнага халтуршчыка. І ўсё ж, думаю, мы з вамі будзем старацца. Магу паабяцаць адно: ваша зарплата будзе залежаць не толькі ад колькасці праведзеных вамі ўрокаў, але і ад іх якасці. І ад таго, як вы будзеце працаваць з дзецьмі пасля ўрокаў, на гуртках, на пазакласных мерапрыемствах. У нас ёсць прэміяльны фонд. І тут мы маем шырокія магчымасці...

– Значыць, прэмію – любімчыкам? – махнуў рукою Барытон. – Віншую, калегі...

– Прэмію, Сяргей Міхайлавіч, нам дапамогуць размеркаваць дзеці. Думаю, калегі, што і прэміі нікога з вас пазбаўляць не давядзецца. Я зусім не тое хацеў сказаць. Я не прыхільнік крайніх мер. Проста, як гэта ні банальна гучыць, але працаваць усім нам зараз давядзецца не дзеля сябе, не дзеля папаўнення свайго кашалька, а дзеля дзяцей. І вось тут, абяцаю вам, мы знойдзем магчымасць заўважыць і ацаніць тых, хто стараецца.

– Правільна, Віктар Фёдаравіч, мы мала ўдзяляем увагі пазакласнай рабоце. Гурткі працуюць нашы пераважна на паперы. Што ж вы, мае родненькія, прыехалі з горада, урокі адвялі і ўцякаеце? Куды спяшаецеся? У вас там што, свінні някормленыя пішчаць? Вам добра там, у горадзе: прыйшоў, паеў, у ванне памыўся, тэлевізар паглядзеў і – на бакавую. А тут усё на табе – і гаспадарка... А дзеткі нашы, што ж яны бачаць, скажыце, акрамя

бацькоў-алкаголікаў. Віктар Фёдаравіч ведае вунь. Памятаеце, як у яго быў драмгурток. Як уся школа захаплялася, калі ішлі спектаклі? Памятаеце, як дзеткі ірваліся на рэпетыцыі, чакалі кожных наступных заняткаў. Ім абы з дому, калегі мае даражэнькія, ім абы вочы тыя п'яныя не бачыць. Маладым кажу, не бойцеся працы... Мы, уласна, пасля тога драмгуртка нічога ў школе людскага і не мелі.

Баба ўсхадзілася не на жарт. Во дзе драмаў прамоўніцкі талент. Я зразумеў: пры ўсім сваім адчаі, ад безвыходнасці, Баба не проста старалася патрапіць мне... Па-свойму груба, неабчасана, неінтэлігентна – наколькі дазваляў інтэлект – Сяўніцкая не столькі ліслівіла перада мной, колькі гаварыла ў гэты час тое, у што сама ў глыбіні душы шчыра верыла. Проста чалавек прывык падладжвацца пад абставіны і ніколі не адважваўся выказаць тое, пра што думаў на самой справе.

– Ну і цырк! – злосна сплюнуў Барытон.

Баба хапілася за бок:

– Цырк, даражэнькі, у тваім духавым аркестры, а тут педсавет.

Асобныя настаўнікі захіхікалі. Не вытрымала, узарвалася Аксана:

– Божачка, як можна?! Тут жа сапраўды педсавет, а не...

– Вот і саветуемся...

– Вікторыя Аляксееўна, а што ж вы летась маўчалі? Чаму пры Пагодзінай не выказвалі сваіх меркаванняў?

– Го, даражэнькая, – хітравата прыжмурыла Баба вока, – паспрабаваў бы выказацца... На чыім возе едзеш, таму і песні спяваеш. Ты яшчэ маладая, вучыць цябе хіба?..

Настаўнікі засмяяліся. І нават Барытон скрывіў рот, хаця тая грымаса наўрад ці нагадвала ўсмешку.

Я стаяў ва ўтрапенні, не ведаў, што мне рабіць.

– Смеючыся, развітваемся з мінулым... Ну, хопіць, калегі, пасмяяліся і ладна. Песні мне спяваць неабавязкова, а воз наш паедзе і павязе нас усіх у краіну дзяцінства... Размова сёння сур'ёзная, і давайце жарты адкладзем на пасля.

Я і сапраўды не ведаў, што сказаць. Бываюць жа сітуацыі! Колькі гадоў працуеш, здавалася б, навучыўся адстойваць і свае інтарэсы, і дзіцячыя. І палец у рот мне не кладзі – адкушу. І ў кішэню па слова не палезу, а перад хамелеонамі як рак чырванею, стаю абяззброены і бездапаможны.

Па-рознаму думаў, пойдзе гаворка на маім першым педсавеце, ды толькі не так. Ледзьве авалодаў сабою, не сарваўся, давёў педсавет да канца. Сапраўды ж, не хаханькі, размову трэба было правесці сур'ёзную, і ўсё, і ўсіх расставіць па сваіх месцах. Так і адбылося. Бо пачынаць працаваць з жартаў, з дробных сварак, не хацелася. І так ужо школу затуркалі. Лічаць, што ў сельскай школе ўсё можна: можна не вучыцца, можна не вучыць. Можна схавацца пад шырмаю сельскай школы і лодару-вучню, і гультаю-настаўніку. Хопіць, надакучыла! Хопіць даказваць, што ты не вярблюд. Паспрабуем жа і мы, сельскія настаўнікі, камусьці падцерці нос.

Але ж мог бы і сарвацца, і нагаварыць Бабе, што пра яе думаю. Вось бы і спляжыў свой першы блін. Я дырэктар, я павінен займаць нейтралітэт.

Першы вераснёўскі дзень выдаўся надзвычай пагодлівым, яркім, сонечным – як па заказе. Учора падзьмуў знекуль халодны вецер, вырваліся, бы з загону, таўсматыя цёмныя хмары, падобныя да страшыдлаў, пасля доўгай, працяглай спякоты зрабілася раптам холадна. І мы ўсе спалохаліся,

успомнілі пра восень, каб хаця не прыйшла яна, не рассыпалася халодным дажджом акурат на нашы школьныя ўрачыстасці. Залы спартыўнай няма, лінейку кожны раз праводзім на вуліцы. Дзеці, апранутыя па-святочнаму, змерзнуць у сваіх беленькіх калготках і сарафанчыках, у кашульках ды пінжачках. Дый лінейка пад дажджом – якое свята? Сёлета выпускны клас у Аксаны Валер’еўны, і таму лінейкай я не займаўся. Дзякуй Богу, можна і не займацца, і нават не пытацца. Аксане я давяраю цалкам. Нешта прыдумае. Падключыла піянерважатую, завуча – хай людзі працуюць. А я хоць раз пабуду госцем, пагляджу збоку, хто на што варты. Дый сёлета займацца лінейкай часу не было, закруціўся ў кіраўнічым віры. Трэба было да першага верасня напісаць сто загадаў аб розных назначэннях, пераводах і ўсялякай іншай арганізацыйнай шалупені. Прыйшоўшы на новую пасаду, я не ведаў яе бюракратычных нюансаў. Званіў у аддзел адукацыі, кансультаваўся з калегамі-дырэктарамі, бо трэба было да ўсяго дапяць самому. Ніхто мне тут не дапаможа, не раскажа, не раскладзе па паліцах. Аказалася, дырэктар – не толькі гаспадарнік, ён яшчэ і адмысловы пісар. Адных толькі папак трэба заводзіць штук сто. А ў кожнай папцы – стос дакументаў: цыркуляраў, інструкцый, рэкамендацый, загадаў. Пажарнікі, санстанцыя – ды якому толькі д’яблу ні прыносіш у ахвяру свой далёка не вольны час. Вядома ж, па першым часе я так і не разабраўся толкам ва ўсіх тых паперах, хаця і сядзеў, зашыўшыся між іх, колькі дзён, пакуль хоць збольшага адпісаўся.

Зашыўся і не ведаў, што чуваць, што робіцца вакол. Між тым, нечакана, як снег на галаву, зваліліся адразу тры навіны.

Першага верасня Барытон не з’явіўся на працу. Што гэта азначае, пакуль не ведае ніхто. Наўрад ці ён паспеў захварэць, бо ўчора на педсавеце наш пенсіянер быў, як кажуць, «живее всех живых». Хіба яшчэ што здарылася? Ва ўсякім разе, проста так, трэба аддаць яму належнае, наш Сяргей Міхайлавіч заняткаў не прапускае.

А Навумаўна паклала мне на стол заяву – звальняецца па ўласным жаданні. Як бачыце, не толькі я сам, але і іншыя рыхтаваліся да майго дырэктарства. І рыхтаваліся, мабыць, больш сур’ёзна, чым я. Ва ўсякім разе, мне Навумаўна да сённяшняга дня не сказала ні слова. Дый зараз толькі запыталася, ці буду я затрымліваць яе на працы яшчэ месяц? Крый Божа! Я не збіраўся нікога выганяць, але і трымаць за хвост не буду нікога таксама. Балота без чорта не бывае. Адзіную ёй паставіў умову: не падпішу заявы, пакуль не здасць усю сваю гаспадарку па спісе новаму «заўхозу». Ёсць у мяне на прыкмеце талковая дзяўчына, з былых, дарэчы, маіх вучняў. Дзяўчына без працы, і, думаю, ахвотна прыйдзе да нас. Сёння ж з ёю пагавару. Мне прасцей знайсці кандыдатуру на вакантнае месца «заўхоза». А вось Навумаўне колькі дзён давядзецца папацець, пакуль збярэ ўсё, што за ёю лічыцца. Справа ў тым, што дырэктар у школе матэрыяльна, бадай, ні за што не адказвае, а ёсць у яго намеснік па гаспадарчай частцы. А пры Пагодзінай, дый раней, ніхто толкам тае інвентарызацыі не праводзіў. І розная драбяза, якую мы даўно ў вочы не бачылі, вісіць у нас на балансе. Як Навумаўна прымала школу, я не ведаю і ведаць не хачу. Хутчэй за ўсё так і прымала, як Пагодзіна кіравала. Але проста так адпусціць чалавека, матэрыяльна адказнага, і павесіць на новага «заўхоза» баласт я не дазволю. Трэба ж некалі пачынаць наводзіць парадак, інакш ніколі яго не навядзеш. Зараз, пакуль мы стаім на ўрачыстай лінейцы, Навумаўна лазіць па складах, інспектуе гарышча – збірае школьную маёмасць. І як гэта мы здагадаліся ў

жніўні правесці інвентарызацыю? Сам Бог за мяне моліцца. Інакш Буслаева сышла б паціху і падклала нам такую свінню!.. Шукае рэчы і недзе кляне на чым свет Віктара Фёдаравіча. За прынцыповасць. А вінавата сама. Калі сабралася сыходзіць, навошта было рабіць з гэтага тайну мадрыдскага двара? А лепей было падумаць пра тое, як цывілізавана сысці, саступіць месца іншаму. Ці яна баялася, што не адпушчу? Не вялікая страта. Няма мяса, і жук не закраса.

Самай нечаканай аказалася трэцяя навіна. Здавалася, зусім нядаўна я званіў у калгасную кантору Буслаеву, запрашаў яго да нас на лінейку. А сёння на лінейку прыйшло нейкае кволае, маленькае дзяўчо. Я спачатку падумаў, што ў школу прыслалі яшчэ адну настаўніцу, балазе ў нас не хапае настаўніка замежнай мовы. Хацеў ужо абурыцца, як можна без ведама дырэктара робіць такія сюрпрызы. Калі раптам дзяўчо падыходзіць да мяне, смела падае руку і голасам зусім не дзіцячым, а вельмі нават упэўненым, голасам зусім не слабога чалавека заяўляе:

– Добры дзень. Я – новая старшыня калгаса.

Я не знайшоў нічога лепшага, як бязглузда запытацца ў адказ:

– З якога часу?

– З учарашняга дня, – даверліва адказала дзяўчына і, злавіўшы ў маіх вачах іронію, дадала, – наколькі мне вядома, вы таксама тут без году тыдзень дырэктарам. Мяне завуць Вольга Мікалаеўна.

– Вельмі прыемна. Віктар Фёдаравіч, – пастушова выходзіў я са штопару.

І чым болей да мяне даходзіла, што перада мною сапраўды не дзяўчынка, а новы кіраўнік калгаса – бываюць жа на свеце цуды – тым болей мне станавілася яе шкада. Мабыць, адразу пасля акадэміі прыслалі, такую маладую-нявопытную, неаб'езджаную, неабстраляную. Прыслалі на здзек у наша асінае гняздо. Заўтра я даведаюся, што Буслаева выгналі з трэскам праз буйную растрату. Быццам дагэтуль ніхто не ведаў і не бачыў, што творыцца ў нашым калгасе: раскралі ўсю тэхніку, жывёлу альбо замарылі голадам, альбо распрадалі, каб хоць зрэдзьчас выдаваць людзям зарплату. Самі фермы пачалі разбіраць па цаглінцы. Зарплаты людзі ўсё роўна не бачаць па паўгода, затое кіраўнік будуе сабе спрытны домік, каб не сказаць катэдж, на гарадской ускраіне ў райцэнтры, на маляўнічым беразе возера. Будуе на зберажэнні ад сціплай сваёй старшынёўскай зарплаты і жончынай зарплаты школьнага «заўхоза». Быццам раней гэтага не бачылі? Бачылі, ды толькі людзі прывыклі ўжо, што справядлівасці на свеце няма і дарэмна яе шукаць. А такіх буслаевых, што будуюць сабе катэджы на сціплыя зберажэнні, хоць гаць гаці, і ўсіх не паздымаеш.

Вось дык навіна! Заўтра ж даведаюся, што гэтае дзяўчо, якое зараз стаіць перада мной і скептычна, з выклікам пазірае ў вочы, зусім ужо не дзяўчо, а маці двух дзяцей, якіх прывезла сюды з Палесся, ратуючы ад радыяцыі і ад... іхняга бацькі, уласнага мужа, што даўся ім у знакі горш за радыяцыю. Куды там нуклідам у параўнанні з сапраўднаю ядзернаю вайною, якая вялася ў іх доме, лічы, кожны вечар. Да гарэлкі далучылася рэўнасць, атрымалася моцная, стабільная ўзаеманянавісць, ад якой можна было толькі ўцячы. Калі толькі ўцячы можна ад сябе самой.

Шкада, што пра ўсё гэта я пачую заўтра не ад самой дзяўчыны, а ад нашай Навумаўны, пры пасрэдніцтве Сяўніцкай, у якіх моцная агентура ў калгаснай канторы. А там, у канторы, такіх вось баб, як наша Вікторыя Аляксееўна, мусіць, кланіруюць. І сядзяць яны без справы, бо што там можна падлічваць,

у спустошанай гаспадарцы? Языкамі чэшуць, дзве бабы – базар, а калі іх сабралася з дзесяток... І скуль ведаюць пра чужыя лёсы, скуль бяруць навіны? Ім бы працаваць у органах... Пачую легенду, упрыгожаную, вядома, рознай брыдотай, рознымі салёнымі ды прыперчанымі падрабязнасцямі. У нас жа так: не паспеў чалавек прыехаць, зарэкамендаваць сябе, а на яго галаву вылілі карыта бруду. І колькі ж тут, у нашым калгасе, паелі ўжо старшынь, маладых, ініцыятыўных! Нашым людзям такія, як Буслаеў, патрэбны, хто агрызнуцца можа. Відаць, і табе, дзяўчынка, нядоўга тут працаваць.

Бачу перад сабою калегу па няшчасці і радуюся, што я зноў не адзін...

...А пасля абеду мы ідзём у калгасную сталовую. Першы школьны дзень надзвычай кароткі, самы кароткі ў навучальным годзе. Скончылася лінейка, прайшоў першы ўрачыста-сімвалічны ўрок, дзеці разышліся па хатах, а настаўнікі не спяшаюцца дадому. Так пайшло, так павялося, што кожны год свой першы працоўны дзень настаўнікі адзначаюць урачыста: застоллем і бяседаю. Знайдзіце яшчэ такіх дзівакоў, якія б «абмывалі» свой выхад на працу.

Пайшло-павялося здаўна, і я не збіраюся парушаць гэтай традыцыі. Калегі не зразумеюць. Ды і што тут такога крамольнага? Хіба настаўнік – не чалавек? Былі часіны, падчас розных дзікіх антыалкагольных кампаній, калі даводзілася трымаць вуха востра, баючыся кожнага шораху. Хто ведае, якому незычліўцу ўздумаецца «стукануць» у раён? Зараз нібыта пацішэла, і людзі пасмялелі. А што, мы, людзі дарослыя, адзначаем сваё свята не на працоўным месцы і пасля рабочага дня. Што хочам, тое і робім. А калі каму прыспічыла змагацца з «зялёным зміем» адміністрацыйнымі забаронамі, дык не з настаўнікаў і не са школы пачынаць трэба.

Сёлета мы ўпершыню сядзім не проста за адным сталом, але і сапраўды адным калектывам. Прынамсі, мне так хочацца верыць. А мо і сапраўды так? Разбегліся людзі, развалiліся групоўкі, знік антаганізм. І ўжо не толькі Сяўніцкая, але і іншыя, і нават маладыя настаўнікі падымаюць келіхі і прамаўляюць тосты ў гонар новага навучальнага года і... новага дырэктара. Страшэнна няёмка, вочы няма куды падзець. Але нічога не зробіш. Даводзіцца слухаць і – піць. Усе табе ветліва ўсміхаюцца, і сёння пакуль немагчыма распазнаць, чаго болей за тымі ўсмешкамі: сапраўднай шчырасці ці падхалімажу? Каб як спыніць той слоўны панос, падымаюся, дзякую і прапаноўваю выпіць за нашых шэфаў – за калгас і, вядома ж, за новага старшыню, з якім звязваю, так і сказаў, надзеі на ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва. Нам нельга не сябраваць. І ўсе мяне дружна падтрымалі, узрадавана падня лі келіхі. І не толькі настаўнікі, а і сельсавецкія, якіх мы таксама запрасілі. Каб яны ведалі, што з тае дружбы атрымаецца ў хуткім часе... І наш старшыня тым часам запунсавела, як майская ружа. Ці то чырвонае вінаграднае віно было таму прычынай? Яна адпіла з бакала глыток, закусіла цукеркай і – паднялася, дачакаўшыся, пакуль усталюецца цішыня, загаварыла:

– Я ведаю, пра што вы зараз падумалі. Падумалі, гэтае дзяўчо – несур'ёзна, паставілі яе часова, каб прынесці камусьці ў ахвяру, растаптаць, выкінуць, спісаць усе грахі, выцерці ногі. Я разумела, куды іду і навошта, – голас яе стаў цвёрды, як граніт, у мяне аж мурашы па скуры папаўзлі. – Абяцаю вам, што я ўсур'ёз і надоўга, і нічога, і нікога не баюся, – яна раптам на паўслове спатыкнулася і закашлялася. – Але пра што гэта я, – спахапілася, – не на калгаснай жа планёрцы. Вам мо і нецікава... Школа... – на імгненне задумалася,

– школа ў нас, я маю на ўвазе калгасы, была на трэцім ці чацвёртым плане. Маўляў, з яе як з казла малака. Не надоіш, не намалоціш. Хіба ўвосень дзеці дапамогуць бульбіну ўбраць. А школа век свой бедная, век просіць, – пры гэтых словах наступіла магільная цішыня, усе ўважліва слухалі, чакалі, да чаго хіліць гэтая, далібог жа, не бяскрыўдная дзяўчынка. – Школа ў нас, адным словам, заўсёды была нейкаю дальняю сваячкаю, якую і з радні не выкінеш, і прагнаць вельмі ж не хочацца, бо няёмка. Так жыць далей нам нельга. У вас у школе сёння вучацца нашы заўтрашнія кадры. Якімі яны вырастуць і якой будуць думкі пра калгас, мне, напрыклад, не без розніцы. Ці прыйдуць да нас красці, х*а*пацць, гарэлку піць. А ці прыйдуць цывілізаванымі, прывучанымі да парадку, да працы. Разумееце мяне... Крадуць часам, бо шалеюць з раскошы, а часцей, згадзіцеся, ад нястачы і адчаю. Я не хачу, каб дзеці змалку адчувалі сябе заганнымі, каб камплексавалі. Яшчэ паспеюць... Таму мы, дарослыя, патрываем, а дзецям аддадзім апошняе. Я не магу паабяцаць калгаснікам, што ўжо заўтра з неба пасыплецца ім зарплата. Мы будзем рабіць усё, магчыма, нават болей, чым ад нас залежыць, але... Але вам, настаўнікам, вам, Віктар Фёдаравіч, я абяцаю, што любую разумную і абгрунтаваную вашу просьбу калгас выканае.

Чулі б яе прамову канторшчыкі. Бачылі б, як утапілі настаўнікі старшыню калгаса ў дружных воплесках...

А пасля былі танцы. І мерлюкаваты Журнал падышоў да элегантнай старшыні, і падаў руку, і сказаў:

– Вы абяцалі, Вольга Мікалаеўна, не адмаўляць маім просьбам. Я лаўлю на слове, запрашаю вас на танец...

Тая роблена насупіла бровы:

– А вы ўпэўнены, што просьба разумная і абгрунтаваная?

– Вядома. Тонкі разлік. Патрэбна ж нам з першага дня ўмацоўваць наша ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва.

Мы засмяяліся і пад зычлівыя (а мо і не толькі?) позіркі калегаў закружылі ў вальсе.

Даўно я так не танцаваў, як у той першы вераснёўскі вечар. Здавалася, на чацвёртым дзясятку гадоў да гарохавага кавалера, чые скроні, верыце, пасыпаў ужо хтосьці срэбрам, зноў вярнулася першая, свежая, шалёная маладосць, і ўспомнілася студэнцкае юнацтва, і будатрад, і першае каханне.

Не, людзі, на гэты раз я не страціў галавы і не ўцюрыўся ў першую, што трапілася, дзяўчыну. Я добра помніў пра свае гады і пра пасаду ды аўтарытэт, які ні ў якім разе нельга падстаўляць. І таму я ўвесь вечар глядзеў на самога сябе як бы з вышыні. Так бацька глядзіць на дарослага ўжо, але яшчэ юнага сына. І пра каханне ўспамінаў таксама з вышыні пражытых гадоў, успамінаў як пра нешта незваротна страчанае, з лёгкім одумам і настальгіяй, зусім не ўласцівай маладым. І ўсё роўна ў той вечар я адчуваў сябе маладым і шчаслівым, мо як ніколі за апошнія гады.

А потым... Потым пачаліся звычайныя школьныя будні. Ведаеце, калі ўпрагаешся, як вол, і цягнеш лямку, дні губляюць свой непаўторны каларыт. Жыццё, як тая баразна пад нагамі, становіцца аднастайна шэрым, безаблічным. Працаваць дык працаваць. Для рамантыкі не хапае часу. А што жыццё ў дырэктара школы зусім не рамантычнае, не дадуць зманіць мае калегі.

Няма дроў на зіму. І я нёсся ў лясніцтва. Не на касмічнай, вядома, ракеце. Але на падарожнай машыне даехаў туды даволі хутка. Адчыняю дзверы і з парога тлумачу, хто я такі і чаго прыехаў.

Глядзяць як на пустое месца і нават спрабуюць адчытаць:

– Вас, такіх ахвотнікаў пагрэцца, шмат, а ў нас ліміты даўно выбраны. Так што дроў раней, чым пасля Новага года, не чакайце.

Пачынаю нервавацца, аднак спрабую сябе стрымліваць, ветліва тлумачу:

– Вы мяне, напэўна, няправільна зразумелі. Дровы я прашу не для сябе асабіста, а ў школу, для дзяцей.

Але мяне зразумелі правільна:

– Ясна, што не для звяроў, – адказ патыхае алімпійскім спакоем, – аднак ліміты выбраны. А дзе ж вы былі раней, даражэнькі, чаму цягнулі да апошняга, чаму спалі ў шапку?

Зноў давялося цярпліва, зусім як вучням ля дошкі, тлумачыць, дзе, як і ў якую шапку я спаў.

А нервовыя клеткі не аднаўляюцца. Праўда, глядзець на мяне перасталі, як на дзівосную жывёліну, але паявіўся новы аргумент:

– Няма саляры і трактароў. Хіба прыязджайце на ўласным транспарце.

І вось я ўжо воўк, баюся, каб не выскачыць з клеткі:

– Выбачайце, але я дырэктар школы, а не бензакалонкі і аўтатранспартнага прадпрыемства. Адным словам, – зірнуў я на гадзіннік, – спяшацца мне няма куды і вяртацца назад таксама няма на чым. Пакуль не прывязу дровы, адсюль не выйду...

Ці то палічылі за вар'ята ды спалохаліся, што і праўда не выйду з іхняй канторы, а выкідваць сілай, зразумелі, будзе многа шуму, толькі знайшлі і транспарт, і паліва, і дровы.

Якраз пад'ехаў ляснічы, дарэчы, таксама новы тут чалавек і, выслухаўшы мяне, сам, на сваёй машыне павёз у лес. З лесу ў Сматрычы я вяртаўся ўжо не на новым «Масквічы» ляснічага, а, у парушэнне ўсіх правіл, згорбіўшыся, у цеснай кабінцы аднаго з «Беларусаў», якія везлі нам дровы. Я вяртаўся пераможцам. Два паўнюткія прычэпы бярозавых дроў ехалі ў школу. Не густа, але на першы скрып хопіць. А там пабачым, тым болей, што ў лясніцтве зараз працуе мой сябар. З гэтага часу ляснічы будзе жаданым госцем у нашай школе. Быць дырэктарам – вучыцца шукаць сяброў.

Днём няма часу, бо мы абое: і дырэктар школы, і старшыня калгаса, з галавою зашываемся ў свае справы. А вось пад вечар, калі ў калгасе заканчваецца планёрка-разнарадка, я часта забягаю ў кантору. Праходжу, як праз строй, праз шчыльныя шэрагі зайздросных, хціввых вачэй. Канторскія цёткі яшчэ не паспяваюць разбегчыся. Сядзяць, б'юць аб зубы языкамі, і шмат жа іх тут распладзілася, як пацукоў у гняздзе. Ледзьве заходжу – замаўкаюць, быццам бы толькі што гаварылі пра Вольгу ці пра мяне...

Як мага далікатней пытаюся, ці на месцы старшыня. Губы ў іх адразу ж расплываюцца ў гумавых усмешках, шчокі чамусьці пунсавеюць, быццам я іх злавіў за непрыстойным заняткам, галовы згодна ківаюць. Але ж выдаюць вочы. Злосць і яд так і струменяць. Кожны раз дзівішся, як многа таго яду. Мінаю шэрагі ядавітых вачэй і смела, не стукаючыся, адчыняю дзверы.

Вольга сядзіць за сталом змарнелая, учарнелая ад стомы. Эх, і нялёгка ж ёй тут, асабліва па першым часе, у разваленай, дабітай дашчэнту гаспадарцы, ды яшчэ ў такім варожым атачэнні.

Пілуюць... У раёне ніхто ёй ніякай скідкі не робіць ні на маладосць, ні на адсутнасць вопыту. Давай план, давай збожжа, бульбу. А чым капаць, убіраць – нікога не хвалюе. Пілуюць і калгаснікі. Разлічвайся за тыя паўгода, калі Буслаеў не плаціў, катэдж сабе будаваў. Калі б яшчэ не кантора – зборышча

пад’ялдыкаў. У вочкі зазіраюць, гатовыя на задніх лапках бегаць. А за вочы – колькі ж бруду, колькі ж памыяў! У вёсцы – хоць ты вушы затыкай. Старшыня і такая, і гэткая, і паганая, і гуляе, і муж яе, гуляшчую, з дому выгнаў. І паехала, пустадомак, у свет, як у капейку, з хаты ды на чужыя палаты. Вольга жыве на кватэры. З дырэктарам школы звязалася. Чалавек ён натуры цёмнай, ім, вяскоўцам, незразумелай, да таго ж па ўзросце ледзь не бацькам ёй даводзіцца.

Гэта пра мяне. Ну, што ж, я рады. Дзякуючы шырокім, як лапаць, і даўжэзным, як абора, вясковым языкам я нарэшце ўсяго за колькі дзён ператварыўся ў каварнага заваёўніка жаночага сэрца, што для старога халасцяка не загана. Праўда, паводле тых жа языкоў, то не жанчына, а дзяўчына лёгкіх паводзін, ледзьве не мая дачка. (Інцэсту яшчэ не хапала!) Ну, што ж, перажывем!

А калі сур’ёзна, мы дастаткова адукаваныя людзі, каб не надаваць вялікага значэння вясковым плёткам, добра разумеючы, адкуль растуць у іх ногі. Ногі растуць з цемрашальства, з поўнай адсутнасці культуры. Ды што там культура! Людзі жывуць у беспрасветным маральным брудзе, поўзаюць па ім, як чэрві, не здольныя ні падняць галавы, ні ўбачыць сонца. Жывуць, калі тое можна жыццём назваць, і са сваімі меркамі, са сваімі крытэрыямі, падыходзяць, судзяць пра іншых. Не дзіўна, калі наступным разам паўстану ў вобразе канібала ці яшчэ якога монстра. Шкада бедную, няшчасную Вольгу, якая хаця і не інфантыльнаю дзяўчынаю прыйшла ў нашы Сматрычы, але з цэлым букетам ружовых мараў і памкненняў. Схапілася з калгаснай «мафіяй», а зубкі яшчэ кволыя. Неўзлюбілі. Не такая яна інфантыльная, зубы паказаць умее, але ж, баюся, супраць лому няма прывёму. З’ядуць. Не вытрымае. А мне чамусьці гэтага вельмі не хочацца. Бунтуе мая душа. Стаміўся я бачыць, назіраць, як нахабнае зло пажырае кволую дабрыню, як гінуць розум і здаровы сэнс. Нервы не вытрымліваюць.

Убачыўшы мяне, Вольга ўсміхаецца, моўчкі паказвае на крэсла.

– Штосьці здарылася, Вольга?

Бачу, хутчэй адчуваю: не такая яна сёння.

– Ды не, нічога асаблівага. Проста пачынаю разумець, што яны, – Вольга неакрэслена паказвае рукою на вакно, – яны... не хочуць жыць па-іншаму. Яны не хочуць мяняць сваё жыццё да лепшага. Ты ўяўляеш...

Мы з ёю даўно на «ты», як быццам блізкія людзі ці даўнія-даўнія сябры. Але ж мы знаёмыя ўсяго толькі месяц. Так не бывае, каб за гэткі кароткі час парадніліся душы. Мо ў нас і праўда каханне? Якое там! Часу не хапае на ўзвышаныя пачуцці. Проста мы абодва працаголікі, і гэта нас збліжае. Людзям незразумела, як можна сядзець вечарамі на піянерскай адлегласці, за зачыненымі дзвярыма старшынёвага кабінета, і пры гэтым не рабіць НІЧОГА ТАКОГА.

З маім прыходам у канторы наступае надзвычайная працоўная актыўнасць. Носяць на подпіс да старшыні паперы. Дзверы не зачыняюцца. То бухгалтар зазірне, то праз пятнаццаць хвілін эканаміст – акурат цікаўныя суседкі, па соль ці па запалкі. І, няшчасныя, застаюць дырэктара ва ўсё той жа згорбленай паставе, у крэсле, а старшыню – за працоўным сталом. Яны... апранутыя і размаўляюць. Во халера! Калі справа так пойдзе і далей, мяне, чаго добрага, запішуць у манахі.

– Ты стамілася, Вольга. Не трэба браць у галаву і рабіць усё ў адзін дзень.

– Я не хачу, само так атрымліваецца. Уяўляеш, сёння раскрыла «малочную

мафію». Натуральная мафія, пачынаючы ад малаказборшчыка і аж да ву-унь якіх уплывовых людзей. Усё было да дробязяў прадумана. Хавалі тлустасць, пісалі, як хацелі. Аказаўся цэлы спіс «мёртвых душ», на якіх успісвалі фантастычныя працэнты. І ўсё было шыта-крыта. І на заводзе нават у іх арудавалі свае людзі. Во дзе грошыкі рабілі! А нам не хапае на зарплату.

– Ты так спакойна кажаш. Разумееш, яны ж могуць помсціць, – спалохаўся я.

– А ўжо і пагражалі, – яшчэ спакайней адказала Вольга, – ды я іх не баюся. Яны ж самі баязліўцы. Ты б зірнуў на іх, калі ўсё раскрылася...

– Ты, Вольга, гуляеш з агнём, далібог, як дзіця.

– А што, скажы, мне рабіць? Глядзець на ўвесь гэты бардак і сядзець як мыш пад венікам? Ці мо таксама пачаць сабе катэдж будаваць? Дык мне ён не патрэбен, верыш?

– Веру, бо мне таксама не трэба ніякага катэджа. Вось калі б новую школу... Веру, аднак, ты паводзіш сябе як самазабойца. Працаваць за ідэю і шукаць сабе згубу – розныя рэчы.

– А я і не шукаю, чаму ты так вырашыў? Проста нервы не вытрымліваюць.. Ім хочаш зрабіць як лепей, для іх жа стараешся. Выбіваеш тую зарплату. Глядзіш, каб нешта ўбраць, нарыхтаваць, на зіму закласці, каб было... Запас бяды не чыніць. Думаеш, каб як перазімавалі каровы, цяляты. Каб і зімою, і ўвесну быў калгас і з малаком, і з мясам, і з грашыма. Думаеш, каб людзі не зачаўчэлі, не пертварыліся самі ў быдла. А яны глядзяць на цябе цялячымі вачыма і нічагусенькі не разумеюць. Абы адвярнуўся, сам не дагледзеў – адразу ж красці. Крадуць усё, што пад рукі падвернецца. Крадуць нават тое, што ім і не спатрэбіцца. Даходзіць да абсурду. Калі я прыехала, не было ніводнага свірнавога замка. Пакралі. Дзверы стаялі насцеж расчыненыя, а калі дзе і вісеў замок, дык такі, якія мы на паштовыя скрынкі вешаем. Відаць, каб лягчэй было ўзломваць. Абсурд. Ім даводзіш, што немагчыма забагацець, пакуль калгас будзе сам сябе раскрадваць. А яны хціва пасміхаюцца. Не разумеюць.

– М-да, засела ў свядомасці моцна: красці, красці, красці – вось што такое шчасце.

– У вас хаця ў школе не крадуць?

– А ведаеш, кралі б, ды няма чаго. Адно шчасце, што мы зусім не матэрыяльныя. Інтэлекту ў іншага не ўкрадзеш. Але не хвалюйся, у нас затое самі сябе абкрадваюць маральна. І, як ні дзіўна, у настаўнікаў таксама бываюць цялячыя вочы...

Школа... Школа... Яна запаланяе нашы думкі. Аб ёй толькі і размовы. Цяпер я заразіў «школьным вірусам» яшчэ аднаго чалавека – Вольгу. Мы можам гадзінамі сядзець з ёй у канторы і размаўляць, спрачацца пра школу, на здзіў усім, хто нас не разумее. Некалі мы вось так горача і адухоўлена маглі спрачацца хіба толькі з Аксанай. Зараз я Аксану Валер'еўну не пазнаю. Не магу зразумець, што з ёю зрабілася. Аксану як падмянілі. Здавалася б, такая ж, як і раней, прынцыповая, цудоўна вядзе ўрокі. Спецыяліст, слоў няма. Але ж апошнім часам, калі я стаў дырэктарам школы, яна раптам ачужылася, стараецца мяне не заўважаць, абыходзіць, пазбягае сустрэч, хаця раней сама ішла насустрач, давярала, больш таго, імкнулася пры любым зручным выпадку паспавядацца... Што з ёю?.. Застаецца толькі гадаць. Пайсці на шчырую размову першаму, напрасіцца на сустрэчу? Быццам і гардыня не дазваляе. Я ж не мяняў да яе сваіх адносінаў, не «пракідваў». Калі што

здарылася, няхай набярэцца мужнасці і сама ўсё растлумачыць. Навошта мне лезці ёй у душу? Не дазваляе гардыня, дый часу не знаходзіцца. Зашыўся-закапаўся я ў дырэктарскіх справах. Вось і чакаю, і ўсё адкладваю на потым нашу з Аксанай сур'ёзную размову. Але ж да пары збан ваду носіць...

Я ведаю, ёй, Аксане, нялёгка. Зноў сарваўся, запіў яе Грышка. Скандалы ў хаце, а то і бойкі ледзь не кожны дзень. І рвецца ўсё на вачах, ляціць сабаку пад хвост усё, што нажылі разам. Хоць і не нажылі вялікага багацця, дый таго шкада. Галоўнае – трашчыць, ірвецца па швах сямейнае шчасце. Грышка, аказваецца, вельмі раўнівы, прыраўнуе і да слупа. Адсюль і пачынаюцца скандалы. Калі мы яшчэ з Аксанай сябравалі, яна мне не раз пра тое расказвала, і плакала, і не ведала, што рабіць. І я таксама не ведаў, чым ёй дапамагчы. А зараз ачужылася і, як мне здаецца, ваўкавата глядзіць на мяне. Мне крыўдна, бо не заслужыў такое няўдзячнасці. Аднак, мусіць, не толькі яе сямейныя праблемы сталі прычынаю нашых непаразуменняў. Чорная котка прабегла між намі пасля таго, як у школу прыйшлі маладыя настаўнікі. Прыйшлі і адразу паказалі характар. «Здравствуй, племя младое, незнакомое!» З іх прыходам у нашым калектыве атрымалася зусім іншая раскладка сіл. Аднак праблем не паменела.

Сышоў Барытон. Знік непрыкметна, можна сказаць, па-англійску пайшоў: ні «дзякуй», ні «да пабачэння». Тыдзень мы яго чакалі, ды так і не дачакаліся, Хоць ты ў міліцыю на вышук падавай. А затым пазваніла Шышкіна і сказала, што наш Сяргей Міхайлавіч просіцца ў іншую школу. Што ж, як кажуць, з лёгкім ветрам. Відаць, зразумеў чалавек, што нічога яму тут болей не свеціць. Дзякуй і за тое, што хоць не стаў бузяніць вады. Чалавек ён вельмі прагматычны, і без выгады нікуды не палезе. Ну, а ці возьмуць яго ў іншую школу – гэта ўжо клопат Шышкінай. Думаю, яму цяжка будзе ўладкавацца, надта ж добра ведаюць Бырытона і ў аддзеле адукацыі, і шмат у якіх школах, бо Сматрыцкая – не першая, якую ашчасліціў гэты чалавек. Браць пенсіянера для таго, каб плаціць яму яшчэ адну пенсію – за высідку на ўроках – наўрад ці хто стане.

Зрэшты, мая хата з краю. Адзін клопат, дзе зараз, на пачатку года, знайсці талковага фізрука? Зноў падняў на вушы ўсіх сваіх знаёмых, скарыстоўваю ўсе свае сувязі. Шукаем. А хто шукае, той знойдзе.

Адпусціў я нарэшце і Навумаўну. Падзівіцеся, зараз яна працуе... загадчыцай нашага дзіцячага садка. Успомніла пра сваю педагагічную адукацыю. Брэша на мяне па-ранейшаму, але ўжо на адлегласці не ўкусіць. Стараюся да садка не мець ніякага дачынення, хаця там і вучацца два нашы пачатковыя класы. Сам туды не хаджу, лепей з разумным страціць, чым з дурнем знайсці. Адпраўляю завуча, калі пільна трэба. Дарэчы, завуч прыбягала ўжо неяк з садзіка ў слязах. А мне тым часам званілі з раёна інспектары, пыталіся, што здарылася? Чаму садок скардзіцца, што я ўстанавіў дыктатуру? А ўсё проста: завуч наведала – трэба ж быць такой неабачлівай – іхнія заняткі. І што? Зараз па садкоўскай праграме дзеці павінны навучыцца там, яшчэ да школы, і чытаць, і пісаць. А Навумаўна пра такі фокус нават і не чула. Дастаткова было завучу зрабіць заўвагу, як Навумаўна загаласіла на ўвесь раён, што Квадратны не дае ёй дыхаць. Дзякуй Богу, Шышкіна добра ведае Навумаўну, а таму я гэтых звягаў не надта баюся. Але ж падумайце, дзеці ў садзіку прагуляюць, а затым з малодшых класаў трапяць у лапы да Сяўніцкай. Якімі яны прыйдуць да нас у чацвёрты клас? Непісьменнымі? А ў чацвёртым класе зараз ледзьве не трыганаметрычныя функцыі праходзяць. Што нам

рабіць? Разбіцца, пакуль выцягнем іх за вушы? Дзіва што Аксане Валер'еўне трэба медаль даваць за выратаванне педагагічных тапельцаў.

Сышлі Навумаўна з Барытонам, засталася адна Сяўніцкая. Баба прыціхла, змяніўшыся да непазнавальнасці. Змялела брудная рэчка – перастаў і млын працаваць, тым больш, што невядома стала, на чый млын ваду ліць. Вось і занялася Сяўніцкая справаю, і па меры сваіх, хаця і не надта творчых, здольнасцей стала прыносіць школе карысць. Праўда, надта вялікіх спадзяванняў я на Бабу не ўскладваю, але бачу, што чалавек пачаў старацца, і гэта суцяшае.

Чамусьці заўсёды ў маім успрыманні свет і людзі ў ім па першым часе бываюць ідэальнымі. Гэта мой крыж, гэта мая бяда. Бяда, што з часам рассейваюцца ілюзіі. Хто толькі мяне не папярэджваў, ды я такі ўжо нарадзіўся... Шчасце прыходзіць і вельмі хутка пакідае нас, саступаючы дарогу расчараванню.

Здавалася б, у нашым школьным калектыве насталі доўгачаканая цішыня, спакой і мір. Але прыйшла гвардыя маладых настаўнікаў, а разам з імі прыйшла ў школу Яе Вялікасць Невядомасць... Пачынаю прыглядацца да моладзі і не магу яе зразумець, раскусіць. Гэта мяне насцярожвае, змушае хвалявацца.

Беларусічка, за якую я, памятаеце, парадаваўся, калі ўбачыў, што яна неблагі спецыяліст, аднойчы з'явілася ў школе з велізарным «фінгалам». Нават нашы старэйшыя настаўнікі, якія пабачылі ўсялякага, былі шакаваны. А моладзь успрыняла спакойна, быццам так і трэба. Спачатку хацеў не дапусціць яе да ўрокаў, адправіць у адпачынак за свой кошт. Бо хіба ж у такім выглядзе можна паявіцца перад дзецьмі? Але не настаяў на сваім. Падумаў, якое я маю права, якія падставы, і чаму ўвогуле ўмешваюся ў чужое асабістае жыццё? Ці не архаіст я? Ці не клерк? Мо і сапраўды адстаў ад жыцця? Дарэмна. Зараз шкадую, што не праявіў тады прынцыповасці і стварыў прэцэдэнт. Варта аднойчы паслабіць супоню, і глядзі, каб цябе не разнеслі. Мая калега на чысцюткай беларускай мове растлумачыла мне, што яна ні ў чым не вінаватая, што стала выпадковай ахвяраю. Я, дурань, паверыў, вельмі ж пераканаўча гучала яе артыстычнае апраўданне. А пасля стаў заўважаць, што не такая яна бяскрыўдная птушка... Зрэшты, не буду пакуль, каб не накаркаць. Мо я і праўда прыдумваю сабе новыя праблемы, каб пасля гераічна з імі змагацца?

Але ж бачу, і з кожным днём усё болей, што наша маладое настаўніцтва не будзе мне прыемным падарункам. І – вось дзе, мабыць, сабака закапаны – з маладымі якраз жа пачала тусавацца і Аксана. Я разумею, яна таксама маладая, лічы, равеснікі. Знайшла сабе асяродак, адчула вольніцу. Разумею, што ў моладзі свае каштоўнасці і прыярытэты. Я нават гатоў прыняць іх псіхалогію і пагадзіцца з тым, што праца для іх – спосаб зарабіць грошы, а не стыль жыцця, што трэба думаць і пра асабістае жыццё. Гатоў прыняць іх пафігісцкую філасофію, каб толькі... каб яны не праводзілі эксперыментаў над дзецьмі. Не на станку балванкі тачыць – гэта ж Аксаніны словы. Чаму ж яна зараз паводзіць сябе, як рамеснік, а не як майстра? І – не ўся такая моладзь, каго не хвалюе... Чаму ў Вольгі Мікалаеўны, якая паспрабавала і савы смалёнай, зусім іншая філасофія? Але і мая таксама ёсць віна. Не магу пазбавіцца ілюзій...

За вокнамі цёмна. Восень. Цямнее хутка. Не дачакаўшыся нас, пазнікала баб'ё з бухгалтэрыі. Час і нам ісці дадому. Бяру Вольгу за руку, і разам

выходзім на вуліцу. Акунуўшыся ў цемру, жмурым вочы, нязвыкла пасля яркага святла. Бадай, вобмацкам ступаем па коўзкім асфальце. Намачыла, а сёння нечакана і падмарозіла. Першы слабенькі галалёд.

– Мо не трэба мяне праводзіць, Віктар? – раптам адпускае маю руку Вольга. – І так па ўсёй вёсцы языкамі мыюць.

– А ты спалохалася? Мафіі не спужалася, а вострых языкоў... Ды не ж, – знарок бадзёра адказаў я, – нікуды я цябе не адпушчу, пакуль дадому не праводжу. Бачыш, галалёд?

Я ўладарна вярнуў маленькую, халодную яе далонь, абшчапіў аберуч, каб сагрэць, і мы пайшлі далей.

– Ты верыш у лёс? – нечакана спытала яна.

– Мабыць, веру. Не абыдзеш, і не старайся. Хаця старацца трэба, бо інакш становішся падобным да курыцы, над якой занеслі сякеру. Тая пакорліва кладзе галаву на калоду, пазірае на цябе адным вокам і – маўчыць, чакае смерці... Але пра што гэта мы?.. І чаго ты запыталася пра лёс?

– Вось і я пра тое ж самае. Бываюць імгненні, калі адчуваеш сябе курыцаю і нічога не можаш з сабою парабіць. Здавалася б, усё нармальна, усё спакойна, а на душы – неасэнсаваная трывога і пачуццё ўласнага бяссілля.

Я насцярожана зірнуў ёй у твар. Вачэй не ўбачыў, цёмна, аднак, яшчэ мацней сціснуўшы яе далонь, адчуў, як часта, неспакойна б'ецца пульс. Штосьці яе трывожыць.

– Ты проста стамілася, Вольга, – паўтарыў я сёння ўжо двойчы, – вось зараз прыйдзеш дадому, адпачнеш, і заўтра ўсё як рукою здыме.

Далей мы ішлі моўчкі, размаўляючы аднымі далонямі. Хацелася маўчаць.

Я праводзіў Вольгу да павароткі. Да хаты, дзе яна жыла на кватэры, заставалася метраў трыста, калі Вольга раптам вырвала далонь:

– Усё, далей адна пайду. Дзякуй.

– Ты што, галалёд жа.

– Адна пайду... Выбачай. У мяне такая гаспадыня, ты не ведаеш. Заўтра ўсе Сматрычы зашумяць. Бачыць праз сцены, – Вольга засмяялася.

– Ну й няхай бачыць... – зноў пачаў я. Але яна абарвала рэзка, голасам старшыні калгаса:

– Ідзі дадому. Позна ўжо, – і дадала мякчэй, – дзякуй, што правёў, ты не хвалюйся...

Я – хлопчык. Шаснаццацігадовы падлетак. Той самы падлетак, якім сябе ўяўляю. Раптам закарцела абняць і – цалаваць, цалаваць гэтую кволую, незямную прыгажосць, якая звалілася на мяне быццам з неба. Але я зусім падзіцячы разгубіўся і, слова нават не сказаўшы на развітанне, павярнуўся ды пайшоў, увабраўшы галаву ў плечы. У мяне, трыццаціпяцігадовага мужыка, не хапіла рашучасці.

Ішоў надзвычай шпарка, аддаляючыся ад свайго мо апошняга ў жыцці шансу на «простае шчасце людскае». Бадай, бег дадому, пакутліва цягнуў на плячах цяжкую, не патрэбную нікому, бяздумную галаву. Каб хто бачыў тога шаснаццацігадовага дурня. Каб бачылі пацаны, кепікаў не абраўся б.

Я вельмі хутка, трагічна хутка пакінуў Вольгу адну ў тую ноч. Адну сярод наледзянелай, коўзкай і пустэльнай вуліцы. Каб ведаў! Не магу сабе дараваць...

...А дома мяне чакаў сюрпрыз...

Толькі прыйшоў, як у хату ўварвалася Аксана. Заспела мяне знянацку. Каго-каго, а яе не чакаў. Зрэшты, я нікога не чакаў. Пасля таго, як мае былыя

выпускнікі і сябры (баюся гэтага слова – «былыя») пакінулі хату, яна па-сапраўднаму апусцела. На злосць мне, на радасць ворагам. І нудна стала ў хаце, і цяжка было зноў прывыкаць да адзіноты. Не верце нікому, што адзінота ўласцівая чалавеку. Не верце, што яна бывае вабнай, што суцяшае і супакойвае. Мы нараджаемся і паміраем адзінокімі. Так, але ж паміж гэтымі дзвюма імгненнямі – цэлае жыццё. І па-сапраўднаму няшчасны той, хто не знаходзіць спадарожніка па жыцці. Хаця-нехаця, пад прымусам абставінаў, ты звыкаешся са сваім лёсам. Але ж, як толькі хтосьці адчыняе дзверы тваёй хаты, звычка гэта выпарваецца, як лёгкі летні дождж ык. А пасля прывыкаеш па-новай, і чакаеш, і спадзяешся, што нехта зноў адчыніць дзверы і ты зноў будзеш не адзін.

Праўда, дзверы, бывае, адчыняюць па-рознаму. Аксана заляцела ў хату, нават не пастукаўшыся, што ўвогуле на яе, дзяўчыну выхаваную, было не падобна. Вельмі ўсхваляваная, вочы адчайна, нядобра блішчэлі.

– Што здарылася, Аксана? – спалохаўся я.

– А нічога! – адказала з выклікам, яе халодна-безуважныя вочы ўставіліся на мяне і ... нічога не бачылі. – Проста я... Я болей не хачу, не буду болей з вамі працаваць. Падпішыце мне заяву, – яна дастала з кішэні пакамечаны лісток, які мог быць чым заўгодна, толькі не дакументам.

– Падпісаць заяву?! Якую заяву? Аксана, скажы толкам...

– Я для вас Аксана Валер’еўна, – не даслухаўшы, адрэзала яна, – што вы са мною, як з дзяўчынкаю?

– Нават так? Выбачайце, Аксана Валер’еўна. І ўсё ж не разумею, што за спешка? Гэты позні, лічы, начны візіт... – мяне таксама пачынала калаціць і заносіць на паваротах. Урэшце ж і я не хлопчык, з якога можна віць вяроўкі. Чаму я павінен апраўдвацца перад дзёрзкім, калючым дзеўчанём і прасіць у яе прабачэння? Што я такога зрабіў? За што яна мяне пачала ненавідзець? Вось ужо сапраўды, добрымі намерамі вымашчана дарога ў пекла...

– Дык вы падпішаце маю заяву? – сурова глядзелі на мяне чужыя, поўныя нянавісці вочы.

– Гм, разумееце, Аксана Валер’еўна, такія справы па начах не робяцца. Заўтра прыходзьце ў школу і... Мы ж з вамі ў школе працуем, а не ў дзіцячым садку. Пакінуць працу сярод навучальнага года? Для гэтага павінны быць вельмі важкія прычыны. Вы, вядома, маеце права, але ж... Але, калі вы чалавек сур’ёзны і адказны, а не дзяўчынка, як вы кажаце, малахольная, то разумееце, што існуе такое паняцце, як вытворчая неабходнасць.

– А я дзяўчынка! Дзяўчынка малахольная! – закрычала Аксана ў істэрыцы, і я зразумеў, што яна... п’яная. – Мне гуляць хочацца. «Мы маленькие дети, нам хочется гулять», – заскакала яна раптам, весела і азартна, за азартам і напускной весялосцю хаваліся безвыходнасць і адчай, – а вы нам, таварыш дырэктар, не дазваляеце. Вы вельмі строгі і занудлівы. Эх, несучасны вы, Віктар Фёдаравіч!

– Можа, хопіць крыўляцца, Аксана Валер’еўна? Тут вам не цырк, – мяне ахапіла сапраўдная злосць.

– А я і не крыўляюся. Адкуль вы ўзялі? Вельмі нават прыстойна сябе паводжу. Ва ўсякім разе, чужых жонак ад мужоў не адбіваю.

– Што-о?! – Далібог, я адразу і не змікіціў, пра што яна.

– А нічога! Усе Сматрычы ведаюць, а ён чыстаплюйчыкам прыкідваецца. Інтэлігенцік. Дзетак выхоўвае. Перапрацаваўся. Сябе спачатку выхавайце...

– Вы п’яная, калега!

Вось і зноў я прыніжаны, прыціснуты да зямлі. Зноў абліты памыямі. На гэты раз атрымаў поўху ад сябра, ад калегі і аднадумца, якому давяраў, якога паважаў. Ад каго не чакаў, дык ад Аксаны, што пачне па вёсцы брудныя плёткі разносіць. Няўжо і сапраўды ўвесь свет – бардак?..

– Вы – п'яная, чуеце? Не пайшлі б вы... спаць!

– І пайду, і пайду, – ухапілася Аксана за клямку, – і не трэба мне ваш подпіс. І так з'еду, тае бяды. Заўтра ж і паеду. У горад, да мамы паеду, і капайцеся тут, як чэрві, у дзярме, і думайце, што вы камусьці патрэбныя. Каму вы тут патрэбны?! А жывуць людзі, па-чалавечы жывуць, для сябе, – раптам яна заплакала, не, загаласіла і праз дзверы кінулася на вуліцу.

Я выйшаў следам, адчыніў дзверы і слухаў, як яна бегла і плакала, і нешта крычала мне. Не зразумець было, што. Разабраў толькі:

– Сляпы! Сляпы! Не бачыць нічога, не чуе...

А я і сапраўды не чуў. Не хацеў нават слухаць. Бегчы, даганяць, суцяшаць? Абыдзецца... Вось яна, людская ўдзячнасць. Вось яна, цана сапраўднай дружбы! А я маляваў сабе ва ўяўленні разумны, творчы калектыў аднадумцаў, з якімі лёгка працаваць. Сляпы! Дзіва што сляпы! Прызнацца, дзесьці ў глыбіні душы я і сапраўды марыў пра аўтарскую школу, дзе былі б такія настаўнікі, як Аксана Валер'еўна. Я думаў, што і ёй таксама, як і мне, баліць за дзетак... Нічога не бачу... Ці то не хачу бачыць? Бо веру, як хлапчук, у сапраўдную дружбу. Жыву як у казцы. І колькі б ні ламала мяне жыццё, усё роўна застаюся гэткім юродзівым аптымістам. Сапраўды, калі няма розуму, то і лыжкай яго не накладзеш.

Захапляюся кожным новым чалавекам, якога сустракаю ў жыцці. Веру яму, давяраю, ляплю з яго ў сваім хворым уяўленні ледзьве не вобраз Бога. Не ўмею не толькі адрозніваць ворагаў, але і шукаць ды знаходзіць сапраўдных сяброў.

Прыкра, калі даймаюць, жыцця не даюць ворагі. Але ж калі здраджваюць сябры – намнога горш. Становіцца нясцерпна балюча і не хочацца жыць. А мо і няма на свеце сапраўднае дружбы, а ўсё толькі намалявана хворым нашым уяўленнем?

Чаму так подла здрадзіла Аксана, якой я ніколі не жадаў злога, з якой заўсёды дзялілі напалам радасць і боль? Выслухоўваў яе споведзі, чым мог, дапамагаў: парадаю, заступніцтвам, проста добрым словам. За што яна абразіла мяне?

Аксана – п'е! Нонсенс. Штосьці здарылася. Што магло здарыцца? Сляпы! Глухі! Ты нават не пацікавіўся, мо чалавеку балюча было ды хацелася выгаварыцца. Няйначай Грышка зноў разышоўся і буяніць, мо з хаты выгнаў? Але ж чаму яна на мне зганяе злосць? Не называйце яе, бачыце, дзяўчынкай! А як жа цябе называць, мо настаўніцай – з такімі вось каленцамі? Я ніяк не мог дараваць Аксане яе бязглуздай выхадкі і, як ні стараўся, не было ў мяне да яе шкадобы.

«Чужых жонак не адбіваю»... Слухай, Журнал! Ды яна ж... яна прыраўнавала цябе! Эўрыка! Не можа быць! «Сляпы, глухі, не бачыць, не чуе»... Але ж і сляпы ты, чорт. Няўжо, вясковым плёткам паверыўшы, прыраўнавала мяне да Вольгі? Ды Вольга ж па ўзросце, лічы, дачка мая...

Зацьменне нейкае. Раўнуе – значыць... кахае? Цьфу ты! Анекдот. Хіба такога можна пакахаць – замшэлага і асфальтава-цэментнага? Тое самае, што ўцюрыцца ў ледзяную глыбу ці цалавацца з калодаю. Весела! А што, калі праўда? Каго любіш, таго чубіш... Аднак і стары ты, гіцля, простыя рэчы

развучыўся разумець. Бедная, бедная-няшчасная мая дзяўчынка, хіба я цябе варты? Дошкі сухія сасновыя хутка мяне пакахаюць. Але ж не забароніш і не загадаеш сэрцу. Сляпое, кaварнае яно, нераздзеленае каханне... А я думаў, сябруем... Ёлупень стары! Аксанка-Аксанка! Не дачакалася ад тоўстай гнілой калоды за ўвесь час не тое, што пацалунку, хаця б элементарнага знаку ўвагі. Аднойчы лопнула цярпенне, і сабралася ўцякаць адсюль, на ўзвей-вецер, на скрут галавы. Але ж у цябе, дзетка, тут сям'я, хата... Школа, нарэшце... Не, Аксаначка, я цябе, даражэнькая, са школы не выпушчу, бо такія спецыялісты, як ты, пад нагамі не валяюцца.

Ад такіх думак мне зноў стала спачатку весялей, а затым і лягчэй на душы. І, крыху супакоіўшыся, вырашыў я класціся спаць. Пакуль не перадумаў, пакуль не сплёў у сваім уяўленні іншую версію. З гэтай нізашто не хацелася расставацца, хаця разумеў, што і яна можа стацца ўсяго толькі плёнам майго хваравітага ўяўлення. Разумеў, таму і трымаўся за яе аберуч. Што ні кажы, прыемна ўсведамляць, што ты камусьці патрэбен і што цябе нехта кахае...

...Школа – як растрывожаны вулей. Не паспеў я ступіць на ганак, як малыя шпэнды данеслі:

– Віктар Фёдаравіч, у беларускім кабінеце акно выбіта.

Толькі не хапала... Надзвычай жвава для сваёй камплекцыі залятаю ў кабінет. Не толькі акно, прыстаўленае похапкам і н*а*смех – залазь у школу, балазе, першы паверх, і што хочаш у ёй рабі. Яшчэ і ў сметніцы – ...бутэлькі пустыя, акуркі ды шкуркі ад кілбасы. Памерці!

Адразу пачынаю следства. Дзеці пагналі за вартаўніком – ён тут зусім побач жыве, бадай, на школьным двары. Прывялі вартаўніка, бы з памыйнай ямы выцягнутага. Бачна адразу, што з бадуна дый не абы-якога. Вачыма лыпае, нічога прыгадаць не можа. А мо не хоча? Рашуча забіраю ў яго ключы і аб'яўляю свабодным чалавекам. Мне такія вартаўнікі не патрэбныя.

Раптам да мяне падбягае Васютка, сын вартаўніка, у трэцім класе вучыцца, плача і слёзы па шчаках размазвае:

– Не выганяйце татку, ён не вінаваты. Гэта я акно разбіў.

– А як жа ты, дзетка, яго разбіў?

– Я хацеў у школу праз фортачку залезці, мяне Галіна Уладзіміраўна з Нінай Аляксандраўнай падсаджвалі, ды ўп*у*сцілі. Я разам з акном і зваліўся.

– Божачкі! А чаго ж ты, Васютка, праз фортачку палез?

– А мяне Галіна Уладзіміраўна папрасіла. Яны там з Нінай Аляксандраўнай ключы ад школы забыліся.

– А чаго ж яны цябе ўп*у*сцілі?

– Бо дужа п'яныя былі, самі на нагах ледзьве ўтрымаліся...

...Карацей, вы любіце дэтэктывы? Навошта хадзіць, браць кніжкі ў бібліятэцы, падвальвайце да нас у школу, папільнуеце тут ночку-другую, і вам пазайздросціць Шэрлак Холмс.

Галіна Уладзіміраўна з Нінай Аляксандраўнай, нашы маладыя настаўніцы беларускай мовы і біялогіі, не паехалі дадому на выхадныя, а засталіся ў Сматрычах, каб весела правесці час. Засталіся – на дыскатэку. Ну, а якая ж дыскатэка на цвярозую галаву? Набралі ў краме «бухла». А дзе яго піць? Сама лепей, у школе. Каму прыйдзе ў галаву шукаць іх у школе вечарам? Падышлі да нашага вартаўніка. Той, як высветлілася, не хацеў іх пускаць, але ж прапанавалі быць трэцім. Як тут адмовішся?!. Падазраю, што не толькі ўтрох былі яны ў той вечар у маім былым беларускім кабінеціку...

Вартаўнік адчыніў ім школу. Выпілі, закусілі. Гэтаму алкашу шмат

не трэба, келіх прыгубіў дый спаць дадому пацёгся. А нашы маладыя спецыялісты працягвалі баляваць. Доўга ці коратка, нарэшце выйшлі (ці то выпаўзлі?), бразнулі дзвярыма, а нашы дзверы зачыняюцца самі. Ды зачынілі ключы ў школе. Хапіліся, што рабіць? А тут, акурат пад руку – Васютка з сябрам. Ішлі на... дыскатэку! Трэці клас! Гэтыя яшчэ не паддалі... Астатняе вы ўжо ведаеце...

Цікава, а што было б, калі б не гнілыя аконныя рамы? Прыйшоўшы на ўрок у свой кабінет, я знайшоў бы ў сметніцы пустыя бутэлькі з-пад «Водару мяты», бляшанку з-пад кількі і лушпайкі ад... сервелату. А кажуць, настаўнікі бедна жывуць...

Дзякуй Богу, засталіся цэлымі кампутары, магнітафон, тэлевізар. Іншага багацця ў нашай школе не шукай. Пакінулі цэлымі замкі, а вось у душу – наплявалі. З нагамі, у брудных ботах, залезлі ў душу. Я ж, чалавек, як мне здавалася, моцны духам, разгубіўся, як хлапчук, не ведаў, што мне рабіць. Калі б трапіліся яны мне пад гарачую руку, я, напэўна, размазаў бы іх па сценцы, дарма што дзяўчаты. Ды хіба ж яны дзяўчаты? З жар-косці не трапіліся. Сёння іх у школе не намалюеш. А заўтра? Заўтра, напэўна, прыйдуць. І не пасаромеюцца, будуць глядзець у вочы. Што мне рабіць?

І праўда, што рабіць? Званіць у аддзел адукацыі, Шышкінай, скардзіцца, што ў мяне ў школе бардак? Прасіць, каб прыняла меры: каб забрала назад гэтых гулёнаў, якія яшчэ нават і не настаўнікі, бо ўсяго пару месяцаў працуюць у школе. У такім выпадку мне і самому трэба прасіцца ў адстаўку. Але ж і сам я пару месяцаў, як дырэктар. Званіць у міліцыю? Абсурд! Не, трэба разбірацца самому і, хочаш не хочаш, трэба... дараваць гэтым путанам у настаўніцкім абліччы. Выбачайце, іншых слоў для іх не знаходжу.

Зачыніўся ў кабінеце, чаго ніколі раней са мной не здаралася. Я ўвогуле не люблю кабінетаў, і свайго таксама, бо ён адгароджаны ад настаўніцкай перабойкаю, няхай сабе і тонкаю, праз якую ўсё чуваць, але ж атрымліваецца – я адгароджаны ад настаўнікаў. Я не Пагодзіна, стукацца да мяне ў кабінет настаўнікі не будуць. Але ж і дзверы нават зачыняць грэх. А тут – схаваўся, як барсук, у нару, сяджу, перажываю.

Чую, у настаўніцкую зайшла Сяўніцкая. Даволі рэдкая з'ява. Звычайна ж сядзіць у той школе, дзе яе малодшыя класы. Сяўніцкая перабудавалася. Уявіце сабе, у мяне зараз да яе як да спецыяліста пытанняў меней, чым да каго іншага. Але як да чалавека... Яд застаўся, адно што язык змяіны схавала глыбей, на ўсякі выпадак. Уяўляю, якой шчаслівай была б Вікторыя Аляксееўна, каб убачыла аднойчы ў гэтым кабінеце кагосьці іншага, а не мяне.

Сяўніцкая забегла і адразу ж з парога давай расказваць. Па голасе чую: узрушаная, радасная, ледзьве не смяецца. Ну, не можа чалавек схаваць сваёй зласлівасці.

– Чулі, кажуць, старшыніха наша ці то ў бальніцы, ці ў рэанімацыі?..

– Якая старшыніха? – перапытваюць нашы.

– Ды новенькая, што ў калгас прыехала.

Куляй вылятаю з кабінета, забыўшыся, што я дырэктар.

– Як у рэанімацыі?! Вы што, Вікторыя Аляксееўна, я ж учора бачыў яе. Хто вам такое сказаў?

– Хто сказаў? – Баба хітра, ці не ад задавальнення, зажмурыла вока. – Ды ўсе Сматрычы гудуць. Я думала, і вы ўжо чулі. Кажуць, учора цёмначы яе ля хаты нехта падпільнаваў і збіў на горкі яблык. Валасы, кажуць, павыдзіралі. Мора крыві там стаяла...

Усе анямелі. А Баба, наадварот, завялася. Яна бачыла, як мяняўся мой твар, як вусны дрыжэлі, бачыла і цешылася.

– За работу, кажуць, узялася дужа пільна. Крыччу сядзіць да вечара, калгас падымае. А цёмначы адна дадому вяртаецца, – Баба выразна зірнула на мяне. – Хіба ж можна па нашых Сматрычах ноччу адной хадзіць? Некаму не ўладзіла, вось і падпільнавалі, – пастаяла, памаўчала, чакаючы, ці хто азавецца, падтрымае яе. Ніхто не азваўся. – А іншыя кажуць, што ёй і не наўд*а*. Ну, ды гэта яе дзела, дзела маладое, муж далёка, мо каму дарогу перайшла?..

– Як вам не сорамна, Вікторыя Аляксееўна, збіраць па вёсцы плёткі? – не вытрымаў я. – Калі і праўда мо людзі «аддзячылі». Чалавек стараецца, для вас жа саміх, а вы... – у мяне здалі нервы і, каб не бачыць ды не чуць, я выйшаў за дзверы, праўда, на гэты раз спакойна, годна. Балазе, у гэты час і званок празвінеў. Але ж за дзвярыма яшчэ пачуў Бабіна здзеклівае:

– Вось так і бывае, з вялікага розуму і чорт вяселле згуляў. Распусціліся ў тых інстытутах. Кажуць, чаго там толькі няма...

Далей я слухаць не стаў, пайшоў на ўрок. Але і на ўроку не стала мне спакайней. Хаця ў пятым класе можна на ўсё забыцца. Дзіва, але ў нашай школе зноў узніклі праблемы з дысцыплінаю на ўроках. Ды дзе? У пятым класе. Іншыя маладыя настаўнікі вылятаюць з гэтага шалапутнага класа ў слязах і скардзяцца мне, што болей туды не пойдуць. Для мяне гэта нонсенс. Ды я ўвогуле лічу, што дысцыпліна на ўроку залежыць не ад дзяцей, а ад настаўніка. Проста іншыя настаўнікі правакуюць пэўную сітуацыю, і тады дзеці не слухаюцца. Ну, а дырэктар мусіць дапамагаць наводзіць дысцыпліну, хаця зрабіць гэта за кагосьці іншага вельмі няпроста. Пакуль я на ўроку, у пятым дысцыпліна ідэальная, калі ж пакідаю настаўніка аднаго, там раптам пачынаюць жаніць чарцей.

Прыйшоў на ўрок, па інерцыі працую, а настрою свайго ўсё роўна схаваць не магу. Шустрыя, вясёлыя, забаўныя дзеці, якія можна з імі мець праблемы? Імгненна ўгадаўшы мой настрой, яны прыціхлі. Няўжо суперажываюць, так, як гэта ўмелі мае былыя дзевяцікласнікі, не суперажываў ніхто. Прайшло паўгода, як я расстаўся са сваім былым класам, але дагэтуль без рэўнасці не магу глядзець на малых... А яны, далібог, нечым падобныя. Нездарма ж многія лічылі мой дзявяты «бандыцкім» класам. Менавіта ім на змену павінны былі прыйсці гэтыя пяцікласнікі, калі б мяне не запрэглі ў дырэктары. Не прыйшлі... Добра гэта ці не? Што ні робіцца, усё да лепшага...

Урок цягнуўся надзвычай доўга. Ледзьве дачакаўся перапынку. І па званку на наступны ўрок, калі настаўнікі разышліся па класах, я сабраўся ды пайшоў са школы. Трэба было нешта рабіць, неяк даведацца пра Вольгу, але як? Званіць у рэанімацыю ды смяшыць людзей, паверыўшы Бабіным плёткам? Тым болей, не хацелася тэлефанаваць са школы, дзе на гэты момант у мяне няма ніводнай роднай душы. Як ні прыкра прызнацца, але насамрэч, страціўшы Аксану, я застаўся ў ізаляцыі. І хаця зараз не трэба ні з кім ваяваць за месца пад сонцам, але ж сёння злавіў сябе на думцы, што мне непрыемна заставацца ў школе. Пайсці дадому і адтуль пазваніць у калгасную кантору? Але ж, калі і праўда нешта здарылася з Вольгаю, кантора недзе святкуе. Ці варта дабаўляць ім шчасця?

Усё ж пазваніў, але не ў бухгалтэрыю, а ў прыёмную. Там на машынцы друкуе Марынка, мая былая вучаніца, добрая дзяўчынка. Яна мне і расказала... Сапраўды, на Вольгу нехта напаў, учора, калі я – закон

подласці – не давёў яе да дома якіх трыста метраў. Вольга сядзіць дома, пра рэанімацыю наплялі. Марынка была ў яе сёння раніцой, Вольга як бы пад хатнім арыштам. Справа ў тым, што гаспадыня, дзе Вольга на кватэры, жанчына вельмі своеасаблівая, і характар у яе – не падарунак. Дарэчы, сама яна таксама з былых канторшчыкаў. А ці там энергетыка благая, што так выварочвае-калечыць людзей? Карацей, гаспадыня нікога не пускае да Вольгі, і Марынку пусціла толькі, калі Вольга сама да яе выйшла. Гаварылі пра справы. На працу пакуль яна не пойдзе, твар не фотагенічны.

І якія ж нелюдзі паднялі руку на гэтую кволую дзяўчынку? Зірнуць бы ім у вочы, а то і пагаварыць па-мужчынску. Ці не падняла хвост «малочная мафія», пра якую Вольга казала кагадзе? У любым выпадку, ёй зараз трэба паводзіць сябе архіасцярожна. Усё роўна лбом сцену не праб'еш, а вось загубіць жыццё маладое можна, як пeрыну абсмаліць.

Трэба абавязкова сустрэцца з Вольгаю, засцерагчы яе, папярэдзіць. Няхай сядзіць і носа не паказвае, калі не хоча яшчэ большых непрыемнасцей. І – трэба абавязкова знайсці яе крыўдзіцеляў. Калі сам не знайду, падключу ўсю сваю агентуру. Не можа быць, каб мае сябры мне не дапамаглі. Хай сабе яны і не так часта зараз бываюць у Сматрычах, але ж на выхадныя прыязджаюць. А падлеткі ведаюць болей, чым мы, дарослыя. А мо Вольга і сама што ведае, бачыла? Па-любому, зло не павінна заставацца беспакараным. Але як жа з Вольгаю сустрэцца? Некалькі разоў званіў да яе на кватэру, падымае трубку гаспадыня, і я, тэлефонны хуліган, хуценька націскаю на рычаг. Маладушнічаю. Здавалася б, чаго мне, дарослаcalled чалавеку, баяцца? Але я баюся гаспадыні, якая вельмі ж раўніва аберагае сваю кватарантку.

Я стараўся заспакоіць сябе, засяродзіцца на нечым іншым, але з галавы не выходзіла Вольга. Невядомасць прыгнятала, і я вырашыў ісці напралом. Урэшце ж, не бандыт, не гангстэр і не якісьці там назойлівы кавалер. Я – дырэктар школы, чаму не магу зайсці да старшыні калгаса?

Падрыхтаваўшыся як след, прыхапіўшы для парадку службовы дыпламат, рушыў я да Вользінай хаты. О, каб гэта была яе ўласная хата! Якой жа далёкай і пакутлівай дарогай здаліся мне з паўкіламетра па вёсцы, да яе кватэры!

Каб ведаць, я паступіў бы хітрэй: не пайшоў напралом, а пастараўся б нейкім чынам прыцягнуць увагу Вольгі. Пасляць, напрыклад, каго з дзяцей. Не, я самаўпэўнена пайшоў на штурм, думаючы, што перада мною падзе любая Бастылія. І за сваю празмерную самаўпэўненасць быў жорстка пакараны.

Адчыняю веснічкі, рашуча кірую да хаты. Раптам на дарозе вырастае гаспадыня:

– Куды? А я цябе, мілок, сюды не клікала. Ходзяць тут усякія! – узнагародзіла мяне пранізлівым позіркам.

– Прабачце, я не ўсякі. Вы мо не ведаеце, я – дырэктар школы. Мне патрэбна Вольга Мікалаеўна.

– Ходзяць тут усякія... дырэктары. Дзяцей вучы, калі ты дырэктар, а не бегай па... – тут яна завярнула такое слоўца, што змусіла мяне, чалавека бывалага, які чуў усялякае, пачырванець.

– Што за тон? – павысіў я голас. – Мне трэба бачыць старшыню калгаса. Справа пільная.

– Ведаем мы вашы пільныя справы, – як азвярэла гаспадыня, – у вас, гіцалёў, адно ў галаве. А табе, дырэктар, сорамна сем'і разбіваць... Ад жывых

мужоў, ад дзяцей бегаюць... Нікуды не пушчу прадсядацельніцу. Трэба было па маладосці гізаваць, няма чаго дурніцца да сівога валаса.

Гэта ўжо было занадта:

– Ды хто вы такая? – ускіпеў я.

– Вось я табе зараз пакажу, хто я такая, спакуснік чортаў! – пагрозліва паказала кабета кулак, павярнулася і пайшла ў хату.

– Лячыцца вам трэба! – кінуў я ёй наўздагон і, як пабіты сабака, паклыпаў па вуліцы назад.

Ішоў, не разбіраючы дарогі, сам не ведаў, куды. Адчуваў сябе размазаным па сценцы. Не наіўны хлапчук, я да сённяшняга дня, аднак, не думаў, што зло можа гэдак балюча раніць. Ведаў, што можна весці вайну, надта не абцяжарваючы сябе рамкамі прыстойнасці, але з чалавенкам-ломам сустрэўся ўпершыню. Да таго ж гэта была жанчына, на якую і рукі не падымеш. Я ішоў сюды, падрыхтаваўшы зусім іншую зброю, а гэтая зброя procі лому аказалася саломінкай. Атрымаў удар, як кажуць, ніжэй пояса і апынуўся ў накаўце. Толькі б хапіла сілы дапаўзці дахаты. Не распранаючыся, заваліўся ў ложак. Не важна, што на вуліцы лістапад, а мая печ, як лядоўня. Не важна, што няма каму прынесці мне ў ложак гарачай кавы і пасядзець ля мяне, пашкадаваць ці суцешыць. Якая кава, у хаце няма смажанай бульбіны, і сябры далёка, не прыбягуць. Эх, не ведаюць яны, як мне сёння цяжка! Дырэктар школы накрыўся з галавою коўдраю, хоць коўдра цёплая, ватняя. І ўсё роўна яго калоціць. У дырэктара глыбокая дэпрэсія. Мо напіцца? Але ж гарэлка, якая заўсёды пад рукою, яшчэ ніколі не прыносіла мне палёгкі ў ліхую часіну. Застаецца адно – ляжаць і думаць, чакаць сну і ведаць, што ён не прыйдзе да раніцы. А раніцай зазвоніць будзільнік, і, хоць з таго свету, трэба падымацца, гнаць дэпрэсію, альбо пасылаць яе куды далей, як тая шалёная кабета... Сабраўшы кніжкі, ісці ў школу. Школа – мой крыж і мой паратунак, шчасце маё і гора. прызванне і лёс... У школу-у-у!!!

* * *

Канікулы! У маім дзяцінстве, якое запомнілася зусім не дзіцячымі клопатамі, канікулы былі, бадай, самай радаснай падзеяй. Помню, як я стамляўся, асабліва ў старэйшых класах, калі кожны раз ездзіў у гарадскую школу. Бывала і па сем урокаў, а восьмай стаўлялі класную гадзіну. Ледзьве вытрымліваеш. З урокаў галопам гарцуеш на вакзал, каб паспець на аўтобус. Добра, тады яшчэ хадзіла з райцэнтра да нашай вёскі багата аўтобусаў. А палове на чацвёртую – зімой ужо і прыцемак – выбягаеш са школы і – праз увесь горад наўскапыты. Бо ў чатыры – аўтобус, а наступнага трэба чакаць да позняга вечара. Было, што і не паспявалі, тады дванаццаць кіламетраў часалі пешшу, галасуючы кожнай падарожнай машыне, а тыя не хацелі спыняцца. Гэткі навар кіроўцу ад школьніка, у якога заўсёды кішэня пустая! Падымаешся ў шэсць гадзін раніцы. Есці яшчэ не хочацца, у горле ежа перасядае. Першы голад прагоніш, каб маці не засмучаць, і паехаў. Вечарам прыедзеш, не ведаеш, як наесціся. Вось ён і няправільны абмен рэчываў, адсюль і жывоцік, які расце з малалецтва. Паеў, а пабегаць, адпачыць на свежым паветры часу няма. Трэба гібець над кніжкамі. Задавалі нам на дом вельмі шмат. Кожны настаўнік лічыў сваім абавязкам загрузіць нас, шаснаццацігадовых бэйбусаў, як завязаць. Кожны настаўнік быў упэўнены, што яго прадмет самы важны. Загружалі, не пакідаючы аніякае шчыліны

для асабістага жыцця. І нікому не было справы, ці будзем мы здаровымі. І здароўя не было з малалецтва. Рос я нейкім няправільным, мабыць, хворым падлеткам. Цяпер вунь плююць на дамашнія заданні. Мо і правільна робяць. Усё ведаць не будзеш. А жыццё ў чалавека адно. Плююць і бягуць гуляць, на прыроду, на дыскатэку. Я ж быў хваравіта-правільным. Настолькі «правільным», што сумленне не дазваляла мне не вывучыць урока, пайсці не падрыхтаваным у школу. Я мог толькі не асіліць якую задачу ці прыклад. А каб не захацець вывучыць урок – такога я не ўяўляў. Дзіваком быў. Зрэшты, такім і застаўся па жыцці. Вучоба давалася мне нялёгка. Бывала, карпеў над падручнікамі да позняга вечара. Час заставаўся толькі каб перакласці кніжкі і – спаць. Бо заўтра зноў трэба падымацца на досвітку, бегчы на ранішні аўтобус.

Такое вось зусім не дзіцячае дзяцінства, юнацтва. Быць занадта «правільным», асабліва ў юнацтве, калі тваё жыццё яшчэ толькі сустракае вясну, часам вельмі дарагога каштуе. Вось і мне тая «правільнасць» каштавала ў далейшым праблем не толькі са здароўем, але і з асабістым жыццём. Ва ўсякім разе, аднакласніцы па тым часе абыходзілі мяне далёка, напэўна, думалі, што я хворы, а ці занадта горды. Такі імідж і суправаджае мяне па жыцці. І зараз, на чацвёртым дзесятку, адумаўшыся ды паразумнеўшы, я ўжо і рады быў бы парваць са сваёю «правільнасцю», вярнуцца да нармальнага жыцця, ды позна. Няма да чаго вяртацца. Маладосць прамчалася паўз мяне па запасной лыжні, пакінуўшы мяне сам-насам з лёсам. Маладосць мяне «пракінула», бо пад ляжачы камень вада не цячэ...

Вось так нецікава – аднастайна і шэра – праходзіла маё юнацтва. І кожнага разу, адпраўляючыся ў школу, чакаў я, не мог дачакацца канікулаў.

Канікулы – святое. Да падручнікаў на канікулах я нават не падыходзіў. Як ні стараліся настаўнікі завал*а*ць мяне на розныя канікулярныя мерапрыемствы, я супраціўляўся страшэнна і ад школы ў гэты час імкнуўся трымацца як мага далей. Якая лухта – розныя «кніжчыны тыдні», «зялёныя дэсанты» па зборы яловых шышак у лесе. Помню, аднойчы мяне, «харашыста», нават прапясочылі за тое, што шышкі не хадзіў збіраць. Усё роўна, сачкаваў, як мог, ад гэтай грамадскай навалы. А яшчэ – алімпіяды. Іх прыдумалі дарослыя, мабыць, знарок дзеля таго, каб не даць дзецям нармальна адпачыць на канікулах. Гэта зараз удзельнікам алімпіядаў абяцаюць даброты: прызы, нават прэміі даюць, ільготы пры паступленні. Раней жа на алімпіяды ездзілі выключна дзеля «галачкі», дзеля таго, каб не драконілі настаўніка, які павінен быў паслаць двух-трох чалавек на раённую алімпіяду па сваім прадмеце. «Алімпійскіх» прадметаў з кожным годам станавілася ўсё болей, а бедных выдатнікаў і харашыстаў не прыбаўлялася. Вось і перацягвалі іх настаўнікі-прадметнікі кожны да сябе. Тут і бізун, і пернік ішлі ў ход. І ўгаворвалі, і пагражалі знізіць адзнаку за год. І ўсё роўна я не ездзіў на алімпіяды. Хаваўся, філоніў, зразумела, перажываў, нерваваўся. Канікулы – святое. Добра выспацца, позна ўстаць, схадзіць на вуліцу, на свежае паветра – на возера ці нават у лес. Праўда, хадок я, асабліва зімою, быў неважнецкі. Прывык увесь час дома сядзець. А вось на вясновых канікулах і мяне было ў хату не загнаць. Акурат у гэты час бурна раставаў снег. Зімы ж тады былі сапраўдныя, і сапраўднымі былі вёсны. Раставаў снег, звінелі раўчукі на пратапінах, на аголенай пашы важна пахаджвалі гракі, у небе жаўрук спяваў аптымістычную рапсодыю, а свежую, толькі што змайстраваную мною шпакоўню прылятаў паглядзець шпак. Агледзіць

прыдзірліва, ухвальна мне заспявае і крылцамі арганізуе бурныя, працяглыя апладысменты. Ну, дзе ж тут будзеш сядзець у хаце!

Зімою на вуліцы няма чаго рабіць, затое ў хаце даўно чакае тэлевізар, на які вечна, калі вучыўся, не хапала часу. І, вядома ж, зачакаліся кніжкі. Не тыя ненавісныя мне падручнікі, а кніжкі цікавыя, па-сапраўднаму мастацкія, жаданыя. Кніжкі я мог чытаць запоем. Зачытваешся і не заўважаеш, што людзі даўно ўжо бачаць дзясяты сон, а на гадзінніку – трэцяя гадзіна ночы.

Канікулы – клас! Як ніколі, у гэты час можна доўга і плённа быць самім сабою, балдзець ад незвычайнай свабоды.

Адзіным школьным мерапрыемствам, якое я прызнаваў на канікулах, быў навагодні вечар. Рыхтуешся да яго загадзя, мо за месяц ці нават болей. Думаеш, які табе сёлета зрабіць касцюм, у каго пераўвасобіцца? Першы раз я вырашыў быць Газеткіным. Доўга маці шыла мне касцюм, бо не так было проста пашыць трывалы і прыгожы – з газет. Затое на вечары выглядаў я ледзьве не каралём, бо роўных мне не было. Наступны год мне захацелася стаць разбойнікам з вялікай дарогі. Падобнага Робін Гуда таксама больш на вечары не аказалася. Нездарма ж бацька вытачыў мне вялізную драўляную фінку, гострую, як бы сапраўдную, і – пісталет. Фінку і пісталет я размалёўваў сам рознакаляровай гуашшу, а затым пакрываў цяслярным лакам. Зброі маёй зайздросціла ўся хлапечая палова школы. І гонар перапаўняў мяне. То была сапраўдная насалода, якую прыносіла мне школьная навагодняя ёлка. Я сам прыдумваў сабе рэпертуар: сачыняў вершы, песні спяваў, расказваў показкі і нават паказваў фокусы. І зараз дзіўлюся, адкуль бралася столькі фантазіі! Калі ж падрос, мяне прасілі быць Дзедам Марозам. Хлопец я быў цыбаты, акурат на Дзеда Мароза падыходзіў. Спачатку я не надта быў рад прыдуманай для мяне новай ролі. Як бы там ні было, але ж яна абмяжоўвала маю фантазію, бо ролю прыдумалі іншыя. Але затым прывык, і Дзедам Марозам быць мне таксама спадабалася. Тым болей, што словы для выступлення, зноў жа, я сачыняў сам. Такім вось і рос – упартым і самастойным да фанатызму. Я ніколі не цярпеў прымусу ў дзяцінстве і не цярплю яго зараз.

Але ж цікава ўспомніць, як мы, бывала, рыхтаваліся да навагодняга вечара. Хлопцы, дзяўчаты самі, без прымусу, заставаліся пасля ўрокаў, рэпетаравалі сцэнкі, шылі сабе касцюмы. Часам нават класны кіраўнік не ведаў, што рыхтуюць дзеці да Новага года, і толькі перад самым балем яго пасвячалі ў таямніцу святочнае праграмы. І то дзеля таго, каб вядучыя ведалі, якія будуць нумары і што за чым аб'яўляць. Усім было надзвычай весела, цікава. Усе мы былі рамантыкамі і летуценнікамі.

Не разумею, што сталася з нашымі дзецьмі? Якая іх муха ўкусіла, ці які заганны ген перадалі мы ім у спадчыну? Паглядзіш – падлеткі як падлеткі: вясёлыя, няўрымслівыя, шустрыя. Але страшэнна безыніцыятыўныя, аморфныя, апатычныя. Рыхтую, бывала, са сваім дзявятым Новы год ледзьве не з папругаю ў руцэ. Якая там ініцыятыва, калі крычаць дзіччу:

– Хіба нам болей за ўсіх трэба?

Пардон. Мерсі. А каму трэба? Мне, даросламу чалавеку, зноў, успомніўшы юнацтва, бегаць ля ёлкі ў касцюме Газеткіна ці Разбойніка і весяліць вас? Ім, бачыце, не трэба. А пасля ныюць: чым заняцца, чаму так сумна? І на канікулах сумна, і ўвогуле, па жыцці. Жыццё стала сумнае, таму што мы самі хочам так жыць, лянуемся паварушыць пальцам, каб неяк яго зыначыць, зрабіць разнастайным, цікавым. Мае юныя сябры пасоўваюцца на школьнай дыскатэцы павольна і флегматычна, як тая Прыпяць, што нясе сухадоламу

Дняпру сваю багатую даніну. Яны хаваюцца па кутах, не выходзяць на танец, уцякаюць ад дзяўчат, можа, баяцца паказаць, што танцаваць не ўмеюць? Быў я не раз на дыскатэцы і ў нашым клубе. Стануць у круг дзяўчаты, танцуюць адны. Хлопцы паявяцца на хвіліну, прыціснуць вушы, як зайцы, учуўшы небяспеку, пастаяць, шырокімі плячыма сценку падпёршы, і – шусь за дзверы.

За клубам цікавей: там бутэлька адна на трох і ў лепшым выпадку цыбуліна на закусь ці яблык. Суседава п'яная морда кружыць галаву куды болей, чым дзяўчына, бунтуе кроў, кліча праявіць ініцыятыву. І нарэшце наперад ідуць кулакі. Вось і ўся рамантыка, вось і ўсё летуценне.

Ды што там дзеці – дарослы свой калектыў не магу ніяк разварушыць. Спіхнулі сяк-так навагоднія маскарады, выкінулі ёлку зімаваць на школьны задворак. Дачакаліся і настаўнікі канікулаў. Ім таксама адпачыць хочацца. Вырашыў я на свой страх і рызыку зрабіць для маіх настаўнікаў адпачынак. Чаму на страх і рызыку? Таму, што нікому не дакажаш, калі зловяць нас на тым, што настаўнікі на канікулах гуляюць, у школу не ходзяць. А што ім, калі шчыра, там рабіць? Прывесці ў парадак кабінет, разабрацца з нагляднасцю – дзень-два ад сілы. Ды ў добрага настаўніка нагляднасць заўсёды цэлая і пад рукою, а кабінет у парадку. Што рабіць у школе астатнія дні на канікулах? Мухі лавіць? Пашкадаваў я свой калектыў і, выклікаючы агонь на сябе, вырашыў распусціць яго на канікулы.

Сабралі педсавет, абмеркавалі ўсе ўмовы. Калі настаўнікі не будуць хадзіць у школу, яшчэ не значыць, што яны не будуць працаваць. З кожным індывідуальна высветлілі, што ён зробіць за канікулы. Кожнаму настаўніку асабіста я даў дамашняе заданне. А каб не злавілі нас за руку вельмі ж пільныя дзядзі ды цёці, для якіх галоўны крытэрый працы – праціраць штаны на рабочым месцы, вырашылі мы арганізаваць у школе на канікулах штодзённае дзяжурства. Дзяжурны заўсёды будзе на месцы, ля тэлефона, адказваць на званкі. А калі якая набрыдзь уздумае прыехаць з праверкаю, дзяжурны заўсёды раскажа, хто, дзе і чым займаецца ў гэты час. А спатрэбіцца – нядоўга і «свіснуць усіх наверх». Такі вось выспеў у маёй галаве канікулярны варыянт. Страшнага нічога тут, на мой погляд, няма. Супраць сумлення мы не ідзем і філоніць не збіраемся. Усё, што намецілі, мы павінны на канікулах зрабіць. А ладзіць спектакль, робячы выгляд, што працуем – гэта не ў маіх правілах.

Параіліся. Намецілі. Разышліся. Настаўнікі мяне падтрымалі і былі вельмі задаволеныя. Але дзяжурылі дзеля адчэпнага. У мяне, вядома ж, хапіла розуму не перадаверыцца ім, пракантраляваць. Падыходжу ў школу, раз, другі – пуста, замок вісіць. Іншыя на дзяжурства прыязджалі, але, крутнуўшыся, тут жа знікалі. Нават Сяўніцкая, якая ніколі раней не прагульвала, тут раптам расслабілася, адчула вольніцу. На дзяжурства спазнілася. Давялося тут жа гароху засыпаць. А на наступны педсавет я прыйшоў з ультыматумам.

Ага, вось так, значыцца, галубочкі, не навучыліся мы пакуль працаваць на даверы, будзем жылы напінаць як заўсёды. Давярай ды правярай. Праверыў. Добрая палова настаўнікаў не выканала маіх дамашніх заданняў. Дарослым двойкі не паставіш і не выклікаеш у школу іхніх бацькоў. Зноў трэба кагосьці ўшчуваць, камусьці рабіць заўвагі – як дзецям. А я яшчэ не прывык да таго, што начальнік, што кіраўнік. Так і не навучыўся камандаваць. Мо і праўда, занадта многа на сябе бяру? А яшчэ пра аўтарскую школу марыў, дзівак. З кім яе будаваць? Зноў паднялі хвост маладыя: агрызаюцца, спрабуюць зубкі паказаць. Думаў, пасля таго, што адбылося, прыціхнуць. Не ж, адчулі

беспакаранасць і нахабнічаюць. Не дзіва. Мераў я тады ніякіх не прыняў, баючыся праславіцца на ўвесь раён. Пашаптаў ім на вушка ды грозна паківаў пальчыкам...

...Біялагіня з беларусічкай з'явіліся на працу толькі праз дзень пасля той начной п'янкі ў школе. Хадзілі, ні сцятыя, ні павешаныя, голасу не падавалі, мне падалося, адчулі сваю віну. Я вечны аптыміст. І вось я заліберальнічаў. Сабраў калектыў, паставіў двух сабутэльніц, як на лінейцы. Яны нават слязу пусцілі, пакляліся нам, што болей не будуць. Дзіцячы сад! Зрэшты, яны яшчэ самі як дзеці – пчале па крылле. Абедзвюм па дваццаць гадкоў, толькі што з коледжа. Пакляліся – мы і паверылі. Дараваў я ім на першы раз. Я ж не ведаў тады, што яны мне яшчэ не пра ўсе свае прыгоды расказалі.

Гляджу, ходзяць мае спецыялісты зацятыя, як ваўчаняты, вачыма зыркаюць з-пад ілба, як бы чагосьці чакаюць. І Аксана, на іх гледзячы, зацялася, прыціхла. Таксама пазбягае са мною вачыма сустракацца. Усё збіраўся пагаварыць з ёю, высветліць урэшце нашыя ўзаеміны. Ды Аксана ўцякала ад мяне. У школе, на ўроках, заўсёднаю была. Нават аднаго разу на ўрок да яе схадзіў, не столькі з праверкаю, болей, каб высветліць, ці змянілася яна, ці можна быць за яе спакойным. Усё нармальна. Урокі па-ранейшаму моцныя, і дзеці любяць Аксану Валер'еўну. Выходзім з класа, асцярожна кранаюся яе рукі, кажу:

– Аксана, што здарылася? Чаму ты ўцякаеш ад мяне?

– Я не ўцякаю, – апусціла вочы. – Скуль вы ўзялі?

– Добра, не ўцякаеш, хай будзе так. Тады давай сустрэнемся з табою сёння пасля ўрокаў. Усё і высветлім.

– Сёння не магу. Кармена дома няма, няма каму малога пакінуць.

– Зноў запіў?

Спытаўся і адразу ж пашкадаваў. Яна зірнула чужымі, ашклянелымі вачыма, зусім як у тую ноч, калі прыбягала да мяне дахаты, адвярнулася.

Вось мы і пагаварылі.

У той дзень у мяне адбылася іншая размова, з іншым чалавекам, якая і праліла святло на многае.

Сяджу пасля ўрокаў у сваім кабінеце, нікуды не спяшаюся, правяраю дамашнія сачыненні. Званок. Падымаю трубку – Вольга. Нарэшце! Я ўжо думаў, яна ніколі болей не пазвоніць. Згаварыліся яны са сваёй гаспадыняй, ці што? Пакуль сядзела дома, Вольга ні разу не пазваніла.

– Ты прыйдзеш?

– А ты адкуль звоніш?

– Ды вось, на працы сёння першы дзень.

– Прыйду абавязкова, зараз?

– Можна й зараз.

Кідаю сачыненні. Падбегам шыбую да калгаснай канторы. Зноў прайсці праз строй. Варожыя, яхідныя, цікаўныя вочы... Праз бухгалтэрыю – як праз лінію фронту. І вось мы зноў у яе кабінеце, удвух. Вольга падалася мне бледнаю і разгубленаю. На твары з першага погляду нічога не заўважыш, і толькі калі прыгледзецца, можна ўбачыць пад вачыма сляды ад жоўці, старанна заштукатураныя касметыкай.

– Ну, дык расказвай, дзе і з кім гуляла? – пачаў я з жарту. – Напэўна, яны, – кіўнуў на дзверы бухгалтэрыі, – зачакаліся. З кветкамі мо сёння цябе сустрэлі?

– З кветкамі, не з кветкамі, – жартам на жарт адказала Вольга, – а разглядвалі вельмі пільна. І ўсмешкі не сыходзілі з іх вуснаў.

– Ты калі-небудзь бачыла, каб кабыла ўсміхалася?

– Кабыла іржэ, а тут – усё вельмі ветліва, інтэлігентна... ухмылкі, падобныя да выскалу.

– І хто ж так з табою папрацаваў? – пачаў узбівацца я на больш сур’ёзную танальнасць.

– А вось здагадайся з трох разоў.

– Хіба я падобны да варажбіткі? Ну, не ведаю, ты ж тут усё з мафіяй ваюеш.

– Я чула, ты таксама ваюеш з той жа самай мафіяй.

– Не зразумеў.

– А што тут разумець? Маладыя, перспектыўныя твае педагогі-мафіёзі. Чарговы «Спрут» па-макаранкаўску.

– Пачакай, нешта я нічога не разумею.

– Не думала, што ты такі тупы. Разборкі са мной клеілі твае маладыя спецыялісты.

– Што-о-о! – я ўскочыў з крэсла і ўсхвалявана забегаў па кабінеце. – Не можа быць! Як жа я раней не змікіціў. Сапраўды, абух тупы... Але завошта? Які сэнс? Зрэшты, п’янай рукою чорт кіруе. Дык яны ўдзвюх напалі на цябе?

– Не ўдзвюх, а ўтрох.

– Як утрох? А трэці хто?

– Аксана.

Я ледзь не спатыкнуўся ды носам не дзеўбануў аб стол. Яшчэ хвіліна, і мы выглядалі б з Вольгаю аднолькава. Адзін біты дзесяцёх нябітых каштуе... Аксана... Вось дык навіна! Ніколі не падумаў бы. І ніколі не змагу ёй даравацъ. І яна таксама ў той шобле, у тым брудзе. Мала ёй Кармена, мала ёй свайго гаротнага лёсу. Чым так правінілася перад імі гэтая бяскрыўдная дзяўчынка, якая і мухі тут яшчэ не паспела зачапіць?

– Сэнс? – Вольга засмяялася. Аказваецца, я думаў услых. – Мухі тут ні пры чым, а, як кажуць французы, шэршэ ля фам. Вось я і прыехала, разлучніца... Адбіваць у замужніх жанчын іхніх... кавалераў.

– Чакай, што ты пляцеш? Якія кавалеры? Якія жанчыны? Нічога не петру.

– Ты ўсё-такі дурны як бот з левай нагі. І памрэш – не дапетрыш. Ёсць, Віктар, такая катэгорыя мужыкоў, у якіх мазгі без чэрапа. Ад іх жанчыны вар’яцеюць, вешаюцца, а ім – ні ў вуху вада. Жалезабетонныя. Ты часам не спрабаваў сваёю галавою цвікі забіваць?

– Ды я... ды вы ж, дзяўчаткі – дзеці мае... – я разгубіўся.

– Ладна-ладна, не прыкідвайся дзедам... Жартую, не кіпяціся. Толькі ж каханне, Віктар, яно невідушчае, яно, як і смерць, выбірае не па барадзе, а па чарадзе. А ты вось што, ты і сапраўды дарэмна сябе да часу ў старыя запісаў. І зусім ты не брыдкі. І я магу зразумець Аксану, якая паклала на цябе вока. Ды вось жа, небарака, чакае ўзаемнасці ад бор-машыны. Я шчыра ёй спачуваю.

– Спадзяюся, хаця не раўнуеш?

– Божа, збаў! – засмяялася Вольга. – Мне, мілок, зараз хочацца ад мужыкоў у акадэмічны адпачынак збегчы. Помніш, як Маша Распуціна спявае: адпусціце мяне ў Гімалаі. Прыехала сюды, думала, уцяку ад нячыстай сілы, а тут зноў прыгоды...

– М-да, весела, – не слухаў я Вольгу, – каб не было так сумна... І што ж мне з вамі рабіць?

– Ну, не ведаю, ты ў нас Макаранка, выхоўвай...

...Вось і выхоўваю... Гэта табе, Журнал, не падлеткаў за чубы раздымаць. Тут я не спецыяліст. Магу колькі заўгодна расказваць дзецям пра зямное каханне Пятра Шапятовіча і Сашы Траянавай, магу дзівіцца ды любавацца чысцінёй пачуццяў Андрэя Лабановіча і Ядвісі, але, сутыкнуўшыся са сваім «трывожным шчасцем», раптам разгубіўся і сам апынуўся на ростанях... Шкада Вольгу, якую сам жа падставіў, зрабіў мішэнню. Яшчэ болей шкада Аксану. У Вольгі хаця б ёсць сіла волі, а што Аксана? Неўраўнаважаная дзяўчынка, няўстойлівы характар і псіхіка. Хінецца, як тая былінка, куды вецер падзьме. Каб не зламілася. Вельмі ж многа яшчэ будзе ў жыцці разбуральных вятроў. Чым жа ёй дапамагчы?..

...Такім чынам, чарговы педсавет. Разборкі па канікулах. Зараз я вам, галубочкі, пакажу! Зноў ускладваю на сябе непасільную ношу. Будзем вучыцца не проста працаваць, а працаваць творча, давяраючы адно аднаму. Не можаце – навучым, не хочаце – прымусім.

Чым болей стараешся навучыць людзей працаваць, чым болей імкнешся змяніць іхнюю псіхалогію, іх адносіны да працы, да жыцця, тым бязрадасней становіцца на душы, апускаюцца рукі, песімізмам, як туманом, заплывае перспектыва. Як можна навучыць працаваць творча настаўніка, які піша слова «расчисчать» з літарай «щ». Мы ж ведаем, што ёсць дзеці «обучаемые» і «необучаемые». Колькі ні старайся, не навучыш грамаце апасрэдненае дзіця, у якога да ўсяго яшчэ і кепская спадчыннасць. Гэтаксама ж і настаўнікі. Можаце верыць, можаце праверыць, у нашай школе выключэнне – тыя настаўнікі, якія пішуць без памылак. І зусім не важна, ці то філолагі, ці матэматыкі, ці гісторыкі, ці біёлагі. Тое ж і ў пачатковых класах. Ідзеш наведваць урок і – баішся. Не ведаеш, дзе цябе агрэюць чарговым педагагічным «ляпам». Сядзіш на ўроку, бачыш у настаўніка памылку, і сорамна чамусьці табе, а не яму. І думаеш, хаця б не заўважылі дзеці, бо перад дзецьмі якраз і сорамна.

Я не пішу для педсаветаў прамовы, не збіраюся падшываць да кожнай нашай нарады ідэалагічныя падэшвы, ці, як рабіла Пагодзіна, «павышаць», «удасканальваць» і «змагацца». Да назвы нашага сённяшняга педсавета лепей за ўсё падышло б слова «разборкі». Мы высвятлялі ўзаеміны. І высветлілі. Адны настаўнікі выканалі заданне на канікулах на слабую «троечку», іншыя ўвогуле завалілі яго. Запытаўся, чаму – апусцілі вочы, нешта мармыталі, нічога слушнага ў сваё апраўданне не сказаў ніхто. Бо не было чым крыць. Вы скажаце: нарада па прынцыпе: «я начальнік – ты дурань»? Не хвалюйцеся. Пабачылі б, як раскрылі рты мае нямыя настаўнікі, калі б у іх знайшоўся хаця адзін аргумент у апраўданне сваё. І Баба таксама сядзіць як мыш глынуўшы. Пагуляла на Каляды. Што тут скажаш? Не знайшла нават часу прыйсці ды нармальна падзяжурыць адзін дзень. Таму і маўчыць.

М-да, пашкадаваў, называецца, настаўнікаў... Чым лепей людзям робіш, тым горш для сябе.

Адным словам, педсавет, пачаўшыся маім маналогам, рызыкаваў маім жа маналогам і закончыцца. Мне гэта надакучыла, і я паабяцаў наступныя канікулы кожнаму распісаць па гадзінах. Не хочаце як лепей, будзем працаваць як заўсёды. Яны ў адказ зноў прамаўчалі, на гэтым і закрылі мы першае пытанне.

Другое пытанне было весялейшым. Думаеце, разборкі з маладымі настаўнікамі? А вось і не ўгадалі! На гэты раз у мяне хапіла вытрымкі пра іх дэтэктыўныя прыгоды далікатна прамаўчаць. Хопіць, пакапаліся чужыя

людзі ў нашай бруднай бялізне. Замест гэтага я, памяняўшы дыск, зноў падняў з пылу тэму школьнага юбілею. Не сталі мы бліжэй у будні, можа, зблізіць нас атмасфера ўсеагульнага чакання свята?

– Якія будуць прапановы? – спытаўся я мо і занадта казённа.

Кабінет і пасада прывучаюць да казённае мовы і нават да казённых думак, чаго я заўсёды і баяўся. Іншым разам дадумваешся Бог ведае да чаго. Разважаеш так: калі ты не змог, не здолеў сабраць вакол сябе ядра, касцяка, калі ты не знаходзіш у сваіх калегаў, апрача шэрасці, нічога светлага і людскага, калі людзі вакол цябе затаіліся і маўчаць, ці не трэба ў сабе пашукаць прычыну іх маўклівай нездаволенасці. Заняцца выкрывальніцтвам і самаедствам? Добра, з'ясі ты, Віктар Фёдаравіч, самога сябе. Тваё месца зойме іншы. Гэта можна зрабіць хоць і заўтра, калі сапраўды не трымаешся за крэсла аберуч. Іншы на тваім месцы плюне на тое, што ў яго настаўнікі п'яніцы і хуліганнё, закрые вочы, што яны... дзе там творчыя, хаця былі б пісьменнымі. Піша настаўнік з памылкамі, нясе бязглуздзіцу на ўроку – ну і добра, працуй сабе на здароўе, зарабляй і далей грошы. Вярнуць назад Пагодзіну? Такі дырэктар, напэўна, прыйдзецца даспадобы сённяшняму калектыву. Усім будзе добра, акрамя хіба... цябе, Журнал Фёдаравіч. І ты павінен прывыкнуць, што табе ніколі не будзе добра пачувацца сярод шэрасці, і ніколі спакойна не будзеш успрымаць бяздарнасць. Такі ў цябе лёс. Такі ты ўжо «нязручны» чалавек. Век табе будзе «цесна, вузка, мала»... Век ты будзеш шукаць, дамагацца, эксперыментаваць. Шукаць – і не знаходзіць...

Маўклівы педсавет. Я толькі што аб'явіў пра свята і – ці ж не дзіця? – адразу паведаміў іншым і паверыў сам, што свята пачалося. Стала радасна, весела на душы. Дзівак, я чакаў, што настаўнікі заўсміхаюцца, што пасыплюцца, як з рога, многа прапаноў, ідэй. І праўда, адны дзяжурна ўсміхнуліся, іншыя проста скрывіліся і напружана чакалі, якой яшчэ неспадзяванкаю аглушыць іх дырэктар. Агоўтаўшыся ад эйфарыі, у якую сам сябе загнаў, я зразумеў, што зноў застаюся ў абсалютнай меншасці. Ды што там – у адзіноце. Свята гэтае нікому не патрэбна.

Хацелася крыкнуць:

– Агу, людзі! Пра што вы зараз думаеце? Далібог, я ж не хачу вас з'есці!

З астатнімі – зразумела, а пра што ж думае Аксана? На яе, можа, найвялікшая надзея. Без яе я, напэўна, не адужаю школьны юбілей. Няўжо і Аксана, аслепленая сваімі незразумелымі мне пачуццямі, так і будзе мяне глуха ненавідзець, і ўрэшце мы з лепшых сяброў ператворымся ў заклятых ворагаў? Ты кахаеш мяне, то дапамажы...

– Што вы, Аксана Валер'еўна, скажаце па гэтым пытанні?

Яна ўскочыла, няўцямна азіраючыся, быццам бы яе знячэўку злавілі за якім зламысным заняткам:

– Я?! – паўтарыла здзіўлена, бы хацела ўпэўніцца, што гэта не жарты. – А чаму... хіба я арганізатар?

Усё зразумела...

– Думаю, што так... Вы – арганізатар, – у голасе маім зазвінеў метал, – і на гэты раз школа наўрад ці без вас абыдзецца.

– Ну, не ведаю, Віктар Фёдаравіч, вы нас заўсёды здзіўляеце. Мы ўсе прывыклі, – Аксана раптам занервавалася і... зрабілася ранейшай, якой я яе ведаў, якую паважаў. Кажы, дзяўчынка, кажы. Можа, цябе прарве, і сцячэ ядавіты гной, і спадзе нарыў. Спрачайся, крытыкуй мяне. Я вытрымаю, я –

моцны. Я, можа, і хачу, каб ты мяне зараз пакрытыкавала. Хачу зразумець, у чым мая віна, што недагледзеў, дзе паступіў не так, чаму вы ўсе ад мяне адвярнуліся і, можна сказаць, аб'явілі мне маўклівы байкот... – мы ўсе прывыклі, што вы за нас думаеце. Навошта вам мая думка, калі вы ўсё роўна зробіце па-свойму, і так, як захочаце вы, так яно ўрэшце і будзе.

– Вось іменна... – раптам азвалася Сяўніцкая.

– Што іменна? – удакладніце, калі ласка, Вікторыя Аляксееўна, – ціха і абыякава пацікавіўся я.

– Нічога, я ж кажу, вельмі нават добрая ідэя.

– Не, вы ўжо, будзьце ласкавы, дагаворвайце да канца. Памятаеце, калі я стаў дырэктарам, вы сказалі: на чыім возе едзеш, таму і песні спяваеш? І вось мы з вамі сёння быццам бы на адным возе едзем, А песні вашы падобныя, выбачаце, да хаўтурных... Дык спявайце іх далей, толькі не ў маёй прысутнасці. Мне не патрэбны ні вашы дыфірамбы, Вікторыя Аляксееўна, ні «алілуя», чэснае слова. Я толькі хачу, каб вы ўрэшце вызначыліся, з кім вы. Каб прама мне ў вочы сказалі, чым я вам не падабаюся і што не так раблю?

Усё ж такі нервы здалі...

– Божа збаў! Божа збаў! – спалохалася Сяўніцкая. – Усё добра, усё правільна робіце. А чаму ж. Гэты... юбілей нам трэба. Чым мы горшыя за астатніх? Божа збаў, Віктар Фёдаравіч, я вам болей і слова не скажу супраць. І дапамагаць заўсёды буду. Абяцаю.

Зусім як на піянерскім зборы: будзь гатоў – заўжды гатоў!

– Што ж, у такім разе даводжу да вашага ведама: урачыстае святкаванне юбілею нашае школы будзе прымеркавана да першай суботы лютага, калі мы звычайна праводзім дзень выпускніка. Свята для ўсіх. Збярэмся ўсе разам, былыя і сённяшнія. Не так часта здараюцца ў нас юбілеі. Цяпер пра падрыхтоўку. Адказнай за правядзенне юбілейнага мерапрыемства ў школе прызначаю Кармен Аксану Валер'еўну. Але гэта не азначае, што рыхтаваць свята будзе адна яна. Заўтра збіраемся ўсе разам і распрацоўваем план правядзення свята. Калі хтосьці думае, што яму ўдасца адседзецца і перачакаць, то няхай нават і не разлічвае на прэміяльныя. На сёння ўсё. Дзякуй за ўвагу. Да сустрэчы.

Вышэйшым указам я аб'явіў юбілей. З Богам!..

* * *

На вуліцы – як і ў жыцці: то безнадзейныя замаразкі, то адліга. І калі раптам у лютым пачынаецца вясна, то становіцца весялей на душы. Ведаеш – гэта падман, каварны падман згвалтаванай намі, людзьмі, прыроды. Гэта яе помста за тое, што мы яе ненавідзім.

Еўропа стамілася здзіўляцца. Пасля траскучых снежаньскіх маразоў, якіх не бачыла мо цэлае стагоддзе, наступіў смаркаты адліжны студзень, а люты і ўвогуле пабіў усе рэкорды. Мо з тыдзень ці болей тэмпература падымаецца да пятнаццаці і нават да дваццаці градусаў цяпла. Снег саскочыў – толькі яго і бачылі. Хутка адтае зямля, у лесе палезлі пралескі. На поўдні – яшчэ мадней. Радыё перадавала, што ў Сочы збіраюцца зацвітаць... каштаны. Ну, а ў нас на Віцебшчыне, хаця і ляжыць яшчэ лапікамі снег, ды вярба ўжо выпускае коцікі. Вярба-дурніца, паверыла лютаўскай вясне, паддалася падману і за сваю даверлівасць можа дорага заплаціць. Вучоныя не паспяваюць апраўдваць-абгрунтоўваць нечаканыя каленцы прыроды. Пад Новы год,

калі трашчэлі надзвычай моцныя і стабільныя маразы, усё спісвалі, як ні дзіўна, на парніковы эфект. Леднікі, маўляў, пачалі раставаць. Ледзяная вада астудзіла Гальфстрым, і той зараз прыпадносіць падобныя сюрпрызы. Цікава, што яны скажуць цяпер? Ніхто не ведае, і, мусіць, нават Бог, што будзе заўтра, паслязаўтра...

Бог не ведае, а я ведаю: калі нават Гальфстрым, змяніўшы кірунак, нейкім цудам пацячэ ў наша сматрыцкае возера, паслязаўтра я зноў пайду ў школу, у сваю школу, у якой я сёння і гаспадар, і раб. Паслязаўтра будзе панядзелак, пачнецца новы тыдзень, і мы ўсе разам са свежай галавой і з цудоўным настроем – а настаўнік абавязаны прыходзіць у школу з цудоўным настроем – акунёмся ў... другое навучальнае стагоддзе.

Крута? А як жа! Нашай школе сёння... сто гадоў. Дакладна, сёлета. А яшчэ дакладней – чыста сімвалічная сотня. Нідзе, ні ў адным музеі і ні ў адным архіве не захавалася дакладных звестак, калі ж у нашых Сматрычах завёўся першы настаўнік і першы вучань. Памятаеце, бабуля Антоніха казала, што яна бегала ў іншую школу – за возера. Нават Антоніха не помніла, каб пры яе бытнасці будавалі тую Ліпніцкую школу, якая сталася папярэдніцай нашай, Сматрыцкай. Але ж і Антоніхі ўжо няма, забрала, пухам ёй зямелька, з сабою ўспамін пра тую далёкую і зусім невядомую нам, яшчэ дакастрычніцкую, гісторыю школы. Антоніха была яе апошняю жывою сведкаю. Што рабіць? Калі людзі не ведаюць дакладна свайго дня нараджэння, яны абавязкова яго прыдумаюць. Так і школы. У іх жа, як і ў людзей, свой век. Вось і мы, прыкінулі, крыху пафантазіравалі і вырашылі менавіта ў лютым, разам з першым вечарам школьных сяброў у новым тысячагоддзі, адзначыць стогадовы юбілей нашай старэнькай і мудрай «альма-матэр».

Збіраць пачнем зярно к зярняці,  
Былое ў думках ускрашаць,  
Каб свет на новы лад пачаці  
І сеўбу новую пачаць...

Нарэшце наступіў у нас жаданы мір і супакаенне. Ці то перамір'е? Я ўжо й баюся казаць, каб не сурочыць. Але ў трэцяй чвэрці мне ў школу стала хадзіць лёгка і прыемна. Усе занятыя, усе пры справе, няма каму ў настаўніцкай языком лапці плесці. На перапынку ўсе гавораць толькі пра ўрокі ды пра дзяцей, а пасля ўрокаў пачынаецца грандыёзнае шоу. І самае прыемнае, што я – толькі назіральнік. Таксама нечакана – Аксана Валер'еўна разгарнула такую бурную дзейнасць, цяпер да яе ніякіх прэтэнзій не маю. Яе сёлетні дзявяты намнога большы, чым леташні мой – дзесяць чалавек. Вядома, выпускнікі складаюць касцяк нашага шоу, але не адны яны, уся школа рыхтавалася, усё на мазі. Галоўнае – наэлектрызаваць людзей, стварыць святочную атмасферу. Важна было прымусіць паверыць, што сёння, трэцяга лютага дзве тысячы першага года, наступае момант ісціны. Добра, што паверылі і дзеці, і настаўнікі, яшчэ важней, што паверыў дырэктар школы.

Я – гэта ён, Квадратны Віктар Фёдаравіч. Я пасміхаюся з яго, як бы зараз пасміхаліся Валодзя Серада і ўсе астатнія мае сябры. Квадратны цэлае ранне круціцца перад люстэркам, прымярае новы гарнітурчык, які нарэшце па-сапраўднаму пасуе да новай кашулі, гармануе з гальштукам.

Мы разбредёмся по бульварам и по улицам,
Оденем фраки и закружимся в судьбе.

Так спявалі калісьці мы, студэнты-філолагі...

Мы будем гнуться, но, конечно, не согнёмся,
Не заржавеют в ножнах острые клинки.

Клінкі не заржавелі. Няма ім часу пакрывацца іржою. Гэта сапраўды мы «накаркалі». Век жыві – век вучы. Колькі вучыш – столькі і ваюеш. А вось да фрака прывыкаеш марудна. Носіш касцюм толькі таму, што па рангу належыць. А гальштук, сорам, так дагэтуль і не навучыўся завязваць...

Чаравікі бліскучыя, можна паглядзецца, як у люстэрка. Пакуль датэпаюць да школы, будуць як з балота. Можа, узяць іх з сабою ў пакет? І мой жаночы калектыў з задавальненнем пабачыць, што Квадратны прынёс у пакеце чаравікі. Сто гадоў такога не было. Але ж і свята такое здараецца раз у сто гадоў.

Ды ці не занадта вялікая ўвага да маёй персоны? Віктар Фёдаравіч, мабыць, усё ж меней за ўсіх углядаўся ў люстэрка, бо прышкандыбаў у школу, зноў жа, першы. Так і цікавей – сустракаць кожнага настаўніка, быццам ты яго сто гадоў не бачыў.

– О, Вікторыя Аляксееўна! Добры дзень, добры дзень! Вы мяне ставіце ў вельмі пікантную сітуацыю. Казаць кампліменты я не ўмею, а не сказаць вам сёння камплімента проста немагчыма. Вы ўжо выбачайце, але сто гадоў я вас *такой* не бачыў.

Вось табе і сказануў. Маладзейшая, далібог бы, пляснула поўху за такі «кампліменцік». А Сяўніцкая заружавелася, як дзяўчынка, ёй спадабалася. Ну, і хто сказаў, што наша Сяўніцкая не можа выглядаць каралеваю?..

– О, дзяўчаты, ушчыкніце мяне, калі ж вам, маладым, не брыдка паймець справу са старым трухлявым пнём. Мабыць, я сплю. За паўгода, не, бадай, ужо за год, я так і не разгледзеў, так і не ўразумеў, з якімі ж прыгажунямі я працую. У панядзелак пішу загад: усім настаўнікам з'яўляцца на ўрокі толькі ў парадна-выхадным адзенні. Мы зэканомім на электрычнасці. Свет вашых вачэй ды колер вашых сукенак – якая ж яшчэ электрычнасць патрэбна?

– Ат, Віктар Фёдаравіч, і вас таксама сёння нешта не пазнаць, кампліменты ўсім раздаяце. А што, калі раптам захваліце нас?

– Іранізуеце? Ладна-ладна, сёння прапушчу міма вушэй, няхай будзе «даравальная субота», у панядзелак вам прыпомню, – Квадратны пагрозліва сціскае кулак.

Цікава, што сёння настаўнікі прыйшлі раней за дзяцей. Таксама сто гадоў такога не было. Яшчэ паўгадзіны да святочнай лінейкі, а ўсе ўжо ў зборы.

І вось – нібы сорак выраяў прыляцелі, вярнуліся разам з заўчаснаю вясною. Ажыла, загукала школа дзясяткамі галасочкаў-званочкаў – кожны на свой лад залівaецца-звоніць. Калі чую, калі бачу гэтае нашэсце – вясёлае, гарэзлівае, бесклапотнае, маладое, бадзёрае, непаўторнае – кожны раз шчымліва сціскаецца сэрца. Кожны дзень і кожны год – і так будзе да змяркання, заўсёды, навек! Як кажуць мае сябры-падлеткі, я «тащусь» і «балдею», слухаючы аптымістычны гімн дзяцінства.

Мне цесна ў сваёй каморы, і нават у настаўніцкай цесна. Шырока насцеж адчыняю дзверы, выходжу на калідор, які мне сёння здаецца праспектам. І – трапляю ў цесныя, радасныя абдымкі...

«Кампанія-ікс», прыкрыўшыся вялізным букетам белых ружаў, накідваецца на Журнала Фёдаравіча, тузае яго, як не ірве на кавалкі, сціскае ў церпкіх абдымках, з гіканнем і свістам.

– Качаць Журнала! – крычыць раптам хтосьці.

І дужыя рукі падрослых падлеткаў падхопліваюць мяне, падкідваюць аж да столі. А я лячу, зажмурыўшы вочы, не ад страху, ад шчасця.

– Раз, два, тры! – лічыць усё той жа голас.

Няўжо яны сабраліся мяне падкідваць сто разоў?!

Здзіўленая, агаломшаная школа ўся чыста збеглася падзівіцца на такое гледзішча. Выскачылі настаўнікі, вочы па яблыку. Хай глядзяць, хай ведаюць і зайздросцяць, што ў мяне ёсць сапраўдныя сябры. Нам няма чаго хаваць і няма ад каго хавацца. Мае выпускнікі – сябры мае – ужо болей не дзеці. Яны са мною на роўных, яны – заслужылі.

Буслік! А як жа, і ён таксама мой сябар. За год не факт, што падрос, але памажнеў. А галоўнае – знік той заўсёдны, вінавата-зацкаваны позірк, недаверлівы, спадылба. Той позірк я, бывала, адчуваў нават спінаю. Пазірае Віця хаця і скептычна, але ў тым скепсісе болей добрага, мяккага, адкрытага. Як бы ні дапякаў мяне гэты малы ў свой час, як бы ні падстаўляў, а вось жа не пакінуў. Як бы ні варагавалі са мною яго бацькі, прынамсі, Навумаўна, Буслік слухаўся не матчыных амбіцый, а свайго сэрца, якое, відаць, падказвала яму паступаць па-іншаму. І за гэта я ўдзячны хлопцу, мо нават запаважаў яго...

Божанька. Ён увогуле цудам сёння тут паявіўся. Відаць, так распарадзіўся Бог. Што ж, на ўсё воля Божая. Прыбыў Вадзім ажно з Санкт-Пецярбургу, куды з’ехаў да роднай цёткі, каб закончыць адзінаццаць класаў, а затым... Затым марыць паступаць у духоўную семінарыю. Цётка, праўда, у яго не такая набожная, як бацькі. Можа, і добра, што хлопец вырваўся з дому, з тога сектанцкага цемрашальства. Жыве ў вялікім горадзе, убачыў свет і свецкае жыццё. Тут, у Сматрычах, ён проста замаліўся б, завіс, і невядома, што з яго атрымалася б. Я вельмі хваляваўся за Вадзіма і рады, што такім бокам павярнуўся да яго лёс. Ну, а калі ў душы яго ўсё ж засталося зернейка, пасеянае Верай і Любоўю да Усявышняга, няхай паступае ў тую семінарыю. Цяпер гэта ўжо будзе асэнсаваны выбар дарослага чалавека. А верыць – ці ж загана? Абы душу д’яблу не прадаць.

Ахвяра. Усё па намечаным сцэнары. Помніце, што казаў Вячаслаў Ціханаў у фільме «Дажывем да панядзелка»? Вось паставіш такому двойку, а раптам з яго Нікулін атрымаецца, і скажуць, што ты таленты душыў. Серафім здзівіў не толькі мяне, але і многіх, калі нечакана падаўся ў Віцебск і без лішніх ваганняў паступіў у тэатральна-мастацкае вучылішча. Ды на які, вы думаеце, факультэт? На акцёрскі. Як кажуць, падцёр усім нам нос. Будзем спадзявацца, некалі ён сыграе ролю самога сябе, у тым выпадку, калі нашую правінцыйную «кумедыю» хтосьці возьмецца вынесці на вялікую сцэну. Зрэшты, гэты хлопец усё жыццё грае ролю самога сябе, таленавіта і захоплена. Толькі мы, бяздарныя гледачы, гэтага не заўважаем.

Мілкі. Ён адзін, хто застаўся падлеткам. Не па ўзросце, па духу. Такі ж малахольны, несамастойны, затое вясёлы, гарэзлівы, пацешны. Калі ў Ахвяры весялосць дарослая, асэнсаваная і зараз увогуле яна служыць фонам яго будучай прафесійнай дзейнасці, то Марат проста вясёлы, таму, што ён такі па жыцці. Ён усё яшчэ гуляе. У свае шаснаццаць гадоў ён – дзіця. Паступіў у тэхнікум, вучыцца на механіка. Не таму, што гэта ёсць яго асэнсаваны выбар,

а таму, што так вырашыла мамка. Мамка захоча – і нікуды не падзенешся, давядзецца паступаць у інстытут, станавіцца добрым спецыялістам. Мамка яго мо і ажэніць. А там, Бог дасць, за далейшае выхаванне возьмецца жонка. Такім людзям, як Мілкі, звычайна, шанцуе па жыцці. Яны ўвесь час за кімсьці больш разважлівым, больш уплывовым і практычным – як у Бога за пазухай.

Пячэнне. Бачыце, я назваў свайго Валодзю афіцыйна, па мянушцы, як і належыць падлетку. Тым самым я прыраўняў свайго лепшага сябра да ўсіх астатніх. Між іншым, Валодзя, калі знік з майго поля зроку, крыху ачужыўся. Ужо не так часта прыбягае, не такія шчырыя і доўгія нашы з ім размовы. Мне, вядома, балюча, горка да гэтага прызвычайвацца, але ж ці не эгаіст ты, Журнал? Хлопец пайшоў у самастойнае жыццё. Там, у будаўнічым вучылішчы, дзе зараз ён вучыцца, з'явіліся ў яго новыя сябры. Гэта нармальна, так яно і павінна быць. Жыццё працягваецца. І ўсё роўна, галава разумее, а сэрца не слухаецца. Хочацца, каб сябры былі побач і заўсёды пад рукою, каб заўжды было з кім параіцца, каму паспавядацца.

Я рады за Валодзю, і за сябе таксама. Што б ні казалі, як бы ні зласлівілі вакол, я не даў свайму юнаму сябру спаўзці ў бяздонне, а ён мне – загінуць у адзіноце. І цяпер я ўпэўнены, што яго чакае не калонія, не турма, а нармальнае чалавечае жыццё. Ці будзе ён багаты, ці будзе шчаслівы – ужо меней залежыць ад абставін і болей ад яго самога. Мой Валодзя становіцца дарослым не па днях, а па гадзінах. Выцягнуўся – громаадвод, таксама, дарэчы, як і Ахвяра, аднак, у адрозненне яд яго, памажнеў, раздаўся ў плячах, падкачаўся. Адным словам, сапраўдны мужчына. Дый разважае хлопец па-даросламу: стала, удумліва. Паменела ў яго яршыстасці, запальчывасці, прыбавілася жыццёвага вопыту.

Падкінуўшы небараку Журнала, ледзьве яго не разарваўшы, не задушыўшы ў парыве высакароднага пачуцця, сябры мае паспяшаліся адкланяцца:

– Журнал, мы ў клуб пойдзем.

У клубе будзе праходзіць наша свята. Там ужо сабралася публіка і, пакуль мы тут сустракаем гасцей, там недзе грае музыка, а мо нават і танчыць моладзь.

– Што, да дзяўчат не церпіцца? – усміхнуўся я. – Пасядзелі б у роднай школе, у клас хаця ў свой зайдзіце.

– Потипу мы класса не видели, сами же его ремонтировали, – адмахнуўся Серада.

– Кавай вас пачастую. Вы ж у мяне, хлопцы, сёння самыя дарагія госці.

– А кава, калі не сакрэт, колькі градусаў... гм... па Цэльсію, ці па Фарынгейту? – Ахвяра трымае язык падмазаным, удасканальвае акцёрскае майстэрства.

– А што, па фарынгейту зарабіць можна, і лёгка, – кідаю ацэньваючы позірк на Серафіма.

– Лепей яму па грызельніку, ці па сапатцы, – жартуюць хлопцы.

Мая кава ім мала цікава. Прыслухоўваюцца да музыкі, што даносіцца з клуба. Так і быць, адпускаю хлопцаў пагуляць, але дамаўляемся, што ўвечары, пасля ўсіх урачыстых цырымоній, усе разам збіраемся на каву ў мяне дома. На жаль, з «цэльсіем» пакуль давядзецца пачакаць, нягледзячы нават на тое, што юбілей. Пачакаць хаця б да іхніх васемнаццаці гадкоў. Мы ж усё яшчэ падлеткі. Дзякуй Богу, мы надта і не рвёмся да таго «цэльсія», так – адны панты. Нас пакуль не зашкальвае, усе ў норме.

Толькі пабеглі хлопцы, да варот пад'ехалі белая «Ніва» і «ГАЗік». Не паспелі вылезці з машын калгас ды сельсавет, падкаціў лясгасаўскі «Масквіч».

– Самы час нам будаваць гаражы і аўтастаянку, – смяяўся я, сустракаючы гасцей.

– Гаражы – несучасна, Віктар Фёдаравіч, аўтастаянку – іншая справа, і абавязкова платную, а побач – «Мак Дональдс». Гуляць дык гуляць, – параіла Вольга, дастаючы з машыны букет... белых ружаў.

Згаварыліся яны ці што? І чаму мне ўсе дораць сёння белыя ружы? Аднак і прымхлівы я, у кожным, нават маленькім, супадзенні кідаюся шукаць містыку. А хто шукае, той накаркае... Але ж будзем спадзявацца, што белы колер дасць нашай школе-прабабцы шанец убачыць нарэшце жаданае святло ў канцы цёмнага тунеля, праз які ідзём і ідзём, і, здаецца, няма яму канца, і, здаецца, ніколі не ўспыхне тое святло...

Спазняўся пакуль толькі аддзел адукацыі. Ужо ўсе былі ў зборы, ужо, зачакаўшыся, выстраіліся мы на лінейку і збіраліся дружна рушыць у клуб. Я не ведаў, што думаць. Учора ж увечары размаўлялі з Шышкінай. Лідзія Паўлаўна была надзвычай настраёвая, жартавала. Казала, што збіраецца прывезці самога Лабатага на юбілей. Ну, а калі не ўгаворыць, то абавязкова прывязе які іншы сюрпрыз, так што расчароўвацца нам не прыйдзецца.

Вось табе і сюрпрыз! Дзе наша Шышкіна? Ага, вось яна. Лёгкая на ўспаміне. Машына нават і не думае спяшацца, павольна, як бы ў роздуме, падкацілася да школьных варот. Я даў каманду пачакаць, не пачынаць лінейкі, а сам пайшоў насустрач.

Шышкіна выйшла з машыны. Не, не выйшла, яна менавіта паўстала перада мною – ненатуральная, урачыстая, надзвычай сур'ёзная і ўся ў... белым. Шыкоўны белы гарнітур, а ў руках – ружы... чырвоныя. І то дзякуй Богу... Але ж і твар у яе якісьці ненатуральны: бледны, быццам знарок да твару яна падабрала касцюм. Я ведаў іншую Шышкіну: ружовашчокую, маладжавую, таму спалохаўся і нават не здолеў схаваць сваёй трывогі, бестактоўна шапнуў:

– Вам нездаровіцца, Лідзія Паўлаўна?

– Так, ерунда, сэрца крыху прыхапіла, – адмахнулася яна, – прайшло ўжо. У нашым узросце, Віктар Фёдаравіч, калі прачынаешся і нічога не баліць, трэба сябе ўшкыпнуць, раптам ты памёр...

Вылез з машыны і кіроўца. Я добра яго ведаю: Міша – вясёлы хлопец, вельмі цікавы субяседнік, заўсёды з гумарам, з жартамі, красамоўнымі і дасціпнымі, нікому, бывала, спуску не дае. Зараз жа ён маўкліва падаў мне руку, падалося, быў ці то напалоханы, ці то нечым вельмі заклапочаны. Я насцеражыўся, але пасаромеўся лезці да чалавека ў душу. Ці мала ў людзей клопату? Тым болей, што Шышкіна таямніча заўсміхалася раптам:

– Віктар Фёдаравіч, а мы сваё слова стрымалі. Так што выкідвайце свае «Карветы» на сметнік гісторыі.

– Няўжо кампутары новыя прывезлі?

– Шэсць штук.

– Вось дык сюрпрыз! Ну, Лідзія Паўлаўна, вы проста багіня! Дай жа вам Бог доўгіх гадкоў і добрых дзетак.

– Дай жа Бог, – неяк сумна паўтарыў за мной і Міша, адкрываючы заднія дзверцы машыны.

Я ўбачыў каробкі з кампутарамі новага пакалення і забыўся пра ўсё на свеце. Цяпер і мы не будзем горшымі за іншых, людзьмі будзем звацца.

Нарэшце і нашы дзеткі даведаюцца, што такое выйсці ў Інтэрнэт. Не ўсё ж нам гнілыя сцены падпіраць і падлогу латаць. Трэцяе тысячагоддзе на вуліцы...

– Мы вас сёння, Лідзія Паўлаўна, на кут пасадзім, будзем з вас пылінкі здзьмухваць і абяром ганаровай грамадзянкай вёскі Сматрычы. Мы вам, калі хочаце, помнік паставім...

– А вось з помнікам, Журнал Фёдаравіч, давядзецца крыху пачакаць, – Шышкіна рашуча падхапіла мяне пад руку і павяла на лінейку. – Яшчэ не вечар...

Яшчэ не вечар... Проста прайшоў, як адзін дзень, доўгі школьны век. Цэлае стагоддзе, цэлая эпоха. Я стаю на школьнай лінейцы, як і год, і два, і дзесяць гадоў таму. Не госцем стаю, а гаспадаром. Не ў чужой, а ў сваёй школе, не на чужым, на сваім юбілеі... Якім ты будзеш, новае школьнае стагоддзе? Эпоха электронікі і кібернетыкі, эпоха прагматызму і станаўлення капіталістычных рэалій у нашай здарожанай, змучанай вечнымі пошукамі будучыні краіне...

Цяжка. Я ж таксама толькі пачынаю, намагаючыся дапамагчы нашай школцы, у якую закахаўся па вушы, знайсці сваю належную будучыню. Цяжка... Мяне не ўсе і не заўсёды разумелі і разумеюць. Але стаю я сёння горды і шчаслівы. Бо поўная зала народу. Гэта прыйшлі на юбілей дарагой мне школы яе сябры і, значыць, мае сябры. Сёння я не вельмі ўважлівы, бо думаю пра сваё, пра перажытае, і пра тое, што яшчэ давядзецца перажыць... Урыўкамі, як праз сон, далятаюць да мяне віншаванні:

І ў Амерыцы, і ў Японіі,
На Далёкім і Блізкім Усходзе
Сонца ўсходзіць у школе, запомнілі?
Сонца, дзеці, у школе ўзыходзіць.
На экватары, і на Поўначы,
І ў Маскве, і бліжэй, пад Воршаю
Калідоры школьныя поўнячы...

Шышкіна сачыніла віншавальны верш. Ды яна, аказваецца, паэтэса! Вось табе і жонка вайскоўца! Шпарыць па-беларуску як рэпу грызе... Не дарэмна, выходзіць, мы сеялі, сеем і будзем сеяць жыццядайныя зярняты на нашай беларускай ніве... Хай сабе няўдобіца. Не спрыяе пакуль нам надвор’е: то дапякае смага, а то ідуць атрутныя дажджы... Не прападзе, ускаласіцца наша зернейка, бо не на каменнях, на сваёй жа зямельцы расце...

...Нашы спяваюць. Гэта Аксанін дзявяты клас:

Калі трашчаць вятры і навальніцы,
Патрэбен школе вельмі моцны дах,
Каб вы маглі вучыць, а мы – вучыцца,
Каб тут жылі усмешкі, а не страх.
Важней за ўсё надвор’е ў школе,
Усё астатняе – лухта!
Дзе смех гучыць, там плёну болей,
Дзе творчы лад, там праца – любата!

Важней за ўсё... Нарэшце і Аксана гэта зразумела. Паблукала, як той Майсей па пустыні, павадзіла сама сябе за нос. Вярнулася...

Учора дагнала мяне, калі ішоў са школы. Захакалася. Няёмка ёй, гляджу, не ведае, з чаго пачаць. Дагнала быццам бы ўручыць запрашальную паштоўку, якія самі яны малявалі. Паштоўку аддала, а вачэй не падымае, хвалюецца. Нарэшце асмелілася:

– Даруйце мне, Віктар Фёдаравіч, калі зможаце. Я разумею, вам цяжка... Сама ці даравала б на вашым месцы? Але паверце мне, калі ласка, яшчэ адзін раз. Я праз усё прайшла. Я думала... думала, мне так прасцей будзе забывацца на ўсё... На Кармена свайго, на вас. Запіць, загуляць. Усё паспрабавала... Я разумею, мне няма даравання, але... – яна заплакала.

Што я мог адказаць ёй, па сутнасці, яшчэ дзяўчынцы?.. Толькі тое, што дружбаю нельга раскідвацца і эксперыментаваць. А дараваць... Ці ж я ўсявышні? Няхай рассудзіць нас Бог. І калі яму заўгодна, няхай як найхутчэй залечыць мае душэўныя раны...

Я паклаў ёй руку на плячо, зазірнуў у вочы, вылавіўшы іх з густых прыгожых брывоў, і ласкава сказаў:

– Бяжы, Аксанка, працуй. У цябе ўсё атрымаецца.

...І пакуль яшчэ нічога новага не здарылася: не пачалося ў нашай школе стагоддзе новых клопатаў і трывог, пакуль са мною мае сябры і зычліўцы, пакуль я шчаслівы, паспрабую паставіць кропку. На гэтым заканчваю свой аповед, які камусьці падасца мо доўгім і нудным, камусьці – бессэнсоўным. А як жа! Я не майстра дэтэктываў, трылераў і баевікоў. Я – усяго толькі настаўнік. І гэта – споведзь маёй душы. А хіба душа жыве па сюжэце?..

## Заміж пасляслоўя...

Спяшаўся паставіць кропку, атрымалася шматкроп’е... Усё як у жыцці...

Грамніцы... Зіма сустракаецца з вясной і развітваецца з намі... Трэ было схадзіць у царкву і купіць хоць адну свечку... Кажуць, грамнічная свечка засцерагае ад навальніцы. Эх, хіба можна засцерагчыся ад навальніц...

Баліць галава. Літаральна расколваецца... Каторую гадзіну сядзім на сходзе. Як на калгаснай планёрцы... Сёння ўсіх нас, дырэктараў школ, выклікалі ў раён на «прэзентацыю» новай загадчыцы аддзела адукацыі... Прыйшоў прадстаўляць сам Лабаты...

Новы наш шэф – Віцька Заяц – дырэктар з Забрышчанскай школы. І знаёмы, і незнаёмы я з ім. Ведаю толькі, што ўсе яго за вочы звалі Віцьком. Цяпер вось давядзецца прывыкаць называць Віктарам Мікалаевічам... Што чакаць далей? Куды памяце новая мятла?..

Усё як праз сон... Наш юбілей... Жудасны званок увечары, калі мы з хлопцамі сядзелі, пілі замоўленую каву... Хаўтуры... А мо нічога не было? Мо толькі прыснілася мне?..

Лідзія Паўлаўна на развітанне чмокнула мяне ў шчаку... На развітанне... Пасля лінейкі і канцэрта адразу ж заспяшалася дадому. Як ні ўгаворвалі яе застацца ў нас на фуршэце, не пагадзілася. Каюся, я нават пакрыўдзіўся быў... Каб ведаць...

На хаўтурах Міша расказваў, калі ехалі на юбілей, ёй, Шышкінай, раптам зрабілася блага. Імгненна збялела, войкнула, схапілася за сэрца, асунулася. Ён разгубіўся, спыніў машыну, не ведаў, што рабіць. Добра, яна сама апрытомнела, паклала пад язык таблетку нітрагліцэрыну, сцішылася, супакоіла яго:

– Не бойся, Міша, не бойся. Хіба ўпершыню? Гэта ж сэрца, схопіць і адпусціць. Усё будзе добра.

Доўга, мо з гадзіну, стаялі ў дарозе, пакуль не адпусціла. Хацеў развярнуць машыну ды ехаць назад у раён – запратэставала катэгарычна:

– Толькі праз мой труп...

У той сітуацыі, згадзіцеся, гучала гэта кашчунна, здзеклівá і... прароча. Зараз Міша дакараў сябе, што не настаяў тады, і нават мне не прызнаўся. Бо зноў жа – забараніла, каб не псаваць нам свята. Вось чаму ў той дзень ён быў такі маўклівы і пануры.

Вяртаючыся дадому, стараліся не спяшацца. Міша аб'язджаў кожную ямку на дарозе. Лідзія Паўлаўна весела смяялася, нават здзеквалася з яго асцярогі, казала:

– Мы, сардэчнікі, са сваёй хваробай ніколі болей пяці хвілінаў не размаўляем, так што дарэмна, Мішанька, хвалюешся.

Ён супакоіўся, паслухаўся, прыбавіў газу, нейкі час маўчалі. Міша загледзеўся на дарогу, ды раптам холадам працяло спіну. Зірнуў у люстэрка і нема закрычаў...

А мо мне толькі праснілася? Зараз выйдзе Шышкіна, усміхнецца. І ўсё стане на свае месцы...

Сядзім, сумуем, калегі кісла ўсміхаюцца. Новая загадчыца, не паспеўшы сесці на трон, наладзіў разборкі: падымае па чарзе дырэктараў, штосьці высвятляе, прабірае, як школьнікаў. Быццам ён яшчэ ўчора не сядзеў побач з намі. Улада раптам акрыліла бяскрылага чалавека і, мусіць, адняла цвярозы розум... Хаця б сёння, дзеля памяці аб сваім папярэдніку, якога на пачатку нарады памянулі хвілінай маўчання, абышліся без разборак. Далібог, калі мяне вось так падымуць, не вытрымаю і выскажу... Уражанне, быццам топчамся на свежай магіле...

Думкі блытаюцца ў галаве, ім цесна, раяцца, нешта рыфмуецца. Каб не гультайнічала рука, прымушаю яе заганяць рыфмы ў блакноцік:

А па жыцці напісан свой сцэнарый,
Свае у лёсу правілы гульні,
Бог не пытае, малады ці стары,
Няма у Бога блату і радні.
ТУДЫ ідуць, хто лепшы, хто надзейней,
Нас пакідаюць родныя, сябры,
І мы на гэтым свеце толькі цені...
Жыццё, як камень, пушчаны з гары...

«– А вось з помнікам, Журнал Фёдаравіч, давядзецца крыху пачакаць. Яшчэ не вечар»...

– Сматрычы! Устаньце! Што вы там канспектуеце? Адкажыце лепей, чаму...

О, Божа! Што за такт? Што за манеры ў наваспечанага начальнічка?! А калегі пасміхаюцца сабе ў насавічкі і, як заўсёды, маўчаць... Гісторыя развіваецца па спіралі. І трэба зноў трымаць бой...

Усё толькі пачынаецца...

Васіль Зуёнак



...Беларусь... – ці ты Божы дар,
Ці ўпала сляза нябесная?..

# Зноў вясна, зноў чаканне...

***Вершы 2022 года***

### ***ПАЛОНЕНЫ...***

Слоў неспадзеўных
Нябесны прылёт,
Як дожджык засеўны
На мой агарод.

Замоўлю ад церній,
Унікну акрас:
І ў слове, і ў зерні –
Пытанне й адказ.

Палоняць: і допыт
Нябесных гасцей,
І сейбіта клопат:
А вось ды ўзрасце!..

## ***НАЎЗДАГОН ПАЭТЫЧНАМУ САЙТУ…***

А вершы з лёсам амаль чалавечым:
Вечна маўчалі – і раптам пачуліся,
Як з небыцця, да мяне адгукнуліся.
Ды Інтэрнэт зноў палоніць у вечнасць:
Адкуль прыйшлі, туды і вярнуліся...

** * **

Хай сусвет вякі вякоў гайдае –
Той мяжы не перакрэсліць весняй.
Гэтак Бог расстайным спагадае:
Ці са мной у пекла, ці ўваскрэснеш,
Але застанешся толькі тая –
Вечная і вечна маладая.

** * **

Так Бог звязаў –
На вечны час:
Твая сляза
Ў маіх вачах...

## ***ЯК ДА МАЦІ…***

*...я да зямлі, як да маці...*
**Марыя Вайцяшонак**

Да зямлі, як да маці:
І ў святлынь, і са скрухай,–
Як з паклонам, схіляцца,
Каб травінку паслухаць.

Каб у кветках прадоўжыць
Лёс падступны, Марыя
І замовіць ім дожджык,
І ад сцюжы закрые.

Водгук сонечнай раніцы
І вячэрняга роздуму
Свету ўслых прамаўляецца
Чуйным вершам і прозаю.

І адкуль ты, Бог знае,
З гэткай тайнаю песняю:

І такая зямная,
І такая нябесная?..

### ***ПЫТАННЕ І АДКАЗ…***

Цёплы дожджык-грыбасей
Поўны кош грыбоў нясе.
А спытаеце: “Каму?” –
Не скажу я. А чаму?

Бо тады пачнуць пытацца:
Дзе той лес, і як дабрацца?
На машыне? Пехатой?
Дзе той мох і неруш той?
Дзе спаткацца з грыбасеем,
І паганкі ці нясе ён?..
Ці вялізны ў яго кош?
І ці ходзіць басанож?...

Так да саменькага рання
Набярэцца кош пытанняў,
Поўны кош размоў пустых,–
Ды і клопатаў маіх.
Бо мне трэба – помню ўсё ж:
Грыбасею несці кош
Незагружаны, парожні...

Дык хіба адказваць можна?!.

### ***“ПА ДАРВІНУ”…***

Не ў крыўду Адаму з Еваю
Ён з малпай радство шукаў, –
І што ж у тым неспадзеўнага:
Усё ў адзіных руках.

Як маем жыццё то бяздарнае,
То малпападобнае ўшчэнт, –
Дык, можа, якраз што “па Дарвіну”
Быў боскі эксперымент?..

### ***ШТО Ж, ПАБАЧЫМ…***

Адыходжу. Цемра ночы
Будзе ззяннем прамянець...

А жыццё наўслед прарочыць:
– Во дзе ўспомніш пра мяне!..

Што ж, пабачым. Шкадаванне,
Можа й праўда, скалане?
То ці ж след з такім стараннем
Забіваць цвікі ў труне?!.

* * *

Калі я зямны палон пакіну, –
Выбачайце, што патурбаваў, –
Уявіце, хоць бы на хвіліну:
Гэта я ўсяго пажартаваў.

Ды, аднак, усё ўсур'ёз прымайце, –
На зямлі не двойчы паміраць.
І перасцярогу ўсё ж на ўвазе майце:
З мёртвымі не раю жартаваць...

## ПАД ЗАВІРУХУ...

І ноч гавею,
І дзень быў посны, –
Не разумею,
Невыносна!

Бяссонню ў вочы,
Маўчанню ў вуха
Завыць па-воўчы б
Пад завіруху...

## ЗНОЎ ВЯСНА...

*Маёй бярозе пад акном*

Зноў вясна, зноў чаканне:
Што там вырай нясе?
Ці з душы здыме камень
І крылом растрасе,

Ці пакіне да лета,
Каб маланкай спаліць?..
У вясны шмат сакрэтаў,
І кожны баліць...

А бяроза, як прошча,
Ды маўчаць каташкі...
Зноў – вясны даўняй роспач
І надзеі шматкі...

## *ЯК ПРЫСУД...*

Кожны дзень вясна ў фарысеяў:
Зерне слоў няўсходжае сеюць.
Потым лету дань аддаюць:
Што ўзрасло з таго зерня, жнуць.
Тут жа й восеньскі клопат турбуе –
І малоцяць штодня на трыбуне.

Разам мелюць, і квасяць, і месяць, –
Во дзе важна язык падвесіць!..

Не злічыць, колькі захадаў трэба,
Каб, нарэшце, дабрацца да хлеба,
Ды яшчэ ж каб да свята спячы
Караваі ды калачы!..

Ох...
Даў жа Бог!..

Так штодня – і за годам год, –
Як прысуд: “Накарміць народ!..”

## *КАСАЦЫЯ*

А як жа грэшніку таму
Пакутаваць у пекле,
Каму жывую галаву
Яшчэ ў жыцці адсеклі?..

## *АПОШНЯЕ ФЕМІНІСТЫЧНАЕ*

*ЯК:*
Не быў бы сабака сабакам,
Калі б не сабачы брэх...
*ТАК І:*
Не меў бы мужчына і знаку,
Калі б не ў штанах прарэх...

## *ПЛЫВЕ ЧОВЕН...-2*

Плыве човен, вады повен,
Набок пахіліўся, –
Дзе вы, хлопцы, дзе, панове,
Гэтак напіліся?

На чыім змаглі вяселлі
Так начаставацца,
Што ў дзіравы човен селі,
Каб з Дняпром змагацца?..

А была адна на ўсіх нас
Гэткая прычына,
Што кахалі, як на ліха,
Мы адну дзяўчыну.

А яна была адзінай
Аднаму другому, –
Дзе гулялі, дзе хадзілі,
Толькі ім вядома.

Нам адно і засталося:
Замуж аддавалі.
Як збылося, так збылося:
Гора запівалі...

Як адна на ўсіх прычына –
Ніхто не віновен.
А пасаджаны дзяўчынай
Мы ў дзіравы човен...

## *ДУБУ Ў ТРЫ АБХВАТЫ*

Вянец лясной раскошы
І вечны вартавы –
Мне сам, хоць я не ўпрошваў,
На дружбу даў правы.

Мне сам насустрач выйшаў:
З пушчанскай глыбіні
Ўзнялі – за неба вышай –
Зямныя карані.

Пад кронай вузлаватай
Я ў захапленні стаў,

Знаёмства ў тры абхваты
Абдымкам змацаваў.

З таго і пачалося:
Упоруч нас вялі
Грыбныя лета й восень.
І ў лад грамы гулі.

І дождж – грамоў страсеннік –
Праходзіў басанож
І нерушы падсейваў
Нам шчодрыя.
Ды ўсё ж...

Усё ж – прасі-выпрошвай:
Не ўгледзелі, калі
Да нерушаў апошніх
Нас сцежкі прывялі...

Адно цяпер – гукнуся
З ім пад грыбныя сны:
– Жыві і раскашуйся,
Мой пабрацім лясны!..

Не верачы ў вяртанні,
Хацеў бы толькі ўзнаць:
Калі мяне не стане,
З кім будзеш сябраваць?..

### *УСМЕШКА*

Перад гэтай сустрэчай
Галаву не схіляю:
"Добры дзень!" "Добры вечар!" –
Як ва ўсмешцы Някляеў.

Перад ёй – без ахвоты
Адступаюць згрызоты,
Грэх – да чорта ў балота,
І самота – на потым.

Лёгка з ёй і прыветна,
І не думай пры гэтым:
"А Някляева ўсмешка –
Ці аванс? Ці пацешка?.."

Што хацеў бы аспрэчыць,
Ён за ўсмешку хавае:
Штосьці знае аб нечым...
Не сказаў – але знае.

Ад яе не ўхіліцца,
Не ўцячы, не схавацца –
І адным бараніцца:
Ёй сустрэчна ўсміхацца.

### *ТВОРЧЫ РОСТ*

Кляшчом у рыфмы на хвасце
Раскашаваўся і тлусцеў.

### *ЦЕЛА І ДУША...*

П'юць натхнёна з нябеснага каўша
Па-зямному –
Неўпатольныя:
Цела ўпойнае і вольная душа.
І ўпіваюцца абое
Па-застольнаму...

### *СЛАВА*

Славу браў ён на прыцэл –
Вось, здаецца, грымне стрэл!
Толькі стрэлу не было:
Славу, як мятлой, змяло.

### *УЗАЕМНАСЦЬ*

Геній! Геній!! Геній!!!
Са ўзаемаацэнак
Муза шчодрай жменяю
Сыпле рыфмы генію,
Бо ў таго цяпер наўме:
"Тройчы сып – і тройчы мне!" –
Рыфмаваць пахвальнасці –
Клопат геніяльнасці.

## КАТАРАКТА

*Пра грыбную згубу –*
*у дзень аперацыі 29.09.22.*

Лес і пералескі
Зналі без абвесткі,
Як спяшаў я з хаты
На грыбное свята.

Неруш з бору й пушчы
Мне ішоў насустрач.

Ну а хто намерыўся
Затаіцца ў верасе,
Я для гэткіх докаў
Меў грыбное вока.

Дык жа нейкі грыб паганы
Прычыніў на вока рану:
Заманіў мяне ў гушчар
І галінкай шлёгнуў твар...

Хоць укол нязначны быў,
Ды крышталік не забыў
І з гадамі – а не раптам –
Пераймаўся ў катаракту.
А замест сябе навучна
Воку ўвёў крышталік штучны.

Дзякуй медыкам! – Але
Папярэдзілі мяне,
Каб за цяжкі груз не браўся,
Каб у працы не схіляўся
Дужа нізка галавою...

Ну а як тады “Грыбное”?!.

Як пад лапнік зазірнуць,
Як падмошнік разгарнуць,
Ды, дзе неруш весяліцца,
Як грыбам мне пакланіцца,
І цару “Грыбнога”
Як упасці ў ногі?..

Пра грыбную згубу
Вестку дам я дубу:

“Дубе-браце, выручай:
У мяне грыбны адчай!..”

Можа дуб мой “ў тры абхваты”
Спыніць медыкаў дэбаты:

“Кош бяры – і ў лес гайда:
Сам грыбы табе аддам!..”

### ***“ГРЫБНОЕ”***

*Напамін*

Бог лясны на карту ўзяў
Царства – і абнове
Ён па-царску назву даў:
“Царскае Грыбное”.

А вось дзе яна стаіць
Цуда-кропка тая,
Бог наважыў утаіць:
“Кожны Сам шукае!..”
*Грыбніку – бестэрмінова:*
*ад першага грыба – і назаўжды...*

### ***ЯК ЗНАЎ...***

Адпрэчваў Хрыстос злога д’ябла гайню,
Каб ад шаленства пазбавіць народ.
А д’ябал пішчом усяліўся ў свінню, –
Як знаў, што ўсіх дзеліць на “захад” і “ўсход”...

Вось так і паставіў пытанне рабром:
Хто ж пашкадуе ахвярных свінней?
І не канчаецца спрэчка дабром:
“Захад” –
Есць сала,
“Усход” –
Кляне.

### ***ВЯРТАННЕ***

Нараджэнне й смерць у тым прысудзе.
А прысуд – імгненнае жыццё.

Не было мяне, як і не будзе.
З небыцця вяртанне ў небыццё.

### *ПРАСМОЛЕНЫ*

Наіўнасць ліпнецца смалой:
Як ад расправы злодзей,
Хаваюся ад бабы злой
І веру, што не знойдзе...

### *СПЫТАЮСЯ...*

Нанізваю думы па слоўцу.
Калі ж абарвецца ніць,
Спытаюся ў сябра-ядлоўца:
– Табе цішыня не баліць?..

### *СХОДНІ*

Дзень турбаванняў неадменных
За даляглядам часу знік.
Ноч падключае дню на змену
Ўспамінаў вечны рухавік...

### *ПРАЧНУЎШЫСЯ...*

У пяць нуль пяць вярнуўся з раю –
Каго шукаў там, не знайшоў.
Сноў бесканфліктных не бывае –
Прыходзіў Бог, ды не зайшоў...

* * *

І было заўжды, і будзе
Толькі грэшнае каханне.
Дзве віны і двое суддзяў –
Тут сам Бог караць не ў стане.

### *КРУМКАЧ*

Ён чорны, як Малевіча квадрат,
І лётае, бо ўсім крылатым брат.
Адно пытанне крумкачу карціць:
Чаму, як ён, квадрат не паляціць?..

## ЛАПАЦЬ

Як безнадзейныя
З мінулым перазовы,
Жыве музейна
Лапаць мой лазовы...

## ВАЛТОРНА

*З музычнага лёсу Адама Русака*

І знаць не знаў калісьці аб валторне:
І хто яна такая, і адкуль...
А зараз чуйна да грудзей прыгорнеш –
І пацалунак вуснамі смакуй.

На ленінградскіх сцежках не святыя,
З кансерваторскіх цвелячы азоў,
Яна табе пра Моцарта, а ты ёй
Пра песенны з Пясочным перазоў.

–Ты не знаеш, валторна,
Як там вольна і зорна...

І чуеш, як пытае арфа ў флейты:
"Спытаць бы ў дырыжора: што за знак –
Ці гэта ў сімфанічны лад куплеты,
Ці скрыпцы здрадзіў ён, Адам Русак?.."

О не! Ёй вернасць не згубіў маэстра,
Яны ад нараджэння спарышы.
Валторна горне толькі да аркестра,
А скрыпка ў роднай хаце для душы.

– Салаўём там у садзе
Валтарніст-ленінградзец...

* * *

Як з будучыняй былое,
Як вечнасць – вякоў вякі,–
З бязмоўнаю маці-зямлёю
Зраўняліся два грудкі.

І ў памяці ўсё замяло:
Чыесьці – дзядуля, бабуля?.. –

Як быццам іх і не было,
Як быццам аб іх і не чулі...

І толькі да неба лазейку
Яшчэ зберагае для іх
Ядлоўцавы куст-самасейка –
Як лёс, адзін на дваіх.

### *СПАЧАТКУ...*

А будзе ж яна, бясконцасць,
Без сонца, як і да сонца.
А я, хто сёння жывы, –
Якія ў мяне правы,
Якія наканаванні,
Быць, як мяне не стане?..
Пакінем жывым загадку.
Але – пажывём спачатку!..

* * *

Зямны азіраю шар
З падступнай думай балеснаю:
Беларусь... – ці ты Божы дар,
Ці ўпала сляза нябесная?..

Дар’я Ліс




…скласці дакладнае генеалагічнае дрэва – справа добрая, але сумная…

# Не кажы бабулі

***Біяграфічны расповед***

*Памяці маёй бабулі Таццяны Васільеўны Ліс*

Бабуля стала ўдавой у тым узросце, калі я і не думала ісці замуж. Зрэшты, мяне не звалі. Каму патрэбны праблемы на сваю галаву? Канечне, дзед пра такое не думаў, закахаўшыся ў бабу Таню ў 6 класе. І свае праблемы атрымаў... Затое жылі яны весела, хоць бабуля ніколі не была ідэальнай жонкай, а – тым болей! – гаспадыняй. І дзед, пэўна, таксама, не быў ідэальным мужам і гаспадаром, хоць яго ведаю адно па расповедах... І расповеды заўжды на яго карысць! Мала пражылі, затое насычана, пакуль ён не памёр у 40 год ад інфаркту. А яна пражыла большую частку жыцця ўжо без яго, пасля яго... І амаль пра ўсё забылася. Альцгеймер – штука такая. Напэўна, я павінна трохі расказаць пра іх жыццё, пра яе жыццё, раз ужо мне 39, а я не вару баршчы, не смажу катлеты і не маю дзяцей... На жаль ці

на шчасце – хто ведае? Скласці дакладнае генеалагічнае дрэва – справа добрая, але сумная. Тут мне не хопіць цярплівасці. Іншая рэч – гісторыя. Караценькія гісторыі.

Баба Таня вельмі любіла і часта згадвала свайго бацьку Васіля. Ён быў шавец, працаваў у чыгуначных майстэрнях горада Маладзечна. Падчас Другой сусветнай меў па гэтай прычыне бронь. Памёр рана з-за цукровага дыябету і адсутнасці інсуліну ў Смаргоні. Прадзед толькі-толькі пабудаваў у Зарудзічах новую хату з высокай столлю, са смалістых яшчэ, моцных, прыгожых бярвёнаў... І парадавацца ёй не паспеў. Але паспеў парадавацца, што дачка Таня пайшла вучыцца! Вельмі ганарыўся, што на іх беднай зямлі будзе настаўніца. Бабуля пасля 7 класаў беларускай школы паступіла ў Ашмянскае педвучылішча. Настаўніца пачатковых класаў – ого! Новыя боцікі на абцасіках. Халодныя "папуткі". Стос спечаных бліноў і сала з сабой... А галовы студэнткі мылі ў Ашмянцы – шкадавалі капеек на лазню. Асобная гісторыя.

Бабуля распавядала, як пабраліся ейныя бацькі – і гэта стала адной з самых яркіх гісторый майго дзяцінства! Васіль быў бедны, меў вузкую палоску зямлі і жыў з маці Уллянкай у вёсцы Зарудзічы. Антаніна, Антоля, была адной з пяці дачок у заможных Пётры і Настулі Зяневічаў з Сівіцы. Была прыгожай. Адна бяда – кавалер Сяргей сышоў у Савецкую Беларусь і, пэўна, забыўся пра яе... Прапаў... А тут Васіль пасватаўся... Што рабіць? Замуж ісці! Ды толькі перад самым вяселлем Сяргей вярнуўся з-за мяжы. Даведаўшыся пра шчасце каханай, паабяцаў застрэліць. У цэнтры вёскі, на плоце, нават афішу тэматычную размясціў. Маладыя ехалі з вёскі ў вёску схаваўшыся, каб "камуніст" не забіў. Абышлося. Расчараваны герой вырашыў ажаніцца з малодшай сястрой сваёй былой каханай. І звезці яе ў шчаслівае жыццё на ўсходзе. У Савецкай Беларусі.

Прыйшоў да прадзеда Пётры і пасватаўся да малодшай – чарнавокай прыгажуні Марыі. Ад пасагу адмовіўся, затое прыгразіў вочы выкалаць дзяўчыне, калі не аддадуць за яго... Запрог Пётра жарэбчыка і павёз малодшую дачушку ноччу да ўсходняй мяжы... Ёй было шаснаццаць. Вярнулася Марыя з Магілёва толькі падчас Другой сусветнай. Без мужа, які згінуў у сталінскіх турмах, і без дзяцей, якіх вывезлі ўглыб Расеі ў эвакуацыю разам з дзіцячым садком. Сама яна была на дзяжурстве ў адным з магілёўскіх шпіталёў – не адпусцілі. Марыю не рэпрэсавалі і дзеці не трапілі ў дзіцячы дом. Пашанцавала. Яна доўга шукала сваіх хлопчыкаў, баялася, што трапілі ў Германію... Знайшла іх – Валодзю і Аліка – пад самы канец вайны. Выйшла замуж другі раз. Няўдала. Памерла ў доме-інтэрнаце ў Навагрудку, бо стала холадна ў старой хаце, а ў жыцці дзяцей і родных месца бабе Марыі – Сабілісе, як яе ўсе звалі па першым мужы Сяргею Сабілу! – не знайшлося. Антолі і Сарафіны ўжо не было ў гэтым свеце, а Ніна і Волечка да сябе жыць не пазвалі. Час ад часу баба Марыя гасцявала ў пляменніцаў – Мані або Тані... А сын Ніначкі Славік апекаваўся ёй, наведваў і пахаваў на радзіме, у Залессі.

У сям'і Антолі і Васіля нарадзілася чацвёра дзяцей: старэйшы сын Сяргей (супадзенне або не змагла першае каханне забыць?), Марыя, Таццяна і Соф'я. Усе, акрамя Мані, нарадзіліся ў халады, зімой. Бабуля – на Вадохрышча, 19 студзеня. Жылі не вельмі заможна, але і не бедна. Усе мелі добрыя боты, вучыліся ў школе, а ў лепшыя часы ў сям'і была нават нянька Танька – бяднейшая дзяўчына з радні, што дапамагала Антолі з

дзецьмі. Васіль любіў жонку, дзяцей, прывозіў з горада прысмакі (мёд, арэхі, цукеркі...). Але паспрабуй пакінуць пасля вуліцы непачышчанымі боты – ого! Падымаў малых з-пад коўдры і прымушаў чысціць. Мянушка была ў прадзеда – Мяцеліца!

У час вайны вяскоўцы баяліся партызанаў, а не немцаў. Па той простай прычыне, што немцы ў Зарудзічах займаліся коньмі, а не расстрэльвалі людзей, гэта не былі часткі СС. Ганс частаваў малую Таню цукеркамі "Бім-бом" і казаў, што не хоча вайны, – хоча хутчэй вярнуцца да жонкі і дзяцей. Але былі і іншыя гісторыі. Аднойчы ў хату зайшоў худы чалавек і папрасіў хлеба. Палонны салдат уцёк з лагера. Антоля пасадзіла есці, наліла капусты, а Васіль зарыентаваўся хутчэй: забраў адзенне і кінуў у печ, даў сваю вопратку, сала, хлеба і выштурхаў у жыта, да ракі... І адразу пачуўся брэх сабак на падворку. Палонны паспеў перайсці рэчку – аўчаркі згубілі след. Усе засталіся жывыя. Васіля і Антолю ніхто не выдаў. Бабуля праз усё жыццё падтрымлівала сяброўскія стасункі з суседзямі – і старымі, і новымі... Гэта такая сямейная традыцыя.

Суседкі Таня і Зіна сябравалі, і калі бацька Зінаіды Антонаўны вярнуўся з вайны, то навёз шмат паперы, з якой дзяўчаты рабілі сшыткі. Потым яны разам паступілі ў Ашмянскае педвучылішча і чатыры гады ездзілі туды з Зарудзічаў на "папутках"... У кузаве, схаваўшыся ад ветру... А потым усё жыццё сябравалі і працавалі разам ужо ў Залескай школе. Зіна час ад часу брала з сабой паляндвіцу: жылі багацей, бо было іх з сястрою двое і тата быў жывы.

Ашмянскае педвучылішча – асобная гісторыя. Бабуля часта прыгадвала, што найболей баялася алгебры (ёй сніліся жахлівыя сны пазней – стаіць ля дошкі, здае і не можа здаць алгебру!). І ганарылася, што заўжды ўдавалася ўсё паздаваць і атрымаць стыпендыю. Праўда, аднойчы не здала і, каб было што есці, узялася за працу – цягаць брыкет і паліць печы ў вучылішчы! Трохі дапамагаў дзед (вучыўся ў тых самых Ашмянах на механізатара...). Не высыпалася. Хтосьці выпадкова спаліў прыгожыя боцікі, пашытыя татам, якога ўжо не было ў жывых, – студэнткі сушылі абутак ля печы.... І хата, іх высокая новая хата, згарэла ў тым страшным зарудзіцкім пажары пачатку 1950-х. Не раз плакала Таня, чытаючы канспекты ля печы.

Дзед Пеця з бабай Таняй сустракаліся з 6 класа. Для яе было дзівам думаць пра другіх кавалераў і да вяселля з ім, і падчас жыцця з ім, і пасля яго смерці. І ў галаве не было! Прытым што чалавекам дзед быў няпростым, патрабаваў парадку ва ўсім – рэчы заўжды павінны былі знаходзіцца на сваіх месцах. Чыстыя насоўкі, адпрасаваныя штаны і кашулі. А бабуля магла пасля школы зайсці да бабы Мані, перакусіць там і ўсе справы абмеркаваць... А дзед ужо дома пасля працы закіпае – Тані няма!.. Карацей, ратавала іх сям'ю свякруха – Стэпачка, Сцефаніда Антонаўна. На ёй былі і гаспадарка, і ўнукі, і псіхалагічная падтрымка. Як бачыла такую бяду, то цішком брала сынавы порткі і выносіла Тані да брамкі – быццам тая ў Мані не за размовамі забавілася, а штаны зашывала. Маня – краўчыха вядомая, усіх сваіх і чужых абшывала днём і ўночы... Пеця заўжды пхаў ключы ў кішэні штаноў – яны рваліся! А па гуку любой машыны ці трактара мог зразумець, ці патрабуецца рамонт і які менавіта рамонт. Дзед быў прыроджаны інжынер і хварэў душой за сваю працу.

Іх і звалі Антолі – трох сясцёр Маню, Таню і Соню. У вёсцы казалі: “Гэтых Антоляў не перагаворыш (а пагаварыць яны любілі!) і не развядзеш!” І старэйшы брат – дзед Сяргей. Брат быў суворы і з дзявочай кампаніі выбіваўся. Малодшая Соня з вялікай ахвотай уцякла ад яго замуж, хоць муж Іван ад яе за ўсё жыццё добрае слова ці пачуў? Пытанне... Баба Соня зусім не шчодрая на добрыя словы. Дзед Сяргей зусім не быў падобным да свайго бацькі звышвыбуховым і жорсткім характарам. Жонка і дочкі не раз уцякалі ад яго праз акно да суседзяў (таму і рама другая, зімовая, выключна дэкаратыўную ролю ў заднім пакойчыку выконвала...). Сякера заўжды была недзе побач. Затое – акардэон! Ніводная бяседа без музыкі Сяргея не абыходзілася, без танцаў і спеваў.

І тут з’яўляецца агульная тэма для многіх мясцовых жыхароў – Дом адчынку ў сядзібе Агінскага, танцпляцоўка. Дзед Сяргей адзін час працаваў там. І ўсе мясцовыя лёталі ў “санаторый” пасля працы – на танцы! Баба Таня кідала Стэпачцы спачатку Юрку, потым Алега (разам з бутэлькай сцэджанага малака!) – і яны з дзедам Пецем ішлі на танцы праз вёску, да старых будынкаў у прысадзе не менш старых ліпаў. Тут збіраўся мясцовы вясковы бамонд і прыезджыя адпачываючыя. Прыгожымі сукенкамі ўсіх сваіх забяспечвала Маня, а Сяргей граў на акардэоне.

Асобная тэма – савецкія санаторыі. Дзед з юнацтва меў хворае сэрца і раз на год абавязкова выбіраўся кудысьці падлячыцца і адпачыць. Думаю, яму проста цікава было змяніць далягляды, вырвацца з вясковых і калгасных клопатаў – такі ўжо быў няўрымслівы чалавек! Разам у санаторый яны з’ездзілі толькі аднойчы – у Латвію, на рыжскае ўзмор’е: баба Таня была пасля аперацыі і адна не паехала б... Звычайна зімой яна не магла (школа!), а летам дзед Пеця не мог (уборка!). Дзед стаў першым дэпутатам Вярхоўнага Савета ў нашай мясцовасці (адказваў за экалогію – хто пра яе думаў у тыя часы?) і меў магчымасць паехаць куды хацеў... Геаграфія паездак была даволі шырокай, як і стосы “пратакольных” фота з Крыма ці Каўказа. Затое сяброў падчас знаходзіў душэўных. З дзедам Жэнем з Мінска і яго сям’ёй яны пасябравалі на ўсё жыццё. Крыштаповічы прыязджалі ў вёску, а татка з дзядзькам Юрам бывалі ў сталіцы ў гасцях. Дзеда не стала, але гэта не змянілася, адносіны падтрымліваліся паміж сем’ямі.

Бабуліны санаторыі і перапіскі цесна звязаныя паміж сабой. У кожным санаторыі яна заводзіла сяброўак, што падчас перарастала ў далейшыя сустрэчы і ліставанне. Бадай, самая яркая яе санаторская прыяцелька – баба Шура з Барысава. Яна і ў Зарудзічы прыязджала не раз. На памяць пра гэту жанчыну тут застаўся сіні жывучы вінаград ля хаты і доўга жыў сабачка Марцік, які пастаянна абрастаў хвалістай поўсцю, з якой несупынна змагалася прабаба Стэпа з дапамогай нажніцаў. Марцік насамрэч быў падобны да гарадской балонкі, якую жорсткі лёс занёс у вясковую будку... і тут ён пражыў доўгае жыццё. Не стала бабы Шуры – лісты ў Зарудзічы ляцелі ўжо ад яе мужа. Баба Таня старанна адказвала – і гэта была выключна настальгічная перапіска... Кавалерам яна дала адстаўку яшчэ на марскіх курортах. Адзін з першых пасля смерці дзеда быў па-за межамі Беларусі. І там сталы сівы ўдавец назваў бабу Таню эталонам прыгажосці і жаноцкасці, пазваў замуж, а для пачатку – на дачу. Дача была на Азоўскім моры, і паехаць можна было ў выхадныя разам з санаторскай прыяцелькай. На начальніцкай “Волзе”. Не паехала. Замуж усё роўна не пайшла б, то навошта чалавеку галаву дурыць? Талон, эталон... Хм. Па-

мяняць у сталоўцы нелюбімы кавун на селядзец, схадзіць разам на танцы, паразмаўляць і трохі пажартаваць – так! І нічога больш. А было б цікава прыязджаць да бабы Стэпы ў Зарудзічы, а да бабы Тані – на Азоўскае мора! Не збылося. Затое мы пілі ружовае шампанскае!

Аднойчы на зімовыя канікулы баба Таня пазвала нас з сястрой Сашай і стрыечнай сястрой Воляй у госці. Была халодная марозная зіма, вялікая зала з напаленай печчу (напаліць вялікую хату было немагчыма!), часопісны столік, адбіўныя (бабуля рабіла іх выключна па святах!) і бутэлька малдаўскага ружовага шампанскага са скрыні на гарышчы. Дэфіцыт! Лёшкі з намі не было – адзіны старэйшы ўнук гадаваўся ў бабулі з дзядулем у суседняй вёсцы і толькі аднойчы пажыў у Зарудзічах, у самым пачатку... Разам – так, каб усе ўчатырох і без бацькоў – мы ў бабуляў не збіраліся. Неяк не супала... Быў своеасаблівы падзел – Волька з Лёшкам гадаваліся ў Міхневічах, мы з Сашкай – у Зарудзічах. Міхніцкія і зарудзіцкія ўвогуле рэдка супадалі, і так было не толькі ў нашай сям'і.

Бабуля любіла нас. І сваіх вучняў, школу, працу... Было літаральна два чалавекі, якіх яна не змагла навучыць чытаць, нават з улікам класаў па сорак чалавек. І ніколі не баялася мясцовых хуліганаў і алкаголікаў – памятала іх дзеткамі, вучнямі, а яны памяталі і паважалі Таццяну Васільеўну. А яшчэ бабуля любіла свае Зарудзічы, дзе пражыла восемдзесят сем год... Вясной, едучы да мяне ў Залессе праз маёнтак Агінскіх на ровары, яна часта брала першацветы – жоўценькія такія кветачкі... Цікава, ці занесеныя яны ў Чырвоную кнігу?

*Залессе, лета-2021 – студзень-2023*

Андрэй Сцепанюк



...нельга быць тым
кім ты ў сапраўднасці
не ёсць...

# Драўляная гара

### *схаванае сонца*

ніхто не заўважыў што з учарашняга дня
не свеціць сонца
ходзяць усе спакойна і перакідваюцца словамі
“ах якая вялікая сёння імгла дзень пахмурны”
і сонца не свеціць

схавалася яно ў сваім нябесным доме
не хочацца яму выходзіць і выконваць сваю працу
не можа ўжо ўцячы ад думкі што калі яно на небе
усё на зямлі павінна адбывацца прыстойна і годна
і ўсміхацца трэба яму і чакаць што засвеціць
і прынясе з кожным сваім промнем шчаслівы дзень

столькі гадоў змагання з каралеўствам ночы
змучыла сонца да таго

што не ў змозе ўстаць ранкам са сваёй пасцелі
займець службовы выгляд і пачаць чарговы раз
свой паход па ўсіх кантынентах і краінах
дзе прывыклі што яно будзе і не чакаючы чакаюць

а цяпер выявілася – ніхто нават не заўважыў
што сонца не свеціць
ніхто не пачаў крычаць і пратэставаць і абурацца
што не можна так і нягодна і да таго яшчэ кепска
і кожнаму так хацелася б не ісці на працу
бо сонца не свеціць

і калі будзе мінаць чарговы дзень і чарговы і чарговы
сонца будзе далей спакойна спаць
і сны наведаюць яго нечаканыя і незразумелыя
і будзе ў іх ноч і ноч будзе і ноч
і будуць людзі якія забылі што калісь над зямлёй
свяціла сонца
і дзень пачынаўся спевам жаўрука
а потым была ноч якая толькі хвіліну была

### ***дыягназ***

я праўдападобная частка еўрапейскага народа
які падзялілі, які падзяліўся (непатрэбнае выкрасліць)
у маіх венах плыве кроў якая нікога не выратуе
з увагі на тое што ніхто не ўмее акрэсліць яе групы

А+ ці А-, Б+ або Б-, 0+ ці АБ-, ніхто не ведае
мая кроў мае неакрэсленае паходжанне

медсястра ў шпіталі не захацела паклікаць да мяне доктара
толькі таму што я не ў стане назваць сімптомы хваробы
не ведаю што ў мяне баліць дзе круціць а што зарастае
але адчуваю я вялікі боль які не дазваляе мне далей жыць

святар які хацеў памаліцца за спакой маёй душы ўцёк з палаты
пакінуўшы малітоўнік і крыж на якім чарговы раз памірае
Хрыстос

я нічога не бачу, не расплюшчваю вачэй і не слухаю крыку цемры
якая падказвае затрымацца і сказаць што гэта ўжо канец
не магу адыйсці не ведаючы прычыны сваёй хваробы таму
у чарговы раз імкнуся зразумець часткай якога народа я з’яўляюся

***вайна***

ранкам абудзіўся ў свеце дзе няма ніякіх правоў
кожны робіць што захоча а па вуліцах бегаюць
гурты падлеткаў з аўтаматамі ў руках

пытаю прахожых як называецца сон
з якога хачу хутка прачнуцца
яны адварочваюць галовы ў другі бок і спешнымі крокам
уцякаюць з месца ў якім хтосьці задаў пытанне

яшчэ ўчора ніхто не верыў што гэта здарыцца
ды не можа так быць – гаварылі старыя
досвед нашага пакалення таго не дапусціць
малодшыяківалі галовамі і былі згодныя з рацыяй старых

усе прыкідваліся што не бачаць як за сцяной
у прымружаных вачах суседзяў нараджаецца зло
як з’явілася ў іх нянавісць і прага пахмяліцца салодкім пітвом
якое ў пасохлых вуснах ператвараецца ў гарачую кроў

а нам хацелася жыць у свеце ў якім няма буры і дажджу
дзе можна кахаць, цешыцца і верыць у заўтрашні дзень
можа таму сёння так цяжка хавацца за дзвярыма
і бачыць што гэты сон за вакном ёсць ява

* * *

прапаўшых на вайне ніхто не шукае
яны ідуць спакойна дарогай вечнасці
і толькі ашалелыя ад роспачы маці не могуць
ніколі больш заплюшчыць змучаных вачэй

ніхто не пытае чаму і навошта іх целы ляжаць
абапал дарогі ў скручаных позах
з разарванымі жыватамі і здзіўленнем
на маладых непаголеных тварах

паставяць ім помнікі ў цэнтрах гарадоў
а з аднаго вымуць кавалак смярдзючага цела
і кінуць пад бліскучую каменную пліту
з надпісам “магіла невядомага героя”

ніхто не спытае іх колькі бачылі смерці
і колькі дзякуючы ім невядомых герояў
ляжыць у другой палове завеянай дымам
узаранай калёсамі танкаў і снарадаў зямлі

і я стану побач з каменнай магілай
схілю галаву і не буду ведаць ці аддаю гонар
ці са страху хаваюся пад шапкай-невідзімкай
якая прывяла мяне ў тое праклятае месца

### ***пасля***

назаўтра на стале засталося
некалькі недапітых бутэлек гарэлкі
кавалак засохлага сала
і тры пакусаныя агуркі

толькі хто сказаў
што заўтра зноў будзе?

размаўлялі мы аб тым што было
а было таго нямала
і цікава некалі было
і балюча і радасна зусім было

а будучыні ніхто не кранаў
і не вымавіў ні слова

невядома ці думаў хтосьці пра яе
хаваючыся ад позіркаў іншых
ці нікому нават у галаву
не прыйшло падумаць аб ёй

а наогул што такое
тая будучыня?
на стале засталася нашая надзея
на тое што не трэба будзе
вымаўляць словы незразумелыя
і страшныя для галавы

і вымаўляць іх
не будзем

### ***валачобнікі***

у першую велікодную ноч 2022 года
прыйшлі ў маю кватэру валачобнікі
селі за стол, паглядзелі вакол
і нечакана сталі плакаць

– чаго плачаце валачобнікі? – пытаю. –
Хрыстос уваскрос, радавацца трэба
– мы не з-за Хрыста, мы з-за людзей, – адказваюць
і яшчэ больш льюцца па іх шчоках слёзы

– ніхто нас не прымае, не адчыняюць дзвярэй
ты першы хто не сустрэў нас абыякава
а мы нясем добрую навіну і радасць
і нічога за гэта не хочам, нават грошыка малога

сядзелі валачобнікі глядзелі на сцены
а мне не захацелася апраўдваць людзей
і адказваць на пытанне валачобнікаў
калі па-праўдзе адказу на пытанне няма

– дык заспявайце хаця мне, – прашу сваіх гасцей
а яны глянулі адзін аднаму ў вочы падумалі
і пайшлі не сказаўшы ні аднаго слова
веснавыя валачобнікі 2022 года

*25.04.2022*

### *жыццё запісанае ў школьным сшытку*

калі ў пачатку навукі ў ліцэі сядзелі мы з Валодзем Руткоўскім
у брудным ад папяроснага дыму рэстаране
які называўся прытульна Бяльшчанкай (другі называўся
Падлясянкай
а былі мы ў старым паводле летапісаў горадзе Бельск Падляшскі)
і пілі віно якое смакавала як гнілыя яблыкі (я піў яго
ўпершыню ў жыцці)
не заўважылі што пішам у сшытку схаваным у школьным партфелі
уступ да свайго п'янкавага жыцця і што гэта пачатак гісторыі
якая давядзе нас да прадбачанага ў канцы сямідзясятых
дваццатага стагоддзя завяршэння якое споўніцца разам з адыходам
Валодзі а раней здзіўленнем з пятлі на шыі Сцяпана які быў за нас
лепшым

не размаўлялі мы тады аб тым а толькі пайшлі са школы
каб паглядзець па тэлевізары чатырох танкістаў і сабаку
асабліва цікавіла нас гісторыя звера які быў важнейшы
за нашыя дасягненні ў адукацыі якіх не хапала толькі таму
што ўзнагародай былі не грошы якія знайшліся ў нас
на чарговае віно пасля якога ванітаваў я да позняй ночы
хаваючыся ад маці і апраўдваючыся атрутай якая была ў ежы

Валодзя стаў жыццёвым рэалістам і ніколі не пісаў вершаў
а калі пасля дзясяткаў гадоў пачуў тое што пішу я
адказаў шчыра што не разумее чаму пішу на мове якой ніхто
не разумее і не размаўляе на ёй і калі б пісаў на польскай
пэўна меў бы з таго нейкія грошы і павагу ў людзей

не адказаў я яму што папраўдзе пачаў пісаць на польскай і што
ў сшытку
які запісвае нашае жыццё першыя карткі запэцканыя мовай
якой размаўляў я толькі і выключна пакуль не спаткаў яго
і паверыў
што нельга быць тым кім ты ў сапраўднасці не ёсць і ніколі
не будзеш
але Валодзя ўжо не слухаў заняты быў размовай цікавейшай
у якой мова на якой яна вялася не мела ніякага значэння
і так далей

не паехаў я на пахаванне свайго сябра які быў заўсёды старэйшы
за мяне
сваім жыццёвым досведам і тым што часта гуляў на вясковых
танцах
а я толькі раз у жыцці і то стоячы ў куточку з апушчанымі вачамі
і папяросай якая смакавала тады як першае мацярынскае малако
бо я нарадзіўся ў горадзе і было нас толькі двух такіх ва ўсім класе
і жыццё было іншае хаця кропка ў кропку такое ж самае як
ва ўсіх нас

цяпер калі кідаю ў агонь апошнія карткі з нашай мінуўшчыны
не ведаю
ці хочацца мне вяртацца яшчэ раз у тое што было прадбачаным
і запісалася намнога раней чым здзяйснялася штодзённа ў нашым
жыцці
і на што не мелі мы ніякага ўплыву і толькі маглі верыць у сваю
дарогу
якую выбіраем самі і крочым з узнятай галавой памятаючы
што яшчэ не так даўно сядзелі мы і пілі віно якое называлася
вінам
і смакавала як гнілыя яблыкі апалыя з яблыні нашай маладосці

*2022*

### ***дзверы***

не будзе пакаяння і адпушчэння
зачыню шчыльна за сабою дзверы
і пакіну мінулы час
які быў і які збыўся

застанецца ўва мне дзіця
з якім гуляў на гушкалцы
да хвіліны калі ўпаў
і абдзёр скуру на каленях

ізноў калені прыпомняцца
у святыні калі стаяць буду
і прасіць велікадушнага Бога
каб не забіраў у мяне назаўсёды бацьку

і не пачую цёплага голасу
і ніхто не пагладзіць па галаве
а скажа толькі што будзе па-іншаму
але ніколі не будзе ўжо лепш

і стану цвёрда і не звалюся
бегчы буду і скакаць высока
каб забыць што няма такой дарогі
якая б павяла мяне ў светласць хараства

затужу за колерам які бачу
вачамі сваімі ад сонца прымружанымі
словам захочацца апісаць яго цені
хаця словаў замала дзеля таго будзе

нават тады калі з’явіцца дама
у кветках мне невядомых і сініх
з паху салодкага ў сваёй кіслаце
з незразумення і недахопу ночы

зачыняцца дзверы і знікнуць у бездані
ніхто ў памяці іх не захавае
у пошуках слядоў забытага часу
які стане на хвіліну вечнасцю

### *драўляная гара*

на малой гары растуць вялікія дрэвы
карані іх разрываюць гару
аж да яе пясчанага сэрца
запускаюць кіпцюры ў яе гісторыю
шматгадовую і заблытаную
і чытаюць яе
і чытаюць
і чытаюць аж да болю сваіх вачэй
драўляных і мутных

маўчыць гара так як маўчала заўсёды
ведае яна што дрэвы ўсё ж такі не вечныя
з гадамі іх зубы парахнеюць
і кусаць пачынаюць штораз слабей
а да таго яшчэ вецер разам з бурай
аслабляюць іх бадзёрасць
забіраюць сілы
забіраюць волю
забіраюць радасць знішчэння гары

і далей стаіць гара
і маўчыць
і трывае
хлеб
акраец табе, акраец мне
а рэшткі пакінем тым
хто прыйдзе пасля нас

няхай ядуць на згоду
і апамятанне галоваў
ды рук хвалу вялікую

без масла і скварак
выпечаны з пшанічнай мукі
у печы выпаленай стагоддзямі

ежце за праўду і будучыню
так як дзяды і бацькі елі
са стала зробленага з дрэваў сасновых

а калі прыйдзе дзень платы
з крошак зрабіце белы пірог
і дабраславіце яго на дарогу тым
якія церпяць

Дар’я Мацеша



...пазбаў мяне ад

Смерці...

# Metamorphoses

* * *

Даруйце ўсе,
хто крыж на мне паставіў,
хто бачыў, як я клалася ў труну,
хто клятву ўзяў, што больш ... не буду.
Даруйце,
я чамусьці не памерла,
а вы не прадугледзелі яго...
Цяпер на целе
кветкі
кветкі
кветкі
(замест гніення)
неабарачальна
цвітуць.
Даруйце!

Гэта немагчыма
спыніць –
дажджу не забароніш ліцца,
намочваць глебу прагную...

### *ПА-ЗА*

Здавалася,
тая вясна – пік жыцця,
дабраславенне,
мой страчаны рай –
толькі новае лісце на дрэвах
ярчэй, чым калісьці...
Здавалася,
тыя пачуцці – мяжа
ўсіх магчымасцяў,
толькі яны
мелі назвы,
калі дзеля новых
няма азначэнняў,
няма адпаведнікаў-словаў,
няма...

### *ГЭТА НЕВЫЧАРПАЛЬНА*

чым больш галубоў,
тым больш зерня,
тым больш галубоў...

колькі будзе яшчэ
паранармальных імгненняў
*this flow*
не спыніць
ты праз цела й свядомасць цячэш
як мільёны азораных кропель –
рака ліхтароў...

* * *

...ці мы былі, ці не былі?
прыліў, адліў, прыліў, адліў –
за хваляй хваля набяжыць,
каб распусціцца на мяжы...
ці рыбы, ці спляценні рук (?)
раскручвалі бясконцы круг...
расплыўся ў дажджавой вадзе,

знік хранатоп
дзе мы?
нідзе

* * *

...праз вецер і снег
і нават у сне,
ў якім жыццяказцы бязглуздай канец,
прыйдзі да мяне,
прыйдзі да мяне!
Хай шлях замяло,
ў свабодны палон
(не вытрымаць ночы сам-насам са Злом)
прыйдзі да мяне
ў Вавілон...

### ***METAMORPHOSES***

*(вадаспад)*

Я думала:
як перайсці з аднаго стану ў іншы?
Аказваецца, паміж імі
няма супярэчнасцяў
(праўда?)
Спачатку вада цячэ ў цішы,
бруіцца
(крыніцай – Жыццё),
потым бруі
збіраюцца ў плыні,
якія гучаць, дрыжучы,
іх зліццё
спараджае трапяткі паток,
што няможна спыніць –
усе гукі, штуршкі ўсе
з'яднаныя перад парогам
у выбух...
Мяжа –
й больш ні бруяў няма,
ні струменяў,
ні плыняў,
ні твараў,
ні целаў –
ёсць толькі мільёны аскепкаў вады –
асляпляльных малекул –
ёсць толькі Пачуцці...

* * *

...нам падабаецца знікаць
у сны
дзе заўсягды
ў руцэ рука
дзе ў пустцы чыстая рака
выходзіць з нетраў
дзе паветра
нам падабаецца знікаць...

* * *

Толькі ноччу
магчыма пабачыць
такія дзівосныя
колеры
кроплі
пульсацыі
дрыжыкі
сцежкі
пункціры
фігуры
на скуры...

* * *

абдымаць цябе
ніцымі вербамі
лашчыць галінамі
"я" тое ж дрэва
развітвацца глупства
як можна з сабой развітацца?
як можна дыханне разбіць?
убіраю паветра
якое ты выдыхнуў
каб падарыць табе ўдых...

* * *

...я бачыла чорныя рэкі
штось пругкае й цёплае рвалася
дом да краёў напаўняючы вадкасцю
дыхаць няможна
шчэ некалькі ймгненняў
прапала б...

расплюшчыла вочы
не рэкі – налітыя вішні
ў праменнях Святла
свежы водар
дыханне
чырвоныя сцежкі
салодкага соку
на вуснах
ты блізка...

* * *

ратуй мяне ад
адэкватнасці
цвярозасці
добрапрыстойнасці
ўсёведнасці
матэматычнасці
беспамылковасці
перакананасці
пасады хлебнай
паслухмянасці

пазбаў мяне ад
Смерці

* * *

сысці па вадзе
каб згубіцца
знайсціся ў Прасторы
ў якой існуюць нашы творы
ў якой мы святкуем адно аднаго
й бачым існасць
сысці пры жыцці
й не вярнуцца
сысці назаўсёды
бязбольна
з асеннім дажджом

* * *

знікненне
ў старой-старой хаце
ў высокай-высокай траве
ў несабраных агромністых яблыках

у некранутых
разбухлых
святлом перапоўненых слівах
у ссохлых ад часу
зусім бязважкіх
ціхіх кошыках
у хаатычных
буйных
жоўтых красках
у печы гарачай
у чыстым паветры
ў маўчанні
(каханні)
ў нябыце
за плотам...

ніхто не патрапіць да нас
не заб'е нас
не ўбачыць...

* * *

я не разбіраюся ў музыцы
але падаецца
яна ўзнікае
калі супадаюць частоты
ды ўзмацняюць вібрацыі паветра
гаворка йдзе
не толькі пра гукавыя частоты
але й частоты ўспрымання
асабліва
гэта тычыцца
камернай музыкі
якой не пачуць
без настрою
й пэўнай прасторы
я не разбіраюся ў музыцы
але падаецца
камерную
навучылася адчуваць
з табой

* * *

з табою
я не разбіваю Сусвет на кавалкі

не аналізую Сусвет
зоркі не паасобку
не геліевыя касмічныя сферы –
суцэльнае покрыва
лес – не супольнасць
адзінкавых дрэў
а стасункі
што робяць іх колер
з табою
свабода ад *ratio*
ад раздрабнення
мы – Міф

* * *

зліццё ў цішыні
найглыбейшая радасць
якую няможна стрымаць...
ад udaраў
калоцяцца дзверы
каб нам не было надта добра
каб нам знерухомець ад страху...
зліццё ў цішыні
найглыбейшая радасць
якую няможна стрымаць...
ад udaраў
калоцяцца дзверы
каб нам не было надта добра
каб нам знерухомець ад страху...
зліццё ў цішыні
найглыбейшая радасць
якую няможна стрымаць...

* * *

не страшна
я ўсё яшчэ дома
з табою
(ў вар'ятні?
няхай)
мы свабодныя людзі
і ўсё яшчэ здольныя чуць
больш нічога
не трэба

пераклады

Марыя Ластаўскене (Ластоўская)



...да людзей трэба падыходзіць з розумам,
а не з пачуццямі...

# Чараўніца

## *Апавяданні*

### Вяртанне Марыі Ластаўскене

У 2022 годзе Літва досыць сціпла адзначыла 150-годдзе з дня нараджэння класікіні літоўскай літаратуры Марыі Ластаўскене, ці Ластоўскай на беларускі лад. Жыццё пісьменніцы было звязана не толькі з Літвой, але і з Беларуссю: пэўны час яе мужам быў Вацлаў Ластоўскі, адна з дачок пісьменніцы жыла ў Менску. Пісьменніца, да ўсяго, валодала беларускай мовай – у дадатак да літоўскай, польскай ды іншых. Зрэшты, рамантычная сувязь знітоўвала да Першай сусветнай вайны Марыю Ластаўскене з Янкам Купалам.

Праўда, яе апавяданні і раманы да 2022 года на беларускую мову ніколі не перакладаліся: адно апавяданне («Дарунак ракі») з'явілася акурат 15 траўня 2022, на 150-годдзе з дня нараджэння пісьменніцы (друкавалася ў газеце «Новы Час»). У Беларусі яна вядомая хіба вузкім адмыслоўцам. Аднак, гэта была надзвычайная кабета з кагорты вечных і сціплых працаўніцаў, выдатных назіральніцаў, аўтарка шматлікіх меланхалійных, меладрама-

*Пераклад з літоўскай Уладзіслава ГАРБАЦКАГА.*

тычных твораў, па якіх так лёгка рэканструюецца ўсё жыццё самой пісьменніцы і цэлай эпохі. З вялікім спазненнем і напярэдадні 140-годдзя з дня нараджэння В. Ластоўскага, якое Беларусь адзначыць сёлета ўвосень, адбываецца вяртанне Марыі Ластаўскене і знаёмства беларускага чытацтва з яе творчасцю.

Марыя Іваноўская, ці Іванаўскайце (пазней Ластаўскене) нарадзілася 15 траўня ў 1872 годзе ў Шаўлях у сям'і мастака, пісьменніка, удзельніка паўстання 1863 года Нікадэма Іваноўскага і памешчыцы Караліны Пячкевічуце. У сям'і размаўлялі па-польску. Сёстры, да ўсяго, размаўлялі на літоўскай, французскай, нямецкай і расейскай мовах. На гэтых мовах з дзяцінства чыталі мастацкую літаратуру ў арыгіналах. Бацькі навучалі Марыю і сястру Сафію дома, бо ў той час лічылася, што жанчына не мае патрэбы ў адукацыі, што яе абавязак – нараджаць і гадаваць дзяцей. Праўда, у сясцёр на гэты конт былі зусім іншыя погляды.

Марыя пачала пісаць у 17 год. Спачатку вершы на польскай мове, потым прозу. Часта пісьменніца заставалася ў ценю старэйшай сястры, таксама пісьменніцы Сафіі Пшыбіляўскене. Творы сястры Сафіі былі больш жвавыя і эмацыйныя, але Марыя напісала больш буйных твораў, асабліва раманаў. Да ўсяго, Сафія раней пачала пісаць па-літоўску, Марыя ж да смерці сястры пісала пераважна па-польску, а таксама сама ці, хутчэй, з дапамогай сястры перакладала свае творы на літоўскую мову. Зрэшты, сястра пісала пераважна пра вёску, Марыя ж – адна з першых у летувіскай літаратуры пачала апісваць места.

Цікава адзначыць, што шмат год пісьменніца Марыя пісала разам з сястрой Сафіяй Пшыбіляўскене пад адным псеўданімам – Лаздзіну Пяледа (*Lazdynų Pelėda*), то бок Ляшчынавая Сава. І цягам некалькіх дзесяцігоддзяў ніхто і не здагадваўся, што гэта не адна, а дзве пісьменніцы, якія стварылі цудоўны творчы сястрынскі тандэм. Нават пасля смерці Сафіі ад сухотаў у 1926 годзе праўда пра псеўданім не адразу стала вядомай. Толькі ў 1930 годзе летувіскі паэт і пісьменнік Людас Гіра ў артыкуле пра Лаздзіну Пяледу здзівіў грамадства такім адкрыццём. Але і да сёння літоўскія шкаляры часам блытаюцца і думаюць, што Лаздзіну Пяледа – гэта адна пісьменніца.

Смерць сястры моцна паўплывала на Марыю, і яна працягнула літаратурную працу, пачаўшы пісаць па-літоўску і падпісвацца ўласным імем – Марыя Ластаўскене (Ластоўская). Да сёння літаратуразнаўцы дакладна не могуць ідэнтыфікаваць некаторыя тэксты пісьменніцаў і вырашыць, каму з сясцёр яны належаць – так ідэальна сёстры дапаўнялі адна адну, дзелячыся сваім жыццёвым і духоўным досведам, а магчыма, і творчымі ідэямі.

Марыя Ластаўскене лічыцца пачынальніцай фемінізму ў Літве, у мастацкай літаратуры ў прыватнасці. Так, у рамане «Святло і цені» яна першай узняла ідэал незалежнай, самастойнай, свабоднай жанчыны, а таксама ідэю вольнага кахання. Але і ў апавяданнях пісьменніцы таксама шмат фемінізму, шмат жаночых персанажаў, якія шукаюць новы лад жыцця і знаходзяць яго, эмансіпуюцца (апавяданне «Успаміны вяскоўкі», аповесці «Да смерці», «Новы шлях» і інш.). У некаторых тэкстах пісьменніцы сустракаецца антыклерыкальная крытыка («Чараўніца», «Бажулька»), таму ейнае феміністкае пасланне толькі ўзмацняецца і дасюль застаецца актуальным.

Прозвішча Ластаўскене (Ластоўская) у пісьменніцы ад мужа Вацлава Ластоўскага, вядомага беларускага пісьменніка і дзеяча. Яны пазнаёміліся ў Пецярбургу, у 1903 годзе тамсама Марыя і Вацлаў пабраліся шлюбам у выніку кур'ёзнай сітуацыі, а не жарсці ці кахання: Марыя была старэйшая на 11 год за Вацлава і часта дапамагала яму ды іншым студэнтам: карміла, давала прытулак. Часам Вацлаў Ластоўскі не меў дзе жыць у Пецярбургу, Марыя давала прытулак і яму. Але неяк Вацлаваў бацька даведаўся, што сын жыве без шлюбу з кабетай і быў абураны тым, што сын кампраметуе і няславіць Марыю. Бацька загадаў сыну вярнуцца дамоў. Каб выйсці з нявыкруткі, Марыя і Вацлаў вырашылі ажаніцца. З боку Марыі гэта быў жэст дапамогі, бо да замужжа ніколі не імкнулася.

Шлюб быў рацыянальны, не дужа шчасны. Тым не менш у іх з’явіліся дзеці – дзве дачкі, Она і Стася. Пара ў пошуку працы і ў выніку царскіх рэпрэсіяў пасля паразы рэвалюцыі 1905 года з’ехала ў Рыгу, потым у Вільню. Пра віленскі перыяд жыцця Ластоўскіх цікава напісала ва ўспамінах «Сцежкамі жыцця» Паўліна Мядзёлка, якая апісвала бедную Ластаўскене, якая зарабляла капейкі шытвом, гадавала дзяцей, карміла ўсю сям’ю, у тым ліку беспрацоўнага мужа-«вучонага», «паразіта», і не магла прысвяціць сябе літаратуры, тады як «вучоны» муж пісаў, хадзіў у бібліятэку і патрабаваў, каб яго абслугоўвалі. Пра іх не вельмі ўдалы шлюб згадвала ў лістах яшчэ адна віленская беларуская паэтка – Канстанцыя Буйло. Пазней Вацлаў Ластоўскі завёў новы раман, і напярэдадні Першай сусветнай вайны пара разышлася. Марыя з дзецьмі вярнулася ў родную сядзібу да бацькоў у Парагі (ля Шаўляў).

У Вільні ў Ластоўскіх часта збіраліся шматлікія беларускія пісьменнікі і дзеячы. Так, Марыя пазнаёмілася і моцна пасябравала з Янкам Купалам. Пісьменнікі адразу знайшлі агульную мову: Марыя дзялілася сваімі творчымі планамі і задумамі, а Янка Купала зачытваў ёй толькі што напісаныя вершы. Паводле ўспамінаў дачкі Стасі, адносіны паміж Янкам Купалам і Марыяй Ластаўскене былі моцна рамантычныя, якія спыніла, на жаль, вайна. Хадзілі нават почуткі, што адна з дачок Марыі не ад Вацлава Ластоўскага, а ад Янкі Купалы. Пазней, ужо пасля Другой сусветнай вайны, Марыя Ластаўскене прыязджала ў Менск на адну з гадавінаў смерці беларускага песняра.

Марыя Ластаўскене была вегетарыянкай, заўсёды вельмі шкадавала жывёлаў. Знясіленых і старых коней, якія не маглі нахінуцца, паіла сама. Ведаючы ейную міласэрнасць, вяскоўцы прывозілі да яе ў сядзібу ў Парагах хворых катоў і шчанюкоў. А аднойчы, як узгадвае дачка пісьменніцы Стася, падчас Першай сусветнай вайны маці пабачыла, як нямецкія жаўнеры, якія жылі ў іх у сядзібе, злавілі ў лесе дзве лісіцы і пасадзілі іх у клець. Марыя не магла глядзець, як пакутуюць жывёлы, і ўпотай вызваліла іх. Немцы доўга шукалі віноўцу, але сцішыліся.

Да ўсяго, Марыя вельмі любіла шпацыраваць, назіраць за прыродай, часта шкадавала коней і выбіралася ў далёкі шпацыр пешшу. З успамінаў дачкі, так, вандруючы па ваколіцах дзясяткі кіламетраў, пісьменніца ў думках апрацоўвала тэмы, вобразы для будучых твораў. І, падаецца, любоў да прыроды, імкненне схавацца ў лесе, у гайку і паназіраць неўпрыкмет за светам, добра тлумачыць іх з сястрой выбраны рамантычны псеўданім – Лаздзіну Пяледа (Ляшчынавая Сава).

Марыя памерла ў Коўне ў 1957 годзе і была пахаваная на мясцовых Пятрашунскіх могілках. Сёння ў Вільні жыве яе ўнук Рымантас Матуліс, публіцыст і перакладнік з ангельскай мовы, захавальнік спадчыны слыннай бабулі. А яшчэ ў Вільні аб ёй і яе сястры Сафіі нагадвае прыгожы помнік «Дзве сястры», які месціцца ў скверы ля вуліцы Усіх святых непадалёку ад вакзалу. Існуе ў Літве і Музей пісьменніцаў Лаздзіну Пяледа ў былой сядзібе сям’і Іваноўскіх у Парагах. Захаваліся дом, парк, прысады, па якіх гуляла Марыя Ластаўскене. Асаблівай увагі заслугоўвае стары каменны стол пісьменніцы, схаваны ў гайку, дзе ўлетку любіла пісаць адна з сясцёр Лаздзіну Пяледа.

Увазе чытачоў прапануюцца тры апавяданні розных гадоў (1905, 1912 і 1922), аб’яднаныя адной важнай у творчасці М. Ластаўскене тэмай: няпростым жаночым лёсам. Як ужо пазначалася, пісьменніца вядомая сваімі сціплымі і часцяком невясёлымі псіхалагічнымі партрэтамі жанчынаў пачатку XX ст. Пры гэтым песімісткай яна не была, хутчэй, была рэалісткай-феміністкай. У апавяданні «Паша» аўтарка закранае, да ўсяго, праблему прастытуцыі.

Зрэшты, варта анансаваць, што напачатку 2024 году ў замежжы да друку рыхтуецца аднатомнік выбраных твораў Марыі Ластаўскене па-беларуску.

**Уладзіслаў ГАРБАЦКІ**

## З успамінаў вяскоўкі

Усе працаўніцы кінулі працу і адна за адной паляцелі з майстэрні.

Паненка Марта не магла кінуць працы, хоць яе не менш за астатніх працаўніцаў вабіла вольная гадзіна. Паненка Марта была далёкай, але ўсё ж сваячкай гаспадыні, часам атрымлівала ад яе падарункі, хай і зрэдку, але разам хадзілі ў тэатр, таму яна адчувала маральны абавязак паводзіць сябе роднай, а не чужынкай. Калі працаўніцы выйшлі, яна пачала парадчыць шоўк, збіраць золата і штучныя брыльянты ў майстэрні, каб яны не закаціліся, і сумна глядзела ў вакно, праз якое прабіваліся апошні прамяні заходзячага сонца.

– Сёння ўвечары нікуды ўжо не пайду, – падумала яна. – Цётка, можа, нікуды не пойдзе, сёння вельмі стамілася... Хіба заўтра па абедзе!..

Не вельмі цікавым быў той паабедзенны шпацыр, аб якім марыла паненка Марта, але ёй, з вёскі нядаўна прыехаўшы, было і вуліцу цікава перайсці.

Дзядзька ішоў з цёткай разам, і яна побач.

Аднойчы, прыбіраючы, яна пачула, як дзядзька сказаў:

– Мая дарагая! Калі ж прыйдзе час для нашага сапраўднага адпачынку, без гэтых сясцёр-працаўніцаў, без гэтых чужых вушэй і вачэй, калі ж мы, нарэшце, зможам пабыць адныя ў нядзелю?!

Дзядзькавы словы ўеліся ў сэрца паненкі Марты, яна адчула сябе тут чужой, нібы яе ўзненавідзелі, і ёй стала страшэнна непрыемна, бо гэта былі яе адзіныя сваякі ў гэтым вялікім месце.

– Пайду сама! – вырашыла Марта.

Паненка Марта ведала, што адзінае месца, куды можа пайсці адной паненцы ці не вельмі старой кабеце, – гэта могілкі. Гэтыя месцы спачыну памерлых былі адзінымі, да якіх яшчэ не дабраліся данжуаны і тыя, хто шукаў уражанняў, бо там была цішыня, спакой і радасць для тых, хто ўжо нічым не цікавіўся і хацеў толькі адпачынку і спакою.

Назаўтра, абедаючы, дзядзька нагадаў пра шпацыр.

– Хадзем куды-небудзь, га? – спытаўся ён у цёткі, цалуючы ёй руку. Ён рабіў гэта незлічоную колькасць разоў на дзень, хоць абодвум было ўжо па шэсцьдзесят гадоў.

– Пойдзем, вядома, толькі вырашым куды.

– А я пайду прагуляцца на могілкі, – сказала, расчырванеўшыся, Марта, яшчэ не забыўшыся, што нядаўна гаварыў дзядзька.

– Ну, на могілкі і адной можна хадзіць, але едзь туды на трамваі, каб пазбегнуць непрыемных сустрэчаў: нягоднікаў тут даволі шмат, – параіла цётка.

– Добра, добра, – сказала Марта і, хутка даеўшы абед, пайшла.

Трамваі былі перапоўненыя, таму Марта вырашыла прайсці пешшу.

– А, кавалер кінуў! адна йдзе! – ускрыкнуў франт, ідучы з дамай пад ручку.

Ён абагнаў яе і, гледзячы ёй у вочы, з усмешкай пачаў галасіць:

– Няшчасная небарака, усе кінулі, ніхто не хоча! Ха, ха, ха! Сумны лёс!

Марфа заплакала, горка ёй стала ад гэтых дакораў, бо яна сапраўды адчувала сябе такой адзінокай у гэтым шчаслівым натоўпе людзей, дзе кожнаму было з кім пайсці, з кім пагаварыць і пажартаваць. Праходзілі сем'і, праходзілі маладыя пары, яна проста блыталася сярод іх, яе штурхалі,

кпілі з яе, чужая ўсім, нікому не патрэбная, нават там, дзе яна дні і ночы сядзела, згорбіўшыся, ля ткацкага варштата, зарабіўшы тысячы, але не маючы нават заробку для сябе, бо лічылася часткай сям'і.

Марта ішла сумная, задуменная. Раптам яна пачула побач ласкавы голас:

– Можа, паненка прыме мяне ў сябры, адной сумна, а ваш кавалер збег, а?..

– Ён не збег, я яго кінула, – адказала Марта, не жадаючы прызнавацца, што ў яе яшчэ няма каханага.

– Ну, хадзем тады, сяброўка!

– Добра, – адказала Марта, – адной сапраўды неяк... няёмка, а куды пан ідзе?

– Я? Я яшчэ нічога не вырашыў, але давайце зойдзем куды-небудзь, перакусім і вып'ем, тады і вырашым, – сказаў хлопец і схапіў яе за руку.

Марта нават пачырванела ад радасці, што і ў яе цяпер ёсць сябра і ўжо не выглядае яна, як адрынутая ўсім светам, чужая ўсім. Да таго ж хлопец падаваўся ветлівым, далікатным, меў прыгожы твар і высокі рост.

– Дзе пан працуе? – спытала Марта, жадаючы працягнуць размову.

– Я электратэхнік, а пані... як вас завуць?

– Марта, – адказала дзяўчына. – Я працую ў майстэрні пані С. Мы выконваем замовы для фірмы... ой, я забылася, я толькі што прыехала, таму ў мяне ўсё блытаецца, – апраўдвалася дзяўчына.

Хлопец усміхнуўся і, паглядзеўшы на Марту, напаўголасу спытаў:

– Панна, а ці не былі вы ў бальніцы? Не? Вы крыху бледная.

– Не, я здаровая, вядома, хоць начная праца стамляе, – супакоіла яго Марта.

— Таму ўдзень вы спіцё, – заўважыў франт.

— Часу няма на гэта, – сказала Марта.

— Гэй, гэй, панна Марта хлусіць! Ну, у любым выпадку, давайце сюды! – сказаў ён, паказваючы на дзверы, над якімі была вялікая шыльда з надпісам: «Кава, гарбата і закускі».

Марта, не супраціўляючыся, увайшла.

– Добры вечар, цётка! – сказаў хлопец тоўстай жанчыне, якая сядзела за буфетам. – Ну, мне, як ведаеце, кабінет! У мінулы раз падманула мяне, гэтым разам я прывёў з сабою. На другім паверсе, га?

– Можна, – згадзілася гаспадыня і з усмешкай паглядзела на Марту. – Ну і густ у вас!

Марта збляднела і спалохана паглядзела ў залу, на сабраную публіку. Там былі мужчыны, якія з «дамамі» выпівалі, крычалі, ад дыму было ўдушліва, бо і дамы смалілі – усе напаўп'яныя, страшныя.

– Куды мы прыйшлі? – сказала Марта. – Цьфу, не хачу! – сказала яна, спрабуючы вырвацца ад франта, які абняў яе за талію і думаў завесці кудысьці вышэй. – Не, не, адпусціце, пан, мне не падабаецца, што вы так робіце.

– Што за фокусы?! – крычаў франт, чырванеючы ад злосці. – Чаму йшла, калі не хацела? Глядзі, якая! А, чакай, птушачка! Я ведаю, чаго ты баішся! Думала, цябе да сябе павяду! А ты збялела, я цябе ў паліцыю завяду! Да лекара! Мусіць, цябе тут ведаюць! Гэй, сябры, хто яе ведае?!

– Езус Марыя! – крыкнула Марта і, вырваўшыся з рук франта, кінулася да дзвярэй.

– Не! Так не будзе! Чакай! – крычаў франт. – Я цябе навучу! Пакажы білет!

– Які білет? Што ты хочаш ад мяне? – дрыжачы, праз слёзы сказала Марта.

– *Вольноопределяющаяся*[1]! – закрычаў нехта з п'яных мужчынаў, і гурт акружыў Марту.

Раптам у гурт увайшоў мужчына сярэдніх гадоў, які дагэтуль еў за сталом адзін, і крыкнуў:

– Што вы нападаеце на дзяўчыну, ды яна не такога роду, адпусціце яе! Знайшлі да каго чапляцца!

— Калі не такога роду, навошта йшла?! – крыкнуў франт. – Я яе не прымушаў, згадзілася, пайшла, а цяпер брыкаецца!

— Пусціце! – крыкнуў мужчына і, схапіўшы Марту за руку, падвёў да дзвярэй, адчыніў іх і выштурхнуў яе вонкі.

— Дзякуй вам! Дзякуй! – крыкнула Марта і, ашалелая ад сораму, колькі было духу пабегла дадому, бо ёй здалося, што за ёй гоніцца гурт п'яніцаў, сярод якіх – той самы, што падаўся ёй такім добрым і ветлівым!

Так скончылася першая навука Марты, што да людзей трэба падыходзіць з розумам, а не з пачуццямі, і не верыць нікому, нават самым ветлівым франтам.

*Lazdynų Pelėda, Iš sodietės atsiminimų, 1922*

## Паша

*Абразок пра бадзячку*

Паша была самай вясёлай ва ўсёй майстэрні. Высокая, плячыстая, чарнабровая, наіўная, якая смяялася з любой нагоды, смяялася ад душы, паказваючы два рады белых зубоў.

Яна была ўжо не маладая, але ўвесь яе твар нібы ўвасабляў здароўе і бадзёрасць; усе працоўныя, асабліва мужчыны, любілі яе за весялосць, адкрытасць і гарэзлівасць. Мне таксама з першага погляду спадабалася тая дзяўчына, напалову дзікая, якая ні з кім не супернічала, таму я з ёй зблізілася, і некаторы час мы былі як сяброўкі. Нядоўга аднак працягваліся паміж намі сяброўскія адносіны. Паша з усёй сваёй наіўнасцю ці бессаромнасцю прызналася, што акрамя майстэрні ў яе ёсць і свая падпрацоўка: яна была... прастытуткай.

– Гэта добры прыбытак дае, – пахвалілася ў размове, – я сябе высока цаню, – ганарліва заявіла яна, адкінуўшы галаву, – няхай плацяць дурні, Пашы грошы патрэбныя!

З таго часу стала яна для мяне непрыемнай, я пачала пазбягаць яе. Паша, відаць, гэта адчула, хоць і не кінула са мною сябраваць, мы ўсё ж сталі адна адной чужымі, амаль не размаўлялі.

Так мінула пару тыдняў.

Аднойчы ўвечары, калі я скончыла працу і выходзіла з майстэрні, на лесвіцы мяне сустрэла Паша.

– Ведаеш што, сяброўка? – сказала яна змененым голасам, – я хацела пагаварыць з табой крыху, вельмі хацела.

– Пра што гэта? – здзіўлена спытала я.

---

[1] Па-расейску ў тэксце. Так называлі прастытутак, якія не стаялі на ўліку, працавалі самастойна – *вольнавызначаныя*.

– Пра сябе, – ціха адказала яна. – Я хачу табе ўсё расказаць, каб ты не думала, што я апраўдваю сябе... – Яе чорныя палаючыя вочы выказвалі смутак, жвава глядзелі на мяне. – Ці, можа, табе нецікава, можа, табе прыкра са мной гаварыць?..

Мне было цікава, таму мы пайшлі на стары бульвар і селі на лаўку. Паша пачала мне распавядаць:

– Я была ў бацькоў адна-аднюткая; бацька не піў гарэлкі, працаваў на заводзе, дык грошай нам хапала. Бацькі любілі мяне, частавалі ўсякімі прысмакамі, чаго душа жадала – усё давалі. Вось і вырасла я такая вялікая, здаровая, прыгожая, і заўсёды была такая вясёлая, днямі спявала, жартавала з кожным, хто падыдзе. Раптам весялосць абарвалася: маці захварэла на тыфус, а як захварэла, дык і памерла, бедная. Шкадуючы матулю, я вельмі плакала, але што зробіш, плач – не плач – не выплачаш! Давялося гаспадаркай заняцца, стала для таты хатняй гаспадыняй. Трэба было падмесці, паесці зварыць і ў места збегаць – не расказаць усяго! У нас быў адзін пакой для арэнды; жыў у нас даўным-даўно нейкі стары, вельмі баяўся нябожчыкаў, як памерла маці, ён адразу ад нас з'ехаў. Праз некаторы час прыйшоў яшчэ іншы жыхар...

Гаворка Пашы абарвалася, яна імкліва ўздыхнула, вочы незвычайна заблішчэлі.

– Хто ён, як выглядаў – не мне расказваць. Я скажу, што ён адрозніваўся ад усіх людзей ... Такі прыгожы, як казачны каралевіч!.. Калі ён зайшоў у нашу хату, нібы пасвятлела, нібы другое сонца ўзышло, такі ласкавы, такі ён... Гой, сяброўвачка, калі б ён хацеў рассекчы маё цела, калі б ён хацеў пусціць з мяне кроў, я б яму ўсё дазволіла!.. Але ён не хацеў ні пускаць крыві, ні рассякаць майго цела, ён толькі цалаваў, лашчыў, я проста вар'яцела... Я была шчаслівая, якая я была шчаслівая, як шляхетная пані, як каралева! Як я яго кахала!.. Ды так, мабыць, ніхто не ўмее кахаць!.. Ён быў маім шчасцем, сонцам, ён быў для мяне ўсім!..

Паша задумалася, схіліўшы галаву, яна так і сядзела, твар сур'ёзны, сапраўды прыгожы.

– Кахала, – працягнула далей, – як толькі ўмее кахаць праваслаўная дзяўчына... Марыла, – сказала яна, узяўшы мяне за руку, – што ён возьме мяне за жонку, я ўсё жыццё служыла б яму, як сабака, ускочыла бы за яго ў агонь, ягоныя думкі прадугадвала, я б яму верная да скону веку была... Але ён быў з багатых паноў і вельмі адукаваных... ды яшчэ якіх! Бывала, ён напіша хутчэй, чым іншаму сказаць удасца. Ён пісаў, а потым людзі рабілі кнігі з яго твораў, верагодна, не абы-што ён пісаў. Ах, які ён быў! Канечне, такі пан, нагуляўся, нацешыўся і пайшоў сваёй дарогай, бог ведае куды. Ён сышоў, але я не зусім аўдавела: нарадзілася ў мяне дзіця, нарадзіўся сын, такі прыгожы – рыхтык бацька... Спачатку тата вельмі злаваўся, але праз некаторы час проста закахаўся ў дзіця. Як такога не любіць! Дзіця падрастала, а мы так і жылі ўтрох. І адны, і другія сваталі мяне – хацелі ажаніцца са мною; некаторыя і мяне задавальнялі, і я магла іх палюбіць, але не хацела даваць дзіцяці айчыма, і засталася адна... Я хацела выхаваць свайго малога па-панску – і праз некаторы час пачала выхоўваць яго. Бацькавага заробку на ўсё не хапала, таму я навучылася вязаць і пачала хадзіць у майстэрню. Хлопчык падрос, патрэбы павялічыліся, грошай не хапала, а ён такі здольны!.. Панскага дзіцяці трэба выхоўваць па-панску... вось і зазірнула я ў кішэні да

паноў: няхай ведаюць, што яны дурныя... Грошы майму Сымонку патрэбныя, і немалыя, каб стаць такім, як ягоны бацька. Спачатку было сорамна... цяпер зусім не; зрэшты, я не нейкая там пані – простая праваслаўная... Толькі вось клопат і страх часта адольваюць, каб ён, раднюткі, не даведаўся, адкуль у маці грошы! – ціха дадала яна.

Каля нас прайшлі нейкі франты; адзін з іх усміхнуўся Пашы, яе сур'ёзнасць імгненна знікла. Паша паднялася з лаўкі.

– Ну, – сказала яна, – пара дадому... нам не па дарозе... будзь здарова!

І пайшла сваёй дарогай...

*Paša, 1912, Lazdynų Pelėda*

## Чараўніца

*Апавяданне*

У лясным зарасніку, сярод ядлоўцу, стаяла старая паўразбураная хаціна. Ніхто не прыгадае, калі хто жыў там. Цяпер у ёй парабілі гнёзды кажаны, і, як казалі людзі, ноччу ў ёй нячысцікі танчылі.

Старыя людзі казалі, што раней там была карчма, але з таго часу, як правялі паштовы шлях у іншым месцы, карчма стала непатрэбнай, і людзі пра яе забыліся. Хаціна зарасла чартапалохам, сцены заімшэлі, а вецер праз разбітыя вокны з асуджэннем выў, свістаў і стагнаў над старым комінам. Можа, гэта і не вецер стагнаў? Хто яго ведае? ..

Аднаго ранку пастух, пусціўшы кароў у поле, пабачыў дым, які чадзіў праз комін і, з вялікім здзіўленнем, падсунуўся бліжэй. Схаваўшыся ў ядлоўцы, пачаў глядзець, што будзе. Праз гадзіну пабачыў, як з хаціны выйшла немаладая ўжо кабета, і ён яшчэ больш прыціснуўся да зямлі і цікаваў далей.

Жанчына была высокая, худая, загарэлая. Нейкія лахманы закрывалі яе цела. Азірнуўшыся і абышоўшы навокал, яна ўзяла камень, адбіла цвікі і зняла вакно. Потым, пераскочыўшы праз яго, пачала апратаць. Падмяла, узняла пыл, працуючы да вечара. Пастух не бачыў нічога іншага, акрамя пылу праз акно і выкінутых вонкі цаглін. Загнаўшы кароў дамоў, пайшоў расказваць аб страхоцці, што пасялілася ў старой карчме, і неўзабаве забытае месца стала вельмі вядомым. Адзін казаў, што бачыў шмат агеньчыкаў, якія зладжана і ў вялікай колькасці залятал і кожнага вечара ў карчму, іншы казаў, што дакладна ведае, што ноччу жанчына ператваралася ў казу і бегла на старыя могілкі скубаць траву.

Пачуўшы такія размовы, паляўнічы з маёнтка вырашыў даведацца праўду: ўзброіўшыся стрэльбай і акрапіўшыся святой вадой, ён пайшоў да карчмы.

Баючыся зайсці ўсярэдзіну, стоячы на парозе, ускрыкнуў:

– Гэй, хто там ёсць? Выходзь сюды!

Выйшла кабета і адказала:

– Што патрэбна ягамосці?

– Адкуль ты, хто ты і што тут робіш? – спытаў паляўнічы.

– Адкуль я і што раблю – не справа ягамосці. Хто я? Ты ж бачыш, я – жанчына, без ведама спадара пасялілася тут і нікога не баюся, – сказала жанчына і вярнулася ў хату.

Паляўнічы прастаяў гадзіну і сышоў, так нічога не даведаўшыся. Маёнткавыя кабеты як пабачылі яго, адразу спынілі:

– Дык што? Што вы бачылі, спадар, яна сапраўды страшыдла? Як яна выглядае?

– Ідзіце і паглядзіце! – адказаў паляўнічы і пайшоў у маёнтак.

Жанчына, аднак, засталася ў хаце і надалей: пан, відаць, ведаў аб ёй. А ў маёнтку ўсё аж ускіпела.

– Эх, гэтыя мужчыны не маюць веры ні ў заклёны, ні ў нячысціка... Няхай і трымаюць таго чорта! Пабачым, чыя праўда, калі беды наваляцца на сядзібу праз іх дабрыню! – гаварылі жанчыны паміж сабою.

– Вядома, і сядзібу напаткае бяда, анягож! Ці чуў хто, каб воўк побач з сваім логавам рабіў ліха? Так і нячысцік напрасіўся ў маёнтак, а каму мучацца? Так, нам мучацца! – пляткарыла адна знаўка такім самым суразмоўніцам.

Мінула пару месяцаў, языкі ў жанчынаў стаміліся. Нарэшце людзі пабачылі, што нічога дзіўнага ў маёнтку не адбылося і забыліся пра жыхарку старой карчмы.

Але надарылася так, што потым у аднаго гаспадара захварэлі коні, у іншага воўк зарэзаў авечку, і амаль у кожнай хаце захварэлі каровы. Прывезлі аднаго, прывялі і другога лекара, яны вырашылі, што прычынай хваробы сталіся спёка і балацяная вада.

А знаўка ўсміхнулася і сказала ўсім:

– Вас можна падмануць, але толькі не мяне! Я ведаю, але нікому няма справы, то я лепш адмоўчуся!

– Ну, скажы, кума, пашкадуй нас, – упрошвалі суседзі.

– Што тут казаць! Яшчэ адзін нячысцік набраўся сілы, і лепш нам ужо не будзе!

– Ці можа гэтак быць? Жанчына выглядае, як і ўсе...

– Як і ўсе! Вы што, канечне, не! У бажніцу не ходзіць, з чалавекам не пагаворыць... каб рот раскрыла... ані гуку! Свіння і тая, калі пройдзе каля іншай свінні, парохкае, а гэтая чартоўка йдзе, чуб адставіўшы, панурая і толькі позіркі хапатлівыя кідае... Глядзіце, мне ўсё адно, што вы вырашыце, толькі потым не шкадуйце!

– Пан, жыд ды нячысцік – вось сапраўдныя браты! Пан, як захоча, то да сябе ў маёнтак і нячысціка пакліча! А вы не будзьце дурнымі! Колькі таго трэба: пук саломы і коўш дзёгцю! І падпаліце чорта!

Такія ў маёнтку вяліся размовы.

І людзі ўсе гразіліся пакончыць з ёю, але яшчэ пэўны час гразьба заставалася на словах. Тым часам старая карчма часта стаяла пустая, толькі дым курыўся праз комін, а ў нядзелю на парозе на сонцы грэлася і драмала ці то вядзьмарка, ці то чараўніца, а для бальшыні сапраўдная ведзьма.

*

Грошы маюць вялікую сілу ў людзей, таму людзі, якія хварэюць, бачылі, як жанчына працуе з дня ў дзень, а так бедна жыве, і вырашылі, што яна збірае грошы, і сталі думаць, як бы іх вымантачыць.

Жыды заходзілі да яе з таварам. Хоць заўсёды быў адзін адказ: “Мне нічога не трэба”, але яе двор не аб’язджалі. Мала таго, да жанчыны хоць і старой, і не вельмі прыгожай, наведваліся, і не аднойчы, сваты.

Усякія прыязджалі: маладыя гультаі, якія без працы хацелі разбагацець, старыя ўдаўцы, якім патрэбная была дармавая пакаёўка, ды іншыя прайдзісветы.

Кабета прыстойна выправаджвала старых, кажучы ім:

– Двойчы зёлкі не квітнеюць: першы раз па волі бога, другі раз дзякуючы клопату чалавека, а трэці раз па жаданні нячысціка. Я сваё ўжо пеаражыла. Што было богам пажадана, усё выканала і больш нічога не хачу.

З маладых людзей падсмейвалася. Казала:

– Падрасці яшчэ, маленькі! Я з розуму яшчэ не выжыла. Тады зразумееш, што вясна з зімою ніколі не йдзе разам.

Прыехаў яшчэ адзін сват і адразу сказаў, колькі жаніх патрабуе грошай:

– Дзвесце дапамогуць; мужчына малады, здаровы як вол...

І сваты гаварылі б яшчэ далей, каб жанчына не пасмяялася ўголас:

– Што вы старой галаву дурыце? У мяне няма грошай на самую сябе, працуй сам, сынок!

Прайдзісветы пабачылі, што такім шляхам не атрымаць ад старой грошы, і вырашылі прымусіць яе аддаць назапашаныя грошыкі.

*

Стаяла позняя восень. Аднойчы ноччу людзі, якія ехалі з кірмашу праз лес, знайшлі ледзь жывую, жорстка збітую кабету. Ад ачунялай ледзь пачулі, адкуль яна, і прывезлі ў старую карчму.

У маёнтак перадалі паведамленне пра гэты выпадак.

Здзівіліся кабеты. Але калі падарожнікі сказалі, што дужа слабая, пакутуе ад болю, яна богам прасіла не шукаць тых, хто хацеў яе забіць, кабечая грамада, узяўшы свечкі і розныя званочкі, патрэбныя на выпадак смерці, накіраваліся ў хату ў зарасніку. Потым услед за імі выйшаў з сядзібы адзін старац, былы арганны майстар (цяпер ён жыў у маёнтку “з міласці паноў”).

Мабыць, сумленне было нячыстым у некаторых кабетаў, бо, патрапіўшы ў хатку, ніхто не адважваўся падысці да хворай: адна адну штурхала і ўсе стаялі ля дзвярэй. Толькі стары падышоў блізка да хворай. Яна ляжала ў кутку на мохавай падлозе. У яе над галавой вісеў счарнелы ад дыму драўляны абраз укрыжаванага. Хата была халоднай, у ёй даўно не тапілася печ. Хворая дрыжэла ад холаду, твар яе быў сіні. Дзядок стаяў ля ложка, хворая глядзела на яго.

– Бог паслаў, мабыць, апошнюю гадзіну... ці пазнаеш мяне? Не? Даўно гэта было, гой як даўно. Спадар тады быў арганным майстрам... Я служыла вам... а там, хто ля дзвярэй? – спыталася хворая, стараючыся пабачыць сваіх гасцей. – Смерць прыйшла... каса ўжо звініць...

– Не, гэта суседкі прыйшлі, прынеслі шчаслівыя званочкі, – сказаў стары.

Жанчына ўсміхнулася, памаўчала пэўны час, потым гучным голасам сказала:

– Дарагія суседачкі, што вы тут сабраліся?

Бабы маўчалі, а сярод іх была і знаўка. Яна, самая гаваркая, падышла на некалькі крокаў наперад, да ложка, і сказала:

– Выконваючы Божы загад, мы прыйшлі адведаць хворую і прынеслі ўсё, што неабходна: псальмы, званочкі, свечкі, ладан, свянцоную ваду... Змякчы свае сэрца, набліжаецца апошняя хвіліна, прыгадай з чым бо...

– Ай, не дурыце галавы! – сказала хворая. – Мне і так баліць галава. Вы паслалі мне забойцаў, усё так, як вы хацелі... Я не перашкаджала вам, не шкодзіла... Бог бачыць усё... Забярыце свае свечкі і званочкі, Бога не падманеш!..

У той жа час да хаціны пад’ехаў конь, усе паглядзелі ў вакно, выйшаў паліцэйскі і дзясятнік, які вёў двух арыштантаў, закутых у кайданы. Тут жа ўвайшоў паліцэйскі, паглядзеў на прысутных і спытаў:

– Ці жывая жанчына, якую ўчора знайшлі ў лесе?..

Усе маўчалі. А знаўка ўстала і, абапёршыся аб сцяну, пазнала аднаго з закутых: гэта быў... яе чалавек.

– Жывая, – адказаў нехта, калі паліцэйскі паўтарыў сваё пытанне.

– Прывядзіце вінаватых!

Усе маўчалі. Сумна звінелі кайданы, дзясятнік увайшоў з двума арыштантамі; падвёў іх да ложка.

Хворая, убачыўшы іх, уздрыгнула і заплюшчыла вочы.

– Ці пазнаеш гэтых людзей? – спытаў паліцэйскі, які трымаў паперу для напісання пратакола. – Суду патрэбнае ваша прызнанне!

У абодвух мужчын позіркі былі прыкутыя да зямлі. Хворая доўга глядзела на іх, а потым сказала:

– Абодва невінаватыя, вызваліце іх... гэта памылка...

– Яны самі прызналіся! – адказаў дзясятнік.

– Яны былі п’яныя... Я добра ведаю абодвух, гэта мае суседзі, адзін прыйшоў да мяне ў госці... Не шукайце вінаватых, я дарую ім, хай Бог і мне даруе мае грахі... Смерць набліжаецца ... ідзіце ўсе... у мяне мала часу... Смерць блізка, але пакуль не сышлі яшчэ, здыміце ім кайданы...

Зазвінелі жалезныя замкі, людзі не адступалі, арыштанты стаялі, твары іх змяніліся.

– Папрашу вас, – сказала хворая старому, – зрабіць тое, што сама я не паспела. Ці памятаеце, калі вы яшчэ былі арганным майстрам, аднаго разу злодзеі зламалі скарбонку ў касцёле... Гэта зрабіў мой сын... Усё жыццё я працавала і сабрала дзевяноста рублёў... Мне трэба было яшчэ дзесяць... Бог бачыць, не было часу... Яны схаваныя ў мураванай цагліне, пазначанай крыжом; дастань і аддай іх у касцёл... Аддай! Ён ўзяў яе за руку і, укленчыўшы на мохавым ложку, пацалаваўшы, сказаў:

– Аддам, будзь спакойная!

Быў гэта адзіны яе чалавечы прыпамін, бо ўсё свае жыццё яна гібела ў няшчасці, змагаючыся з забабонамі, цяжка працуючы, у самаадрачэнні і адсутнасці ласкі ад людзей.

Стары, былы касцёльны служка, доўга стаяў задумліва, слёзы цяклі па твары. Бабы паміж сабой штурхаліся і ціха размаўлялі:

– Такая асоба цалуе руку гэтай абадранкі... Хіба не дзіва? Яна і нявартая таго, пры ёй ані ружанца, ані шкапіляру няма.

Стары павярнуўся да іх і сказаў:

– Памыляецеся! Я сам сумняваюся, ці быў я варты пацалаваць рукі такой мучаніцы... Ружанца няма, кажаце, а што гэта такое?

Ён зняў са сцяны чорны закуродымлены драўляны крыж, падняў яго і трымаў гадзіну.

І дзіўная рэч: жанчыны апусцілі вочы долу, не адважваючыся падняць іх. Той чорны крыж як быццам сказаў:

– Я мучанік і бядак, а не фарысей і не пыхлівец, Божа!

Стары, уклаўшы крыж у рукі нябожчыцы, імкліва выйшаў, нібы скінуўшы дваццаць гадоў.

*

Стары пабег да свайго жытла, узняўся на другі паверх, выцягнуў клуначак з-пад столі, узяў грошы і прачытаў, каму сотня належала. Гэта была ягоная каліўка, сабраная на пахаванне, малітву за памерлага і ўсе іншыя абрады, неабходныя на яго думку, для кожнага шчырага каталіка. Сёння яму было ясна, што гэтыя грошы трэба выкарыстаць для кагосьці іншага, для іншай мэты, якая з'яўляецца больш высакароднай, больш каштоўнай і больш паважлівай. Ён узяў гэтыя рублі і панёс іх да святара, расказаў, што здарылася, і даў яму грошы ў якасці ўзнагароды за нябожчыцу. Усяго было роўна сотня.

Ксёндз узяў грошы і спытаў у старога:

– Усюль адныя размовы аб ёй. Адно вядома: памерлая – бязбожніца, пры ёй не знайшлося ніводнага знаку каталіцтва.

– Духоўны айцец, яе ўчынкі!..

– Ты дурань! Стары і дурны! Хавайце дзе хочаце! Хто не ведаў Бога, таго і Бог не прызнае!

– Духоўны айцец!.. Айцец!

– Прэч! – усклікнуў ксёндз, адчыніўшы дзверы.

Стары закрычаў, заплюшчыў вочы... Ён выйшаў... Ідучы, ён хістаўся, бы п'яны. Тады зняў нешта з шыі і кінуў вобзем.

*

Старая "чараўніца" была, верагодна, не такой беднай, як здавалася, бо пахаванне было прыстойным, толькі ёй не знайшлося месца на могілках каталікоў.

Пахавалі яе за могілкамі пад бярозай. Адкуль было ўсё пахавальнае начынне, бабы ніяк не маглі даведацца. Стары хадзіў, аб усім клапаціўся і адказваў кабетам на іх пытанні:

– Не ведаю, нічога не ведаю!

Апусціўшы ў магілку чорную труну, людзі кінулі па тры жмені зямлі.

Кінуў таксама і стары, ён акрапіў магілу жаласлівымі слязамі.

Потым, урэшце, ён сказаў:

– І мяне пахавайце тут!

*1905*

*Burtininkė, Lazdynų Pelėda*

Ірына Навіцкая



...гісторыя – гэта звычайна
адна з версій...

# Пакуль рука ў руцэ

***[небам як морам]***

Лётаць вучуся я небам як морам
Рыфы гітары бы кліч жураўліны
Музыка сціхне і штось загаворыць
Мяккім святлом ператкаўшы глыбіні.
Выпростваць вучуся крылы-пратэзы
Ведаеш птаха – завуць гаварунчык?
І калі доўга ляжаць пад лязом
Зорная карта – найлепшы падручнік.
Мроіла штосьці
Чагосьці ўнікала
Гукі іскрыстыя пахнуць знаёма
Ціха звіняць быццам краскі-люстэркі
Ціха адмотваюць час па-жывому
Нас міжпланетны пранізвае вецер
Спроба згасіць той ліхтарык зімовы

*Пераклад
з украінскай
Дар'і ЛІС.*

Каб распавесці ўсё – літар не хопіць
Роднае мовы
Няроднай – таксама.

*24.12.2016*

### *[адкрыты космас]*

Адкрыты космас – папраўдзе, даволі паскуднае выйсце.
Асабліва калі ты – усім болем сваім – ужо там...
І дзесьці пад табою зеўрае пашчай сузор'е Пса,
А крык твой – у нетры скафандра бездапаможны выдых.
Дзяўчаты і космас, то ўвогуле несумяшчальныя рэчы.
Дзяўчатам найлепей пабыць на Зямлі.
Яны не вытрымаюць ціску, умоваў жыцця на караблі,
Мышэй на борце, касмічнай халадэчы.
А можа, усё ж такі варта прыняць гэты выклік?
Не вераць у цябе. І ты сама ў сябе не верыш.
Ды здзейсніцца намер – бы твой апошні верш.
І стане адной з тваіх памежных рызык.
Адчыніліся шлюзы. Абабіты з двух бакоў жалеззем дзверкі.
Бы ў Геркулеса... Не, у Тараса: жалезныя слупы.
Мільёны зораў навокал.
Мільёны міляў да найбліжэйшай зоркі.
Ідзі.

*28.12.2016*

### *[Lights out / Lights on]*

*Lights out.*
Анёлы ў пацямнелых німбах
Патушаць гарадскія ліхтары, батлейкі трэш
Краіны доўгай белай хмары стане... нібы
Цярпімым... Калі сёння не памрэш.
Размоклыя афішы і пабляклы рэкламны слоган.
Вось чыйсьці п'едэстал, бы ў неба падняты самотны перст.
Калі дзея ідзе насуперак слову,
На намерах – і самых прыўкрасных! – можна паставіць крыж.
Ваякі на канапе ссякаюць каментам галовы.
Героі насамрэч – на снезе чырвоны арнамент слядоў.
Душа адкрытая, быццам голуб паштовы,
Грукоча ў шыбку і дзюбы не шкадуе пагатоў.
Гісторыя – гэта звычайна адна з версій.
Знічка, з якой супадае закон.

Будучыня – гэта ведаць, як тая зорка завецца.
*Lights on.*

*28.12.2016*

### *[замест калыханкі]*

*buena vista*
Сонца вечарам асвятляе панараму,
Туман у вочы пускаюць вечаровыя весткі...
Як жа тут добра быць усім, хто не з намі!
Міліцыянты ходзяць,
Шукаюць актывістаў.
Альтэрнатыўная рэальнасць –
Пасмяемся з яе цішком!
Здымем сцяг,
Перамалюем аўтобус,
І настане альтэрнатыўная будучыня!
Добра тут быць
...дайце мне іншы глобус

*11.01.2017*

### *[моваю наві]*

Чортава скрынка...
Дзіўная планета – дзе гэта?
Белыя лясы пад сінім моцным дажджом
Зноўку гэтыя вар'яты
Іх давядзецца
Або скарыць або разбіць дарэшты
Пахне травою леташнім лісцем апалым
У хмызах хаваецца простая пастка
У нашых колах прагна захраслі стрэлы
Іх атрады зноўку ўзятыя ў кола
Дываном белым чырвоным блакітным жоўтым
з нетраў прарастае тутэйшая дзіўная вясна
ваяр мой, што ты шукаў тут
што ты знайшоў там
гэта ж не блакбастэр – хутчэй жорсткі снаф
моваю наві цяжка знайсці адпаведнік
ахвяры чарговай шэпчаш “прабач прабач”
плямы азёраў як слёзы невідушчай вядзьмаркі
глючыць на шыі скрынка-перакладач
голас сумлення хопіць глушыць бромам
глуха гучаў з-за сцяны барабан вайны
уся наша місія – фарс і эпічны промах

здохлі рэактары зламаны рухавікі
зямля пад нагамі
цёплая жывая пругкая
неба ўгары
блакітнае і бязмежнае
як гэта для Бога?
Як тое моваю наві?..
“я цябе бачу. –
Я бачу таксама цябе”

** * **

Сёння апоўдні падаў гарачы снег
Дробныя крышталікі нябеснай бухгалтэрыі
З барнага дворыка вымяталі песні
Яны ўсім паспелі надакучыць
Сёння апоўдні рыдлёўкамі білі лёд
Пад сціхлай школай сівыя п’яныя ўдарніцы
Пагасла ялінка й трымцела кульцямі галін
Калолася стрэламі быццам мішэнь у дартсе
Сумёты расталі лужыны раскіслі ўшчэнт
Ляжала ў гарачцы зямля, чакаючы ночы
І вечар прыкрыў яе цела чорным плашчом
Старанна прыплюшчыўшы вочы
Няйначай жніво на трасе – прамення сноп!
Дадолу скінула сонца – прывялую мрою
Сёння на хворую зямлю падаў гарачы снег
Раставаў на мокрых яе далонях

*07.02.2017*

## *[ліст дзяўчыны-юкагіркі да чужаземца]*

Дым з чумаў звіваецца колцамі высока-высока
Распадаецца ў хмарах бы шчасце – было і няма
І трымціць пад нажом бяроста надрыўна, да віскату
А наўкола лясы
Калыма калыма калыма
Не сыходзіць туга з майго самотнага дому
Птахі і маладыя песні кахання наўкол
Калі б ты не прызнаўся – то і я б не сказала нікому
То навошта ж тады па вадзе па вадзе па вадзе
Спавівае туман маю душу павольна і туга
Як дзіця-сірату
І ў калыску малую кладзе
Я лязо прытупляю цёмнай і безвыходнай тугой

Бо не стрэну цябе ўжо нідзе ўжо нідзе ўжо нідзе
Вось страла і яшчэ
У маім племені людзі бы стрэлы,
Вось яшчэ дзве стралы і маленькія дзве – тое замест дзяцей
І суцэльна сцяна падзяліць каб на чорнае й белае
Увесь свет непазнаны
Енісей енісей енісей
Гэта жонка з народу твайго – яна пэўна красуня
Мае пышну спадніцу і доўгую ў пояс касу
Да цябе то звіваецца дым светла-сівы
І ляціць ад цябе – у нябёсы ляціць ад цябе
І так сорамна часам што бачу пад нашым парогам
То забітую качку то сціплыя краскі тайгі
Ён чакае мяне а мне ўжо і не трэба нічога
Так шмат цёмнай вады ў крыві ў крыві ў крыві
Што ж гадуйце дзяцей і хай будзе ў хаце багацце
Абяцаю ўсцяж я сувора маўчаць
І пражыць так жыццё
І ніколі не буду паказваць дзяўчатам
Як збірае слязу бераста бераста бераста

*01.02.2017*

## *[чорны]*

на пару сутак зноў схаваўся месяц
і вецер полем – паспрабуй злаві
Далёка ў небе хмары зоры месяц
Цячэ рака – прадмесце каб дзяліць
І ты ў адной з тых сонных палавінаў
Шпітальным водарам эфіру
адцісне сусвет да звонкай мяжы
І здагадкі патрабуюць даверу
Бы тлусты троль які дагэтуль
Хвіліну таму быў у сеціве
А заўтра сонца зноўку зробіць каву
І можа ненадоўга зойдзе ў чат
І дзень малюначак цікавы
Прышпіліць як м*дак сабе на аву
“страшныя словы як яны маўчаць”
Параскідай жа рыфмы па паперах
Манеты бонус-мрояў па кішэнях
Уночы калі змоўкне гукаў шэраг
Прыйдзі на цёмны і здзічэлы бераг
І прытапі той час, бы кацянят.

*9.02.2017*

### *[Альфа-Цэнтаўра]*

Паслухай, Зямля, пра што гавораць мапы:
Альфа-Цэнтаўра – бліжэйшая зорка да нас.
Нам зоркалёты не лішнім было б мець
І ў батарэях акумуляваць зарад.
Іх бачна адсюль – пэўна, як і нас адтуль.
Кажуць, туды ляцець – пару халодных зім.
Зусім драбніца – і добра было б даведацца
Штосьці пра прыроду і тэмпературны рэжым...
Навукоўцы казалі – адтуль былі сігналы.
Скептыкі ў адказ ледзь стрымліваюць смех:
Можа, сігналы, а можа, проста нагналі –
Хто іх ведае – вар'ятаў, вучоных тых...
Нашы сігналы скажаюцца і знікаюць –
З хуткасцю святла паспрабуй пагавары.
Хто яго ведае, з чым яны нас чакаюць:
Тое ж не адна зорка – іх там цэлых тры!
Можа, там холад, ці спёка, ці радыяцыйны подых.
Можа, там вірус – люты смяротны штам.
Можа, там анёлы ў зрэбным стаяць пры ўваходах –
Усім прышлым у пашпарце ставяць штамп...
Можа, там хунта, а ўсе мясцовыя – з ваты.
Можа, няма нікога – толькі снягі па пояс пухнатыя...
Пішаш у прываце:
"Вітаю!
Давай сябраваць!" –
І прышпіляешся пасам – на шчасце.

*13.02.2017*

### *[Наша цудоўная рэспубліка]*

Месяц над плёсамі – поўны, маўклівы...
Быццам дзіця, што ледзьве хавае радасць!
Шмат краёў навокал, а прыгажэйшы з іх –
Наша цудоўная рэспубліка! Усход і захад.
Зоркі гараць на ўзбочынах нябесных трас –
Там не існуе кардонаў і зонаў памежных...
Зоры ўсё бачаць і ведаюць, чаму ў нас
Высахла чара цярпення, бы рэчка ў сярэдзіне лета.
Прастору касмічную нельга замкнуць у клетку.
Супраць свяцілаў не рушыш вадамёты і біты.
Зоркі нас разумеюць –
Ім жа мільёны год
Свяціць усім падарожным задарма...
Зоры ўпёртыя,

Зоры сваё ведаюць:
Ім бы толькі ўвечар выйсці – а там як пойдзе!..
Нам спачувае сусвет, у якім ёсць,
Ёсць,
Ёсць!!! –
Наша цудоўная рэспубліка – поўнач і поўдзень...

*16.02.2017*

### *[Ліст]*

І хто я табе, замежнае дзіця пратэстаў,
Мой рыцар светлы без страху і заганаў?
Паслухай маю песню, лясоў шапоткі перапеў –
Тых самых, дзе гліца, пралескі ды партызаны.
І што мне ты, і боль твой, і твая краіна,
І доля, што трымціць пад многімі вятрамі?
У нас гісторыя, зганьбаваная і неўміручая,
Мы рознымі мовамі кажамі пра тое самае –
Захаванае ў кнігах актаў гарадскіх і земскіх,
Няйначай хітрыя разынкі ў пахкім цесце,
У рамантыцы месца, у вулачках вузенькіх даўніх,
Адкрытых для нас, але больш невядомых нікому...
Ува мне адзываецца і не ведае спыну,
Маленькая кропля крыві – такое жывой!
Я села ў той човен – грабу, не ведаю стрыму
Хай я сама пакуль толькі ў хісткім каноэ.

*26.03.2017*

### *[Пакуль рука ў руцэ]*

Там, дзе рэжым канчаткова прыняў народ за лохаў
І ў механізмах прымусу старое ўзяўся варушыць,
Мабыць, не варта прагназаваць далейшых зрухаў –
Гэта тое ж, што на картах варажыць.

У кававай гушчы падзей, дзе жыццё набірае тэмп,
Там, дзе штораз эфіры, стрымы, мэсыджы атрыманы,
Людзі ў цяжкіх сітуацыях вымушаны рабіць тое,
На што апрыёры здатны.

Нехта ўвогуле не ўспрымае гэты працэс,
Страхам і прапагандай выцеснены на ўзбочыну.
Хтосьці, хіснуўшыся, здрадзіць табе і сабе. І пра гэта
Подла зманіць у вочы.

Нехта бажыўся нядаўна жыццё аддаць у барацьбе,
Хто маляваў на сценах сэрца сваё палымянае,
Стоміцца ўрэшце дацягвацца да самога сябе,
І яго не хопіць надоўга.

Нехта расчаруе, запал святы прытушыўшы ў песнях,
Рупар свабоды пераўтварыўшы ў дзіцячы піск.
То суворыя рэаліі часу. Тое, пра што чытаю штодня,
Пра што мне ў чатах пішуць.

Нехта зачыніцца дома на кухні і начхае на ўсё.
Нехта будзе здымаць бойку і гвалт на айфон, папіваючы смузі,
Нехта не ўтрымае сцяг і той упадзе на брук... І далей яго панясе.
І не здасць ні сябе, ні сяброў...

Гісторыя нас фільтруе. Ці падаеш, ці расцеш.
Як трапна сказаў паэт – усяляк бывае ў змаганні.
Першы – баласт, што скідае сябе. Ён патрэбен не менш,
І важна насамрэч, хто ж застаўся.

Не дапамогуць ні свае шуняўкі, ні ўсходні кораш
З ядзерным дном і атрутаю ў пастаўцы.
Супраціў – гэта сіла. І сіла жыве. Яе так не скорыш.
Пакуль агонь у душах. Пакуль рука ў руцэ.

*06.04.2017*

### *[гібсан]*

Ранак як медбрат на полі бітвы
Абмывае целы росамі
Хтосьці зверху ўжо стаміўся нас любіць
І таму мы вымерзлі да роспачы
Нашы мары з неба не дастанеш
Там туман
Іржэўнік ды іржэўнік
Ураджай расцягне на цытаты
З твітара манерны маладняк
Хоць на момант уцячы з каўчэгу
Мрояў сонных збуджаны патоп
Пусціць па табе пункцірам чэргу
З засені світанне нібы коп
Куля слепа ўвап'ецца ў спіну
І валошкі знікнуць каля скроняў
Запалае на ўсю краіну
Папараці газавы агонь
Застывае верш суворым гіпсам

Трапны злепак пройдзенага дня
Уставай
Бяры пацерты гібсан
І прывідаў гукам разганяй

*24.06.2017*

### *[брунатны зайчык]*

Усе згадкі засталіся за кардонам
Трымаецца старэзны плагін
Слабы сігнал праз тоўшчу забаронаў
Не-не ды прабіваецца выразна
Як промень скрозь крохкую шэрань
Як нерв ледзь заўважная стужка
Памочнік мой блытае бессань
Брунатны зайчык – вушка з капялюшыка
Хто ведае пабачымся ці не – у тым
Віна планетаў або збоі крыватоку
Мой зайчык звык мяне хаваць у цень
Каб я транспартавалася на хвілю
Майго тэмпературнага паўзмроку
Блакітну мрою з пробліскам сталёвым
Дзе месяц часта летуценнікаў будзіў
У горадзе з ракой і сонным львом
Дзе ходзіць панна з псом на павадку
Дзе зброю прыхавалі ў каморы
А той што ўвострым каўпаку
Прадаўся чорту і рахуе зоры
Ударная хваля ссунутыя шчыты
Бяссцяжная застыла ў страху плошча
Там мог бы хтосьці быць – ці я ці ты
Там зімны вецер пра сваё галосіць
Цяпер пішы пішы сабе на злосць
Ці на патолю інтэрнэт-парталам
І бы іржа рэальнасць сон раз’есць
І стане шчэ адным шпіталем
Штось па-за кадрам – і нібы вар’ят
Брыду такой адвечнаю вясною
Збіраю чорнае каменне я з-пад пят
Плачу за ўсё што стала не са мною

*23-24.06.2017*

### *[natan]*

ужо тысячу год асыпаецца наш каляндар
І надходзіць часіна – яе прадказалі жрацы

Наш сусвет гарыць
І сведчыць унутраны жар
Невыразны паўцень на тваім тонкім абліччы
Паміж пятлі арбіт – эліптычны роспачны крык
Грукат хваляў – крылаў сляпой стыхіі ўгневаны штрых
Ужо тысячу год асыпаецца наш мацярык
Ужо тысячу год я трымаю цябе на руках
Упіраюся нагой у запененую скалу
Адусюль вада – трымае адно гравітацыя зямлі
Ужо тысячу год мы ў палоне свінцовага сну
Прачніся!
Ты не бачыш мяне
Ты не бачыш мяне
Забыццё паглынае падземныя замкі й двары
Подых свежага ўсходу – ні святла ад яго ні цяпла
Гэта такі ўсепранікальны і матавы струмень з гары
Што ў яго паўтонах дарэшты трансфармуецца плоць
Раскінуты сусвет з яго мірыядамі целаў
Шырыня тых нябёсаў
Гіганцкі іх цёмны вір –
Паглядзі...
Адтуль сыпецца сэрца разбітага пыл –
Значыць наша малітва нарэшце кранулася зор

*07.07.2017*

* * *

Мой космас – ён адкрыты, як вертэп!
Усе яго шыроты ды глыбіні...
І тое, што ўчора паскарала тэмп,
Чакае дабрадзейнае гадзіны.
Мой космас – ён цякучы, як рака!
У ім усё змяняецца штохвілі...
Арнаментам старога ручніка
На вечным тым шляху малочна-белым.
Настоена на дзікім жніўня паху
Вірлівае і церпкае віно тых зорак,
Мой космас – ён не хутка пойдзе прахам!
Мой космас – ён адкрыты...
Яшчэ чакае вас.

*26.08.2017*

Адам Глобус



...згадка такая яркая, такая сапраўдная ў кожнай дэталі, што ты проста абавязаны пра яе напісаць...

# Таленты

***Словы пра тутэйшых арт-авангардыстаў***

## Чарнабрысаў і фантан

Мастака Чарнабрысава заўсёды шмат. Як толькі ён з’яўляецца ў памяшканні, адразу робіцца галоўным героем. Рэжысёру ён пачынае расказваць сюжэты для серыялаў. Скульптару распавядае пра таямніцы камянёў. Журналісту накідвае пытанняў для будучых размоў з вядомымі людзьмі. Для кожнага сустрэчнага ў Чарнабрысава ёсць парада і заданне. Ён азадачвае прысутных так хутка і так моцна, што яны стамляюцца і сыходзяць. Чарнабрысава сыходы знаёмцаў не бянтэжаць. Для яго ўсе людзі – у вялікай ступені натуршчыкі, якіх варта намаляваць, а намаляваны герой з карціны сысці не зможа! Факт! Цікава тое, што намаляваныя Чарнабрысавым героі і сапраўды спрабуюць вываліцца з палатна, ды не могуць, бо мастак іх не адпускае. Гэтак вада спрабуе ўцячы з фантана, але фантан яе не адпускае. Таму, калі б мяне папрасілі зрабіць у Мінску помнік мастаку Чарнабрысаву, я зрабіў бы яго ў выглядзе фантана і паставіў бы ў скверыку каля чыгуначнага вакзала.

## Родзін і космас

Нехта з амерыканскіх эсэістаў, разважаючы пра касмагонію, сказаў, што ў мастакоў космас засмечаны living рознымі малапатрэбнымі дэталямі. Мяне крыху рэзнула такое грэблівае стаўленне да мастакоўскага космасу, пагатоў, што гэта напісаў, здаецца, паважаны паэт Эдгар Алан По. Уласна для мяне самыя касмічныя мастакі – Піт Мандрыян і Казімір Малевіч, а іх космас чысты, можна сказаць, стэрыльны. У ім, як і ў сапраўдным космасе, больш пустаты, чым рэчыва. Праўда, у нейкім сэнсе амерыканскі эсэіст усё ж меў рацыю, бо ёсць мастакі, чый космас і сапраўды запоўнены бясконцай колькасцю рэчаў, фрагментаў тых рэчаў, дэталяў тых самых рэчаў... Такі “засмечаны” космас у рускага мастака Філонава і ў беларускага мастака Родзіна.

## Родзін і стрымліванне

Калі гутарка заходзіць пра мастака Родзіна, я ўвесь час стрымліваюся, каб часам не загаварыцца і не назваць яго Радэнам.

## Плясанаў і апантанасць

Андрэй Плясанаў сабраў найлепшую ў Беларусі прыватную калекцыю авангарднага мастацтва, пачынаючы з 80-х і скончаючы 2021-м. Сорак гадоў ён збіраў жывапіс Сяргея Малішэўскага і Люды Русавай, Віталя Чарнабрысава і Уладзіміра Акулава, Віктара Ціханава і Аляксея Жданава, Валерыя Мартынчыка і Сяргея Лапшы... Ён купляў і вымяньваў, выпрошваў і па-зы-чаў на выставы. Можна казаць, што Андрэй быў не проста захоплены збіраннем, ён быў апантаны калекцыянер. Каб атрымаць карціну, Андрэй Плясанаў засыпаў мастака самымі неверагоднымі кампліментамі. Часам з ім рабілася цяжка размаўляць: ты раптам адчуваў сябе вінаватым, што не хочаш дарыць карціну. Каб не дарыць вялікае палатно, я дарыў Андрэю некалькі маленькіх, але праз які тыдзень ён завітваў і па вялікае. Аднаго разу я нават напісаў для яго копію, каб не дарыць арыгінал. Чамусьці копія атрымалася лепшаю за арыгінал, і я перадаў яго ў калекцыю Андрэя. Не стану казаць, што я сябраваў з Плясанавым. Не. Мы выпівалі, размаўлялі за кубачкам кавы, спрачаліся... Ён найперш быў для мяне калекцыянерам, які цаніў мой жывапіс. Цяпер, калі Андрэя няма, я раптам адчуў, як моцна не хапае ягонай патрабавальнай любові да маіх карцін. Некаторых мастакоў Андрэй цаніў вышэй за мяне, і няхай яны таксама напішуць добрыя словы ўспамінаў. Скажу за сябе, мне сумна без ягонай вясёлай апантанасці.

## Плясанаў і парада

“Як ты ходзіш... Хіба так можна хадзіць?” – абураецца Андрэй Плясанаў, стоячы пасярод маёй майстэрні. “Як я хаджу? Як хачу, так і хаджу па майстэрні... Мая майстэрня, мяне тут ніхто не бачыць...” – мармычу ў адказ. “Ходзіш ты сагнуўшыся, а трэба высока ўзняць галаву, трэба расправіць плечы, трэба сабрацца і зрабіць паставу ўпэўненага і валявога чалавека... Глядзі!” – Андрэй пачынае хадзіць гогалем... Вядома, ён – рэжысёр, ён умее паказаць, як табе трэба хадзіць, як табе трэба ўсміхацца і прытанцоўваць...

Калі Андрэй пакінуў наш свет і ягоны час спыніўся, мне і згадалася, як ён жартуе і пераконвае мяне хадзіць роўна і не гнуцца нават тады, калі цябе ніхто не бачыць.

## Хацкевіч і падарункі

“Адамчык, прыходзь да мяне. Я падрыхтаваў табе падарункі: музыку на кампакце, малюнак і алоўкі! Ведаю, ты любіш маляваць простым алоўкам, а ў мяне іх шмат. Прыходзь сягоння ўвечары...” – Гена Хацкевіч трымае мяне за руку, сціскае, не адпускае. “Давай не сягоння. Давай у панядзелак, праз тыдзень...” – “Адамчык, ты да мяне ў Серабранку не паедзеш. Ведаю я цябе. Да мяне ніхто не прыязджае, нікому не

патрэбны мае падарункі, ніхто не хоча са мной пасядзець за сталом і выпіць, нікому я не патрэбны... Я нават сабе ўжо абрыд. Прачынаюся раніцай, а ўставаць з ложка не хачу. Увечары я не хачу класціся ў ложак, бо ведаю, што раніцай не захачу ўставаць... Адамчык, дык ты прыедзеш да мяне ў Серабранку, каб забраць падарункі?" – "Прыеду, Гена. Прыеду..." – "Ага, я раблю выгляд, што табе паверыў..."

Падарункі? Я іх так і не забраў, яны так назаўжды і засталіся ў Серабранцы.

## Хацкевіч і каўнер

Гена лічыў, што каўнер у кашулі – лішняя дэталь. У гэтым ён пераконваў знаёмых: "Толькі падумай, якая гэта эканомія – адмова ад каўняра на кашулі?! Гэта ж мільёны і мільёны даляраў можна наэканоміць!" Знаёмцы не перакоўваліся. Дзеля відавочнасці адзежнай ідэі Гена паадразаў каўняры ад усіх сваіх кашуль. Цяпер ён мог сказаць: "Паглядзі! Вось я жыву без каўняра на кашулі, і адчуваю сябе выдатна. Я цудоўна пачуваюся без каўняра. Насіць каўнер – недаравальнае марнатраўства. Толькі дурні і шкоднікі носяць кашулі з каўнярамі. Разумныя і беражлівыя мусяць самі адмовіцца ад каўняра і павінны прымусіць іншых адмовіцца ад гэтага адзежнага атавізму. Каўнер мусіць застацца ў мінулым, дзе засталіся чуні і лапці..."

## Сазыкіна і паходка

Паштарка, якая разносіць у маім раёне лісты, часопісы ды газеты... Так! У нас усё яшчэ чытаюць папяровыя газеты і рассылаюць калядныя паштоўкі... Дык вось... Паштарка тая мае адметную паходку, яна ходзіць, як генерал. У нашым раёне стаіць штаб беларускага войска, таму я добра ведаю хаду генералаў, палкоўнікаў і салдатаў. Генерал ідзе так, што зямля пад ім прагінаецца. Так і паштарка ходзіць, зайшла ў пад'езд, і ўсе ад першага да чацвёртага паверха пачулі, што "нам даставілі газеты, тэлеграмы і лісты". Як толькі я пачую ці пабачу тутэйшую паштарку, дык адразу згадваю Гену Хацкевіча, які любіў генеральскую паходку. Сам ён хадзіў зусім па-іншаму, ён хадзіў, як алень. Пра ягоную любоў да генеральскай хады я даведаўся выпадкова. Мы стаялі на плошчы Перамогі, ён хітнуў галавою ў бок парка Горкага: "Вунь Сазыкіна праз праспект ідзе..." – "Ты здалёк пазнаеш Сазыкіну?" – "Так, у яе ж генеральская паходка. Я люблю Сазыкіну за генеральскую паходку!" Мяне тое моцна ўразіла, бо раней я не чуў, каб нехта некага любіў менавіта за хаду, пагатоў, каб мужчына палюбіў жанчыну за мужчынскую генеральскую цяжкую паходку.

## Сазыкіна і персанальная выстава

Здараецца, што ты згадаеш чалавека, якога даўно няма сярод жывых. Згадка такая яркая, такая сапраўдная ў кожнай дэталі, што ты проста абавязаны пра яе напісаць. Сядаеш за стол і запісваеш. Так я занатаваў успамін пра Гену Хацкевіча, які, стоячы на плошчы Перамогі, казаў пра любоў да Вольгі Сазыкінай. Запісаўшы і выклаўшы ўспамін пра Гену і Вольгу на старонку ў фэйсбук, я пайшоў у майстэрню. У падземным пераходзе на станцыі Кастрычніцкая я пабачыў... Вольгу! Яна стаяла ў нейкай паэтычнай разгубленасці. "Ты куды?" – пытаюся. "Сапраўды, куды гэта я іду? Мне ж трэба ў музей, а я кіруюся да "Цэнтральнага" ўніверсама. Задумалася, заблыталася, спынілася..." – "Бывае... Што ў музеі?" – "Рыхтую персанальную выставу, усе думкі толькі пра яе... Галава кругам ідзе". Я расказаў Вользе пра лірычны ўспамін, які змясціў у фэйсбуку. Расказаў пра любоў Хацкевіча да яе хады, а Вольга сказала, што любіць мяне проста так, без усялякіх там дробных удакладненняў. Мо і пажартавала, але ж мне прыемна, што хросная маці маёй дачкі Ядзі любіць і мяне. Ад Вольгі Сазыкінай сыходзіў прыемны водар дарагіх духоў, так і павінна пахнуць мастачка, якая ідзе ў музей рабіць персанальную выставу. Гена? Гена Хацкевіч ёй дапамагае... Інакш нашто ён з'явіўся ў маіх успамінах?

### Жданаў і сподачкі

Інсітны калажыст Лёша Жданаў успрымаў людзей як мутантаў, пачварных і лупавокіх. Прынамсі, такімі ён іх выяўляў на сваіх брудна-неахайных калажах. Таму з чыстым сумленнем і лёгкім сэрцам ён здзекаваўся з вясковай бабулі, у якой жыў, калі яго – студэнта – паслалі выбіраць бульбу. Увечары Лёша паставіў пад разетку пусты сподачак, а ўранку зрабіў выгляд, нібыта нешта п'е з таго сподачка. «Што ты, хлопец, робіш?» – задзівавалася бабулька-гаспадыня. «Электраэнергію п'ю!!! За ноч яна выцякае з разеткі на сподак. Я яе выпіваю і цэлы дзень хаджу бадзёры!» Калі Жданаў вярнуўся з поля, у хаце падманутай бабулі пад кожнай разеткаю стаяў сподачак. То ўжо парагатаў Жданаў з аднакурснікамі-бульбакапальнікамі: «Хіба не мутанты?!»

### Лапша і цукеркі

Мастак Лапша, афармляючы пенсію, зрабіў так, што ўсе налічаныя яму дзяржаваю грошы штомесяц пераводзяцца на рахунак у дзіцячы дом. Жэст! Я табе скажу. Пра гэты дабрачынны жэст мастака-афарміцеля Лапшы я чуў ад розных людзей, але ў самога афарміцеля не пытаўся. Не хацелася расчароўвацца ў чалавеку. Хочацца верыць у лепшае, верыць у тое, што дабрачыннасць і сапраўды існуе ў грошалюбівым свеце. Гадоў пяць я веру ў ахвярнасць Лапшы, а таму, аформіўшы пенсію і атрымаўшы першыя грошы на картку, я задумаўся. На што іх пачаць траціць? Прыдумаў: набыць цукерак для аматараў літаратуры, якія штотыдзень збіраюцца ў маёй школе "Літара", бо дзень, пражыты без цукеркі, ты змарнаваў.

### Акулаў і жабы

Жэнік збірае карціны Акулава, робіць яму выставы, збіраецца зрабіць з Акулава мастака, роўнага Шагалу. Жэнік стараецца... Кажа: "Ужо некаторыя мастацтвазнаўцы пачалі параўноўваць Акулава з Шагалам. Пачатак ёсць... А ён, ты не паверыш, другі месяц малюе адных жаб. Малюе жаб і больш нічога не малюе. Панамалёўваў жаб і на палотнах, і на сценах, і на крэслах з табурэткамі панамалёўваў. Уся майстэрня ў лупатых жабах. Не стану казаць, што жабы кепскія, нішто сабе жабы, але як я буду іх прадаваць... Каму патрэбна карціна ці табурэтка з жабамі? Не слухае мяне Акулаў, малюе жаб і ўсё..."

### Казюмінскі і азёры

"Малыш памёр..." – такое паведамленне атрымаў я ад Шведа – Сяргея Шаўцова. Шкада Малыша – Вовачку Казюмінскага. У маладосці мы разам вучыліся на мастакоў, разам пілі віно, разам весяліліся ў мінскіх скверах. Хто такі Малыш? Той, хто лётаў на дэльтаплане. Займаўся падводным плаваннем. Таксаваў, фарцаваў і маляваў. Быў аптымістам, любіў жарты і ўмеў распавядаць показкі. Апошні раз я патэлефанаваў Малышу, бо пайшлі чуткі, што памёр Швед. Малыш пра Шведа ведаў мала і пра ягоную смерць нічога не чуў. Малыш запрашаў прыехаць да яго на азёры... Я нават абяцаў яму прыехаць, каб памаляваць азёрныя краявіды... Трэба будзе намаляваць возера са светлай вадой, такой светлай, як вочы Малыша – Вовачкі Казюмінскага.

### Шыдлоўская і чарніцы

Звычайна кажуць пра вішнёвыя вусны ў дзяўчат. Вусны Алены Шыдлоўскай мелі болей халоднае адценне, нібы яна толькі што з'ела цэлую шклянку чарніц. У дзяўчыну са смачнымі вуснамі лёгка закахацца. Таму ў яе і закахаліся Ігар, Сяргей, Валодзя і Алесь. Пра гэтыя закаханасці я дакладна ведаю. Чаму я сам не кахаў Алену з чарнічнымі вуснамі? Мусіць, бо занадта доўга яе маляваў. Замест таго, каб зрабіць некалькі невялічкіх малюнкаў і пачаць цалаваць чарнічныя вусны, я ўзяў велізарны

планшэт і маляваў Алену ў яе натуральную велічыню. Мая захопленасць малюнкам раптам зрабілася большай за маю захопленасць аголенай прыгажуняй. Адным словам, нашы адносіны засталіся адносінамі мастака і мадэлі. Скажу яшчэ, што Шыдлоўская адна з самых лепшых маіх натуршчыц, з якой я так і не намаляваў ніводнага прыстойнага і вартага захоўвання малюнка.

### Чэх і жаданне

Вяртаюся з майстэрні. Іду па праспекце і думаю, што добра было б сустрэць чалавека, з якім можна пагаварыць пра цяперашняе жыццё, не баючыся сказаць нешта жорсткае і абразлівае, пагаварыць пра ўсё на свеце, ведаючы – цябе зразумеюць. Чую: “Адамчык!” Бачу – Гена Чэх, з якім у нашым юнацтве мы хадзілі на заняткі ў мастацкую вучэльню, а з нашай апошняй сустрэчы гадоў пятнаццаць прайшло. Мы пастаялі, пагаварылі пра ўсё і пра ўсіх. Я правёў Гену на чыгуначны вакзал, і ён з’ехаў у Светлагорск.

### Цішын і настаўнік

На платформе ў метро сустрэў Гірку – Ігара Цішына – і даланёю ляпнуў яго па плячы. Гірка заўсміхаўся і ляпнуў мяне сваёй мастакоўскай даланёю па плячы. Ён сказаў: “Думаў: сустрэну цябе на Кастрычніцкай, а сустрэў на плошчы Перамогі...” – “А я думаў, што пабачымся ў Вільні, а ўбачыліся ў Мінску”. Мы выбраліся з метро і пачалі хадзіць па вечаровых вуліцах. Мы хадзілі па цёмных вуліцах і разважалі пра нашага выкладчыка – Хадыку. “Я мог бы табе шмат чаго расказаць пра Хадыку, але не раскажу, бо ты напішаш. Ты напішаш не тое, што я РАСКАЗАЎ пра Хадыку, а напішаш, як Я расказваў пра Хадыку. Ты ж разумееш, пра што я зараз кажу-расказваю?” – “Разумею...” – сказаў я Ігару і падумаў, што мы яшчэ пагаворым з ім пра Хадыку, і я дакладна запішу ўсё тое, што Гірка раскажа пра аднаго з найлепшых настаўнікаў.

### Цішын і “сціпласць”

Раней я ўжо казаў, што мастаку Цішыну падабаюцца чорна-белыя рэпрадукцыі карцін, надрукаваных на кепскай паперы і ў даўнія часы. Ён яшчэ і ўдакладняў, што такімі рэпрадукцыямі захапляўся і ў дзяцінстве, і ў часы інстытуцкай вучобы. Пачуўшы ад Ігара Цішына пра малаякасныя рэпрадукцыі выдатных карцін, я згадаў, што сам збіраў падобныя рэпрадукцыі кубістаў і футурыстаў, сюррэалістаў і экспрэсіяністаў. Збіраў тых, каго крытыкавалі, ганілі і забаранялі ў сацрэалістычнай імперыі. Такія рэпрадукцыі збіраў не адзін я. Таму і скажу, што не толькі Ігар Цішын, а ўсё наша пакаленне тутэйшых мастакоў вырасла на кепскіх рэпрадукцыях з добрых карцін. Гэтая рэпрадукцыйная “кепскасць”, а можна тактоўна пераназваць яе ў “сціпласць”, добра відаць на палотнах Люды Русавай і Сяргея Малішэўскага, Андрэя Задорына і Наташы Залознай, Сяргея Грыневіча і самога Ігара Цішына.

### Яўменаў і лірыка

Юра Яўменаў глядзіць мне ў вочы. Ён з тых людзей, якія бессаромна зазіраюць у чужыя вочы. Зазірнуць і глядзяць, а толькі потым пра нешта спытаюцца: “Ведаеш, як я пішу вершы?” У мяне хапае мужнасці не палохацца зазіранняў у мае вочы і на пытанне адказваць пытаннем: “Адкуль я магу ведаць, як ты пішаш вершы?” – “Ёсць людзі, якія за дзень могуць накатаць цэлую паэму. Сеў і накатаў паэму на цэлы сшытак. Я – іншы. Я не магу пісаць хутка. Я пішу вершы марудна, так марудна капае вада з туга закручанага крана...” Юра паказаў правай сціснутай у кулак рукой, як трэба закручваць кран, з якога цячэ ягоная лірыка.

запісы

Барыс Пятровіч



...нашая мэта не зрабіць жыццё раем,

а не даць яму стаць пеклам...

# Ісці і не баяцца

***Наткі з нататнічкаў***

***

Люблю прозу паэтаў – Вазнясенскага, Еўтушэнкі, Шклярэўскага, нават Ясеніна... Але прозу паэта Някляева не назаву прозай паэтаў. У ёй хапае вобразнасці, метафарычнасці, прыгожасцяў, якія ад паэзіі, але разам з тым гэта грунтоўная проза грунтоўнага празаіка.

Люблю лёгкасць і прыгажосць прозы паэтаў. Кажу часта, што лепшае, што ёсць у лепшай жа прозе – ад паэзіі. Але Някляеву ўдаецца быць у паэзіі – паэтам, а ў прозе – празаікам. Рэдкая якасць.

***

Дон Кіхот, Гамлет, Фаўст... не былі прыдуманыя Сервантэсам, Шэкспірам, Гётэ... Яны толькі зрабілі іх больш вядомымі, ці, дакладней, знакамітымі. Героі гэтыя ўжо былі – у іншых аўтараў, у фальклоры. І ніхто, ніколі не назваў і не назаве гэта плагіятам.

***

Аказваецца, ёсць такая "хвароба" ці, дакладней, – эмоцыя: велікор. Гэта туга, самота па старых кнігарнях. Я таксама на яе хварэю...

***

І ў Расіі, і ў Беларусі не любяць начальства, але любяць гнаных, абяздоленых. Гэта тычыцца і літаратуры ды літаратараў. Колькі творцаў сталі на нейкі час знакамітымі найперш з-за таго, што самі загубілі сваё здароўе і рана памерлі, а не за тое, што напісалі...

***

Сустрэўся з сябрам, з якім даўно не бачыўся. З-за апошніх падзеяў размова была такой прэснай, як адварная (паравая) катлеціна ў бальніцы. Ён асцярожнічаў, азіраўся раз-пораз, а потым, не дагаварыўшы і не развітаўшыся, увогуле адышоў ад мяне... І тут я ўбачыў, што за намі здалёк назірае ягоны начальнік. І толькі тады зразумеў, што скампраметаваў “сябра”, падышоўшы да яго.

***

Сённяшняя проза падзяляецца на два віды: проза, якую чытаць немагчыма, і проза, якую можна і не чытаць...

***

Дзіўна, але паводле тэорыі – гармонія ёсць стабільнасць. Любы рух наперад, развіццё – ёсць хаос, разбурэнне стабільнасці, а значыць, – гармоніі. Але ці спыненне развіцця ў любы момант ёсць вяртаннем да гармоніі? Дык што: застылы хаос – і ёсць гармонія?

Любая стабільнасць – стамляе. Дыктатура стамляе – хочацца свабоды. Але з часам стамляе і свабода. І тады зноў прыходзіць дыктатура. Так у нас. Так і ў свеце. Толькі ў нас перыяды дыктатуры доўгія, а свабоды – кароткія, а ва ўсім свеце (вольным свеце) наадварот: перыяды свабоды доўгія, а дыктатуры – кароткія, амаль незаўважныя. Так і рухаемся паціху наперад.

***

На жаль, сёння нашая мэта не зрабіць Беларусь лепшай, а не даць ёй знікнуць.

***

“Сталіна на вас няма!” – колькі разоў чуў гэтыя словы. І не толькі ад старэйшых. І вось прыйшоў Сталін. Не ў такой меры, як у 30-х, 40-х, за іншадумства пакуль не расстрэльваюць. І дзе падзеліся тыя, што так яго хацелі? Бо “Сталін” зачапіў не толькі тых, хто выйшаў з пратэстам, але і тых, хто проста выгульваў сабаку ці ішоў у краму па хлеб, а то і па чарговую пляшку... Бо “Сталін” – гэта ўсеагульны страх, так – усеагульны, а не для выбраных.

***

Колькасць у літаратуры так рэдка пераходзіць у якасць... Прыклады адзінкавыя. У беларускай літаратуры хіба толькі адзін – Караткевіч. Амаль усё, што ён напісаў, – класіка. Кажу “амаль”, бо крыху падпсавала ягоны імідж выданне “поўнага збору твораў”. Ён меў добры, выключны густ і шмат што сам не друкаваў. А тут сабралі ўсё – нацё! Як бы хацелі тым прынізіць яго, паказаць слабасці. Але не ўдасца. Лепшыя кнігі яго – раманы, аповесці, апавяданні, вершы, эсэ, казкі – будуць жыць, іх будуць любіць чытачы, чытаць і перачытваць. А тое, што ён сам не хацеў паказваць – друкаваць – забудзецца, застанецца толькі спецыялістам-даследчыкам. Тое ж самае можна сказаць і пра Анатоля Сыса. Не варта было выдаваць ягоныя школьныя free вершыкі (хіба... у “поўным зборы твораў” для спецыялістаў...), яны вучнёўскія і нічога не дадаюць да

асобы, да вобраза Паэта Анатоля Сыса, лепшыя вершы свае ён сам адабраў ды выдаў, і трэба давяраць ягонаму густу і жаданню, а не "пасмяротных выдаўцоў", як гэта ёсць і ў выпадку з Караткевічам. Іншая справа, калі пісьменнік пісаў нешта ў свае апошнія гады, месяцы, дні жыцця і проста не паспеў, не змог выдаць з нейкіх прычынаў, абставінаў... Тое трэба друкаваць. А шукаць – вышукваць – нешта дзіцячае, вучнёўскае, адпрэчанае самім аўтарам, адкінутае і забытае – не варта. Калі б хацеў, ён бы сам гэта зрабіў. А калі не зрабіў праз гады, то, паверце, значыць, ён гэтага не хацеў...

***

Алесь Дудар у артыкуле 1927-га года пісаў, крытыкуючы маладых творцаў, што нават "...нашы старэйшыя пісьменнікі, як Купала і Колас, даволі шырока культывавалі сюжэтныя вершы, апавяданні вершам...". А "нашым старэйшым" тады было ўсяго па 45... А самому крытыку маладых – усяго 23... І просіцца паралель: некалі ў Школе маладога літаратара мы па традыцыі абмежавалі ўзрост тых, хто можа вучыцца ў ёй, 35 гадамі. О госпадзе, колькі было крыўдаў, размоў ды крыку ў сецiве і не толькі пра дыскрымінацыю ад тых, каму больш за 35.

***

Фатаграфія ўдарыла па жывапісе сваім з'яўленнем і адабрала ў яго рэалізм, вымусіла з'явіцца імпрэсіянізму, сюррэалізму, супрэматызму ды іншым ...ізмам. А потым яны пачалі існаваць паралельна.

Кіно ўдарыла па тэатры і вымусіла тэатр кінуцца ў эксперыменты і экспромты рэжысёраў ды акцёраў, а потым яны працягнулі існаваць паралельна.

Тэлебачанне ўдарыла па кіно і адабрала ў яго дакументальнасць ды інфармацыйнасць, а потым яны сталі існаваць паралельна.

Інтэрнэт адабраў у тэлебачання ўсё, але яны пакуль існуюць паралельна.

А што літаратура? Дагэтуль яна існавала паралельна, аддаючы сябе патроху тэатру, кіно, тэлебачанню... Але інтэрнэт пахіснуў і яе. Чытачы сталі аўтарамі, "пісьменнікамі"-блогерамі.

Што будзе далей – не ведаю.

***

З літаратурных жанраў, апроч звычайных вершаў і прозы, адной з першых з'явілася байка. Але на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва байкапісцаў было не так і шмат (хоць сам жанр быў знакамітым), а вядомых можна і ўвогуле пералічыць на пальцах рук: ну Эзоп, ну Лафантэн, ну Крылоў... Байка, як жанр, і памерла адной з першых. Пратрымалася яна трохі яшчэ ў СССР, каб бічаваць капіталістаў замежных ды імперыялістаў, і сваіх п'янтосаў ды бракаробаў. Бліснулі Міхалкоў і Крапіва... А сёння я не чуў, каб нехта байкі пісаў. Такое ўражанне, што байкі ўжо не адродзяцца. Які жанр памрэ наступным?

***

"Мінулае становіцца гісторыяй тады, калі пра яго пачынаюць пісаць кнігі", – гэта я не вычытаў у кагосьці, а сам падумаў раптам, калі разважаў пра тое, што адбываецца цяпер. Па-сутнасці, гісторыя ўсё, што ўжо адбылося, нават тое, што было хвіліну, секунду назад. А значыць, кніг пра сучаснасць – няма. Яны маглі быць хіба ў надоўга застылым – застойным грамадстве, такім, якім быў СССР пры Брэжневе. І тое з нацяжкай... Тым не менш, кнігу "Людзі на балоце" Мележа ніхто не назаве гістарычнай. Як, дарэчы, не называюць "Вайну і мір (свет!)" Талстога. Як назваць гэты жанр? Ды ніяк. Проста мастацкая літаратура. Так – літаратура. У адрозненне ад мемуараў, нататак і нон-фікшн увогуле.

***

Нашая мэта не зрабіць жыццё раем, а не даць яму стаць пеклам.

***

Блін, я так і не навучыўся ў школе карыстацца лагарыфмічнай лінейкай. Хоць яна ў мяне была і вельмі падабалася. Беленькая, гладзенькая, такая ўся арыстакратычная, і так прыгожа (сёння сказалі б – сексуальна) рассоўваецца... Цяперашнія кампутарызаваныя і планшэтазаваныя, смартфонавыя і агугленыя школьнікі, пэўна, і не ведаюць, што гэта такое – лагарыфмічная лінейка.

***

Беларусы – непатапляльныя аптымісты. Мы настолькі перакананыя ў лепшай – светлай – будучыні нашай краіны, што амаль нічога не робім дзеля таго, каб наблізіць гэтую будучыню.

***

Чаму паклёп, хлусню чыюсьці трэба абвяргаць, а сваю праўду, ісціну трэба даказваць? Адкуль і чаму такая несправядлівая аднабаковасць? Ці не ёсць ужо ў гэтым, знешне філалагічным, стылёвым азначэнні прызнанне таго, хто ад пачатку правы, мае рацыю? Маўляў, ісціна на баку таго, хто лжэ...

***

Для таго, каб цябе пачулі, – трэба крычаць. А хто ж мяне пачуе, калі я не проста не крычу, а маўчу? (Гэта пра вядомасць у літаратуры і ўвогуле...)

***

Мае любімыя знакі прыпынку – двукроп'е, шматкроп'е і... кропка з коскай. Люблю кропку з коскай – яна (ён? знак...) часта замяняе мне кропку ў маіх тэкстах. Чаму? Лічу, што кропка спыняе думку, адсякае сказанае, а кропка з коскай – проста прыпыняе на хвільку, на імгненне дзеля працягу, чым блізкая да двукроп'я. Але двукроп'е вымушае абавязкова даць працяг: "а менавіта:", а ў кропцы з коскай няма прымусу, як няма і вялікай паўзы ад кропкі ці працяжніка: думка сама льецца далей, не спыняючыся, не спатыкаючыся і не прымушаючы сябе. Гэтаксама, як шматкроп'е не абрывае думку, а дае магчымасць чытачу самому думаць, дадумаць далей. Здзівіўся, калі заўважыў, што менавіта двукроп'е і, як ні дзіўна, кропка з коскай, так, кропка з коскай – самыя частыя знакі прыпынку ў Бібліі. (Ну, зразумела, самыя частыя ўласна кропка і коска, але...) Але ні ў якім іншым тэксце, ні ў якой іншай кнізе – мастацкай ці навуковай – кропка з коскай і двукроп'е не сустракаюцца так часта, як у Бібліі. Вядома, гэтыя знакі прыпынку з'явіліся значна пазней за першатэкст Бібліі. І тым не менш...

***

Вочы ў яго былі карычневыя, як едакі бульбы на карціне Ван Гога.

***

Пісьменніцкі парадокс: чым больш ты ведаеш пра нешта, тым цяжэй пісаць.

Лягчэй за ўсё пішацца пра тое, чаго ты не ведаеш амаль зусім.

Найцяжэй пісаць пра сучаснасць. Гэта могуць лёгка рабіць толькі журналісты ці публіцысты, але не пісьменнікі.

Літаратура пачынаецца там, дзе фантазія замяняе факты.

“Выдумваць праўду” (Фолкнер так казаў) – і ёсць ствараць сапраўдную літаратуру.

Нехта можа сказаць, што я зыходжу выключна з уласнага досведу. Не. Я заўважаў гэта ў большасці тых пісьменнікаў, якіх лічу пісьменнікамі не толькі я.

***

“Ісці і не баяцца”, – яшчэ адзін дэвіз.

***

“Барыс – дзіўнае імя, – сказаў мне неяк адзін чалавек, – я не ведаю Барысаў – калгаснікаў, рабочых, усё больш інтэлігенцыя: музыкі, пісьменнікі, мастакі, альбо нейкае начальства... І часцей – каханкі і каханыя, зусім рэдка адзінокія... Няўжо і сапраўды імя ўплывае на лёс чалавека?”

Размовы ў нас не атрымалася, бо я тады не падтрымаў яе. Але згадаўшы – задумаўся. Імя, відаць, і сапраўды ўплывае на лёс, – нешта ў гэтым ёсць – але ці заўсёды? Я згадаў, што ў нашай вёсцы імя Барыс чамусьці было даволі (калі не вельмі), прынамсі, адносна іншых, – папулярным. І былі сярод тых, хто меў яго, і трактарысты, і простыя рабочыя (начальства, нават мясцовага – не было), былі адзінокія, з няўдалым лёсам, былі тыя, хто жаніўся не раз, былі і тыя, хто любіў выпіць і з таго меў немалыя праблемы.

І гэта толькі ў адной вёсцы. А ў цэлым свеце? Бо імя гэтае папулярнае і можа быць не толькі ў Беларусі ці Расіі, але і ў Нямеччыне ці Вялікабрытаніі, у Францыі ці ў Амерыцы... І як і ў іншых імёнах ёсць сярод Барысаў бамжы і прэзідэнты, геніі і злачынцы, шчаслівыя і няшчасныя... Ну, можа, геніяў і шчаслівых усё ж трохі больш...

***

З усіх магчымых нацыяналізмаў беларускі самы бяскрыўдны.

***

Смерць ёсць працягам жыцця.

Смерці няма – ёсць вечнае жыццё.

Мы нараджаемся аднойчы, каб жыць вечна. На жаль, мы не ведаем гэтага, і не даведаемся – пакуль не памрэм.

***

Некалі ў дзяцінстве я хацеў быць урачом. Але не стаў ім, не пайшоў вучыцца, бо, наглядзеўшыся на іх (урачоў) у бальніцы, зразумеў, што праца гэтая робіць чалавека чэрствым, абыякавым да чужое болі, да чужога гора. На жаль, гэта выдаткі прафесіі. Бо інакш ніякое сэрца не вытрывае столькі чужога болю, колькі бачаць урачы... Прынамсі, той галіны гэтай важнай прафесіі, у якой я бачыў сябе, а дакладней – з якой сутыкнуўся ў дзяцінстве... І лёсы ўрачоў па адукацыі, якія сталі пісьменнікамі – Чэхаў, Булгакаў, Верасаеў ды інш. – зусім не супярэчаць гэтай думцы, а наадварот, пацвярджаюць яе.

***

Чалавек адрозніваецца ад жывёлаў (малпаў, скажам) тым, што ён можа дзяліцца ежай.

***

Страх робіць добрага чалавека лепшым, а кепскага – горшым.

***

Прачытаў у Брыля: “Не пішацца... Сяджу, уздыхаю, як конь над пустым цэбрам...” Згадалася таксама з Коласа: “Сядзяць пісцы, як гною кучкі...” Найдакладнейшыя параўнанні. Але хто іх сёння ацэніць? Цяперашнія чытачы, калі яны ёсць, ужо і не ведаюць, што такое “цэбар” (хіба што самыя цікаўныя “прагугляць” і тое з цяжкасцю ўявяць сабе гэтую пасудзіну і сітуацыю). А сёй-той ужо і каня жывога бачыў “толькі па тэлевізары ці ў інтэрнеце”. І слова гной, у тым сэнсе Коласавым, ім няведама. Сапраўдная літаратура не старэе, кажаце, старэюць словы...

***

Не люблю людзей, якія расказваюць показкі і самі смяюцца пры гэтым больш, чым слухачы.

***

Паміж “трыццаць” і “пяцьдзясят” у нас раптам – “сорак”... Чаму “сорак”, а не “чатырыдзесят”, ці – “чытыраццаць”? Гучыць непрыгожа? Цяжка вымаўляць? Але ў балгараў – *четиридесят*, у палякаў – *czterdeści* , у славенцаў – *štirideset*, у харватаў – *četrdeset*, у сербаў – *четрдесет*, нарэшце, у немцаў – *vierzig*... І гэтак далей... Ну, *сорок* у рускіх – зразумела: ад “сорак шкурак” – так, па столькі ў звязцы, прадаваліся шкуркі собаляў, вавёрак... А нам навошта было пераймаць у расейцаў гэтае слоўца (магчыма, і фіна-ўгорскае...)? Дзіўна. Задачка для мовазнаўцаў.

***

Хто без граху, у таго першым кіну камень.

***

Людзям падабаецца баяцца. Для іх страх – апраўданне ўласнага бяздзеяння. Бо людзі любяць быць правымі – заўсёды і ва ўсім. І не любяць быць вінаватымі ў чымсьці. Асабліва ў тым жа бяздзеянні. У сітуацыі дыктатуры – страх для іх выратаванне. Бо лепшага апраўдання свайго бяздзеяння – бясконцага трывання – і прыдумаць нельга...

***

Нельга змяніць чалавецтва, але... можна змяніць сябе. А гэта азначае, што калі *кожны* зразумее тое і зменіцца ў лепшы бок, то зменіцца і чалавецтва. Здавалася б, усё проста. І ўсё магчыма. Але гэта толькі здаецца, на жаль. Насамрэч – гэта немагчыма. А таму – няма будучыні ў гэтага чалавецтва. І чым раней мы гэта зразумеем, тым раней пачнецца ўсё спачатку: з Адама і Евы... А каб гэтага не здарылася, каб мець шанец нешта змяніць – трэба ўсё ж пачаць з сябе.

***

Адукаванасць нельга блытаць з эрудыраванасцю. І ўсё разам – з інтэлігентнасцю. Апошняе не дае ні эрудыцыя, ні адукацыя. Але інтэлігентнасць, кажуць, можа быць і без эрудыцыі ды адукацыі. Праўда, я такога амаль не сустракаў, на жаль...

***

Алесь Адамовіч некалі сказаў, што адзінаццатай запаведдзю павінны стаць словы: “Не бойся!” Нельга не пагадзіцца з гэтым. І не ён першы заклікаў людзей не баяцца. А людзі – баяцца і не змяняюцца з гадамі. І цяжка паверыць, што зменяцца. Бо надта шмат над імі тых, хто ўнушае ім той страх за сябе, за сваіх родных, за будучыню... уласную, вядома. Падняцца над гэтым страхам простаму дробнаму чалавеку (зрэшты, не толькі такому, а любому) можна было б толькі тады, калі б ён пачаў баяцца не за сябе любімага, а за сваю краіну хоць бы. Але... на жаль... на жаль... на жаль...

***

У працяг папярэдняга запісу. Некалі я сам прыдумаў адзінаццатую запаведзь для пісьменнікаў: “Не павучай!” У сэнсе – у сваіх творах імкніся да таго, каб не скаціцца да павучання тых, хто чытае, як жыць. Гэтым грашыла савецкая літаратура. Бо там ідэалогія была на першым месцы. Прычым не толькі ў такіх творах, як “Как закалялась сталь”, а ва ўсіх. Амаль у кожным аўтары скочваліся да маралі і маралізатарства. Памятаю, як, прачытаўшы перад публікацыяй маё апавяданне “Ловы” ў часопісе “Маладосць”, адзін з рэдактараў павучаў мяне, што ў канцы аповеда, які я “абарваў на нядобрым учынку” маіх герояў, трэба абавязкова напісаць, што піянеры так не павінны рабіць... Я не паддаўся тады на гэтую навязлівую просьбу-пажаданне і нічога не змяніў. А колькі маладых, пачынаючых аўтараў паддалося дзеля таго, каб іх надрукавалі... А потым засвойвалі, “як трэба”, і пісалі так, як трэба... Не выбілі з многіх гэта і па сёння. А таму гэтая адзінаццатая запаведзь не страціла сваёй актуальнасці. Павучаць можа сам твор, а не пісьменнік канкрэтнымі словамі. Магчыма, гэтую выснову павінен зрабіць сам чытач, сам дайсці да таго, зыходзячы з уласна твора, а не маралі, як у байцы, выведзенай з яго і разжаванай напрыканцы пісьменнікам. (Ці не таму байка і памерла першай?)

***

Даўно сказана, што самая лепшая проза тая, якую хочацца перачытваць. І яшчэ: тая, пасля якой самому хочацца пісаць і стварыць нешта падобнае. А самая лепшая паэзія – тая, што запамінаецца з першага разу, наколькі б складанай яна ні была, што вывучваецца на памяць пасля першага ж прачытання, і якую... паўтарыць – немагчыма.

***

Спачатку Жан-Жак (не ўкраінскі каньяк, а...) Русо сказаў: “Чалавек па сваёй прыродзе добры”. І сказаў гэта ён у 1758 годзе. Потым Кант у 1792 годзе аспрэчыў яго: “Чалавек па сваёй прыродзе злы”. Абое паважаныя ў свеце людзі. Дык каму з іх верыць? Кант, магчыма, мог не ведаць словы Русо. Але Русо дакладна не ведаў адказ Канта, бо да таго часу памёр. А шкада. Было б цікава “паслухаць”, як яны спрачаюцца... Мне здаецца, што яны сышліся б на тым, што чалавек па сваёй прыродзе і добры, і злы, а папросту – розны.

***

“Расія – калос на гліняных нагах”. Мне падавалася гэтае выслоўе вельмі сучасным. Прынамсі, з XX стагоддзя. Аказваецца, словы гэтыя прыпісваюцца яшчэ Дзідро і сказана тое напрыканцы XVIII стагоддзя. У савецкі час нехта дадаў да іх толькі “...з ядзернымі ракетамі”. СССР ракеты не дапамаглі. Час ідзе, а Расія ўсё той жа калос...

***

У класічных мовах – грэцкай ды лацінскай, слова (панятак) “кахаць, каханне” перадаецца, як піша ў сваім даследаванні М. Эпштэйн, “полдюжиной разных слов”: *эрас,*

*філія, піетэс, агапэ, манія, людус...* А ў рускай усе гэтыя розныя паняцці-асаблівасці перадаюцца адным словам: “любовь”. І ён пачынае прыдумляць-прапаноўваць словы, якія, як і ў грэцкай мове, азначалі б розныя адценні кахання: *любля, любь, влюбь, нелюбь, любитва* і г.д. Беларусам прасцей, у нас ёсць хоць бы два словы – любіць і кахаць. А расейцам цесна ў сваёй мове... Але нічога. У іх затое ёсць тры-чатыры словы з так званай “ненарматыўнай лексікі”, з дапамогай якіх яны могуць выказаць практычна ўсё: думкі, пачуцці, дзеянні – толькі адпаведна змяняючы іх, скланяючы, ператвараючы ў новыя назоўнікі, дзеясловы, прыметнікі, лічэбнікі...

***

Калі ўсе геніі людзі ненармальныя, хворыя на нейкія псіхічныя хваробы, дык ці ёсць на свеце ўвогуле нармальныя людзі? Пра каго з вялікіх навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў, філосафаў... і г.д. не пачытаеш, усе былі людзьмі нездаровымі – шызафрэнікамі, аўтыстамі, вар’ятамі ці проста мелі нейкія фобіі ці маніі... карацей, мелі нейкія адхіленні ад псіхічнае нормы. Каго ні згадай, зазірні ў інтэрнэт і пачытай – Гогаль, Дастаеўскі, Ніцшэ, Кафка, Хемінгуэй, Далі, Напалеон, По, Урубель, Чайкоўскі... і так да бясконцасці – усе з “адхіленнямі”... У аднаго ўрача-псіхіятра неяк спыталі: а ці ёсць увогуле нармальныя людзі на планеце? Ён паказаў на шафу: вось нармальны чалавек...

***

Тое, што ў Беларусі (і Расіі) называюць нацыяналізмам, ва ўсім цывілізаваным свеце завецца патрыятызмам.

***

Чэхаўскую п’есу – назву яе – чытаюць па-расейску як “Вишнёвый сад”, хаця ў назве ніякога “ё” няма. Там “Вишневый сад”. І чытаць трэба як “В*і*шневы сад”, а не “Вішн*ё*вы...”. Націск на “і”, а не на “ё”, якога там няма, а ёсць “е”. Бо “вішн*ё*вым” можа быць сочыва – варэнне з вішняў, а сад – “в*і*шневы”, бо ад дрэва “вішня”, а не ад плоду гэтага дрэва.

*P.S.* Адкуль узялася ўрэшце літара “ё” ў назве п’есы? Думаю, у гэтай сітуацыі літаратура перамагла батаніку. Бо сапраўды “вішнёвы” гучыць сакавіцей, смачней, гусцей... і папросту прыгажэй. Сам Чэхаў, паводле ўспамінаў, спачатку казаў “вішневы”, але яму больш спадабалася “вішнёвы”. Увогуле ж мне падаецца, што тут праблема тая ж, што і з назвай рамана Льва Талстога (ці як у нас часам пішуць – Талстоя) “Вайна і мір”: у адсутнасці ў расейскім алфавіце адпаведнай літары і занадта пашыранай сінанімічнасці, бо ў беларускай мове ёсць адрозныя не толькі “любоў”-“каханне”, але і “мір”-“свет”, і, адпаведна, без падвойнага чытання – “вішнёвы” і “вішневы”...

***

Пасля сваёй смерці я абавязкова падам вам знак адтуль. Каб вы паверылі, нарэшце, што жыццё не сканчаецца тут, а працягваецца там, што ёсць тое, што мы называем раем і пеклам... І пекла чакае тых, хто тут служыць злу.

Беспакаранасці няма. Тое, што мы не ведаем пра гэта, – хітры ход (найразумнейшы!) Бога ці той Сілы, якую мы называем Богам, той вышэйшай Справядлівасці, якая ёсць дзеля таго, каб кожны раскрыўся *тут* і атрымаў *там* тое, чаго заслугоўвае: рай ці пекла...

Лявон Валасюк



...заўжды хочацца

лепшага...

# Выспачкі памяці

### *ПАХІ ЎСПАМІНАЎ*

*Бывае так, што нечакана адчуеш нейкі даўно знаёмы прыемны пах, прыпынішся, заціхнеш, прымружыш вочы і ўдыхаеш, удыхаеш той пах, і ўспамінаеш...*

*Нядаўна прыпыніўся ў сваёй творчай майстэрні, адчуўшы нешта знаёмае, шчымлівае. І пад лёгкім скразняком паплылі ўспаміны. Я прыпомніў свае васямнаццаць гадоў – час перад службаю ў войску. Інтэрнат педінстытута, чацвёрты паверх. Нас у пакоі чацвёра: дзве дзяўчыны, студэнт тэхнікума і я, прызыўнік.*

*Мы сядзім пасярод пакоя за сталом, п'ем дэсертнае балгарскае віно, якога цяпер ужо даўно і не бачыў. Гучаць любімыя мелодыі і песні з магнітафона, побач сядзіць каханая з сяброўкаю. Іхнія вочы поўныя касмічнай глыбіні і шчырасці. Яны блішчаць, свецяцца, а музыка гучыць, цячэ павольна нашая размова, і зусім не верыцца, што мы толькі нядаўна пазнаёміліся....*

*Але вось музыка заціхае, растварaецца ў памяці пакой. І знаёмы прыемны пах дзявочай парфумы расплываецца ў часе. І няма яе, ейнай сяброўкі і суседа з чацвёртага паверха, і няма мяне там, васямнаццацігадовага хлопца-прызыўніка. Але застаўся той стары цагляны будынак, перафарбаваны даўно з шэрага, сталінскага, у вясёлы жаўта-вата-вохрысты колер, ёсць той пакой, куды я прыходзіў, і ёсць успаміны, якія з'яўляюцца нечакана ад знаёмых пахаў вясны і маладосці...*

## ВОДАР РОДНАЙ МОВЫ

Мае сваякі жылі ў старой хаце з глінянаю падлогаю. Мне цікава было прыходзіць да іх, бавіць час з Міколкам і Надзейкай. Асабліва падабалася зімою, калі на дварэ быў моцны мароз, ад якога ў садах патрэсквалі дрэвы. А яшчэ мне прыемна было пабегаць па глінянай падлозе. За дзвярыма – снег, мароз, а ў маіх сваякоў у хаце – цёплая ўтаптаная зямля замест драўлянай падлогі.

Пасля абеду Міколка, старэйшы за мяне на два гады, вучыў урокі ля кухоннага стала перад акном. Часам яму дакучалі мухі, малодшая сястра Надзейка і я – ягоны сябра. Хаця я часцяком чакаў яго, як кот – рыбу, каб потым разам пазабаўляцца. Але Міколка не зважаў на нас, а старанна чытаў практыкаванні, родную літаратуру ўголас:

– М – а – м – а... Ма – ма... м – ы – л – а... мы – ла... р – а – м – у... мама мыла раму... – упарта гучаў голас майго сябра.

Калі сястра вельмі дакучала Міколку, ён рабіў капрызна-злосны выгляд і крычаў:

– Одчэпышся ты од мынэ чы не! Пабачыш, пийду да бабы Дымынысі і раскажу, як ты мыні завараеш учыты ўрокы на заўтра! Вона тобі надае кычкамы по спыні!..

Надзейка на хвіліну заціхала, схаваўшыся пад ложак за печчу, каб потым зноў нешта вычварыць ля брата...

Міколка працягваў чытаць, чытаць са смакам, хаця і па складах. Але як гучала літаратурная мова ў яго выкананні! Дагэтуль не магу забыць тое гучанне і ніколі ўжо не забуду выразу яго сур'ёзных вачэй у той момант...

Часам цяпер, слухаючы па радыё ці чытаючы нешта такое, што напамінае дзіцячыя гады, я ўспамінаю гучанне роднай мовы. Мовы меладычнай, сакавітай, незабыўнай...

## КАЦЯНЯ

У дзяцінстве часта хадзіў з вудаю на вадаёмы, якіх шмат было вакол нашай вёскі. З сябрамі-аднагодкамі лавілі там карасёў і акунёў, уюноў і шчупакоў (часам і яны трапляліся!). Акрамя вуды, лавілі рыбу і плеценымі лазовымі кошыкамі, і невялікімі кломнямі.

У кожнай вёсцы няма хаты без ката ці коткі. Такое жыццё. У майго дзеда з бабуляю таксама заўсёды жылі кот ці котка. Без іх, напэўна, як без каровы, без парсючка...

Я прывучыў дзедавых катоў да свежай рыбы. Здалёк пабачыўшы мяне, яны спяшаліся насустрач, мяўкаючы і віляючы хвастамі. Калі я падыходзіў, то церліся даверліва галавою аб мае ногі, выказваючы радасць ад нечаканай сустрэчы. Акрамя малака і смятаны, што можа быць смачней за рыбу!..

У той час у старых жылі два каты. У кожнага – свой характар, свае паводзіны. Адзін – рыжы – дзікаваты, а другі – шэры – наадварот, любіў церціся каля ног людзей, нават чужых.

Калі я прыязджаў у вёску і бачыў іх, то часам прыпамінаў, як пяцігадовым хлопчыкам нёс з роднай хаты разам з маці кацяня з зялёнымі вачыма дзеду Івану і бабулі Ефрасінні. Кацяня было ад нашай шэрай, у палоску, коткі, якая мне тады здавалася вельмі вялікай і разумнай.

Са старэйшым братам мы пераехалі ў горад да бацькоў, а наша котка засталася жыць у суседа дзядзькі Сашкі. Потым, ужо прыязджаючы ў родную вёску, я хадзіў паглядзець на яе. Але яна перастала мяне пазнаваць, а можа, не хацела, таму што пакінулі яе адну. Адвыкла котка ад нас, здзічэла. Але родных мясцін, старой сядзібы не пакідала. Жыла яна доўга, можна сказаць, да глыбокай старасці.

...Прынёс я кацяня дзеду з бабуляй, баючыся ўсю дарогу выпусціць яго з рук. Сустрэлі нас ветліва і з удзячнасцю за падарунак. Дзеду з бабуляю было тады больш

за шэсцьдзесят гадоў кожнаму, а радаваліся яны кацяняці як малыя дзеці. Бабуля – больш расчулена, а дзед – па-мужчынску, стрымана, адно вочы свяціліся радасцю.

– Ну, то заходзьце, – сказала бабуля, сустракаючы нас у двары ля парога, – заходзьце ў хату, разам і павячэраем.

А сама ў хату не спяшалася, усё гладзіла кацяня... Было гэта летам, толькі прыгналі кароў з пашы. Я следам за маці зайшоў у вялікі пакой, прысеў ля печы на маленькую калодачку і выпусціў з рук кацяня. Яно пачало мяўкаць, пабегла за грубку. Бабуля паклікала яго, і яно раптам вярнулася адтуль і даверліва прытулілася да яе ног...

– Дык гэта табе за кацяня! – бабуля нахілілася да мяне з незнаёмай паперкай у руцэ. – Даю табе рубель, каб кацяня тваё расло прыгожым і паслухмяным.

– Бяры, бяры, – весела ўсміхнулася маці.

Я ўзяў рубель, акінуў вачыма ўсіх родзічаў, якія пазіралі ў мой бок, і паклаў у кішэньку. Раней мне перападалі медзякі, рубель да 1961 года падаўся мне вялікай паперкай і таму, напэўна, надоўга адклаўся ў памяці. Як і ўвесь той летні вечар з дзедам і бабуляю, з маці і даверлівым, пяшчотным кацяняткам.

## ЗЯМЛЯНКІ

Дзяцінства наша агучана рэхам Вялікай Айчыннай вайны. І цацкі былі з ваенных палёў, і гульні адпавядалі тым цацкам... Гільзы розных калібраў і краін, снарадаў, патроны, кулямётныя стужкі і шмат чаго іншага.

У драўляных хатах як ваенны пыл і аскепкі засталіся парожнія драўляныя скрынкі ад снарадаў і мін, плямістая тканіна для маскіроўкі, кацялкі. Біклажкі, шыцікі з алюмініевымі бляхамі “Гот міт унс”, доўгія нямецкія штыхі-нажы...

Вайна працягвала існаваць і для тых людзей, каго яна не зачапіла, не кранула. Ёю былі па-рознаму абпалены ўсе вяскоўцы. У кожнай сям’і нехта ваяваў на фронце ці ў партызанах, быў у турме або канцлагеры, трапляў пад кулі. Радня кожнага народжанага пасля вайны была нейкім чынам звязана з ёю. Вайна так проста нікога не адпускала. У мірны час цішыню раптам скаланаў выбух міны ці снарада. Хлопцы траплялі ў бяду з прычыны свайго свавольства, цікавасці да “цацак” мінулай вайны.

Партызанскія зямлянкі чамусьці былі ў нас асаблівым захапленнем. Капалі зямлю, клалі дошкі, жэрдкі над ямінаю ў блізкім ляску за вёскаю. У баку ад балота выкапалі са старэйшымі хлопцамі вялікую і глыбокую зямлянку. У ёй нават ад дажджу можна было схавацца. Уваход, спуск уніз быў з прыступак. Вялікае “памяшканне”, нішы для скрынак з гільзамі і з абоймамі патронаў – усё гэта напамінала сапраўдную партызанскую зямлянку. Там збіраліся нават тады, калі надыходзіла навальніца. Было прыемна, што дах не цячэ, толькі з боку прыступак крыху зацякала ў “памяшканне” вада.

Капалі зямлянкі і ў кустоўі ля калгаснага саду. Карчы былі густыя. Мы, малыя, прабіраліся скрозь іхняе спляценне з рыдлёўкамі, дошкамі і капалі нашы славутыя зямлянкі. Не адчувалі стомы, не заўважалі часу. І не было мяжы нашай радасці, калі доўгачаканая зямлянка даводзілася да ладу – мы па чарзе залазілі ў сярэдзіну.

Шмат гадоў пасля, калі хадзіў у грыбы ў лясок Хваіна, я часам натрапляў на нашы дзіцячыя абваленыя зямлянкі. Стаяў і пазіраў на іх, згадваў забавы зусім не бясхмарнага дзяцінства. Гэта была памяць, зарослая травою, імхом. Гэта было рэха мінулай вайны, якая не зачапіла нас сваім вогненным крылом.

## КАЛГАСНЫ БРЫГАДЗІР

Летні ранак. За дарогай у полі з вышыні чуцён звонкі голас жаўрука. Дзень абяцае быць ясным і цёплым. Маці капаецца на градах у гародчыку, пакуль спрыяе надвор’е: няма спякоты.

Мне не спіцца ранкам. Я знайшоў сабе забаву каля поплава, што ўпіраецца ў невялікі раўчук пад вербамі. З кароткіх паленчын нешта майструю. Так паволі цячэ дзіцячы час...

На чорным вараным кані наблізіўся да нашага плота мужчына. Змрочны, злосны... Брыгадзір дзядзька Іван, як я спакваля разглядзеў.

– Ты што там капаешся, як квактуха ў пяску! – закрычаў ён раптам да маці на ўвесь свой пракураны голас. – А ну хутчэй збірайся на працу! – крычаў і гарцаваў на кані перад гародчыкам.

Маці ад нечаканага крыку ўздрыгнула, падняла галаву ад градкі і нешта адказала распаранаму брыгадзіру. Ад яе слоў дзядзька Іван, як мне падалося, увесь пабялеў і пачаў так “паліваць” маці брыдкімі словамі, што тая не вытрымала і, схапіўшы нейкі дубец, выскачыла з градаў да плота, за якім разрываўся ад мацюкоў брыгадзір.

– Як табе не сорамна так ганіцца, дзіця малое побач! Пасаромеўся б хаця яго! Не перастанеш, то агрэю чым пападзе разам з тваім канём! – выкрыквала ў гневе маці і махнула прутам у бок брыгадзіра.

Конь захрыпеў і стаў на дыбкі. Брыгадзір ледзь утрымаўся на спіне каня і пачаў кіраваць яго на маці. Але яна не разгубілася, не спалохалася, працягвала сароміць дзядзьку Івана за лаянку:

– Ты што, па-людску ўжо не можаш размаўляць?! Каб вы пагарэлі са сваёю працаю і працаднямі разам з калгасам!..

То быў пачатак шасцідзясятых гадоў XX стагоддзя, калі калгасы на землях заходнікаў толькі-толькі набіралі сваю моц. Яшчэ не так даўно мінулі ліхія ваенныя гады. Прыйшлі *другія Саветы*, як казалі, і ў Заходняй Беларусі пачалося будаўніцтва калгасаў. За першымі Саветамі, да вайны, калгасамі ўлада не паспела заняцца.

Цяпер занялася... Так дзядзька Іван выганяў маю маці на працу ў калгас, на палявыя работы...

Усё тады мела бедны, прыгнечаны выгляд. У першую чаргу – людзі...

## ПАТЭФОН

У нашай новай хаце на стале ля вакна стаяла невялікая чорная скрыня, адбіваючы сонца бляскам сваёй пафарбаванай скуры. Была яна падобная на чорны чамадан – з пахам свежай фарбы, з рознымі бляшанкамі і прыладамі.

Каля патэфона мясціліся дзве кардонныя каробкі пласцінак у розных канвертах з малюнкамі і надпісамі. Мы з братам часам адчынялі гэты чорны патэфон, заводзілі яго металічным прыстасаваннем – маленькай колбачкай, ставілі пласцінку на чырвоны дыск з сукна, потым апускалі галоўку з іголкаю. І пачыналася канцэртная праграма. Мы слухалі спевакоў і спявачак, мянялі пласцінкі, пакуль тое не надакучвала. Нам не ўсё падабалася, што адкуль гучала. Нейкая чорная пласцінка мяне палохала. Ад яе ажно халодныя мурашы беглі па целе.

Пачуўшы грубы і трывожны голас таго выканаўцы, я хаваўся пад ложак ці лез на печ і накрываўся якой-небудзь вопраткай. Так той чужы голас не падабаўся мне, што мае родныя заўсёды з мяне смяяліся і жартавалі. “Арыя цара...” – чыталі яны на пласцінцы, і з таго было яшчэ страшней...

Да нас часта прыходзілі стрыечная сястра Волька з сяброўкамі паслухаць пласцінкі. Яны – дарослыя дзяўчаты – любілі павесяліцца, падражніць мяне. І калі дома не было маці, дык ставілі маю “любімую” пласцінку з жудасным голасам і чакалі, калі я пабягу хавацца ад яго.

Так працягвалася доўгі час, пакуль я не дадумаўся да таго, каб пазбавіцца ад той ненавіснай пласцінкі. Я разбіў яе на маленькія кавалачкі і раскідаў па балоце, колькі хапала моцы ў руках. А балота было вялікае, і месца там хапіла для аскепкаў чужога голасу.

Патэфон з цягам часу мы перавезлі ў горад, калі ўсёй сям'ёй пераязджалі на сталае месца жыхарства. Куды ён падзеўся потым – не памятаю. Ужо гучала радыё, старэйшаму брату бацькі купілі радыёпрыёмнік з прайгравальнікам.

## КРЫЖЫ

За нашым домам праз дарогу на невялікім трызубцы поплава стаяў вялікі драўляны крыж – старадаўні абярэг нашай вёскі. Ён узвышаўся над зямлёю сваёю самотнаю веліччу, маўкліва пазіраючы ва ўсе бакі, нібы вялікая птушка ў сваім гняздзе. Непадалёк раслі маладыя ліпы, якія з шумам зелянелі ўлетку. Крыж наўкол быў заўсёды абкопаны, каб сухая трава, калі раптам загарыцца, не апаліла яго бакі.

Я з суседскай дзяўчынкаю Анькай амаль кожны дзень бываў ля крыжа: тут было наша любімае месца для гульняў. Яно падабалася нам і ўлетку, і снежнаю зімою, бо знаходзілася побач з нашым жыллём. Аднойчы раніцай крыжа не стала. На пачатку шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя атэісты-няверцы спілоўвалі крыжы, зачынялі цэрквы... Вось і наш крыж трапіў пад пілу ці сякеру. Вяскоўцы шмат гаварылі пра тое здарэнне, лаяліся на нядобрых людзей, што займаліся грахоўнаю справаю, старыя жанчыны праклінaлі іх...

Аднаго такога чалавека я ведаў: Аляксандр (жанаты ўжо быў) жыў у недалёкай вёсцы. Яны сумесна з некалькімі мужчынамі ездзілі па наваколлі і пілавалі крыжы ля вёсак. Рабілі яны тую чорную справу начамі, калі ўсе адпачывалі і ніхто не бачыў іх. Але людзі ўсё роўна даведваліся.

Крыжы, канечне, потым зноў з'яўляліся на сваіх месцах, бо людзі не маглі застацца простымі назіральнікамі святатацтва. Так і каля нашых дамоў зноў устаў высокі драўляны крыж, але ён ужо быў жоўта-смалісты, свежы, з кропелькамі смалы, падобнай да ліпавага мёду.

А той дзядзька Аляксандр у хуткім часе захварэў, страціў магчымасць хадзіць, пакуль не памёр, пакінуўшы жонку-ўдаву і двух дзетак-сіротак. Такая вось сумная гісторыя, якая ў жыцці не-не і здараецца, калі людзі забываюць пра ўсё святое на зямлі... Так гаварыла мая бабуля Ефрасіння, якая кожнай раніцай і ўвечары перад сном чытала ля печы малітвы, седзячы на зэдліку.

Але час таго атэістычнага ліхалецця, на шчасце, мінуў, хаця вечныя праблемы і засталіся...

## ВЫБАРЫ

Ужо не памятаю, якія былі гэтыя выбары і за каго аддавалі свае галасы аднавяскоўцы... Тою зімою мы з братам жылі ўжо ў дзеда з бабуляю. Стаяла суровая марозная пара. Намяло сумётаў, глыбокага снегу. За вокнамі дзедавай хаты – траскучы мароз...

Мой бацька з суседам дзядзькам Міколам (а была нядзеля) ездзілі на санях у сяло Тэўлі галасаваць за нейкага дэпутата. Слова "выбары" было для мяне новым, нязвыклым. Але тое, што гэта было свята, добра адчувалася з настрою бацькі і суседа Міколы, усіх людзей.

Вярнуліся мужчыны з выбараў чырванашчокія, узбуджаныя... Я зразумеў: выбары адбыліся, прыйшліся ім даспадобы. Яны шмат гаманілі, размахвалі рукамі. Словам, пабывалі на свяце...

Яшчэ запомнілася, што бацька прывёз смачных цукерак. Акрамя іх – пачак нечага цвёрдага і салодкага, падобнага на сухія грушы. Той падарунак я доўга грыз, нібы мыш, пакуль не з'еў...

Такі вось успамін. Як імгненне, як палёт зоркі ў начным марозным небе. Але – яркі.

Быццам толькі што дыхаў тым святочным марозным паветрам, грыз смачны

цвёрды ласунак, а дзядзька Мікола пазіраў на мяне вясёлымі вачыма, усміхаўся і падміргваў мне, бы нявесце якой...

## СВЯТА КІНО

Уздоўж вясковай вуліцы на трох электрычных слупах “кіншчык” Лёня Сарока, малады чарнявы хлопец, весялун і жартаўнік, развешваў ружовыя, з тонкай паперы, афішы, напісаныя фіялетавымі чарніламі.

Такія дні, калі ў суседняй вёсцы Глінянкі ў старым драўляным клубе паказвалі кінафільмы, адбіваліся ў памяці надоўга. Моладзь апранала чыстыя кашулі, сукенкі і вечарамі, калі ўжо сонца хавалася за балотам, ішла ў клуб. Мы, малодшыя, крочылі за старэйшымі.

У памяшканні бібліятэкі на сцяну вешалі белы экран, зроблены з белых прасцінаў (пазней з’явіўся экран фабрычны). Людзі размяшчаліся на лаўках ды зэдліках. Пачыналася вельмі цікавае дзейства. Адно – на экране, другое – перад экранам, сярод гледачоў.

На нязменным месцы каля грубкі, што стаяла бліжэй да дзвярэй, заўсёды сядзеў калгасны пастух Грышка Карольчык. Ён быў крыху дзіваком... І з ім заўсёды здараліся розныя гісторыі: то раптам зэдлік некуды знікне, калі толькі Грышка прыўстане, то зашмальцаваная да бляску кепка апынецца на грубцы... Хлапчукі кожны раз з яго насміхаліся.

Якія толькі кінастужкі не праходзілі перад маімі вачыма! Канец шасцідзясятых – пачатак сямідзясятых гадоў – асаблівы каларыт савецкай эпохі. Калгаснае жыццё, дзіцячыя гады, індыйскія фільмы...

Было цёмна-цёмна, калі выходзілі з памяшкання клуба. Да сваёй вёскі – не больш за кіламетр, а дарога здавалася ў пяць разоў даўжэйшаю.

Вярталіся адным гуртам, адной сям’ёю – і моладзь, і дзеці. Першыя зоркі цёплых летніх начэй. Гумар, смех, жарты. У вушах яшчэ гучыць музыка песні з прагледжанага фільма. Асабліва запомнілася музыка і песня са стужкі “Шлях да прычалу”: “Калі радасць на ўсіх адна, на ўсіх і бяда адна...” Так часцяком бывала летам...

А ў пэўныя дні мы ўжо чакалі, калі на слупах “кіншчык” будзе прыбіваць тонкімі цвікамі кінаафішы з ружовай паперы, што пахла свежым фіялетавым чарнілам.

Сумна бывала, калі з-за нейкага здарэння раптам адмяняўся сеанс. Свята кіно адмянялася. І дваццаць капеек на фільм заставаліся ляжаць у кішэні штаноў да наступнага разу...

## ПЯТНАЦЦАЦЬ КАПЕЕК

У дзесяць гадоў я вучыўся ў трэцім класе. У той час наша сям’я трымалася толькі з бацькоўскай іголкі. Маці ўладкавацца куды-небудзь на работу не ўдавалася. Час быў нялёгкі для бацькоў. У дадатак яны дабудоўвалі наш дом у горадзе. Часам да бацькоўскай зарплаты сям’я заставалася без аніводнай капейкі. Не было за што купіць і бохан хлеба... Па-дзіцячы тады наша становішча ўспрымалася неяк проста, без розных капрызаў, ныцця, скаргаў. Мы былі ўдзячныя за кавалачак цукру ці белага пшанічнага хлеба.

Маці знаходзілася заўсёды пры доме. Уся гаспадарка ляжала на яе плячах. Амаль кожны дзень прыходзіла да нас бабуля Фядора, якая жыла непадалёк у свайго старэйшага сына Паўля, які даводзіўся мне з братам дзядзькам па маці. Бабуля Фядора заўсёды ўсміхалася. З унукамі паводзіла сябе ласкава, ды строга. Яна заўсёды прыносіла нам гасцінцы. Але мне больш за ўсё запомнілася, як бабуля даставала з кішэнькі то дваццаць, то пятнаццаць капеек і давала нашай маці на хлеб, які каштаваў тады чатырнаццаць ці васямнаццаць капеек за бохан.

Бабуля Фядора тыя грошы эканоміла ў сынавай сям'і. Сваіх грошай у яе не было, бо пенсіі яна не атрымлівала, а для працы была ўжо не таго ўзросту і здароўя. Ды і ўладкавацца на працу было вельмі складана ў той час. Так моцна адбіліся ў памяці хвіліны, калі бабуля Фядора прыходзіла да нас. На яе прынесеныя пятнаццаць-дваццаць капеек маці купляла хлеб да нашай (з салёнымі агуркамі) бульбы на снеданне, вячэру...

Зараз, калі бачыш недзе выкінутыя кавалкі ці боханы счарсцвелага хлеба, цяжка паверыць, што ў людзей было нялёгкае жыццё... Зрэшты, няпросты час зноў вяртаецца да людзей у крыху іншым увасабленні.

...Летнім надвячоркам, калі я бавіўся на падворку, а маці ў гародчыку палола пырнік з лебядою ля плота, прыйшла бабуля Фядора, запыталася:

– Ну што, Вера, як дзеці? Як жывеш? Два дні ў вас не была, засумавала...

– А што новага! Мы ўжо пачалі хваляваццa. Даўно вас не бачылі! – адказала маці. Выпрастала спіну, павярнулася да старой і ветліва ўсміхнулася: – Во, ваюю з зеллем. І як жа хутка яно вырасла! Бы на дражджах расце...

– Так, – уздыхае бабуля і нешта дастае з кішэнькі фартуха. – Вазьмі рубель, Вера, купіш хлопцам ласунак. Не ведаю, як ён тут і заблудзіўся! – хітравата падміргвае, працягвае грошы.

Яны стаяць, маці з дачкой, размаўляюць, а я бягу ў завулак. Мяне кліча голасна сусед – як і я, падшыванец.

...Вечар наплывае, як сон. І я бягу ў яго, захлынаюся пахам летняй зеляніны, пылу з дарогі... І свежага хлеба...

## ПАЧУЦЦЁ РАДЗІМЫ

Прыпомніліся белыя бярозы, што раслі за нашай аднапавярховай драўлянай казармай у Будапешце, дзе я пражыў у час службы ў войску два гады.

Там стаялі нашыя бярозы, ля якіх мы летам загаралі ў асабісты час у выхадныя дні, якіх было ўжо і не так шмат. Часам у спрыяльны час фатаграфаваліся там, нібыта сустракаліся са сваёй малой радзімай: кожны з хлопцаў са сваёй бярозай дзяцінства...

Там, за мяжою, пачуццё радзімы асабліва востра адчуваецца кожнаю клетачкай цела, кожным нервам.

А яшчэ ў ваенным гарадку, дзе праходзіла непасрэдна мая служба пры штабе, насупраць вакон "чарцёжкі" раслі прыгожым стройным радком маладыя елкі, а сумавалі побач з імі белыя бярозы. Яны кожны дзень службы глядзелі ў нашыя вокны так жа, як мы з вакон глядзелі на іх.

## НА ВЕРАНДЗЕ СТАРОГА ДОМА

Незвычайна свяціліся каляровыя шыбіны ў верандзе старога дома, ля якога я апынуўся нечакана, заблудзіўшыся ў малазнаёмым раёне горада.

У святле, што прабівалася з веранды, раптам зацвіў вясновы сад. Чырвона-жоўтымі агеньчыкамі гарэлі ружы, гладыёлусы, макі... Фіялетавыя, блакітныя, сінія званочкі быццам вызвоньвалі вячэрнія каляровыя мелодыі... Белыя рамонкі, як пах нечаканага снегу, адбівалі чысцінёю, запрашалі на свята...

Я глядзеў, зачараваны відовішчам... Каляровае багацце, букет незвычайных плямаў паланіў мяне, захапіў... У думках я маляваў гэты агромністы букет кветак на вялікім палатне.

Колер уражвае не толькі мастака. Кожны асобны колер, яго адценні маюць свой непаўторны пах, настрой. І напатканае багацце ўзвышала памкненні душы,

хвалявала ўсе клетачкі цела ў цемры восеньскай ночы так, што, здавалася, гэты райскі сад раптам апынуўся за суседнім плотам, рос і квітнеў у святле звычайнай электрычнай лямпачкі на верандзе старога драўлянага дома...

## ВЕЧАРОВЫ НАСТРОЙ

Неяк вечарам паехаў у вёску да дзеда з бабуляю. За спінаю застаўся душны вагон у дызель-цягніку. Іду па гравійцы да вёскі ад чыгуначнай станцыі. Мяне абагналі двое хлопцаў, што ішлі лёгка, без сумак. Ну а мне з цяжкаю чорнаю сумкаю ў руцэ было складаней рухацца хутка. Ды і не вельмі я і спяшаўся: лавіў свежае роднае паветра, любаваўся роднымі мясцінамі.

Наперадзе ўбачыў ля дарогі маленькае шэрае зайчаня з белым хвосцікам. Пры набліжэнні хлопцаў яно мацней уціснула ў сябе вушы, шчыльней прыціснулася да зямлі і прапусціла міма тых хлопцаў, не выдаючы сваёй прысутнасці. А пры маім набліжэнні зайчаня ўскочыла і пабегла з дарогі ў жыта (пэўна, дало мне магчымасць тады паназіраць за ім!).

І вось сяджу ў хаце за сталом з дзедам і бабуляю. Працуе тэлевізар. Ідзе заключны дзень 19 партыйнай канферэнцыі ў Маскве. Дзеду цікава слухаць, а бабулі больш падабаецца, калі паказваюць народныя калектывы мастацкай самадзейнасці, якія выконваюць песні, граюць на гармоніках, баянах і акардэонах...

Непрыкметна ляціць час. Выходзім з дзедам на падворак, сядаем на лаву пры сцяне хаты. Дзед закурвае. Пацiху надыходзіць ноч. А паветра ў вечаровай цішыні празрыстае, як шклянка. І настрой такі, што хочацца абняць усю Зямлю, увесь навакольны свет...

## РАНІШНІ ПАРАВОЗ

Прыпомнілася, як раней, калі ездзіў да дзеда з бабуляю на цягніку з паравозам, даводзілася неаднойчы ад'язджаць ранкам а шостай.

Уставаў а чацвёртай гадзіне раніцы, звычайна будзіла бабуля. Яна ў гэты час ужо не спала. Асабліва летам, калі гаспадыні рана пачынаюць даіць кароў і выганяць іх на пашу.

Бабуля будзіла звычайна без чвэрці чатыры, нібыта даючы некаторы час на тое, каб яшчэ крышачку пагрэцца ў пасцелі. Уставаць, канечне, не хацелася. Самы салодкі сон прыходзіўся на ранішні час.

Крыху ўмыўшыся, апрануўшыся, нешта з'ядаў, потым выходзіў на падворак, дзе было яшчэ цёмна. І ў тую цемру я і шпацыраваў па дарозе да станцыі...

Праходзіў родную вёску, поле, лясок, зноў поле, пакуль не дайшоў да вёскі, за якой адразу была чыгунка. Да гэтага часу ўжо пачынала віднець. І адразу станавілася весялей.

Прачыналіся птушкі, людзі. Пачынаўся ранак новага дня. За вёскаю ішоў яшчэ два кіламетры ўздоўж чыгуначнага палатна, пакуль наперадзе не вымалёўваўся стары будынак станцыі з высокімі таполямі.

На будынку станцыі вісеў вялікі латунны звон, у які ўжо пры мне ніхто не біў, не званіў. Толькі мы, хлапчукі, маглі калі-нікалі ляпнуць даланёю па ім альбо пастукаць пальцамі ці палкай.

Амаль паўгадзіны прасядзеў яшчэ на станцыі, пакуль не пачуўся працяжны гудок паравоза. Цягнік бадзёра кожны раз падыходзіў да прыпынку, густа дыміў комінам, абдаваў параю...

Так і застаўся ў памяці пах дыму, пары, гарэлага вугалю і пах чыгуначнага палатна...

## ГОРАЧКА-ВЫСПАЧКА ПАМЯЦІ

Сніцца вёсачка, за ёю поле, кустоўе, пясчаная выспачка, якая ў маленстве падавалася мне вельмі высокай. А калі каласілася жыта альбо глядзела мяцёлкамі ў неба кукуруза, дык тады ўвогуле не было слоў...

Зімою з той высокай горачкі-выспачкі спускаліся на санках, лыжах, летам бавіліся ў пяску. Капалі яміны нібы лісіныя норы. Часам знаходзілі там стрэляныя зеленаватыя вінтовачныя гільзы. Гэта былі цікавыя і каштоўныя для нас знаходкі, з якімі можна было бавіць час. Знаходзілі на горачцы і асколкі снарадаў. У тыя часы часта можна было сустракаць іх на полі, але пазней заставалася іх там усё менш і менш. Але зусім яны адтуль, канечне, не зніклі: вайна пакінула свае сляды назаўжды...

Мне ўспомнілася тая горачка-выспачка, прысніўшыся неяк уначы зрэзанай, прыгладжанай калгаснай тэхнікай. І мне шкада стала яе і сябе разам з ёю: нібыта па мне прайшла тая тэхніка, спрабуючы зрэзаць з памяці маленства і дзяцінства...

Захопліваючы ўсё новыя часткі зямлі пад пасевы розных культур, калгаснае кіраўніцтва абядняе краявід, забіраючы ў людзей маленькія прыгажосці наваколля, страчваючы гістарычную памяць пра мінулае...

Таму, пэўна, і сніцца часам з маленства-дзяцінства мілы сэрцу кавалачак родных мясцін, дзе ў маленстве-дзяцінстве бавіў час са сваімі суседзямі-сябрукамі і сяброўкамі...

## АДЧУВАННЕ ПЕРАМЕН

Дні так хутка праходзяць, што нават не верыцца ў тое, як яшчэ нядаўна было першае снежня...

Але ж хутка праляцеў час і – два тыдні апошняга месяца зімы.

На пачатку месяца выпаў снег. І ён стаў пачаткам адліку сапраўднай зімы, адліку па снегу, да якога за апошнія часы мы ўжо дастаткова прывыклі.

Снег выпаў дружна і залёг, нібы мядзведзь у сваёй бярлозе, надоўга. Снег таптаді, перакідвалі з аднаго месца на другое, але ж ад гэтага менш яго не станавілася...

І таму снег зараз як неад’емная частка нашага жыцця. Ён белы ў навакольных краявідах і сваім станам уносіць бадзёрасць у нашае жыццё. Так бывае яшчэ летам, калі навальніца з дажджом прысутнічае з намі як неад’емнае.

У людской мітусні, у іншых праявах гарадскога жыцця адчуваецца прыбліжэнне новага года. І гэта – як подых часу, як чаканне нечага незвычайнага, новага, невядомага, нябачнага раней...

Хочацца, каб новы год стаў лепшым за адыходзячы. Заўжды хочацца лепшага.

## ПЕСНЯ ЖАЎРУКА

Па тэлевізары пачуў песню жаўрука. І чамусьці адразу прыпомнілася маленства. Ваколіца вёскі, дом, дзе нарадзіўся. І як за дарогай у ямінах, зарослых кустоўем, дзе ў маленстве гулялі, мы выкурвалі дзікіх пчол дымам.

Вось так і запомніўся назаўжды пах дзікага мёду і дыму, настоенага пахамі траў і кветак.

Здаецца, і зараз яшчэ сцелецца там белы дым у кустоўі з пчоламі, як ранішні туман. Толькі ўсё ўжо не так. Выкарчавалі кустоўе, зраўнялі бульдозерам месца нашых дзіцячых гульняў за вёскай. Добра яшчэ, што пасадзілі там сосны і бярозы. Радуе вока людзей новая прыгажосць за вёскай, у якой і людзей амаль не засталося...

## НАДЫХОД ЛЕТА

*1.*

Апошні дзень каляндарнай вясны, а здаецца, што даўно ўжо надышло лета. Адквітнелі сады, з'явілася завязь на пладовых дрэвах і кустах, квітнеюць жоўтым памідоры, зелянее шрот ягад вішні...

Лета. Яно непрыкметна ўступае ў наш горад, падрыхтаваўшы плацдарм шумнымі дажджамі-ліўнямі, што прайшлі мінулымі днямі.

У адзін момант у нейкім паўсне, у вольнай думцы, падалося, пачулася нешта прыемнае ад адчування ціхай зеляніны садоў, высокага блакітнага неба з белымі воблакамі. Пэўна, гэта прадчуванне надыходу доўгачаканага лета. І, нібыта ў сне, захацелася раптам кахаць, працаваць, жыць напоўніцу і лёгка, нібы тое воблака, што плыве над родным горадам, над маім домам.

Вось і лета!.. Заўтра першы дзень. Чыё лета будзе ў маім лёсе, у маёй працы, у маіх снах?!.

*2.*

Лета пачалося дажджамі. Кожны дзень ці то дробны, ці то залева.

З даху вада ліецца нібы з вядра.

Шчодра палітая зямля пад промнямі цёплага сонца спаўна корміць траву, якая вырасла па пояс.

Радуе вока мора зеляніны, якая так мякка і ненавязліва стварае ўтульнасць у прыродзе, стварае нам, людзям, прахалоду ў спякоту, радуе кожнае імгненне жыцця.

Добра ўсё ж такі, калі праходзяць дажджы. Прыбіваюць пыл на дарогах і ў дварах, збіваюць пыл з зеляніны.

Калі ідуць дажджы, прыемна пасядзець ля вакна ў цёплым пакоі, паглядзець, як цурчыць вада па шкле, памарыць... Дождж стварае нязвыклы настрой, будзіць новыя пачуцці.

Ідзе дождж, шуміць зеляніна лета. І мы ў гэтым леце чакаем зыркага сонца, чыстага блакітнага неба, добрага стану прыроды і душы.

Генрых Далідовіч



...бруіцца народная крынічка, цячэ ручайком, толькі трэба мець жаданне нахіліцца да яе лекавай вады, зачарпнуць яе і ёю асвяжыцца...

# Вылучаны і адлучаны...

## *Штрыхі да грамадзянскай біяграфіі творцы і дзяржаўнага дзеяча ў эпоху савецкай улады і пачатковага постсаветызму*

Генадзь Бураўкін з тых, каго таксама змалку аблашчыў адмысловы нябесны промень, ажывіў ягоную здольнасць да Яе Вялікасці Паэзіі і тым самым яшчэ ў школьным узросце вывеў на нялёгкі грамадзянскі і творчы шлях. І яму прыйшлося прайсці выпрабаванне многіх ва ўсе помныя гістарычныя эпохі, хто трымаў экзамен на такія важныя годнасці, як грамадзянін і паэт, чыноўнік немалога рангу.

Як вядома, для росту ўсяго жывога вельмі неабходныя як спрыяльныя нябесныя, так і па-свойму натхняльныя зямныя ўмовы. Нябеснасць для творцы – яго надзеленасць прыродным дарам для развіцця, праявы розуму і душы ў адпаведным накірунку, ранняе ўсведамленне прыроды, рэчаіснасці з яе разнастайнасцю, свайго “я” і агульнага “мы”. Зямное – у розных жыццёвых стасунках. Пачатковае – з першых крокаў у сям’і. Адно – у яе спакойным дабрабыце, штодзённай гармоніі, іншае – у гораснай нястачы, розным побытавым пакутлівым бедламе. А яшчэ ў набыцці

новых уражанняў у працэсе школьнага навучання і выхавання, у існай грамадскай атмасферы. А то і не зусім, чаму, як кажуць, у зусім простым асяроддзі заяўляецца выдатны спявак, музыка, мастак, архітэктар, матэматык, вынаходнік, паэт.



*Генадзь БУРАЎКІН віншуе Генрыха ДАЛІДОВІЧА з 50-годдзем. Музей Якуба Коласа. Мінск, 1996.*

Гэтыя і іншыя акалічнасці для Бураўкіна-паэта ў многім характэрныя і для ўсяго ягонага пакалення. Найперш таму, што іхняе маленства, як пазней многія з яго падкрэсляць, "апаліла" вялікая і зацяжная ліхасць. Вайна, акупацыя. Гэтыя напасці, злыбедзь пазбавілі многага натуральнага, радаснага з дзяцінства, а кагосьці змусілі зведаць цяжар сіроцтва, галечы, звышранняга сталення. Праўда, тут Бураўкіну ў пэўнай ступені пашанцавала: яго бацька, партызан і франтавік, быў цяжка паранены, але ўсё ж вярнуўся жывы і, як чалавек здольны ды заслужаны, патрапіў у кіраўніцтва на той час важнага стратэгічнага прамысловага прадпрыемства (ільнозавода), стаў трывалай апорай сям'і, належна падсобіў сыну навучацца ў гарадскіх школах, атрымаць сярэднюю адукацыю ў абласной. Гэта памагло юнаку займець грунтоўныя веды па ўсіх прадметах як у школе, так і ў бібліятэцы, вылучыцца як камсамольскаму актывісту, лягчэй знайсці дарогу для сваіх вершаў на старонках абласной газеты, а затым і стаць аўтарам такіх вядомых літаратурных выданняў, як "ЛіМ", часопіс "Беларусь" і... самога "Полымя". Не ўсе з ягоных равеснікаў яшчэ да паступлення на аддзяленне журналістыкі філфака БДУ мелі такія падсобныя ўмовы і такую гучную творчую заяўку.

Сведка бураўкінскага "полацкага піянерска-камсамольскага і пачатковага паэтычнага закладу" канца 1940-х і першай паловы 50-х, тагачасны супрацоўнік мясцовай абласной газеты С. неяк на адным з пісьменніцкіх сходаў у 1990-я рашыў не без зларадна сці нагадаць, пра што і як тады па-юначы гаварыў з трыбун, пісаў "цяперашні прыхільнік перабудовы" Бураўкін. Яны, старэйшыя, "у ягонай ідэйнай настроенасці бачылі пераемніка Броўкі". Пра студэнцкі ды пазнейшы "броўкізм" таго пагаворвалі таксама і некаторыя равеснікі, хто вучыўся з ім на аддзяленні журналістыкі прыкладна ў адзін час і таксама пачынаў друкавацца, ішоў, як і ён, да свайго першага зборніка твораў. Ім давала падставу такое заяўляць тое, што яны былі стрыманыя ў выяўленні сваёй пахвалы "аднаўленай пасля XX з'езда КПСС ленінскай лініі", вобраза перадавіка ў асобе камсамольца і камуніста не спяшаліся ствараць, а вось іхні калега, як і яго старэйшы віцебскі зямляк, у вершах і публіцыстыцы актыўна шчыраваў у гэтым. Побач з гераізацыяй партызан і франтавікоў, услаўленнем новабудоўляў ды цаліннай эпапеі, сцвярджэннем жыццярадаснасці ўхваляў камуністычныя ідэалы, што "ў аснове не выходзілі са сталінскай сістэмы", "горда заяўляў": "Слова савецкага юнака", "Я з твайго неспакойнага племені, Партыя...". Такая наследаванасць кансерватыўнаму ў партыйных догмах Броўку нібыта, на думку бурклівых, мела на мэце броўкаўскія пуцявіны да ўзвышку ў агульным літаратурным працэсе. Тым больш, што менавіта Бураўкін адзін з першых са свайго пакалення ўступіў у шэрагі КПСС, пачаў падымацца па службовай лесвіцы, у маладым узросце, калі равеснікі яшчэ займалі пасады толькі радавых літсупрацоўнікаў, здолеў стаць на-

меснікам галоўнага рэдактара “ЛіМа”, дзе рулявым быў зусім не просты чалавек, выпускнік вышэйшай партыйнай школы, загартаваны ў розных рэспубліканскіх і ўсесаюзных выданнях “ідэйны баец сталінскай школы”, літаратуразнаўца непахіснай сацрэалістычнай закваскі (дарэчы, у вядомым апавяданні М. Стральцова ён стаўся прататыпам героя-начальніка “з тварам халоднай штампоўкі”).

Пэўны час Генадзь Мікалаевіч і я жылі паблізу плошчы Перамогі недалёкімі суседзямі, частавата і мімаходзь сустракаліся ці траплялі ў адну маладзечанскую электрычку ў паездцы на лецішча, то перакідваліся словам-другім або маглі затрымацца для зацікаўленай размовы. Аднаго разу зайшла гутарка і пра “броўкізм”. Субяседнік сказаў на гэта прыкладна так: лёс Броўкавага пакалення (пачатку 1900-х гадоў нараджэння. – *Аўтар.*) спачатку цяжкі, пасля шчаслівы, затым драматычны, а для каго і трагічны. Броўка з малазямельнай вясковай сям’і, дзе было дзевяць дзяцей. Бацька здолеў памагчы яму, кемнаму і дапытліваму, атрымаць толькі пачатковую адукацыю, то хутчэй за ўсё яго чакала цяжкая сялянская доля. А мо які просценькі, малаграшовы занятак у горадзе. Ды ў час яго юнацтва адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя. Яе ідэалы пра мір у свеце і зямлю для гаротных, волю для прыгнечаных народаў акрылілі яго, юнага. Паколькі быў пісьменны і старанны, пацягнуўся да новай улады, то яго запрасілі на працу з дакументацыяй у савецкую адну, другую ўстанову. Спачатку перапісчыкам, а пасля і справаводам. У 19 гадоў стаў ужо ўладнай асобаю – старшынёй сельсавета. Шмат чытаў, спазнаваў новае, пачаў пісаць і дасылаць у палюбленыя выданні свае допісы, вершы. Яго, здольнага і адданага новай уладзе юнака, агледзелі, паклікалі на працу ў акруговую газету. Працягнуў тое, што было немагчыма ў царскі час: скончыў вячэрнюю школу для дарослых, а пазней і ўніверсітэт. У 25 выдаў першы зборнік вершаў, дзе ўславіў новыя рэаліі паслярэвалюцыйнага жыцця, паспрабаваў стварыць вобраз героя савецкай эпохі, што і яго вывела ў людзі. Думаецца, быў шчыра ўдзячны ленінскай партыі, савецкаму ладу. Дапытлівы, зразумела, заўважаў і пэўныя рэвалюцыйныя крайнасці. Напрыклад, што кароткі подых беларусізацыі да 1930-га пачалі перакрываць, вывучэнне краязнаўства, гісторыі Беларусі да 1917-га згортваць, усякае нацыянальнае будаўніцтва дазіраваць, бачыць рэспубліку найперш як пэўны прамыслова-аграрны рэгіён для выкананняў усесаюзных планаў. Штосьці ўспрыняў як перабор, часовую з’яву, штосьці – як саступкі дзеля вялікага – пабудовы заводаў і фабрык, школ і бальніц, здабычы харчу, мацавання арміі, а таксама і сацыялістычнай згуртаванасці ў варожым акружэнні. Нават паверыў, што і сярод калег-пісьменнікаў, якія таксама ўзраслі ў новую эпоху, ёсць праціўнікі савецкай улады. Але калі пачаліся і нараталі рэпрэсіі, адзін за адным знікалі яго сябры і знаёмыя, то з яго вачэй спалі ружовыя акуляры. Спазнаў: ідзе свядомае знішчэнне нацыянальнай мовы і культуры, загуба разумных, сумленных пісьменнікаў і іншых творцаў, шматлікіх асоб іншых прафесій і заняткаў, хто пачаў разбірацца, што азначаюць гучныя і прываблівыя сацыялістычныя пастулаты, дыктатура пралетарыяту на справе... І няма пратэстаў, грамадства апаноўвае страх. Кожны можа быць арыштаваны, асуджаны за грахі, якіх не ўчыняў. І за здольных, невінаватых у зламыснасці пісьменнікаў розных узростаў не могуць заступіцца нават геніі, нібыта абласканыя ўладай Купала і Колас. Аднаго абвінавачваннямі давялі да самагубства, другога не раз арыштоўвалі і пагардліва дапытвалі, змушалі напісаць пакаянны ліст за свае выдатныя паэмы і самому аб’явіць іх “кулацкімі, шкоднымі для справы калектывізацыі...”. Класікі да рэвалюцыі пісалі паводле закліку сэрца, не стварылі ні аднаго верша ў пахвалу цара і яго сатрапаў, а цяпер мусілі бясконца славіць Леніна-Сталіна, Варашылава і Будзённага, кожны новы мудры савецкі крок, спаўняць заказы на напісанне агітацыйных і прапагандысцкіх твораў пра працоўныя подзвігі калгаснікаў і рабочага класа, да савецкіх значных дат і юбілеяў, пра выкрыццё свету капіталізму, асабліва суседскага, польскага...

І тут была наша новая трагедыя: у Заходняй Беларусі польская ўлада асуджала свядомых беларусаў за "бальшавізм, намер далучыць край да БССР і СССР", а ў нас савецкая – за "пілсудчыну, намер далучыць БССР да буржуазнай Польшчы" (для зачэпкі ў 1930 – 31-м чэкістамі была прыдуманая падпольная арганізацыя "Саюз вызвалення Беларусі", старшынёўства якой хацелі прыпісаць і Купалу. Ён і Колас ацалелі, а вось больш за 110 іншых выдатных нашых пісьменнікаў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў выслалі на пэўныя тэрміны, а пазней большасць расстралялі)... Улада спрытна абыходзіла Канстытуцыю, перакрывіла асобныя яе артыкулы для карнай, нібыта заканадаўчай расправы: адрозныя ад афіцыёзу грамадзянскія погляды падавалі за крымінальнае злачынства – паспешлівы суд, а то і пазасуддзе ("двойкі", "тройкі", "асобыя нарады" карных органаў – расстрэл або ГУЛАГ).

З "Энцыклапедычнага даведніка. Беларусь" (Мн., 1995): усяго з 1917 да канца 1980-х ахвярамі рэпрэсій сталі 600 000 грамадзян Беларусі ("нацдэмы" і іншыя "контррэвалюцыянеры", "шпіёны замежных разведак", "кулакі", заходнебеларускія "варожыя элементы", ваеннапалонныя і дэпартаваныя пасля вайны). Велізарная лічба і без віны вінаватых. Ды яшчэ з улікам таго, што мноства з тых соцень тысяч было асуджана на смяротнае пакаранне (лічбы розныя). У адносінах да рэспублікі з невялікай колькасцю насельнікаў рэпрэсіі насілі генацыдны характар.

Трагедыя, гаварыў Бураўкін. І для Броўкі таксама: у разгар тэрору трэ было Сталіну... дзякаваць за шчаслівае жыццё, лепшымі сіламі паэзіі зарыфмоўваць яму ўзнёслае "Пісьмо беларускага народа". Так што трэба і зразумець Броўку, Куляшова, а потым і Танка. Яны стараліся выжыць і пры кожным зручным выпадку ўдыхнуць свежага паветра, даць волю свайму сапраўднаму. Так што перш чым асуджаць "броўкізм" – прыстасавальніцтва, паслужлівасць, ухваленне Леніна-Сталіна, замоўчванне савецкіх злачынстваў, – трэба спачатку самому сабе задаць пытанне: а як бы павёў сябе ты ў тагачасных жудасных, бяспраўных умовах, калі і жыццё найвыдатнага савецкага пісьменніка Шолахава вісела на валаску і было не без хітрасці выратавана самім дыктатарам?..

Маё, маіх равеснікаў, дадаваў Бураўкін, усведамленне пасляваеннай рэчаіснасці, як пісалі класікі марксізму, таксама ішло ад суровага быцця, найперш ад шчырай радасці ды гордасці за нашу Перамогу... Не віна, а бяда пасляваенных піянераў і камсамольцаў, якія па закліку настаўнікаў далучаліся, як ім уталкоўвалі, да захопленага "словоизлияния" і "словоблудия" не каму-небудзь і не толькі савецкаму правадыру, а "вызваліцелю ад фашызму, бацьку ўсіх часоў і народаў...". І шчыра верылі: цяжкасці часовыя, трэба пацярпець. Тым больш, што некаторыя саюзнікі станавіліся ворагамі... Пасля XX з'езда КПСС многія балюча ўспрынялі папрок у дагэтуль схаваных злачынствах яшчэ п'едэстальнаму Сталіну, рэжыму якога служылі паслухмяна ды часам з удзелам у розных правіннасцях, выслужылі пэўны падвышак у грамадстве, льготы, і таму ўхвалялі, прыхарошвалі сваё, сябе. Але многіх прагных да новых норм жыцця хрушчоўскі ператрус сталінізму суцешыў: партыя вызвалілася ад культу тырана, адновіць ленінскія нормы жыцця... І яму, шчыраваў Бураўкін, даверліва паверылася ў партыйна-савецкае ачышчэнне...

У тую даволі адкрытую гаману я прызнаўся: у маіх землякоў, простых насельнікаў заходнебеларускіх мясцін, у 1939-м "условноосвобождённых", а за акупацыю не па сваёй віне ў вайну "условноосуждённых", не было вялікай веры Леніну і Сталіну, а значыць, словаблуддзя ім (мая малапісьменная, але мудрая бабуля казала: "Бог быў і будзе адзін. На небе. Нават цар не лічыў сябе Богам, толькі памазанікам яго. На зямлі – вернікі ці бязбожнікі. А без боскасці ў душы нічога людскага не бывае". Ці вось такі "кулацкі" фальклор: "Спасіба шчасліваму Сталіну за нашу дарагушчую жысць". А таксама была лагерная і калгасная падзяка яму за адоранне "куфайкай і рызінай"), але я, які настойліва выхоўваўся ў школе ў духу хрушчоўскай адлігі,

а пазней брэжнеўскім застоем ва ўніверсітэце, верыў: Ленін непагрэшны. Вялікім Кастрычнікам абнавіў свет, паказаў шлях усяму чалавецтву да шчаслівай будучыні, толькі вось Сталін перахапіў ва ўсіх уладу і многае скрывіў, утаптаў у людскую свядомасць сваё. Праўда, задумваўся (і цяпер не без гэтага): як здолеў перакруціць усё нібыта адзін уладалюбца, чаму так дазвалялася яму распраўляцца з ленінцамі, а потым і з мільёнамі лепшых людзей у краіне?! І яшчэ прызнаюся: без дальнабачнасці ажно да 1990-х лічыў: КПСС, СССР з такімі вялікімі землямі ды багаццямі, з гэткай настойліва загаднай прапагандай, з моцнай камандна-адміністрацыйнай сістэмай, з магутнай арміяй з ядзернай дубінаю ў нас навечна. Няма на свеце такой сілы, што адолела б гэтую. Не кумекалася: здаўна імперыі з тыранам на чале складваліся прыкладна па адных і тых жа схемах, пасля пераваротаў, а затым у жорсткім супрацьстаянні купкі наваўладных, са старанна падабраным пераможцам дзяржапаратам; бальшавізм, СССР – новае і прываблівa асвяжальнае віно, але яно ў старых, імперскіх мяхах. Толькі да вядомых складнікаў дадалося новых ідэалагічных прыпраў (замест дактрыны праваслаўя – марксісцка-ленінская тэорыя, панславянізму – сусветная гегемонія, былое паняцце "вялікарускай народнасці", дзе ўкраінскае і беларускае было ўсяго толькі донарствам, пачало ўспрыймацца як "савецкая супольнасць", гасудар-самадзяржац і памазанік божы – правадыр-бог зямны). Захаваўся дух "единости и неделимости". З муравейнай "турмы народаў" вывелі іх, як вольнанаёмных, на асобнае пасяленне ды пад пільным назіркам КДБ і партыйных органаў, з аднымі цэнтралізаванымі шляхамі зносін, эканомікай, дзе амаль усё было пераплецена і ўзаемазвязана. Моўна-культурнае кіпела ў адным катле, адно пераварвалася хутчэй, на іншае патрабавалася больш часу. Няма пярэчання, у высока ўзнёслага СССР шмат самых розных заслуг перад сваім народам і чалавецтвам, але моц падрывалася войнамі, калектывізацыяй, агромністымі выдаткамі на ўзбраенне, космас і ўліўную помач ледзь не ўсяму свету на перамогу сацыялізму на планеце, на вельмі стратную матэрыялана і маральна афганскую акцыю. Затармазіў НТП, а ў перыяд "ппп" ("пяцігодка пышных пахаванняў" ) палітычна абанкруцілася ўлада. Дзяржаўна-грамадскі арганізм усяго за нейкіх мізэрных для гісторыі 70 гадоў зношваўся фізічна і духоўна, не змог перабудавацца рэформамі, утрымацца без людскога страху, кіруючай дэмагогіі, сілы... Варта зазначыць: на падобную тэму не раз узнікаў прыкладна такі дыялог з Бураўкіным, і спрэчак не было, дадаваліся толькі новыя нюансы.

Тая нашая адкрытая гаворка была не зусім выпадковай і таму, што Генадзь Мікалаевіч раней, у першай палове 1970-х, даваў мне кандыдацкую партыйную рэкамендацыю... Ды я, прачытаўшы на той час не адзін ягоны зборнік паэзіі, выбранае ў адным і ў двух тамах, успрыняў яго казань даверліва. Аўтар іх сярод іншага і прызнаваўся шчыра: "Я не знаю, ў каго я ўдаўся такі...", "Я часам сам сябе не пазнаю...". Ці ягоныя загалоўкі вершаў: "Да Ільіча" (не да партыйнага боства Леніна, а менавіта да чалавека-асобы), "Адышлі ў нябыт панегірыкі", "Пустыя п'едэсталы", "Зусім "бязгрэшным", "Не залатыя зусім, не срэбны...". А побач былі мілагучныя вершы пра прыроду, пошукі лірыкі, дзіцячыя творы. Значыць, ішла нялёгкая душэўная, творчая эвалюцыя, далейшае станаўленне паэта з выявай свайго светапогляду і кругагляду.

Або вось пра такі незвычайны момант у сваёй біяграфіі напрыканцы 1960-х расказаў Бураўкін незадоўга да свайго адыходу ў інтэрв'ю "Комсольской правде" ў Беларусі. У 1968-м яго як члена партыі, прафесіянала ў журналістыцы і ўжо вядомага публіцыста ды з высокім становішчам у "ЛіМе", загадчык карэспандэнцкага пункта "Правды" па Беларусі параіў на пасаду карэспандэнта гэтага вышэйшага партыйнага органа. Зразумела, такое, як у той час лічылася, важнае кадравае пытанне вырашалася ў мінскіх самых высокіх партыйных кабінетах, а пасля зацвярджалася ў цэнтры. Партыйна-службовую характарыстыку на вылучэнца падпісваў ажно другі

сакратар ЦК КПБ. Не прысланец з цэнтра на такую ролю, як звычайна была такая практыка ў кампартыях рэспублік, а свой, нават зямляк Бураўкіна па Віцебшчыне. Але той спачатку не паспяшаўся падтрымаць, а праявіў партыйную звышпільнасць: маўляў, рэкамендаваны схільны да... нацыяналізму...

"У чым жа быў ваш правінак у нацыяналізме? – прачытаўшы пра гэта ў тым інтэрв'ю, не без гумару пацікавіўся я пры сустрэчы. – Не помню такога граху ў вашай творчасці. Наадварот, вы адзін з тых, хто асудзіў за нацыяналізм і паслугі фашызму некаторых нашых эмігрантаў". Генадзь Мікалаевіч валодаў бліскучасцю іскрыстай думкі, лёгкага гумару, але на гэты раз абышоўся без досціпу, а загаварыў нават зусім нявесела: сапраўды, ён не дазволіў сабе ў друку ніякіх нацыяналістычных праяў. Хоць здаровы нацыяналізм з яго гарачым патрыятызмам і сцверджанне сваёй нацыянальнай выключнасці – зусім розныя рэчы. Высокаўзнесены зямляк, канечне, зрабіў падстраховачны запыт пра ягонае "обліка марале" ў "кампетэнтных органах". Яны ўжо не мелі велізарных паўнамоцтваў на татальны кантроль грамадства, не фальсіфікавалі гучных палітычных спраў, каб мець апраўданне на самачынны арышт амаль любога чалавека ў краіне (у 1938-м старшыню ўрада БССР, як сам ён пазней мне расказваў, арыштоўваў звычайны лейтэнант), падпарадкоўваліся кіраўніцтву партыйных камітэтаў ды працягвалі пільна ўсё абсочваць. Яны маглі далажыць, што ён у прыватных гутарках, на выступленнях перад чытачамі зусім не ўхваляе закрыццё беларускамоўных школ у гарадах, перавод некаторых беларускамоўных выданняў на рускую мову, выцісканне нашай карэннай мовы з дзіцячага садка па самы высокі наш кабінет. Як і пра абурэнне бытнай сярод зрусіфікаванага чынавенства непублічнай устаноўкі: калі пісьменнік і філалагічны навуковец, настаўнік беларускай мовы і літаратуры, бібліятэкар, артыст піша і размаўляе па-беларуску, то гэта дапушчальна. Прафесія такая. Ды мова ж не забароненая. А вось калі беларусяць іншыя катэгорыі, то яны – нацыяналісты: пазбягаюць "интернационального". Без лішняй публічнасці, кулуарна ды настойліва сцвярджаўся тэзіс: рускамоўны беларус – сапраўдны беларус-інтэрнацыяналіст. І яму быў большы давер. І ён гнуў такую лінію. Але і нам, дапушчаным, як сам ведаеш, гаварыў Бураўкін, не рэкамендавалася адстойваць права на паўнакроўнае жыццё яе, нашай матухны-мовы. Крэмзай, гут*а*ры ды не замахвайся на большае, не "стварай нацыянальнае пытанне: яно ў нас вырашана па-ленінску"...

Сапраўды, з пачутым і я не раз сутыкаўся. Асабліва тады, калі настаўнічаў на Барысаўшчыне і ўдзельнічаў на якім-небудзь сходзе ў Барысаве: многія з мясцовага начальства былі ініцыятарамі, нават вымагальнікамі той ганебнай устаноўкі (асабіста ад мяне не патрабавалі: "писатель"). Далей Генадзь Мікалаевіч расказаў пра тое, пра што я менавіта ад яго пачуў упершыню. У Маскве яго прыняў сам галоўны "правдинец" М. Зімянін. Азнаёмлены з тым закідам Бураўкіну, пасміхнуўся: мінскі звышпільнік – малакультурны чалавек. Не разумее: пісьменнікі асобная катэгорыя грамадзян, нават з вялікім талентам, але без любові да лепшага роднага, без глыбокага патрыятызму не былі б буйныя паэты Пушкін і Някрасаў, Купала і Колас, Твардоўскі са сваім "Васіліем Цёркіным", Шолахаў з "Ціхім Донам". Карацей, Бураўкіну даверылі, настроілі па-партыйнаму асвячаць поспехі і праблемы рэспублікі ў той час, калі былі запынены хрушчоўскія валюнтарысцкія выкрунтасы, калі таварыш Брэжнеў умацаваў стабільнасць у грамадстве ва ўмовах новай партыйнай лініі, не пераскоку ў камунізм, а ва ўмацаванні "развітога сацыялізму".

Дык вось, ад Бураўкіна я ўпершыню даведаўся пра "справу Зімяніна". Гэты таксама бураўкінскі зямляк, педагог па адукацыі выбіўся тут, на радзіме, пры Сталіне ў верхнія эшалоны рэспубліканскай улады (першы сакратар ЦК ЛКСМБ, міністр асветы, 2-гі сакратар ЦК КПБ). Пасля смерці правадыра па-свойму патрапіў у сіло змагароў блізкага сталінскага ядра за першынство. Тады адзін з рашучых пасягальнікаў на яго Берыя ўсклаў вялікія надзеі на падтрымку нацыянальных

рэспублік. Дзеля гэтага заклікаў адмовіцца ад практыкі камандзіравання цэнтрам свайго абранца ў іх на ролю першай усеўладнай асобы, а вылучаць сваіх, мясцовых. Заклікаў да канстытуцыйных гарантый – у прыватнасці, да павышэння суверэнных правоў рэспублік ва ўсіх галінах дзейнасці, адраджэння, развіцця карэнных нацыянальных моў і культур. Нібыта хацеў выправіць тое, што і сам учыняў у 1930-я: таксама распраўляўся з тымі ў рэспубліках СССР, хто бачыў пабудову сацыялізму з нацыянальным улікам і каго цэнтр не толькі аб'яўляў "нацдэмамі", шальмаваў як адступнікаў, дзяржаўных злачынцаў, але і загадваў выкошваць пад корань. Пра тое, як і ў чым магла тады абеларусіцца Беларусь, нашы даследчыкі доўга напаміналі мімаходзь. Бадай, з-за перасцярогі, каб на іх за гэта грозна не сыкнулі.

Бураўкін пра "справу Зімяніна" ўведаў ад Броўкі: той быў членам ЦК і прысутнічаў на тым няправільным для сталінскай гвардыі пленуме, калі менавіта другі сакратар падтрымаў названыя берыеўскія захады. Ясна, гэта само па сабе было супраць тагачаснага першага сакратара ЦК КПБ, чарговага камандзіраванага варага (да К. Мазурава ў нас першым сакратаром быў толькі адзін беларус. Каля года да вайны. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў бухарынскіх, яшчэ іншых злачынствах і расстралялі. Выконваць яго абавязкі прыслалі разанца В., які займаў невысокія пасады ў Сярэдняй Азіі, у райкаме Масквы, дарос да сакратара Маскоўскага камітэта ВКП (б). Адтуль – сюды, на "самастойную" рэспубліку. Павыконваўся тут ён мала, але паспеў, як я вычытаў нядаўна ў польскай прэсе, гучна адзначыцца. Скажам, блаславіў шматлюдны расстрэл "членаў контррэвалюцыйнай шпіёнскай "Польскай арганізацыі вайсковай", якую нібыта ўзначальваў ксёндз Мінскага кафедральнага касцёла. Калі зацікавіцца асобай таго святара, то даведаешся: ён яшчэ ў 1920-я шкодзіў савецкай уладзе і тым, што дабіваўся... увядзення ў набажэнства беларускай мовы). А беларускую мову, навуку і культуру той вараг ашчаслівіў тым, што на адным з бюро ЦК КП(б) Б настояў на спыненні работы, фінансавання з 1934 года па падрыхтоўцы да выдання 10-томнай беларускай савецкай энцыклапедыі. Маўляў, гэтае выданне задумалі тыя, хто цяпер выкрыты за нацыяналізм, ворагі савецкай улады, то не трэба на іх злачынныя задумы траціць народныя сродкі...

Пра тое, як бесцырымонна Сталін распараджаўся лёсам нашай рэспублікі, можна прачытаць ва ўспамінах П. Панамарэнкі, надрукаваных пасля ягонай смерці ў "Нёмане ў № 3 за 1992 год. Панамарэнка расказвае, як яго, кубанца, нядаўняга радавога інструктара ЦК ВКП (б), які аднак вылучыўся па "навядзенні парадку" у падапечным Чалябінскім абкаме, меркавалі паслаць сакратаром Мурманскага абкама і даручыць "займацца рыбай", але ў чэрвені 1938-га прывезлі ў Мінск сватаць на пасаду Першага. Тут ужо адбыўся чарговы з'езд рэспубліканскай партыі, але з Масквы забаранілі аб'яўляць вынікі галасавання па выбарах яе ЦК. На спецыяльным пасяджэнні сват, сакратар ЦК ВКП (б), заяўляе, што цяперашні і магчымы будучы кіраўнік рэспубліканскай партарганізацыі (В., выкараняльнік польскасці) не дацягвае да ўзроўню першай асобы, таму вырашана замяніць яго. І на спецыяльным пасяджэнні Панамарэнку адкрытым галасаваннем прысутных у парушэнне партыйнага статута ўводзяць у склад ЦК, а пасля зацвярджаюць першым сакратаром. Ніхто з мясцовых партыйцаў не запярэчыў (ацалелыя яшчэ былі ў жаху ад леташняга пагрому прыезджымі Маленковым і Яжовым рэспубліканскай партыйнай арганізацыі), а сам абранец, які дагэтуль амаль нічога не ведаў пра Беларусь (чуў толькі, па яго словах, што яна "богата болотами и заболоченными землями..., в прошлом болота – источник бедности и нищеты, болезней и бездорожья"), у сваёй згадцы зусім не прызнаў сталінскае сваволі і сваёй нелегітымнасці, найперш пахваліўся найвышэйшым даверам да яго... (Галоўны страж рэспублікі, нейкі прыблуднік на пасадзе наркама ўнутраных спраў

далажыў яму “абстаноўку”. У дакладзе адным з пунктам было сцверджана, што ёсць 41 факт таго, што Янка Купала – не проста адзін з вялікіх беларускіх паэтаў усіх часоў, агульнаславянская славутасць, а “один из лидеров нацдемовского движения в Белоруссии. Его нацдемовская деятельность начинается еще с 1908 года”. На Якуба Коласа быў прадстаўлены 31 данос у яго скрытнай нацдэмаўшчыне. Кажуць, Броўка расказваў пра абарону Панамарэнкам нашых класікаў перад самім Сталіным і той “ордэры замяніў на ордэны”. Сам Панамарэнка ў сваіх мемуарах пахваліўся пра сваё адстойванне да вайны некаторых раёнаў Брэсцкай вобласці ў складзе БССР і пра тое, што ў пасляваенны час угаварыў Сталіна не рэалізоўваць антыбеларускую ідэю Маленкова і не забіраць наш старажытны Полацк у склад РСФСР. Але пра тое, што пасля 1939-га выканаў сталінскі палітычны загад і асабіста на сесіі Вярхоўнага Савета СССР выступіў за перадачу асобных мясцовасцей беларуска-літоўскага памежжа Літве, забыўся ўспомніць).

Пасля вайны быў перыяд, калі ў БССР, як пазней пісалася ў броўкаўскай БелСЭ, “добраахвотнай і раўнапраўнай” рэспубліцы СССР, адразу дзве галоўныя пасады займалі прысланнікі. Чэкісцкія функцыі выконваў берыеўскі зямляк. Мо і таму, што над нядаўна акупаванай Беларуссю павінен быў быць надзвычайны назірк. У час названага пленума прыезджы кіраўнік паспеў ужо акапацца, расставіць на высокія пасады правераных службоўцаў з мясцовых. З усходніх нашых абласцей – адпаведна, выхаваных як сталінізмам, так і не зусім у беларускім духу. А значыць, верных і іхняму дабрадзею. Вылучэнцы адстаялі яго, чужынца, а значыць, і сябе пры ім. Пасля падзення Берыі ўпалі і яго дырэктывы. Зімянін-крамольнік быў вымушаны пакінуць рэспубліку і пры Хрушчове не мог атрымаць значнага партфеля. Толькі папку ў Міністэрстве замежных спраў СССР ды вакансію пасла. Вярнуўся на ідэалагічны алімп і пачаў падымацца ўверх пасля падзення Хрушчова. Зразумела, навучаным і правучаным, без ніякіх “заскокаў” ужо.

Як некалі люд казаў? Паны сварацца, а мужыка ў лоб б’юць. Вось так і ў нас выйшла: Берыю прыбралі і занядбалі яго прапазіцыі наконт павышэння суверэннасці рэспублік, функцыявання нацыянальных моў ва ўсіх сферах грамадства. Больш – наша, беларуская, яшчэ аказалася з-за Берыі без віны вінаватая. А калі крыху пазней Хрушчоў усё ж дазволіў стаць і старшынёй Савета міністраў, і першым сакратаром ЦК КПБ мясцовым, то за давер запатрабаваў пачаць ажыццяўляць яго амбіцыйную, у духу гогалеўскага Манілава задуму для пабудовы “коммунизьма”. А для гэтага неабходна было дагнаць і перагнаць ЗША па бідонах малака і мясных кумпяках, машынізацыі, то і нашай рэспубліцы трэ было “нарошчваць магутнасці”. Ды, як клінам убілася ў голаў Хрушчову, нельга было абысціся без паглыбленага атэізму, фармавання новага чалавека камуністычнага заўтра. Без ношкі мінулага, у тым ліку і без краёвага, нацыянальнага. Стаўка – на тып савецкага гамункула. Кінуў кліч: беларусы, малодшыя браты рускіх, пакажыце прыклад, іншым. У адцуранні ад свайго, у зліцці ўсіх моў у агульную інтэрнацыянальную. Удзячныя за вылучэнне нашы высокія кіроўцы казырнулі: ёсць! І пайшло-паехала зліццё (выліццё) розумаў. Наперагонкі. Ламаць – не шанаваць даўняе і не надбудоўваць або рамантаваць, забяспечваць яму працяг жыцця...

Працэс чарговай дэбеларусізацыі пайшоў са стратай, вялікай бядою: адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і яшчэ жывы класік яе Якуб Колас не мог не выказаць занепакоенасць такому працэсу па свядомым падрыве беларускай нацыі. Напісаў ліст у ЦК КПБ, дзе настойваў абразуміцца, не ўчыняць ганебнасці. Пайшоў з напісаным да сакратара па ідэалогіі, які лічыўся гісторыкам і сябрам народнага паэта. Але загадзя асвядомлены функцыянер “халоднай штампоўкі” гадзіну-другую... не прымаў члена ЦК, гонару нашага народа. Не столькі ад асабістай крыўды, колькі ад разумення ўжо хуткага новага і страшнага для Радзімы разбуральнага зла ў гэты ж дзень сэрца пажылога і хворага чалавека не вытрымала. Развіталіся з Якубам

Коласам з вялікай пашанотай, але, пазбавіўшыся Вялікага Беларуса, узяліся дзейнічаць у антынацыянальным накірунку актыўней і бессаромней...

Як прызнаваў Бураўкін, праца для “Правды” была няпростая, але павучальная. Ён непасрэдна адчуваў, як пры брэжнеўскім супакоі хрушчоўскую адлігу сцінала стыласць: зацішвалася як выкрыццё сталінскіх злачынстваў, так і рэабілітацыя рэпрэсаваных (у нас нават першы старшыня савецкага беларускага ўрада Цішка Гартны палітычна апраўданы, г. зн., зноў стаўся “нармальным”, савецкім, як і некаторыя іншыя неабгрунтавана загубленыя, толькі ў 1988 годзе). Бураўкін сам бачыў, што па-ранейшаму ў сіле камандна-адміністрацыйны ўклад. Гутаркі пра сацыяльныя рэформы, НТР па-за ваенна-касмічнай сферай застаюцца гутаркамі. Растуць дэфіцыты на розныя прыстойныя тавары, а з імі буяе блат, здабыванне з-пад прылаўка. У вялікай сталіцы заводзіцца ”чорны рынак” са спекуляцыяй. Хвалёная кукуруза не зусім ратуе сельскую гаспадарку, уздыб цаліны не дае завалаў хлеба (наадварот, вырашана пачаць больш закупляць яго за мяжой). ЗША не толькі ва ўсім не перагналі, але і далёка адсталі. Па многіх параметрах – і ад іншых развітых капіталістычных краін. Лепшыя розумы ўжо тады зразумелі: “халодная вайна”, гонка ўзбраенняў высмоктваюць эканоміку, настае яе пагрозны спад, а за ім і накапленне многіх надзённых праблем. У вялікіх інтэлектуальных цэнтрах, Маскве і Ленінградзе, усё больш расце незадавальненне, што нельга пабываць за мяжой, самім паглядзець, як “гніе капіталізм”. Калі пры Хрушчове моўчкі “праглынулі” расправу з венгерскай рэвалюцыяй і рэвалюцыйнае выступленне рабочых у Новачаркаску, то цяпер пачуліся галасы асуджэння ўводу карных войск у Чэхаславакію для абароны там савецкіх стандартаў. Загаварылі пра савецкі таталітарны рэжым (у 1969-м я адбываў вайсковую службу ў Маскве, ва ўнутраных войсках МУС СССР, то ў гадавіну чэхаславацкіх падзей, будучы ў звальненні, на свае вочы бачыў купкі пратэстантаў, якіх тады мякка бралі пад рукі міліцыя ды цывільныя і зводзілі ад якогась помніка. Слова “мякка” ўжываю спецыяльна. Тады па названым міністэрстве строга забаранялася: а) брыдкасловіць і абражаць затрыманых, б) распускаць рукі. Хоць факт ёсць фактам: тады многіх зацікавіў, павабіў, а ўладу занерваваў феномен Салжаніцына з яго выкрывальнай лагернай тэматыкаю, з “искажением советской власти”, з заклікамі “жить не по лжи” і зваротамі ў сувязі з гэтым да кіраўнікоў партыі і ўрада. Іх выбівала з раўнавагі і не меншая ўнікальнасць славутага вучонага Сахарава з яго патрабаваннем гарантаванага Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека зароку недатыкальнасці на свой розум і на сваё сумленне, мажлівасці праваабарончай дзейнасці. Некаторых, як пазней стане вядома, пачалі “лячыць” у псіхбальніцах, саджаць. Але ў Мінск пра тое мала даходзіла, у нас кіпеў працоўны энтузіязм, выкананне павышаных сацабавязацельстваў, вымоўнае абурэнне не выходзіла далей кухні, прыходзілася жыць пад ціскам “развітога сацыялізму” з ягонымі прыапушчанымі ідэаламі: пацерпім, абыдземся тым, што ёсць, пачакаем, заўтра, калі выканаем мудрыя рашэнні гістарычнага з’езда партыі, з’ядзім больш і лепш, чым сёння... Крытыкі партыйнага курсу нават у замаскаваных байках не было, зводзіліся як паджанры публіцыстычна-літаратурныя памфлеты і фельетоны з палітычным падтэкстам. Пэўная крытыка асобных з’яў у галоўных цэнтральных выданнях, у “Правде” ды “Известиях”, насіла побытавы характар. Некаторыя падпраўкі па грамадска-дзяржаўным ладзе час ад часу выказваліся ў “Литературной газете” (скажам, у рубрыцы тыпу: “Калі б быў я дырэктарам”. Але тыя заўвагі і прапановы ўспрымаліся як прыватныя думка).

З праўдзінскім карэспандэнцкім пасведчаннем можна было шмат куды патрапіць, нават у кабінет Першага, а гэта спрыяла адчуванню пульса развіцця рэспублікі, магчымасці пабываць на многіх заводах, у сельскіх гаспадарках, сустракацца з самым розным чынавенствам, спазнаць іхні своеасаблівы свет з усімі нюансамі. Удасканаліць методыку паводзін, размовы з імі. Тым болей, што яго, бураўкінскія,

равеснікі-“бодрячки”, пакідалі ўжо камсамольскія цеснаватыя кабінеты, пераходзілі ў больш прасторныя партыйныя, дзяржаўныя ў раёне, вобласці, сталіцы ды ўжо скоса пазіралі на засілле партызанаў-пенсіянераў, а некаторыя і на колькасную перавагу ўраджэнцаў усходніх абласцей. Машэраў уважліва абгледжваў вядомае яму па ранейшай дзейнасці камсамольскае поле (запасны фонд) і выбіраў найбольш здольных, а мо і ўвішных ды, на яго думку, надзейных на розныя адказныя абласныя і рэспубліканскія пасады. Не толькі рабочых і калгаснікаў, але і маладых спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй і актыўных на вытворчасці колькасней прымалі ў партыю, многіх школілі ў рэспубліканскай ці ўсесаюзнай партыйнай вучэльні, пасля таксама вылучалі на працу-абкатку ў партыйныя камітэты, а з іх – да кіруючых штурвалаў ва ўсе сферы. Карацей, быў немалы клопат пра гадоўлю апарата, што ўсё больш пераўтвараўся ва ўладную касту. Яе можна было пазнаць нават па адзенні: недаступным простым смяротным дарагім паліто і шапцы, аднаколерным зашпіленым на ўсе гузікі шыкоўным касцюме, беленькай кашулі і без ніякіх лёгкадумных акрас гальштуку. І па позірку: строгім, а то і жорсткім да падначаленага, ласкавым, паслужлівым да “хозяина”. Асабістае іхняе жыццё было прытоенае, толькі даходзіла, што асобныя “зрываліся на антымаральным”, паніжаліся па пасадзе, а то і з часам занепадалі. Нас, радавых літаратараў, першая асоба вобласці не прымала, раёна – рэдка і звычайна ў рабочым кабінеце з расказам пра поспехі падуладнай акругі, суправаджаў на літсустрэчах, пасля іх садзіўся разам за адзін стол звычайна інструктар. А калі сярод творцаў быў літкіраўнік або лаўрэат, – то і загадчык аддзела, зрэдку сакратар па ідэалогіі (звычайна жанчына). Усе, узятыя на службу па “чыстай” анкеце, захоўвалі партыйны этыкет, ніякай крамолы (а сярод яе нацыянальныя рэчы) не дапускалі, у вузкім коле дазвалялі сабе толькі анекдоты. Пра няверных мужа і жонку, армянскае радыё, дасціпнага Вовачку, зрэдзь пра Чапаева. Такіх самаініцыятыўных райкамаўскіх, райвыканкамаўскіх работнікаў, як пухавіцкі краязнаўца А. Пранові, стаўбцоўскі ўшанавальнік мясцовых памятных мясцін, яркіх асоб навукі і культуры А. Грэкаў, было нягуста.

У час карэспандэнцтва Бураўкіна ў “Праўдзе” (1968 – 72) я працаваў настаўнікам, завучам сельскай школы, і, улічваючы, што падпіска на гэтае выданне была абавязковая, чытаў усё ім там надрукаванае як пра поспехі ў нас, так і пра асобныя недахопы. Яно было па памеры нядоўгае, але па змесце ёмістае і напісанае не трафарэтнымі сухімі штампамі тагачаснай ідэалагічнай сумесі, а свежа, чытэльна, запамінальна. Паколькі сам выпісваў “Полымя”, “Маладосць”, “ЛіМ”, то даволі часта там знаёміўся і новымі бураўкінскімі вершамі, артыкуламі, рэцэнзіямі ды з першай ягонай дакументальнай аповесцю. Тое, што ў гэты час ён выдаў і новы зборнік паэзіі, і першае ўжо выбранае, сведчыла: аўтар у творчым росце, на пад’ёме, што пацвярджалі шматлікія ўхвальныя рэцэнзіі.

Упершыню я сустрэўся сам-насам з Бураўкіным, калі ён быў ужо галоўным рэдактарам часопіса “Маладосць”. І тое спатканне запомнілася назаўсёды: вельмі ж нечаканым яно сталася. У 1973-м у любімае выданне, што раней, у студэнцтве, першым засведчыла мой рэспубліканскі дэбют у прозе, даслаў першую аповесць. Яе прачыталі, ухвалілі загадчык аддзела прозы У. Дамашэвіч і намеснік галоўнага В. Адамчык. Выправіў іхнія заўвагі і пачаў чакаць, што скажа галоўны: ён, як казалі, у рукапісным стане чытаў усё і пры допуску да друку ставіў свой фірмовы знак: “Г. Б.”.

Трэба падкрэсліць: у той час “Маладосць” па-добраму супернічала з “Полымем” (асабліва тады, калі яго пакінуў Танк на замену Броўкі на пасадзе старшыні Саюза пісьменнікаў і туды прыслалі галоўным літаратара не столькі з творчым аўтарытэтам, колькі па партыйнай надзейнасці: у свой час быў памочнікам Першага, Панамарэнкі, то цяпер як высокаідэйны выхаванец павінен быў суцішыць полымя інтарэсу

да даўняй нашай гісторыі, у імкненні да праўды пра вайну, крытыцы рэчаіснасці. Вядомы факт: ён знасіў да сакратара ЦК па ідэалогіі “Круглянскі мост” В. Быкава і папрасіў права надрукаваць яго. “Няхай паглядзяць, што і я як рэдактар не горш за Танка. А потым буду рабіць тое, што тлэба ЦК”. Нядоўга парабіў: вызвалілі за нейкія фінансавыя махінацыі). “Маладосці” развіў крылле яе першы галоўны А. Кулакоўскі сваім творам “Дабрасельцы” (1958), дзе паказаў прыклад маладым, як і не сатырай Салтыкова-Шчадрына, а з гумарам Якуба Коласа ў некаторых апавяданнях можна, скажам, апісаць разуменне сваёй кіруючай ролі старшынёй сельсавета, спалучэнне тым службовага і карыснага для сябе (ён нібы па важнай справе загадзя плануе наведаць сялянскую сядзібу, дзе рыхтуюцца да вяселля ці асвежаваць вепручка). Крытыкі-аглабельшчыкі ўгледзелі ў вобразе недалёкага, жулікаватага і не такога ўжо страшнага хітруна паклёп на нізавых савецкіх работнікаў. Кулакоўскага за “падрыў савецкай сістэмы” гнеўна асудзілі, вызвалілі ад пасады. Новы галоўны, паэт П. Панчанка, на шчасце, не напалохаўся, праявіў франтавую мужнасць, стаўся, як і Твардоўскі ў “Новом мире”, для многіх таленавітых і смелых хросным. Найперш для В. Быкава, які падаў заяўку ў літаратуру ў 1947-м і немалы час шукаў сваю пуцявіну да яе, праўдзівай і высокамастацкай. Знайшоў, а “Маладосць”, чытачы дачакаліся яго новага слова пра вайну: “Жураўлінага крыку” (1960), “Трэцяй ракеты” (1962) і адной з вялікіх вышынь не толькі ў беларускай прозе – “Мёртвым не баліць” (1965). А побач з гэтым – выдатныя апавяданні, аповесці У. Караткевіча, В. Адамчыка, Б. Сачанкі, М. Стральцова, У. Дамашэвіча і, зразумела, шмат узораў выдатнай паэзіі, дэбютаў маладых. Аднойчы ў нашай размове Пімен Емяльянавіч прызнаўся: яму за Быкава шмат перапала (маўляў, тыражуе вузкі, акопны погляд таго на вайну), дасталося і за падтрымку некаторых маладых, якія “пераходзяць межы сацрэалізму”, а да ўсяго і яму самому за яго “ачарняльную” паэзію. “Дапякалі прымітыўныя, звягліва-агрэсіўныя ідыёлухі”, “пясочылі” на бюро ЦК КПБ, меліся нават выключыць з КПСС, каб не галоўны рэдактар “Советской Белоруссии”, які нечакана сказаў там прыкладна так: “Товарищи, мы можем его исключить. Но это будет позор не ему, а нам”. Пасля непакорлівага рэдактара рашылі суцішыць абраннем яго сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў, дзе суцішваўся і яго папярэднік, больш ужо не жартуючы нават над супрацоўнікамі сельсаветаў. Трэба аддадаць належнае наступніку А. Асіпенку: ён годна прадоўжыў маладосцеўскі дэмакратычны накірунак. Асабіста мне, студэнту, пашанцавала дэбютаваць пры ім, пачуць яго цёплы літаратарскі наказ.

“Ну што, Генрых Вацлававіч, – як я прысеў у кабінеце галоўнага “Маладосці”, вось так афіцыйна звярнуўся Бураўкін, як здалося, бліснуўшы строгім позіркам з-пад акуляраў. – Летась з задавальненнем чытаў твой трыпціх пра настаўнікаў у “Полымі”. Уславіў старога педагога, які шчыра любіў дзяцей і аддаў ім усё сваё лепшае, паказаў пошукі маладога, апаэтазаваў Яго і Яе з іхнім дзіцем. Тут, – прыпадняў маю папку, – таксама добрая мова, ёсць яркія мастацкія дэталі, але... – Скрушліва пахітаў галавою. – Невясёлая карцінка з жыцця і працы настаўнікаў няпоўнай сярэдняй школы ў невялікай вёсцы, дзе з цывілізацыі толькі крамка, фельчарскі пункт і пуставаты клуб. Куды (у вёску) у мокрую восень і вясну не прыходзіць з раёна аўтобус. Аселыя пажылыя настаўнікі заземлена спалучаюць працу ў школе і ў сваёй гаспадарцы, дырэктар – кансерватар, нават не дазваляе маладым настаўніцам мець модныя прычоскі і адзенне, а з пяці прысланых у адзін год выпускнікоў інстытута амаль ва ўсіх мала радасці: жылля няма, трэба прасіцца на кватэры, а чатыром дзяўчатам няма за каго выйсці замуж. А яны ж камсамольцы. Ды без камсамольскай энергіі. Нават не жадаюць наладзіць камсамольскі суботнік па ўпарадкаванні вясковай вуліцы або ісці на ферму і чытаць даяркам лекцыі пра міжнароднае становішча ці на якую педагагічную тэму. Настаўнік-хлопец штосьці эксперыментуе на ўроках мовы і літаратуры, але не зусім цягне на яркага станоўчага героя, любімца ўсіх

настаўнікаў коласаўскага Лабановіча... Адным словам, невясёлае ўражанне пра сённяшніх сейбітаў вечнага і мудрага...”

У мяне, як кажуць, душа згарнулася. 1973 год выдаўся цяжкі і пераломны: нечакана памерла яшчэ маладая маці, паспеўшы наказаць узяць клопат пра малодшую дачку, вучаніцу малодшых класаў. Перад гэтай размовай мне, яшчэ без аўтарства першай кнігі ды, адпаведна, членства ў Саюзе пісьменнікаў, Б. Сачанка, І. Пташнікаў прапанавалі папрасіцца ў галоўнага на працу ў аддзеле прозы часопіса “Полымя”. Нечаканая перспектыва. Але затурбочвала кватэрнае, сямейнае ўладкаванне. А тут яшчэ такі халодны душ ад Бураўкіна. Даведаюцца ў “Полымі”, што забракавалі маю аповесць ды з такімі крытычнымі фармулёўкамі, то наўрад ці згодзяцца пачакаць з паўгода, калі выйдзе мой падрыхтаваны ўжо ў выдавецтве першы зборнік прозы. А названыя вакансіі бываюць рэдка ды з улікам таго, што ў Мінску ўдосталь прэтэндэнтаў. Тады праца ў часопісе “Полымя” не толькі для маладых, але і многіх сталых літаратараў лічылася вельмі ганаровай. Я, мабыць, папунсавелы, нявесела паравёў позірк на намесніка В. Адамчыка – той хітравата, як гавораць, пасміхаўся ў рукаво.

Убачыў усмешку і ў Бураўкіна:

– Вось так, дружа, успрымуць твой твор крытыкі-секачы, – сказаў ён мякка. – Яны бачаць вясковага настаўніка па-даўняму. Яшчэ з даваеннага часу. Калі той быў на сяле амаль адзіны высокаадукаваны чалавек і яго вельмі паважалі. А рэаліі змяніліся. З праблемамі, пра якія ты пішаш. – І для мяне радасна: – Тваёй аповесцю адкрыем новы год. І будзем чакаць абстрэлу.

Бураўкінская прадбачлівасць спраўдзілася: крытыкі старэйшага пакалення адзначылі “перавагу малюнкаў змрочнай рэчаіснасці, асабістага над грамадскім”, “недахоп коласаўскіх традыцый і няяркасць вобразу новага Лабановіча” і г. д. Асабліва балюча было чуць на пленуме Саюза пісьменнікаў выступленне прыўлашчанага ўладай дырэктара прырэчыцкай школы, паэта: ён амаль увесь свой час выступлення прысвяціў пагрому маёй аповесці, пахваліўшыся, што вось яго (так і гаварыў: “мае”) настаўнікі не ныюць, а ідуць у народ і заўсёды з ім. Пасля пленума злавіў мяне, зашчыраваў: “Разумееш, у прэзідыуме сядзеў міністр асветы. Бачу: яму маё слова падабаецца. А на яго стале прадстаўленне мяне на заслужанага... А ты... Здольны, новае напішаш. Толькі пастарайся дагадзіць”. Я не пераацэньваў свайго тварэння (хапала жыццёвага матэрыялу, але не я ўзвысіўся над ім, а ён нада мной). Ды з-за пачутага не падаў перадавіку рукі, а пазней, калі яго азаслужылі, адмовіўся ад запросін выступіць у ягонай школе. Мо і з-за нападак аповесць прачыталі Я. Брыль, І. Шамякін і сказалі прыязнае слова, а І. Мележ, тады ўслаўнены празаік, намеснік старшыні праўлення СП, старшыня прыёмнай камісіі, паклікаў і прайшоўся па ўсёй аповесці: “вось так пішыце, гэта проза”, “а вось так не: газетна”, “вось тут можна, каб не зацягваць, пераказаць, а вось тут трэба малюнак...”. Яшчэ без кнігі прапанаваў збіраць патрэбныя дакументы для паступлення ў СП. Не наракаю і на чытачоў: званкоў, лістоў было шмат. І ў духу прырэчыцкага перадавіка, і згодных ды ўхвальных. Пазней, калі аповесць пабачыла свет у маскоўскім “Советском писателе”, прыходзілі водгукі на адрас СП і з іншых рэспублік. Адзін рэжысёр падмеўся яе экранізаваць, толькі запатрабаваў нейкага канфлікту добрага з лепшым. Не змог дагадзіць...

Стаўшы членам СП, а неўзабаве і членам яго Праўлення, членам КПСС і членам партбюро, намеснікам сакратара, часта прысутнічаў на розных пісьменніцкіх паседжаннях, сходах, і не мог не заўважыць: аксакалы пачынаюць асцерагацца актыўнага, прынцыповага члена прэзідыума Бураўкіна, які ў 40 гадоў набраў моц як рэдактар (падтрымаў незвычайную па адкрытасці калектыўную кнігу “Я з вогненнай вёскі...”, дзе не толькі пра гераіку, а і пра вялікія, сыходныя з усіх бакоў страты, боль, пакуты і незлічоную гібель нашага народа ў час апошняй вайны), займеў том выбранай паэзіі, высока ацэнены ў друку П. Панчанкам, папаўняў свой набытак новымі вершамі, а крыху пазней вызначыўся паэмай “Ленін думае пра Беларусь”.

Не без таго, некаторыя "праўдарубы" пагаворвалі: гэта яго прадуманы ход на Дзяржаўную прэмію. Я ў ліку тых, хто лічыў і лічыць: на гэты раз быў спрыяльны ход для завастрэння ўвагі да лёсу Радзімы (у Леніна сапраўды ёсць радкі, дзе ён піша пра незалежнасць Фінляндыі і Беларусі, адпаведна ведаючы, што наш край у садружнасці ВКЛ меў волю, развіваўся на стараславянскай і старабеларускай грамадскай ды культурнай аснове, займеў не падпарадкаванне, як сцвярджалі некаторыя гісторыкі-фальсіфікатары, а вядучую ролю). Разгортваючы матывы трагічнага лёсу роднага народа ў мінулым, Бураўкін не проста выяўляў удзячнасць Леніну, Кастрычніцкай рэвалюцыі, без якіх і гутаркі не было б пра нашу дзяржаўнасць, а яшчэ выказваў трывогу за яе, заклікаў больш *думаць*. Значыць, і *дбаць*. А Дзяржаўную прэмію атрымае за кнігу вершаў высокага грамадзянскага гучання "Варта вернасці" (1980).

Многія з нас чакалі: на чарговым з'ездзе СП актыўны і дзелавы Бураўкін стане яго старшынёй, разварушыць дрымотнаватую атмасферу ў ім (яе будзілі нацыянальныя заўзятары Н. Гілевіч, У. Дамашэвіч і іншыя, але ў большасці іхні голас не выходзіў за Дом літаратара). Ды гэтая пасада не была яму саступлена старой гвардыяй. Яе падтрымліваў ЦК КПБ, а яна кампрамісіла з ім. Тады на нашым з'ездзе тайным галасаваннем абіралі толькі Праўленне, а на першым ягоным паседжанні выходзіў сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі і з лістка зачытваў склад пісьменніцкага кіраўніцтва, які зацвярджаўся ўжо адкрыта, падняццем рукі (звычайна аднагалосна). З 1948-га па 1990-я ў нас было толькі два старшыні. Броўка і Танк. Яны атрымалі ўсё, што хацелі, і былі спакойныя, забяспечвалі суціш у СП...

Бураўкінскія ўсебаковыя здольнасці ўсё ж былі высока ацэненыя самім Першым і накіраваныя на важную партыйна-дзяржаўную, культурна-выхаваўчую дзялянку – галоўным на радыё і тэлебачанні. Такім чынам, ён патрапіў у кіруючае асяроддзе агледжаных і вылучаных, далучаўся да вышэйшай эліты, кругагляд і светапогляд якой ён ужо спазнаў. Але, ступіўшы на чыноўніцкую сцязю, заставаўся паэтам, і не бязродным, а нацыянальнага складу, не мог цалкам уліцца ў натоўп прыстасавальнікаў і выканаўцаў спасланага зверху. Ягоны чалавечы ды творчы зарад "неспакойнага племені" патрабаваў ініцыятывы, пошуку калі не зусім новага, то хоць свежага, надзённага.

Аднойчы завязалася гутарка з Бураўкіным пра трыманы мной у руцэ калектыўны зборнік "Неизвестная Беларусь. 2005", дзе погляд на нашу краіну вачыма расійскіх, польскіх, беларускіх палітолагаў, пісьменнікаў, гісторыкаў і дзе сабраныя рознагадовыя выказванні на гэты конт нашай яркай зоркі В. Быкава. У прыватнасці, пра так званую *талерантнасць* нашага народа. Нельга было не згадзіцца з тым, што падкрэсліваў Васіль Уладзіміравіч: люд здаўна нагараваўся з-за бясконцых войнаў, насілля і пабораў, жорсткай кары за паўстанні супроць несправядлівасці, у ХХ ст. панёс шмат страт і ахвяр у Першую сусветную вайну, цяжка перажыў кайзераўскую і, як раней казалі, белапольскую акупацыю, бальшавіцкі гвалтоўны пералом вясковага ладу, жудасныя і незлічоныя даваенныя тэрор і рэпрэсіі ды насілле з розных бакоў у час Другой сусветнай вайны, то вось людзі пасля ранейшых бед удасканалілі ўменне цярпець самае невыноснае і... трымаць язык за зубамі. Ды часам самі ганьбуючы сваю душу. Каб *выжыць*. І як папракнеш за гэта шматпакутных маці і бацьку, дзядоў і прадзедаў?! Асцярогі і страх не маглі лёгка знікнуць, перадаваліся, як таму коласаўскаму дзядзьку Антосю ў Вільні, дзецям, унукам. То вось, паводле заўвагі Быкава, заіснавала нялепшая людская якасць – змушаная *апалітычнасць*. Як мазоль зацвярдзелы, яна не магла належна паспрыяць і ў перабудову нацыянальнаму абуджэнню: людзі не маглі не бачыць шум-бурум пра змены-перамены там, у Маскве, а ў нас – ганенні на прыхільнікаў перабудовы і найперш у нацыянальнай справе, якіх падаюць за прадажнікаў Захаду, за ворагаў партыі, сацыялізму, СССР. У

нас націскалі на памяркоўнасць народа. Значыць, жадалі, каб ён і далей быў менавіта такі – вынослівы ды пакорлівы, цярплівы да сталінска-брэжнеўскага рэжыму, бачыў сябе толькі савецкім членам вялікага працоўнага калектыву і задавальняўся на святы маленькай радасцю – чаркай і скваркай.

Пры той гутарцы пра быкаўскія разважанні мы засяродзіліся і на іншым сугучным. Да слова, пра тое, што да 1950-га каля 80% нашых насельнікаў жыло ў вёсках, пасля ў пошуках лепшай долі і патрэбе рэспублікі моладзь рушыла ў гарады і да 1980-га абмяліла вёскі да 44%, а вось лік гараджан давяла да 56%. Не адзін мільён Ясяў і Янін у сукупнасці папоўніў рабочы клас, розную абслугу і гандаль, пазаканчваў сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы, стаўся інтэлігенцыяй разнастайных профіляў, а то і высока аступеніўся і, паўтаруся, шматліка *апартыйўся* і *апасадзіўся*, выслужваючы новую перспектыву. Адпаведна, не адзін мільён спрычыніўся да ўрбанізацыі нашага грамадства. Мноства Ясяў і Янін лічыла сябе “тожабеларусамі” і крыўдзілася за мянушку “таўкач”, але ўсё ж пакінула свой беларускі дух у вёсцы, не змагло перанесці яго ў гарады, як, скажам, сельскія літоўцы аблітовілі Вільню. Каб такога не здарылася, каб не адступіцца ад фармавання савецкага грамадзяніна, наша паслухмянае кіраўніцтва паказвала наказаны яму з цэнтра прыклад у гэтым: выхаванне ў гарадскіх дзіцячых садках, навучанне ў ВНУ, гарадскіх школах паскорана пераводзіла на рускую мову (вывучэнне гісторыі Беларусі аднавілася толькі ў другой палове 1950-х, але на аснове школьнага падручніка і акадэмічнага даследавання, напісаных павярхоўна, у духу сталінскай “Гісторыі ВКП (б). Кароткі курс”, а значыць без аніякага нацыянальнага погляду). Русіфікацыя пашыралася і ў вёсках. Да ўсяго нашы высокаадукаваныя “фізікі” захапіліся толькі ідэяй НТР, хуткім успыхам генетыкі, хіміі ды іншых навук (мой аднакласнік, а пасля студэнт-матэматык, маляваў для мяне фантастычныя цуды тэхнікі блізкага часу: ЭВМ, персанальныя камп’ютары, праграмаванне; цяпер ён у ЗША, удачлівец сярод на 1993 год 500 тысяч беларусаў, і там, да яго гонару, удасканаліў ад некаторых з тых эмігрантаў беларускую мову, спазнаў нашу гісторыю і стаў не савецкі, а высокаадукаваны і нацыянальна свядомы амерыканскі беларус). Тады многія вясковыя выхадцы засароміліся сваёй “дзеравеншчыны” з беднасцю і бяспраўем, з куфайкамі, гумовымі ботамі ды віламі, за яе дарэвалюцыйныя, як завучылі, толькі хамуты і дугі, лучыны. Пад уплывам тагачаснасці звысоку глядзелі на нас, “адсталых лірыкаў”, не разумелі тых, хто хоча адшукаць слаўныя сляды продкаў у далёкай гісторыі (для “фізікаў”, як і для партыйных вылучэнцаў, і Скарына быў нібы і не Скарына, нейкі “старажытнарускі” выпадак з полацкім каларытам, хоць задвухкосенае слова было прыдумана толькі ў сталінскі час). Ад названага сораму яны цураліся беларускай літаратуры з яе моцнай сялянскай, а з Быкавым і антываеннай тэмай, з выдатнымі пластамі ўзнятай і па-мастацку апрацаванай беларускай мовай. Некаторыя з іх, каб узначаліць кафедру або канструктарскае бюро, уступалі ў партыю, але заўзятарамі яе не былі. Беспартыйныя, як зазначаў той жа Быкаў, самаізаляваліся, апынуліся ў маўклівай *апазіцыі*. Асобныя маглі захапіцца Высоцкім ці рэлігіяй (калега майго сябра-фізіка падаўся ў святары, пазней таемна ў Вільні хрысціў нашых дачок) або язычніцкімі праявамі (сурокі, псота, гадалкі), рознымі дзівосамі (перамяшчэнне прадметаў, лятаючыя талеркі, пазазямныя цывілізацыі), цікавасцю да ўпотай ходкіх па руках рукапісаў (пратаколы сіёнскіх мудрацоў і інш.). Досыць колькасная інтэлектуальная люднасць не асабліва паўплывала на стан і ўзровень не на насельніцтва, а на нацыю як такую. На спалучаную нацыянальным духам супольнасць, што ў СССР захоўвала самабытнасць народаў Прыбалтыкі, Каўказа, Сярэдняй Азіі і каму наша кіраўніцтва падмелася паказаць іншы, наш паўабязлічаны ўзор. Паказалі. Але там не спяшаліся яго пераймаць, таму пры палітычных зменах, у перабудову іхняя незалежнасць, дзяржаўнасць і скласліся больш натуральна. На грунце сваіх нацыянальных традыцый, нацыянальна-культурнай спадчыны.

Праўда, гаварылі мы з Бураўкіным, у савецкі час былі ўсё ж і выключэнні: да слова, у Мінску сярод абываталяў з вышэйшай адукацыяй услед за некаторымі мастакамі ўспыхнуў інтарэс да беларускамоўнага У. Караткевіча. Мо і з-за чутак, што "ён не такі, як усе" і што яго "забараняюць". Афіцыйная ідэалогія забараняла глыбокі, праўдзівы паварот да новага асэнсавання нашай даўняй гісторыі, занепакоілася, але, убачыўшы, што гэты пісьменнік асабліва не выходзіць за межы легенд і паданняў, не заканчвае раман "Каласы пад сярпом тваім" на трагічнай ноце (расправа з К. Каліноўскім), а значыць, і не абуджае небяспечныя акцэнты, дазволіла пісьменніку волю на рамантычныя мроі, дэтэктыўныя фантазіі. А ён карыстаўся гэтым і часам нямала чаго гістарычнага ўстаўляў туды. Галоўны "Маладосці" Васіль Зуёнак і я, намеснік, як маглі, падтрымлівалі яго ўстаўкі, напрыклад, у "Чорным замку Альшанскім", але не маглі тое-сёе адстояць перад цэнзурай. Напрыклад, аповед аднаго героя пра тое, што славуты Сувораў чыніў на нашай зямлі і злачыннае. Караткевіч акуратна прарваўся з дакументалістыкай пра нашу старажытную гісторыю і сам многія свае думкі зрабіў такімі па-сённяшняму ў звычайна прыстойным, а тады наватарскім і смелым нарысе "Зямля пад белымі крыламі", што чытаецца не з меншым задавальненнем, чым яго мастацкія творы. Варта сказаць і пра тое, што ў пісьменніцкую беларускамоўную сям'ю ў розны час прыйшлі не толькі філолагі, журналісты, але і медыкі, матэматыкі, інжынеры-тэхнікі розных профіляў, лесаводы, нават юрысты, вайскоўцы і міліцыянеры. Некалькі з гэтага папаўнення сталі лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Ці вось такі высакародны ўчынак: біёлаг Фёдар Піскуноў абверг тэзіс пра беднасць і непрыдатнасць беларускай мовы да дакладных навук ды мудрых выказванняў кіраўнікоў, сабраў і з дапамогай новых тэхналогій склаў яе слоўнік, неверагодным чынам адшукаў сродкі ды вывеў яго ў свет (2012 год, выдавецтва Зм. Коласа), дзе... 223 тысячы слоў, што былі ўжыты ў 70 мільёнах выпадкаў не толькі ў лінгвістыцы, але і ў анатоміі, біяхіміі, інфарматыцы, фізіцы, матэматыцы, медыцыне, юрыдыстыцы і шмат яшчэ іншых галінах!.. У нарматыўным слоўніку, выдадзеным у 1987-м "БелСЭ", было толькі 118 тысяч слоў. Нарматыўнае – ненарматыўнае; вось, кажуць, паэт Уладзімір Дубоўка ўвёў слова "адлюстраваць", а яно ўзяло і папоўніла залаты запас нашай мовы! Піскунову, расказваў, радасна было, што многія ў свеце берагуць рэдкую кветку або птушачку, нават пэўнага паўадзінокага драпежніка, а тут – жывое з жывых – Яе Вялікасць з чалавечых значнасцяў! Мова! Першае пасля піску, мармытанняў слоўка неўмаляцкае! Ад пракаветнага Боскага дару! (Дарэчы, Бураўкін быў адным з сяброў Кансультацыйнай рады слоўніка Піскунова і высока ацэньваў яго.)

Як засведчана ў дакументах, беларуская мова заззяла не толькі ў прадмовах Скарыны, а здолела сваім акцэнтам ці слоўкам-другім падаць голас у пануючай царкоўнаславянскай (яе культывавалі самыя адукаваныя пасля прыняцця хрысціянства служыцелі царквы, спецыяльна падрыхтаваныя пісары) яшчэ значна раней (гл. Гандлёвую Дамову паміж Смаленскам, Полацкам, Віцебскам з Рыгай за 1229 г., дзе прапісаліся некаторыя моўныя рысы тагачаснай жывой мовы нашых княстваў). Яшчэ Фёдар Антонавіч прызнаўся: многія пацяшаліся з яго, для іх не з рэалістычнага са свету гэтага, а "блаженного" з-за ягонай траты часу, "дикого труда и денег впустую". Але яму, такому непрактычнаму, асабліва завярэдзіў душу болем уведаны ў 2000-я даклад ААН, дзе была перасцярога: у ліку моў, што могуць неўзабаве знікнуць з-за абыякавасці ўлад ды насельнікаў, з-за выгнання з хатняга жылля, дзіцячых садкоў, са школ, ВНУ, з партыйна-дзяржаўных кабінетаў і наша, беларуская. Стала сіратой пры жывых бацьках.

Значыць, ёй неабходны найперш моцны дзяржаўны падмацунак. Нават каб у назве краіны захаваць яе паходжанне і сутнасць. Ён жа дзеля захавання яе вырашыў: павінен зрабіць тое, што можа. Не толькі прадоўжыў збіраць беларускія залацін-

кі, але літаральна прысвяціў гэтаму сваё нядоўгае, але змоладу свядомае жыццё. І сам уславіўся сваім выдатным помнікам – ледзь падняць адной рукой фаліянт амаль з 1200 старонкамі яшчэ жывой беларускасці. Гэта – зусім не тое, што для эканоміі сродкаў дзецьмі або ўнукамі яшчэ пры жыцці ставіць помнік самому сабе. Споўненая задума Піскунова – подзвіг, а вынік яго – сам па сабе помнік. Лічу без перабольшвання: гэта ў духу моўнай старажытнай "Глосы" (у нас яе, тлумачэнне на палях кнігі незразумелых слоў, увёў Ф. Скарына), "Лексіса..." (1596) Л. Зізанія, беларуска-рускага слоўніка (1870) заўзятага мовадапытніка І. І. Насовіча і інш.

Толькі што прачытанае і яшчэ далей дададзенае, хочацца верыць, чытач успрыме не проста як пабочнае адступленне. Калі Бураўкін згадзіўся прысвяціць свае веды, энергію і здароўе, час радыё і тэлебачанню, ён ужо добра ведаў: яму на такой важнай ідэалагічнай пасадзе аніяк не абмінуць толькі што названых фактараў і прыйдзецца шукаць папаўнення гуманітарных набыткаў, ад чаго ягоная праца будзе нялёгкая. У тым ліку і з-за новых, часам непрадбачаных, незалежных ад яго акалічнасцяў, што будуць павісаць цяжарам. Скажам, з-за міжнароднасці: у той год пасля абрання паляка рымскім папам ажывілася суседняя Польшча, і зусім не на карысць сацыялістычнай сістэме. Супраць увядзення яе ў выніку дзяржперавароту таго ж 1978 года выступілі многія слаі грамадства ў Афганістане. Ён, шматнацыянальны і рознамысны, забурліў – яго не маглі ўтаймаваць ні савецкія дарадцы і падвучаныя марксізму афганцы ("Вы нам – Тараки, но мы – не дураки"). У сувязі з гэтым у нас нагняталася ідэйная апрацоўка ўсяго люду, зразумела, родных тых, хто служыў у Савецкай Арміі: маўляў, у Афганістан для падаўлення "народнай рэвалюцыі" рыхтуе ваенную інтэрвенцыю ЗША. Мысляру можна было здагадацца: пад гэтай прапагандай рыхтуецца ўвод туды савецкіх войск (пасля стане вядома: ЗША хітра падштурхоўвалі на завязванне савецка-афганскага вузла). Заставалася сама па сабе, імкнулася стаць адным з лідараў "трэцяга свету" Югаславія. У Кітаі, з якім нядаўна справа зайшла да ваеннага канфлікту, здаецца, ужо запынілася незразумелая бічавальная над інтэлігенцыяй "культурная рэвалюцыя" і паваротліва выпрацоўваўся курс на мадэрнізацыю свайго сацыялізму. Жудасці па пабудове яго са сваім акцэнтам з няўцямнай пазіцыі Крамля тварыліся ў Кампучыі, дзе гвалтам з гвалтаў сваімі ж "таўкачамі" знішчаліся навука, старажытная культура і носьбіты іх, просты люд пераўтвараўся ў абязлічаных рабоў XX ст.

Крамлёўскія кіраўнікі ўлічвалі ўсё гэта і ўзмацнялі палітычную дэзінфекцыю народа. Школьнікі навучаліся на "лепшых прыкладах камуністаў і камсамольцаў, гераізму народа ў час вайны", рабочую і студэнцкую моладзь натхнялі на "будоўлю стагоддзя" – БАМ, усіх працаўнікоў – на выкананне рашэнняў чарговага гістарычнага з'езда КПСС. На міжнароднай арэне стараліся ідэйна і шчодра матэрыяльна падтрымаць усе вызваленыя ад каланізацыі краіны, каб яны пайшлі сацыялістычным шляхам. Усё гэтае патрабавала ад усіх ніякага разважання, ва ўсім адзінства поглядаў і паводзін, што павінна было дэманстраваць стабільнасць СССР (хоць яна гарантавалася не столькі новымі тэхналогіямі, колькі рабункам прыродных багаццяў для здабыцця нафтадолараў). Партыйны сінкліт ад генсека да партарга маленькай суполкі пачуваўся звышупэўнена: упэўніўся ў вечнай сваёй уладзе і сваім хлебе нязводным. Права на гэта было замацавана канстытуцыйна асобным пунктам (1977), КПСС была вызначана як ядро палітычнай сістэмы савецкага грамадства, дзяржаўнай і грамадскай арганізацыяй. Ніякія іншыя волевыяўленні, партыі не дапускаліся (дарэчы, менавіта ад "фізікаў" я пачуў такі кпін: "Чаму ў нас адна партыя?" – "Больш не пракарміць"). Кіраўнікі-аднакормцы загарэліся правесці ў Маскве, у іншых гарадах, у тым ліку і ў Мінску, унушальна паказальныя Алімпійскія гульні, а на іх выявіць росквіт, перавагу ва ўсіх сферах развітога сацыялізму (пазней масквічы будуць уздыхаць: у 1980-м на Алімпійскім гульнях, калі заявілася мноства розных шыкоўных новабудоўляў, быў класны парадак без

вывезеных за 101-ы км злодзеяў, махляроў, п’яніц і жанчын лёгкіх паводзін, а з рэзка абмежаваным пад’ездам пакупнікоў з суседніх гарадоў крамы былі заваленыя выдатнымі таварамі, далікатэсным харчам, яны кароткі час пабачылі, што такое не толькі паўтайны наменклатурны, але і масавы, у маскоўскіх межах, камунізм).

Старэйшае пакаленне помніць: тады ў СССР, асабліва ў Маскве і Ленінградзе, зачысткі іншадумнасці ўжо не маглі вярнуць сталінскі рэжым: як і ў краінах так званай народнай дэмакратыі, немалая колькасць савецкага люду не толькі працягвала быць незадаволеная сваім жыццём, але ўжо не абмяжоўвалася кухоннымі абуранымі гавэндамі, учыніла такую з’яву, як дысідэнцтва і масавая эміграцыя ў багацейшую краіну капіталістычнага Захаду і галоўную суперніцу СССР па халоднай вайне, у ЗША. Рэпрэсіўныя метады супраць гэтага (шальмоўная кампанія, забарона права на публічнае выступленне і на друкаванне твораў, прымусовае змяшчэнне ў псіхбальніцы, судовыя працэсы, высылкі) у пэўнай меры суцішалі бурнае кіпенне, але падрывалі ў свеце савецкі прэстыж. Што ж за рай, калі з яго даюць драла?!

У атмасферы нязменнасці камандна-адміністрацыйнага курсу (нават у спорце: у тым 1978 годзе шахматысту Карпаву на сусветным першынстве літаральна загадвалася перамагчы суайчынніка, а пасля эмігранта Карчнога), *“КГБ”* (“Камітэту Генадзя Бураўкіна”, як пазней зажартуюць дасціпнікі) нялёгка было ісці на пэўныя наваўвядзенні ў рабоце. Асабліва ў нас пры звышпільнасці прававерных ідэолагаў і яго падпоры – агрэсіўнай часткі кансерватыўнага, яшчэ прасталінскага асяроддзя, дзе і нізавыя кіраўнікі тыпу героя Агурцова з камедыі “Карнавальная ноч” (як пісалася ў рэцэнзіях, “дурак, обуреваемый жаждой бдительности и деятельности”) не дапускалі аніякай талерантнасці. І “не паступаліся прынцыпамі”.

І трэба прызнаць яшчэ такі факт: у пераможнае шэсце эры тэлебачання, а ў некаторых ужо і замбіраванай залежнасці ад яго (гарадскія мужчыны ўсё больш пакідалі дваровыя лаўкі і столік, дзе весела, часам з крамольнымі рэплікамі пра існуючы лад і начальнікаў бавілі час гульнёй у шахматы або даміно (скажам, гулец на мудрагелісты ход суперніка прамаўляе адмыслова, з падтэкстам: “Дазвольце не дазволіць!”), жанкі – свае “побытава-парламенцкія” пасядзелкі, амаль усе ішлі глядзець заваёўніка розуму і душы). У многіх была пераважная цікавасць да маскоўскай тэлевізіі. Тая, ва ўсім маючы значна большыя магчымасці, мела болей і лепш зробленых захапляльных праграм, на фоне якіх мінская выглядала правінцыйнай. Па прызнанні Бураўкіна, ён на субяседаванні з Машэравым выклаў сваю прапазіцыю наконт таго, што па сіле нашаму тэлебачанню. Той выслухаў яго, штосьці падправіў і блаславіў: “Действуй. Но осмотрительно”.

Машэраў і Бураўкін – яшчэ мала даследаваная старонка нашага былога жыццябыцця... Казалі, Брэжнеў называў Машэрава за яго частыя паездкі па рэспубліцы, гутаркі з простымі людзьмі, касьбу ў гумовіках на лузе з сялянамі, за ўзнёслы камуністычны пафас артыстам, а генсекаўскае акружэнне недалюблівала за высокі ўсесаюзны аўтарытэт здольнага і дзелавітага, строгага, але зусім не напышлівага, не карумпаванага рэспубліканскага кіраўніка ды за распаўсюджаныя па ўсім Саюзе пошапты, што той варты пасады Генсека і зможа прынесці заўчасна зношанаму савецкаму арганізму маладзільны яблык. Мо каб не прыцягваць да яго асобы большай увагі, чатыры гады (!) не прывозілі ў Мінск уручаць гораду прысвоеную зорку Героя. Дзеля Машэрава нікога з нямоглых целам і розумам крамлёўскіх старцаў з Палітбюро не адсунулі, каб даць яму, свежадумцу, месца ў вышэйшым партыйным сінкліце. І пры гэтым здзекаваліся: у час апошняга пры яго жыцці партз’езда, як мы назіралі па тэлевізары, на заключным этапе менавіта яму даручалі зачытаць спіс рэкамендуемых у члены і кандыдаты Палітбюро. Просты люд наіўна верыў: так параіў ён. Але і з паслушным яму нашым партыйна-дзяржаўным апаратам

Машэраў не быў усёмагутны. Ягонай згоды, скажам, было мала, каб надаць і важнаму інстытуту статус універсітэта, адкрыць новыя газету, часопіс, выдавецтва. Толькі са згоды цэнтра. Меў толькі ўскосны ўплыў на КДБ (здолеў вылучыць у намеснікі старшыні мясцовага ўраджэнца) і крыху большы на МУС (тутэйшы стаў міністрам у адзін год з назначэннем на высокую пасаду Бураўкіна). Многія і цывільныя міністэрствы мелі ўсесаюзна-рэспубліканскі статус, то, адпаведна, маглі атрымаць падсобку з цэнтра ды заадно мусілі ва ўсім падпарадкоўвацца яму (адзін з дырэктараў Гомсельмаша расказваў: у некаторыя цэхі, што працавалі на савецкую групоўку войск у Варшаўскім пакце, ён не меў права нават зайсці). Нешматлікія толькі рэспубліканскія міністэрствы былі таксама важныя, але падсобныя (транспарт, бытавое абслугоўванне, камунальная і паліўная гаспадарка і інш.) толькі мясцовага значэння. Машэраў трымаў усіх у напружанні не толькі на выкананне даручаных рэспубліцы планаў, але і на датэрміновасць іх, не мог адступіцца ад тагачаснага партыйнага курса на далейшую саветызацыю. Хто здолеў у дзень трагічнай гібелі Машэрава залавіць голас "з-за бугра", то пачуў прыкладна такое: загадкавае жыццё савецкіх кіраўнікоў, загадкавая і заўчасная смерць некаторых з іх...

І ўсё ж застаецца несумненная рэч: Машэраў з вышэйшых прыезджых і мясцовых кіраўнікоў розных часоў стаўся не толькі спраўным функцыянерам, але і наватарам (напрыклад, правёў пленум ЦК па пераводзе многіх малаперспектыўных калгасаў у сістэму аграгарадкоў, але цэнтр змусіў згарнуць праграму). Менавіта ў ягоны нялёгкі перыяд пры яго падтрымцы аяскравіліся некаторыя паўзабытыя нашы духоўныя каштоўнасці. Пачалі том за томам выходзіць у свет такія важкія самабытныя духоўныя залежы, як фальклорны збор "Беларуская народная творчасць", пяцітомны "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", запрацавала на правах НДІ пры АН БССР выдавецтва "БелСЭ" з выпускам спачатку 12-томнай энцыклапедыі па сусветнай і беларускай гісторыі, усіх галінах духоўнай і матэрыяльнай культуры, а з такім паваротам пачалі рыхтавацца і планавацца на бліжэйшы час выданні таксама шматтомных гістарычнага і этымалагічнага слоўнікаў нашай мовы, галіновых энцыклапедый, "Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі", альбомаў тыпу "Жывапіс Беларусі XII – XVIII стагоддзяў" ці даследавання "Помнікі этнаграфіі" з грунтоўнымі каментарамі і дадатковым інфармацыйным матэрыялам, што ўсё сведчыла пра высокі ўзровень не толькі пасля 1917-га, а на стагоддзі раней палітыка-дзяржаўных, навуковых, эканамічных, прававых, мастацкіх набыткаў.

Мы, супрацоўнікі і аўтары, у "Маладосці" па даручэнні аддзелаў культуры, агітацыі і прапаганды ЦК распрацоўвалі і ажыццяўлялі публікацыю пробных матэрыялаў для стварэння калектыўнай кнігі "Памяць", прысвечанай пэўнаму раёну. У перспектыве кожны з іх мог мець свой шматжанрава-тэмны памятны аб'ёмны том-дакумент з часоў сівой даўніны (праўда, без "выпячивания" беларускасці) па сучасны дзень. Мы, пісьменнікі, не можам не адзначыць, што Машэраў паспрыяў адкрыць асобныя выдавецтвы "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва", а таксама Дом літаратара і Дом творчасці.

І машэраўская асцярожнасць падбадзёрвала новае пакаленне пісьменнікаў, гісторыкаў, мастакоў, увогуле інтэлігенцыю, усіх дапытлівых глыбей спазнаваць гістарычную даўніну, адшукваць нашы гісторыка-культурныя каштоўнасці па ўсім СССР і за яго межамі. Ужо немалы атрад высокадасведчаных знаўцаў быў гатовы асвятліць наша мінулае з яго набыткамі без замоўчванняў і фальсіфікацый. І такі спрыяльны час наступіў у гарбачоўскую перабудову, калі пачне (1993) выдавацца шасцітомнік "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі" пад рэдакцыяй М. Ткачова (ён, на жаль, паспее падрыхтаваць толькі першы том). І калі выйдзе ўжо названы тут энцыклапедычны даведнік "Беларусь" (1995) пад рэдакцыяй Б. Сачанкі, ён, шматпрофільна дасведчаны і прынцыповы, таксама, на жаль, плённа пакіруе энцыкла-

педычнай справай нядоўга, ягонае змалку напружанае жыццё (спаленая вёска ў час вайны, вываз у Германію, пасляваенная беднасць, недавер да нацыянальных поглядаў) не зусім ясным чынам абарвецца ў поўным сэнсе на рабочым месцы і ў росквіце творчых сіл.

У энцыклапедычных выданнях будуць вернутыя многія несправядліва ашальмаваныя імёны ды адкінуты ярлыкі тыпу "нацыяналістычны", "буржуазны", "контррэвалюцыйны" або такое няўцямнае, як Ус. Ігнатоўскаму, абвінавачванне "нацыянал-ухіліст...". Пасля з'явіцца шмат іншых асобных і шматтомных гістарычных даследаванняў, у тым ліку ўнікальнае па змесце, ілюстрацыях "Вялікае княства Літоўскае", дачакаемся шмат новых і, галоўнае, грунтоўных навуковых прац па гісторыі БНР, дзе некаторыя ранейшыя яе заўзятыя крытыкі перагледзелі свае погляды і аддалі даніну праўдзіваму асвятленню. Адным словам, тыя, хто дажыў да сённяшняга дня, моладзь, не могуць папікнуць старэйшых, што для іх нічога вартага не было зроблена. Бруілася, бруіцца народная крынічка, цячэ ручайком, толькі трэба мець жаданне нахіліцца да яе лекавай вады, зачарпнуць яе і ёю асвяжыцца, папоўніцца духоўнай сілаю, паспрыяць ручайку шырыцца, глыбець і плыць, плыць...

Машэраў, мабыць, выціснуў з сацыялістычнага ладу ўсё, а то і крыху болей таго, на што тады той без якасных рэформ быў здольны. Вывеўшы ў тым, 1978-м, радыё, тэлебачанне з сістэмы падпарадкавання аддзелу пэўнага ведамства, дробным клеркам і асамастоіўшы іх у асобны Дзяржкамітэт, думаецца, і энергічнаму, надзеленаму арганізацыйным талентам Бураўкіну была дадзена мажлівасць таксама выціснуць усё ідэалагічнае і з культурным воблікам даступнае ў яго спецыфічнай дзейнасці. Яна цяпер выпадала не на адну галоўную рэдакцыю, як у "Маладосці", а па 9 галоўных па двух галінах ды яшчэ з сімфанічным аркестрам, камерна-інструментальным ансамблем, хорам, "Тэлефільмам", рознымі тэхнічнымі службамі, са студыямі ў асобных абласцях. Трэ было прымаць непасрэдны ўдзел у складанні ды ажыццяўленні праграм па інфармацыі, па палітыка-грамадскіх, сацыяльна-эканамічных, навукова-папулярных, навучальных, літаратура-драматычных, музыкальных, забаўляльных перадачах. І яшчэ з улікам таго, што, як пагаворвалі, тэлевізійная эра ўжо хутка адцісне на збочыну літаратуру, СМІ, мастацтва, тэатры і кінапаказы ды старэйшага сабрата – радыё. Нават з яго новымі папулярнымі набыткамі як бяздротавы персанальны транзістар і інш. Пры гэтым, паўторымся, беларускае тэлебачанне ў многім недасягальна саступала маскоўскаму, аніяк не могучы падаць гледачу такія перадачы, як "Время", "Международное обозрение", "Клуб путешественников", "В мире животных", "Голубой огонёк", "Песня года", "КВН", а таксама футбольныя і хакейныя рэпартажы з матчаў лепшых каманд свету, мастацкія кінастужкі ды спектаклі, мультфільмы і г. д. Каб рэарганізаваць радыётэле, павысіць яго ўзровень, несумненна, трэ было быць яркай аўтарытэтнай асобаю ды заадно ўдасканаліць свой вопыт працы з вялікім калектывам living рознага ва ўсіх адносінах люду, зацікавіць яшчэ большую неаднародную аўдыторыю і знайсці давер у яе.

Як расказвалі знаёмыя супрацоўнікі "КГБ", новы яго начальнік пачаў з самага простага: са значна большага ўжытку роднай мовы як рабочай на нарадах і ў справаводстве (зусім не анекдот: як пазней, у перабудову, стане вядома, скажам, у міністэрстве юстыцыі (справядлівасці і правасуддзя!) нават не было пішучай машынкі... з беларускім шрыфтам!). А заадно і з больш частым ужываннем яе ў розных тэлеперадачах (і цяпер помніцца, як мілагучна на роднай мове загаварыла пра дзейнасць МУС яго прэс-сакратар ці як грунтоўна і хараша павёў футбольныя рэпартажы па-беларуску паэт і нядаўні футбаліст А. Камароўскі, які, мы жартавалі, давёў мінскае "Дынама" да таго, што яно нарэшце выбілася з сераднячкоў і стала чэмпіёнам краіны. Пазней Алесь напіша аповесць пра футбалістаў, а прадмову да яе складзе выдатны дынамавец Э. Малафееў). Гэта не было па душы ўсім. Асабліва

гледачам тыпу ўжо названага Агурцова: што – адступленне ад партыйнай лініі, зварот да нацыяналізму? Вырашана ж: пры камунізме будзе адна мова, а ён павінен ашчаслівіць вось-вось, ужо ў 1980-м...

На той час многія былі ў недаўменні ад Бураўкіна: ён працягваў актыўнічаць у паэзіі і ў ёй захоўваўся яго моцны ідэйны струмень, грамадзянскі пафас, ніякіх хістанняў. "Аўрора", Вялікі Кастрычнік, Ленін (і той усё думаў пра Беларусь: раз за разам друкаваліся паэтавы ўрыўкі з паэмы пра яго). І ў той жа час відавочылася: тэлебачанне ўсё болей набывае змястоўнасць, лепшае з нацыянальнага фактару падаецца як чыстая крыніца папаўнення духоўнасці, без якой грамадства не можа быць здаровае. Бураўкінская "осмотрительность" была ў комплексе і разам з тым рашуча перанастройвала многіх аўтараў, рэжысёраў, аператараў найперш інфармацыйнай, грамадска-палітычнай галіны пераадольваць у рабоце звычайны пераказ падзей, штампы і трафарэты, шукаць жывы матэрыял і разважаць над праблемамі рэчаіснасці. І патрабавалася сцісласць: тады рэспубліканскія мажлівасці тэлевізіі былі абмежаваныя: тры каналы ў Мінску, два ў абласцях. Самы выгадны і большы час адводзіўся цэнтральнаму вяшчанню. Адпаведна, галоўнымі і абавязковымі былі маскоўскія перадачы ў духу савецкага сацыяльнага аптымізму – навіны пра чарговыя поспехі і выкрыванне імперыялізму з усё большай агрэсіўнасцю да ЗША, пра пленумы і нарады ЦК КПСС, незлічоную па колькасці савецкую і з краін сацлагеру самую высокую ўзнагароду Брэжневу за яго гіганцкія дасягненні, пра новыя і лепшыя, чым у амерыканцаў, узлёты ў космас. А яшчэ абавязковыя паказы цэнтральных палітыка-грамадскіх перадач, тэлеспектакляў, канцэртаў, запісы розных юбілейных вечароў усесаюзна вядомых дзеячаў навукі, культуры і мастацтва, пра спорт (асабліва пра пераможны) і інш. Для рэспубліканскай тэлевізіі адводзіліся строга рэгламентаваныя закутак і час. Таму, бывала, скарыстоўвалі і перапынак паміж хакейнымі перыядамі матча зборнай СССР, за поспех якой перажываў сам Генсек. Хто загаворваўся, абрывалі на паўслове.

Уструска была не даспадобы ўсім супрацоўнікам, абнаўленне – пэўнай катэгорыі гледачоў. Бураўкін умеў знаходзіць разумныя, гібкія кампрамісы. Ды было невыпадкова, калі на пасяджэнне важнай калегіі мог заявіцца сам Машэраў і паважліва паставіцца да яго прапаноў. Само па сабе многае прызналася за ім, калі ён неўзабаве стаў дэпутатам, членам ЦК. Пры гэтым ягоныя высокая культура і чалавечая годнасць не дазвалялі яму афішаваць сябе на экране. Не запалоньваў эфірны час прамовамі, публічнай самапахвальбой, крытыкай ды прыніжэннем іншых і Машэраў. То іхнюю штодзённую карпатлівую, структурную, якасную працу як след маглі ацаніць толькі блізка дасведчаныя ці асабліва пранікнёныя, бачачы, што тэлевізія ды радыё пачалі свяжэць. Аналітычнымі гутаркамі-развагамі публіцыстаў і прафесіяналаў розных сфер, жвавымі журналісцкімі інтэрв'ю, нават пакуль што асцярожнымі дыскусіямі, а заадно новымі і рознымі рубрыкамі.

Яго турботамі абнавілася і такая неабходная частка тэлеперадач, як забаўляльная. Калі не па яго віне не ўдавалася падняць рэдкія і слабенькія жанры гумару і сатыры мясцовых эстрадных забаўляльнікаў з прыпеўкамі пра п'яніц, хуліганістых валасатых стылягаў з іх "бугамі-вугамі", падпальшчыкаў вайны (чым вызначаўся персанаж Вялюраў з фільма "Пакроўскія вароты") да ўзроўню ўсесаюзнага (рэпрызы Райкіна ці перадачы "КВЗ", "Кабачок "12 стульев", "Вокруг смеха"), то ў музычна-песенныя жанры на тэлебачанні ўнёс новыя змены. Тады яны, гэтыя жанры, мелі, як пазней зажартуюць, "народніцкі" характар: у асноўным гучалі ў выкананні паважных мэтраў. Яны пачыналі канцэрты ці сольныя выступленні з высокаідэйных перадавіц, а пасля дадавалі патрыятычнае з часоў вайны, устаўлялі лірычнае і нават светлажурботнае з даўніх песень ды рамансаў і ў адпаведнасці з тэматыкай вечарыны пашыралі абсяг песнямі, скажам, пра подзвіг, рамантычнасць працы цаліннікаў, касманаўтаў, геолагаў, ткачых, лесарубаў, шафёраў, вайскоўцаў,

проста маладых хлопцаў і дзяўчат і г. д. Нямала ў такіх хваласпевах было абыклага, падхарошанага, але і нямала вабнага ад просценькага сюжэту і ўслаўлення чалавечых пачуццяў і добрых спраў, ад абуджанага натхнення. Вядомыя і новыя творы ў гэтым фармаце пад аркестр звычайна дапаўнялі вясёлая песенна-танцавальная самадзейнасць і пад гармонік альбо балалайку выканаўцы народных і аўтарскіх гарэзных прыпевак.

Бураўкін быў глыбока дасведчаны ў беларускай музычна-песеннай творчасці, дзе з яго равеснікаў ярка вылучаўся І. Лучанок. Яны нават былі сугучныя сваёй пачатковай "броўкасцю". Як адзначалася ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" (1986), Лучанок з майстэрствам вырашае "тэмы высокага грамадзянскага гучання (У.І. Ленін, Радзіма, Ленінскі камсамол, подзвіг бел. народа ў Вял. Айч. вайне і *інш.*"). Апошняе паўслова вылучана мной.

Ды сам час уносіў папраўкі: паступова між "народніцкім" пачало ўкліньвацца *іншае*, што крыху дазволена, а часам і падпольна прарывалася на эстраду (крыху ў філарманічную і цыркавую, часцей у рэстаранную і моладзевую-вечарынкавую) і што паходзіла ад замежных салістаў і ансамбляў на аснове джазу-року (Прэслі, "Бітлз" і інш.). Калі з дазавана "буржуазным" джазам Уцёсава і некаторых іншых ідэолагі, меламаны-пурытане рана-позна змірыліся (тых для ажыўляжу не забараніў сам Сталін), то ўзбушанае англійска-амерыканскае ў рок-музыцы 1950-70 гадоў не прымалі. Як лічылася, за чужую эстэтыку, сумбурную аранжыроўку, выпінанне свайго "я" і ўласных поглядаў, празмерныя крыўлянне і шумавыя эфекты на сцэне, што, маўляў, не магло абудзіць у моладзі патрыятызм, працоўны энтузіязм, парыў да грамадска-дзяржаўных спраў кшталту цалінных і бамаўскіх. Нават выдатнаму і папулярнаму ўжо спеваку Магамаеву перападала за тое, што ён выконваў некаторыя песні "ў рытме чужароднага твісту". Ды ва ўсю "самапальнічаў" Высоцкі. Ужо і ў ціхманай Беларусі ягоны дзеркаваты бунтоўны голас гучаў з многіх акон і балконаў, амаль з кожнай набытай грамадзянамі касетнай апаратуры. Касеты таксама шырока разносілі, як аказалася, шматлікі блатны фальклор, адасобленыя ад грамадства і заглыбленыя ў свой інтымны свет аўтарскія, пад гітарнае брынканне, дваровыя і турысцкія песні. Забурліла не зусім ў традыцыйнасці Пугачова, набываючы ўсё больш тысяч меламанаў, якія залічалі яе ў прымадонны сцэны. Гэты націск змушаў уладных паступацца ідэлогіяй: па тэлебачанні загучалі галасы блізкіх да "заходняй культуры" спевакоў з усходняга блока чэха К. Гота, палячкі М. Радовіч і інш. (на абавязковай рускай мове яны спявалі "цярпімае", а на сваёй – у празаходнім духу). З савецкіх кампазітараў, аўтараў джазавых кампазіцый і мюзіклаў пачаў вылучацца Бабаджанян, маладзейшы Паўлс (прыбалтам у некаторай меры дазваляўся працяг аблічча іхняга нядаўняга буржуазнага мінулага, то для нас усіх Прыбалтыка ўяўлялася празаходніцкай з яе даўняй архітэктурай, маленькімі кавярнямі, мовай на лацінцы, не зважаючы на мноства засланых славян-інтэрнацыяналістаў, сціплай, але моднай апраткай, хатняй выпечкі хлебам і адмысловымі сырамі, інтэлігенцкаю манерай. У букіністычных вільнюскіх крамках можна было набыць колішнія кнігі рэпрэсаваных і ўсё яшчэ забароненых беларускіх "буржуазных нацыяналістаў"). Спакваля для самых устойлівых да сну пасля "Новогоднего огонька" запускаліся рытмы замежнай эстрады. Або, скажам, да бамаўцаў запрашалі для пад'ёму ў суровых умовах настрою непрызнанага ў ЗША выдатным на ўзроўні Прэслі або Ленана і Макартні, але для сябе хітрага, для савецкай ідэалогіі выгаднага з левымі намёкамі "чырвонага" рок-н-рольшчыка Д. Рыда, які чырвоніў і ў Паўднёвай Амерыцы, асядаў у ГДР і скончыў жыццё загадкава-трагічна...

Да рэвалюцыі з многіх куткоў імперыі імкнуліся ў яе сталіцу, каб у навукова-культурным цэнтры атрымаць высокую адукацыю ці пасаду, ступень і званне, апынуцца сярод эліты. Пры СССР новыя пакаленні таксама імкнуліся патрапіць

у сталіцу, ужо ў Маскву. Апошняя вярнула сабе былы самы высокі статус, сталася немалым людскім катлом, але не верыла ўсіхным слязам, некаторых, хто не вытрымаў канкурэнцыю, жорстка адкідала на абочыну. І з-за гэтай рэаліі нямала хто не даязджаў да Масквы, затрымліваўся ў Мінску. І да прастольнай недалёка, і менталітэт тут спрыяльны ды моўнай праблемы не трэба асцерагацца. Пра тых, каго прыслалі на камандныя пасады і хто сам скачэўнічаў, ужо гаварылася. Карысці ад іх – кот наплакаў. Яркіх асоб узроўню Машэрава не было, але і бязлікія заўзята пераўтваралі нашу рэспубліку ў дзейсны і паслухмяны эканамічны рэгіён СССР.

Іншая справа – далучэнне прыезджых да навукі і культуры. Нямала з іх і самі раскрыліся як таленты, і ў агульную справу ўнеслі значны ўклад. Скажам, тры Глебавы (акцёр, скульптар, кампазітар), а яшчэ – этнограф Дабравольскі, гісторык Пічэта (першы рэктар БДУ), кінарэжысёр Корш-Саблін (адзін з заснавальнікаў бел. мастацкай кінематаграфіі), кампазітары Аладаў (як запісана ў энцыклапедыях, "адзін з арганізатараў і першых выкладчыкаў Белмузтэхнікума і кансерваторыі, адзін з заснавальнікаў сімфанічнага, камерна-інструментальнага і камерна-вакальнага, кантатнага, харавога жанраў беларускай прафесійнай музыкі") і Туранкоў (адзін з пачынальнікаў жанраў масавай песні, хору, раманса ў нашай музыцы), спевакі Данілюк, Гайда, Вуячыч, акцёр Тарасаў, балетмайстар Елізар'еў і інш.

Калі не паток, то прыток творчай моладзі з іншых рэспублік не спыняўся. Хто прыбываў навучацца ў музычным вучылішчы або кансерваторыі, а хто ўжо і рэалізаваць свае задумы і творчыя сілы (Мулявін, Ханок (двойчы), Еўдакімаў, Ярмоленка і інш.). Як помніцца, Бураўкін нямала прыкладаў намаганняў, каб маладыя кампазітары пісалі музыку і на разнастайную, багатую беларускую паэзію, што зусім не замінала патрапіць і на маскоўскую сцэну. Яркі прыклад быў: Лучанок (той творчасць высокага грамадзянскага гучання дапаўняў, узвышаў тым, што ў энцыклапедычнай даведцы пра яго было аднесена да "і інш.": цёплымі, светла-журботнымі песнямі на словы беларускіх аўтараў. "Жураўлі на Палессе ляцяць", "Мой родны кут", "Спадчына", "Вераніка", "Алеся", "Авэ Марыя" і г. д. Гэтая кампазітарская творчасць сваёй самабытнасцю і свежасцю палюбілася не толькі ў нас, мела вялікі і ўсесаюзны ды замежны поспех. Адпаведна, і ў выканаўцаў пабольшаў рэпертуар з беларускамоўных песень. Тут быў паказальны прыклад: ансамбль "Песняры". Ён многіх у нас, за межамі рэспублікі зачараваў каларытнасцю апрацовак фальклорнага песеннага тварэння, вершаў Я. Купалы, М. Багдановіча, а таксама выкананнем песень Лучанка, Семянякі і інш. Але калі ўдачнікі палічылі свой этап беларускасці пройдзеным, збочылі з абранага шляху, нечакана зажадалі здзівіць свет услаўленнем бунтоўнага, але малаўцямнага светапогляду аўтара паэмы пра Леніна і верша пра савецкі пашпарт, то не набылі новых прыхільнікаў. Паступова ансамбль патрапіў у крызіс і, на жаль, распаўся. Уваскрэснікі маглі толькі дзяліць былую славу.

Не будзе перабольшваннем: на тэлебачанні адбыўся і пакуль што не дасягнуты бураўкінскі музычна-песенны перыяд, калі з экрана гучала лепшае з "народніцкага", г. зн. ужо класічнага, і лепшае з новага. З экспрэсіўнымі матывамі, джазавымі, рокавымі мелодыямі. Першае не абрывала традыцыі высокага мастацтва, другое набывала сваё аблічча і не гублялася ва ўсесаюзнай новай плыні. Безумоўна, яшчэ вялікую ролю адыграў пачаты ў 1980-я тэлевізійны фестываль "Песню бярыце з сабой". Тады яшчэ не было дачніцкага буму, то на збор пад адкрытым небам збіраліся тысячы аматараў спеваў.

*(Заканчэнне будзе).*

Сяргей Шапран



...грэе душу маё чорнае натхненне –

Мірон...

# Рыгор Барадулін з чорным катом і без

*Дзевяць гадоў без Рыгора Барадуліна. Сышоўшы, паэт вельмі павольна вяртаецца назад. Размова, вядома, пра ягоныя кнігі, якія даўно рэдкія госці ў беларускіх выдавецтвах. І тут найперш варта згадаць тытанічную самаахвярную працу Наталлі Давыдзенка па ўкладанні адзінаццацітомных «Дзённікаў і запісаў» Барадуліна. Што ж тычыцца яго паэтычных кніг, то, мусіць, апошняя – «У ката́ Мірона чорная карона», укладзеная паэткай Аксанай Спрынчан і выдадзеная «Кнігазборам». Кніга са сваёй таямнічай гісторыяй, пра якую, зрэшты, наўрад ці хто ведае хоць бы таму, што сам паэт маўчаў пра гэта.*

Кажуць: «Без кота и жизнь не та». Так было і ў Рыгора Барадуліна. Ён згадваў, што калі быў яшчэ хлопчыкам, дык у яго быў кот Мірон. І хоць маленькаму Рыгору хацелася сабаку, але ўсё жыццё ў яго былі каты́, прычым вулічныя. Так, аднаго ў сметніцы знайшлі, ён пражыў шэсць гадоў, пакуль не патрапіў пад машыну. Потым была рыжая котка з адпаведнай мянушкай – Рыжуля. Яе

каціны век доўжыўся без двух месяцаў дваццаць адзін год.

Маеш рыжага ката,
Светла ў хаце –
Любата!
З ім пакоі ўсе ў агні,
Хоць пажарнікам звані.

Затым з'явіўся Мірон.

Па словах жонкі паэта Валянціны Міхайлаўны кот Мірон быў чорны, пяшчотны і рамантычны. Яго дачка Ілона знайшла на вакзале, калі яму было ўжо гадоў шэсць. Барадулін назваў Міронам у гонар ката́ дзяцінства і прысвяціў яму мноства вершаў. Нават «Калыханку» спяваў:

Спі, засні, мой кот Мірон,
Хай табе прысніцца сон.
Як заснеш, тады прысніш,
Што цябе пільнуе мыш,
Пацукі наперабой
Хочуць бегчы за табой.
Як, Мірон, прачнешся ты,
Звяжаш пацукам хвасты.
Спі, Мірон, ды ў кіпцюрах
Утрымай мышыны страх.
Кот павінен быць катом,
Сам гуляць з сваім хвастом!



*Той самы знакаміты фотаздымак Рыгора БАРАДУЛІНА з катом Міронам. Фота Віктара Стралкоўскага.*

Пра барадулінскага Мірона ведалі многія, дзякуючы аповедам самога дзядзькі Рыгора ды знакамітаму фотаздымку Віктара Стралкоўскага, дзе паэт быў з чорным катом на плячы.

Васіль Быкаў, з якім Барадулін сябраваў, рэгулярна перадаваў у лістах прывітанні Мірону, калі жыў за мяжой, – так і пісаў, пералічваючы ўсіх сямейнікаў: «Дарагія нашы стары дзед-Рыгор, маладзенькая баба-Валя, маленькая Дамінічка і юны кот-Мірон, з Новым годам вас!» Ці: «Абдымаю цябе, дружа. Прывітанне Валічцы. Пацалункі – Дамінічцы і кату Мірону». Або мог прыклеіць малюнак з коткай і напісаць: «Гэта ад фінскай кошачкі – Мірону». Ці падпісваў паштоўку з выявай двух шчанюкоў: «Гэта два нямецкіх цюцькі шлюць віншаванкі вашаму Мірону. Хочуць пазнаёміцца».

Гэтаксама і Барадулін дапісваў у адказ напрыканцы лістоў: «Прывітанне ад усяе нашае сямейкі, уключаючы Мірона». Альбо скрушна паведамляў: «У мяне быў збег Мірон. Прамяняў ежу на волю. Ледзьве назад вярнулі ў хатні развіты сацыялізм». Ці пісаў з ліпеньскага спякотнага Мінска: «Адзіным змагаром у гэтай разваранай атмасферы застаецца мой Мірон. Праўда, увесь пакудлачаны, паскумачаны, паклычаны, але бадзёры духам». А іншым разам прызнаваўся: «Адна радасць, пацеха – Дамінічка, якая часта цябе ўспамінае, па-свойму ганарыцца, што ведае цябе, шануе твае падарункі. І яшчэ крыху грэе душу маё чорнае натхненне – Мірон». Ці мог яшчэ напісаць: «Дамінічка ды кот Мірон радуюць. Дамінічка пакуль, а Мірон да канца».

Любімы кот паэта памёр неўзабаве пасля таго, як не стала Быкава. «Пайшоў мурлыкаць песні Васілю», – гаварыў дзядзька Рыгор.

## «Грыша мышы сыру крыша»

Зрэшты, у хуткім часе ў ягоным доме з’явіўся новы кот, рыжы, і поўная процілегласць выхаванаму і інтэлігентнаму Мірону. Яго кацяняткам падабрала ва Ушачах, на радзіме паэта, унучка Дамініка. Назвалі ўзнёсла – Рычардам, скарочана – пан Рысь, аднак у выніку атрымаўся не Рычард, а Рысік, якога дзядзька Рыгор спярша не дапускаў у свой кабінет і называў Усярысікам – за адпаведныя паводзіны. Але з гадамі не толькі зміры́ўся з прысутнасцю дваровага ката́ ў доме, а нават палюбіў яго. Гаварыў, што гэта самы прыгожы кот на свеце, і ўсё таму, што – рыжы і ўшацкі.

Тым часам Рысік трывала пасяліўся не толькі ў кабінеце паэта на ягоных рукапісах, але і ў саміх рукапісах – Барадулін хіба толькі оды не ствараў у ягоны гонар:

Быццам хто яго
З рыжага каменя высек
І паставіў на стол да мяне.
Бачыць рыжыя сны
Ветрапрофільны Рысік
І не верыць няўтульнай мане.



*Вокладка кнігі, укладзеная паэткай Аксанай Спрынчан. Выдавецтва «Кнігазбор». Мастак Міхась Дайлідаў.*

Зрэшты, пра Рысіка не адзін Барадулін вершы пісаў. Аднак спачатку невялічкая перадгісторыя.

Сабраўшыся неяк летам ва Ушачы, дзядзька Рыгор узяў і Рысіка, які, нягледзячы на гарадскія харчы, быў схуднелы і ўпарта не хацеў тлусцець. Таму Барадулін, прыехаўшы на радзіму, першым чынам паставіў міску з малаком і накрышыў сыру, каб мышы, якіх – паводле ягонага разліку – абавязкова стане лавіць Рысік, былі наетымі. Даведаўшыся пра тое, паэт Уладзімір Някляеў напісаў:

Дзень народзінаў у Грышы.
Грыша мышы сыру крыша,
Бо яна ў яго ў гасцях.
Кот разлёгся на афішы,
Дзе ў абдымку я і Грыша,
Які крыша сыру
мышы
У каціных кіпцюрах.

У адрозненне ад Мірона, Рысік перажыў свайго гаспадара – яго не стала пару гадоў таму, ён пражыў васямнаццаць гадоў. Але, як вядома, «свято место пусто не бывает» – неўзабаве пасля ягонага сыходу ў доме з’явіўся новы кот. Гэтым разам шэры. Аднак паколькі Барадуліна ўжо не было на гэтым свеце, адпаведна, і ствараць вершы пра шэрага ката не было каму.

## Зніклая кніга

Ідэя кнігі «У ката́ Мірона чорная карона», што выйшла летась у выдавецтве «Кнігазбор», з’явілася ў яе ўкладальніцы паэткі Аксаны Спрынчан выпадкова – пасля таго, як мастак Міхась Дайлідаў прапанаваў напісаць вершы да цыкла малюнкаў катоў. Раней жа дачка Аксаны пісала ў школе працу на тэму «І кот як нейкі дух сярэднявечча.

Вобраз ката ў жыцці і творчасці Рыгора Барадуліна». Так, як кажуць, і склаўся пазл: стала зразумела, што кніжка, па сутнасці, ёсць – толькі трэба сабраць разам барадулінскія вершы пра катоў. Тым больш, што ў дзядзькі Рыгора былі не толькі прыдатныя вершы, а нават кнігі з като́мі ў назве: «Кошки в лукошке» і «Ішоў коця па канапе». Першая была перакладная, другую аздабляў мастак Мікалай Казлоў, які аформіў мноства барадулінскіх кніг: «Вечалле», «Евангелле ад Мамы», «Свята пчалы», «Прынамсі...», «Мудрэц са ступаю», «Трэба дома бываць часцей...», ягоныя зборы твораў. Зрабіў Мікалай Казлоў вокладку і для яшчэ адной кнігі.



*Макет вокладкі кнігі, што так і не выйшла. Мастак Мікалай Казлоў.*

Называлася яна «З чорным катом на плячы», мела падназву «Лірыка, пазыкі, дурноты» і рыхтавалася ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1995 годзе. Пра гэта я даведаўся выпадкова – калі адшукаў у хатнім архіве паэта макет вокладкі з выявай чорнага ката́. Кніга павінна была быць памерам у 464 кніжныя старонкі, або 14,5 аўтарскіх аркушаў (у выдавецкай справе адзін такі аркуш раўняецца 40 тысячам кампутарных знакаў). У «Заключэнні рэдакцыі пра якасць прадстаўленага аўтарам рукапісу» рэдактар кнігі Леанід Дранько-Майсюк пісаў: «Майстэрства паэта захапляе, працавітасць здзіўляе. Новая аб'ёмная кніга "З чорным катом на плячы" сведчыць менавіта пра гэта. Жыць у стыхіі вершаваных радкоў – для Рыгора Барадуліна вельмі натуральны стан. Мяркую, чытач вельмі ўпадабае ў новым барадулінскім зборніку 4-радковыя сатырычныя мініяцюры "Дурноты", а таксама вершы адраджэнскага гучання».

Аднак якія вершы меў намер сабраць паэт пад вокладкай з выявай чорнага ката́? Першае, пра што падумалася, – што кніга «Ішоў коця па канапе», якая выйшла двума гадамі пазней, у 1997-м, у выдавецтве «Полымя», і ёсць тая самая зніклая кніга «З чорным катом на плячы», бо і назвы сугучныя (пра катоў), і на вокладках там і тут каты́, дый мастак у абодвух выпадках адзін і той жа – Мікалай Казлоў. Так думаць было б лагічна, каб не адно «але» – каб не заўвага ўкладальніцы і аўтаркі каментароў да дзённікаў паэта Наталлі Давыдзенка, якая таксама доўгі час працавала ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», прычым у адной рэдакцыі разам з Рыгорам Барадуліным. Дык вось Наталля Аляксееўна й распавяла, што сапраўды, такая кніга – «З чорным катом на плячы» – рыхтавалася да друку, аднак пасля таго, як Барадулін атрымаў прапанову аб выданні пяцітомнага Збору твораў, ён вырашыў змест кнігі пра чорнага ката перанесці ў апошні, пяты том. Аднак часы былі, мякка кажучы, неспрыяльныя, і Збор твораў паэта, які быў аб'яўлены пяцітомнікам, потым згубіў гэтую лічбу – 5 – і выйшаў як чатырохтомнік.

Наогул кажучы, дзядзька Рыгор не раз гаварыў мне пра свае кнігі, што з розных прычынаў не ўбачылі свет: і пра той жа пяцітомнік, які пераўтварыўся ў чатырохтомнік, і пра нявыдадзеныя пераклады п'ес, і пра важкі том паэзіі ў перакладзе па-руску – ён рыхтаваўся да выхаду ў Маскве, але не стала Савецкага Саюза, і рукапіс Барадуліну вярнулі (разбіраючы архіў паэта, мы перадалі рукапіс у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, пра што я пазней, зрэшты, пашкадаваў – калі збіраў білінгвічную, беларуска-рускую кнігу паэта «Перакуленае / Опрокинутое» для выдавецтва «Время»). Гаварыў дзядзька Рыгор і пра цэлы воз неапублікаваных вершаў, дадаваў: «Я ж ратуюся толькі словам, словам-радком, хоць такое ўражанне, што нікому гэта не патрэбна... Некалі ў Васіля Віткі былі радкі пра тое, што ён напісаў верш пра жаваранка, і вось нясе яго ў рэдакцыю, і ўзнікае пытанне: "А што, калі не надрукуюць?" – "Ад жаваранка так пачуюць". Так і я цяпер

пішу і жыву з такім настроем. Можа, некалі выйдзе, а не выйдзе – дык не выйдзе... Помніце, нехта з расійскіх паэтаў сказаў? –

С утра болела голова.
Хоть мне ужасно надоела
Старинная игра в слова,
Но я не знал другого дела.

Я пішу таму, што ёсць яшчэ патрэба хоць з самім сабой пагаварыць».



*Сяброўскі шарж Мікалая Казлова на Рыгора Барадуліна.*

Пра ўсё гэта й распавядаў мне дзядзька Рыгор. Пра ўсё, апроч кнігі «З чорным катом на плячы». Справа ў тым, што захавалася не толькі вокладка, але ілюстрацыі Мікалая Казлова да трох раздзелаў: «Нашча», «Зялёны кукіш з морквы» і «Гуканне паэзіі Усходу». Гэтыя назвы і даюць падказку, што ўсё-ткі магло быць у зніклай кнізе.

Так, раздзел з назвай «Нашча» ёсць у другім томе Збору твораў паэта, які выйшаў праз тры гады. Што ж датычыць «Гукання паэзіі Усходу», то размова яўна ідзе пра пераклады (ці, як гаварыў Барадулін, пазыкі) усходніх аўтараў. Менавіта пад такой назвай выйшла больш чым праз дзесяць год, у 2007-м, ягоная кніга, дзе былі апублікаваны пераклады кітайскіх, японскіх і в'етнамскіх аўтараў. Складаней з раздзелам «Зялёны кукіш з морквы», але падказку даў у заключэнні на рукапіс Леанід Дранько-Майсюк, калі прыгадаў «Дурноты». Каб чытач меў уяўленне, пра што ідзе размова, прывяду пару прыкладаў:

**РЫЧАГ І АПОРЫ**

Самаўслава для творцы –
Рычаг і апора.
Каб узняцца ў сваіх жа вачах
На вяршок,
Адзначаецца свята
Дня першага твора,
Тая дата,
Калі сеў паэт
На гаршчок.

**УСЕ ЭПОХІ**

Як вошы, грошы,
Капейкі – блохі.
Іх кожны хоча
Злавіць хоць трохі.
Пхай у кішэні,
Суй у панчохі –
Грашыма пахнуць
Усе эпохі.

Мусіць, гэты і іншыя сатырычныя мініяцюры, якія паэт пісаў тады і ўсё астатняе жыццё пераважна, што называецца, у стол, і павінны былі стаць зместам гарэзлівага раздзела, названага гэтак па-барадулінску, – «Зялёны кукіш з морквы». Аднак – не лёс. Як не лёс было з'явіцца на свет кнізе, якая, будучы раскіданай па розных выданнях, нагадвае цяпер пра сябе хіба толькі макетам вокладкі і знакамітым фотаздымкам, дзе Рыгор Барадулін разам з чорным катом на плячы.

Васіль Аўраменка



...эрудыт, паліглот, весялун, аптыміст і касмапаліт...

# Аптымізм і нацыяналізм

***Андрэй Хадановіч: легкадумнасць быцця, альбо Цяжкасці перакладу***

Неяк мне трапілі ў рукі разам два паэтычныя зборнікі, знешне вельмі падобныя, амаль аднаго фармату, мяккія аранжавыя вокладкі з партрэтамі аўтараў: “Пералівы” Юркі Лявоннага і “Лісты з-пад коўдры” Андрэя Хадановіча. Здавалася б, што агульнага можа быць у творах 20-х гадоў мінулага і 2000-х цяперашняга стагоддзя? Але ж не толькі законы і задачы, а і вынікі паэтычнай творчасці маюць нешта агульнае, універсальнае па сваёй сутнасці. Хаця ўласна “задач” паэзія, як і паэты, зазвычай не маюць, бо існуюць спантанна, незапланавана, навобмацак плывучы ў плыні свайго часу, не ведаючы, куды прынясе лёс, каму будзе карысць ці шкода ад іхніх вершаў. “Шкода і карысць паэзіі” – праблема нібыта неактуальная, малазразумелая для сённяшняй аўдыторыі, аднак для пакалення Лявоннага яна была занадта злабадзённай. Бо “шкодніцтва” было адной са стрыжнёвых тэмаў камуністычнага будаўніцтва і станаўлення сацрэалізму, а змаганне з разнастайнымі “ворагамі” – грамадскім мэйнстрымам у тым ліку і тагачаснага літаратурнага жыцця.



*Андрэй ХАДАНОВІЧ. Фота Паўла Мазура.*

Якую шкоду можа прынесці лірычны верш? Вялікую, бо перашкаджае хуткаму руху да камунізму – лічылі ў 30-я гады і дзясяткамі ды сотнямі адпраўлялі на той свет маладых рыфмачоў і словатворцаў разам з іншымі “варожымі” ў інтэлектуальным і сацыяльным плане “элемэнтамі”. І хоць Андрэй Хадановіч на мяжы 20-21 ст. пісаў свае лісты нібыта “з-пад коўдры”, насамрэч страху ўжо не меў, то быў постмадэрнісцкі прыём ці проста сцёб з папярэдніх ідэйна-літаратурных часоў. І дарма, дарма ён не баяўся! Бо прыйшоў час, калі “мадэрн” старога, таталітарнага ўзору нагадаў пра сваё існаванне без іроніі і метафар, а брутальна, балюча, як у свае “лепшыя” часы. Аказваецца, не толькі гісторыя не скончылася, але і паэзія застаецца жыць ды быць палітычна “шкоднай” ці сацыяльна заангажаванай. Праўда, паэт можа здагадвацца аб гэтым не адразу, а ўжо на краю жыццёвага шляху.

Дык ці ёсць у паэтычнай творчасці ідэалагічны або хоць сацыяльна-эстэтычны заказ, ці паэт непадуладны дзяржнагляду, народнаму кантролю і модным трэндам, бо пасецца сам па сабе, нібы той “конь незацугляны”? Перш чым адказаць на гэтае пытанне, вернемся ў больш раннія часы, калі малады паэт выдаў “з-пад коўдры” сваю першую кніжку, спачатку ў 2002 г. па-ўкраінску (вось такі “няйдобры”, але ж сімвалічны знак!). Праўда, яшчэ ў 1996 годзе ўсім вершатворцам быў іншы “знак” – гісторыя са Славамірам Адамовічам, ды першая “паэтычная пасадка” не паўплывала на агульны настрой юнага літаратурнага “бамонду”, які працягваў сумнеўныя экзерзісы ды эксперыменты. Хадановіч трымаўся крыху ў баку ад гучнагалосых калег-перформераў і сур’ёзна займаўся мовамі ды тым жа вершаваннем. І, напэўна, не дарма.

Кукалка, каўшанка, хрызаліда,
лялечны зародак вышыні!
Досыць гідкіх фарбаў краявіду,
іншага няхай грызе агіда!
Супакойся, мілы, адпачні!
Спі, дзіцятка, птушкі *ўжо паснулі*,
зоры ў неба *па ваду пайшлі.*
Кукавадла вусцішнай зязюлі,
люлі-люлі, праляцелі кулі...
Стала ціха на усёй зямлі.
Засынай, загорнуты ў анучы.
Пасталееш хутка ў барацьбе.
Спі, выратавальнік наш прыйдучы:
у абладзе фюрэра і дучэ
спадзяёмся толькі на цябе!

Некалі ў варожым наваколлі
возьмешся з расою за кассё

беларускай мовы, і ніколі
не забудзеш, што вучыў у школе:
геній у адказнасці за ўсё!..

*("Калыханка для маладога літаратара")*

Пакінем у баку алюзіі, патэнцыйныя "прароцтвы" ды іншыя "спекуляцыі", што ўзнікаюць сёння пры чытанні верша мяжы стагоддзяў. Тады гэта быў тыповы паэтычны "прыкол", гульня словамі, цытатамі і клішэ, частку іх вылучыў сам аўтар. Між іншым, тады ён вылучыў зусім не тыя словы, на якія мы сёння звернем увагу. Бо змяніўся і кантэкст, і час, і мы самі. Напрыклад, таямнічая *хрызаліда* ў першым радку – адсыл да рамана фантаста Дж. Ўіндэма (хто пра яго цяпер згадае?), а вось *стала ціха на ўсёй зямлі* – ведае кожны беларус, хто чуў ці спяваў "Ручнікі". Я ўжо не кажу пра *фюрэра і дучэ*, якіх ведаюць не толькі беларусы, але і суседзі. То бок, мы маем узор таго самага іранічнага, "мазаічнага" постмадэрнізму, які тады вытыркаўся з тэкстаў усіх хоць трохі прагрэсіўных і маладых аўтараў. Іронія, лёгкі гумар і нават весялосць, з якімі пісаліся і прамаўляліся гэтыя радкі, рэзка кантрастуюць з мінорнай традыцыяй і патэтычным стылем, які панаваў у беларускай паэзіі. Бадай, нельга патлумачыць жыццярадаснасць і аптымізм аўтара толькі маладосцю: нібыта аптыміст – гэта кепска інфармаваны (= малады = будучы) песіміст. Колькі маладых і юных завісаюць на трэш-метале, паган-року, готыцы, постапакаліпсісе, кіберпанку ды іншай субкультурнай "мерцвячыне"... Хадановіч адпачатку абраў мажорны лад і лёгкі інтэлектуальна-касмапалітычны стыль. "З кім павядзешся – ад таго і набярэшся", – кажа прымаўка. А "павёўся" ён найперш з французскай мовай і літаратурай, і настолькі сур'ёзна, што стаў не толькі яе фанатам, але ўрэшце выкладчыкам і... перакладчыкам. Я, чалавек савецкі паводле нараджэння і правінцыйны паводле адукацыі, заўсёды зайздросціў знаўцам замежных моваў, бо сам вышэй за "нямецкую са слоўнікам" ды лаціну медычную так і не падняўся. Праўда, са слоўнікамі (беларускімі, расейскімі, лацінскімі, нямецкімі) не развітваюся й дасюль, пэўна, толькі так можна выкупіць грэх вузка-саўковага монамоўя. Хадановіч – чалавек яўна несавецкі, бо не спыніўся ні на французскай, ні на ангельскай, ні на польскай, і нават на ўкраінскай мове. З чым яго можна павіншаваць. А лепш усё ж пачытаць ці паслухаць яго імкліва-каляровую гаворку, лёгкую, тонкую, вострую, бадай, як класічны французскі стыль. Лёгкую настолькі, што рахманаму беларускаму тугадумству бывае няпроста за ёю ўсачыць. Дый то лірыка, вернемся ж да справы.

Эрудыт, паліглот, весялун, аптыміст і касмапаліт... Для беларускай літаратуры з яе застарэлымі крыўдамі і болькамі – з'ява сапраўды не толькі рэдкая, але і правакацыйная, ледзь не антынародная. Гэта як дэльфін у балоце альбо балід "Формулы-1" з мяхамі бульбы на раскіслай дарозе ў час пасяўной. "Здзек, насмешка і падрыў устояў", – скажа любы закаранелы "хазяйсцвеннік" альбо іншы "аценіцель" культуры. Але ж ёсць як ёсць. І мы вымушаны канстатаваць, што не толькі посткалгасны аўтарытарызм, але і просты постмадэрнізм можа някепска пачувацца ў маркоце тутэйшага клімату.

Час перайсці ад словаў да явы
(раяць курцы і матацыклісты),
толькі прыходзіць сон мой яскравы,
зыркія словы ў золак імглісты.
Ён наплывае, нібы знадворку,
покуль чуйную ў вадах і хібах.
Распачынае зліва гаворку,
першыя кроплі граюць на шыбах.
Дэсантавацца ў сярэдзіну злівы,

высніўшы словы, выславіць сон,
кінуўшы вонкі ў горад дажджлівы
свой параплаў, парашут, парасон.
Недзе на біржах падаюць баксы,
недзе на ладан дыхае Ўсама,
менскаю злівай дыхаюць таксы,
мокрыя таксы
й таксісты таксама.
Толькі ўмыкнеш электронны папірус,
вецер ляціць шалапутны і файны:
як найнавейшы кампутарны вірус,
кружыць над местам усе твае файлы...
Спелячы словаў смачныя слівы,
дыхаеш воляй – пад рэбрамі коле.
Дыхаеш злівай, дурань шчаслівы,
мроячы не прачынацца ніколі.

Аднак сапраўдны, "аўтэнтычны" (французскі ці амерыканскі), постмадэрн не быў вясёлым, бо й гумар яго перадусім "чорны", іронія – змрочная, бессэнсоўная, а абвешчаны айцамі-заснавальнікамі ўсеагульны "канец" – аўтара, мастацтва, гісторыі, аб'екта, суб'екта і любой іерархіі спараджаў увогуле чорную перспектыву татальнага "абнулення", зрынання ў хаос і ў "нішто". Хадановіч жа застаецца аптымістам і літаратурным бонвіванам, нягледзячы ні на што, і толькі пашырае геаграфію сваіх рэальных, віртуальных ды інтэлектуальных прыгодаў. Прычын такой жыццярадаснасці, бадай, некалькі, але самая відавочная – ягоная шматвектарнасць, рухомасць і шматаблічнасць. Ён не столькі "паэт ад бога", што занурыўся ў сваю "богаабранасць" і ў лёхі творчага самапахавання, колькі вандроўнік па чужых мовах, паэтычных "лабірынтах" і "лабараторыях", гэткі літшпег-выведнік, перакладнік чужых скарбаў "ва ўласную" кішэню. Наколькі гэта "лёгкая і выгодная" справа, можа судзіць толькі той, хто сам паспрабаваў перакласці паэтычны тэкст з адной мовы на другую. "Я не пішу – перакладаю", – казаў некалі А. Разанаў пра свой творчы метад. То бок, паэзія – гэта перакладанне (трансфармацыя, пераплаўленне) у словы і літары зрокавых, пахавых, смакавых, тактыльных ды больш складаных эмоцый, што ўзнікаюць пры сутыкненні са светам. Працэс трансфармацыі розных відаў энергіі ў літарна-моўную ёсць таямніцай-загадкай і для саміх творцаў, і для даследчыкаў літаратуры. Дык вось, напрыклад, калі верш ужо атрымаўся і ўсе прызналі яго дасканалым ці геніяльным, але прызналі толькі ў гэтым выглядзе і ў гэтай мове. Пераказаны іншымі словамі ці іншай мовай ён ужо не будзе ні паэзіяй, ні таямніцай, ні нават творам мастацтва. Каб зрабіць яго з'явай мастацтва, трэба зноў паўтарыць цуд, раскласці на моўныя атамы і сінтэзаваць наноў у іншым абліччы, мове і часе. Бывае, гэта зрабіць складаней, чым напісаць арыгінал, бо першааўтар вольны ў сваім выбары і дзеях, а перакладчык павязаны па руках і нагах дасканаласцю гатовага шэдэўра. Але тое, што перакладчыкі вершаў больш уседлівыя, уедлівыя і працавітыя за "незацугляных" вершатворцаў, не выклікае ніякіх сумневаў. Дык што ж вымушае іх брацца за гэты Сізіфаў гуж, тытанічны і няўдзячны?

Найперш, яны таксама мусяць быць хоць крыху вершатворцамі, бо зрабіць вершаваны пераклад непаэту немагчыма. А паэты – асобная каста людзей "нетутэйшых", трохі "не ў сабе" ці проста пакліканых. Услухоўвацца ў словы ды гукі, пераймацца рыфмамі, рытмамі, сэнсамі стане чалавек толькі з унутранай "крываточынай", хваравіта чуйны ці апанаваны "слоўна-моўнаю хваробай". І яшчэ ёсць адна зваба, што можа цягнуць да перакладу – магчымасць прымераць на сябе іншую ролю, надзець маску іншага творцы, пабыць у "скуры" генія ці куміра, а часам нават паспаборнічаць з ім у паэтычным майстэрстве. Бывае, гэта вельмі

цешыць самалюбства, узвышае ва ўласных вачах ці ў вачах знаўцаў, але, на жаль, рэдка – у грамадскім меркаванні. Для некаторых паэтаў без яскравага “ўласнага голасу” (хто мае добры “слых” ды не мае “вакальных” магчымасцяў) гэта адзіны спосаб самарэалізацыі. Прычым такая “рэінкарнацыя” можа адбывацца шматкроць, у розных абліччах, эпохах і варыяцыях. Хадановіч-перакладчык застаўся верны свайму “першаму каханню” – французскай паэзіі эпохі “праклятых паэтаў”. Аднак з задавальненнем і да ўзаемнай выгоды карыстаецца “маскамі” польскай, украінскай, ангельскай, шведскай, расейскай ды іншых паэзій. Ёсць яшчэ адно амплуа, якое яму пасуе і не дае часу маркоціцца – выкладчыцкая дзейнасць як у статутных установах, так і ў нефармальных ініцыятывах. Ён мае прызнанне і ў юных перакладчыц ды філалагінь, і ў маладых ды не вельмі маладых паэтаў, творцаў іншых жанраў. Творчыя калабарацыі, удзел у школах, семінарах, конкурсах, фестывалях, кніжных кірмашах і выставах – што гэта, вынік ягонай прыроджанай адкрытасці альбо дадатковыя крыніцы “бурапеннага” аптымізму? Хутчэй за ўсё – геданізм, сангвінічны характар і талент камунікацыі, якія даюцца ад нараджэння, а ўжо жыццё напаўняе яго змесцівам і сэнсам. Як кажуць, грузяць на таго каня, які вязе, і чым больш ён вязе, тым больш на яго грузяць. Хадановіч шмат чаго і куды вязе, а разагнаўшыся, яму ўжо цяжка спыніцца. Ён жыве і ратуецца рухам, стварае перспектывы сваім няспынным “вырушэннем” як у інтэлектуальнай ці віртуальнай, так і ў геаграфічнай прасторы. З Камароўкі ў Сухарава, з Варшавы ва Ўроцлаў, з Чыкага ў Токіа, з лімерыкаў у песні, з сімвалізму ў постмадэрнізм, з 21 стагоддзя ў 19 і назад – шляхі ягоныя не ведаюць канца і супакою.

Мы покуль не народжаны народ,
мы вязні скамянелых яйцаклетак,
мысленча запаволены чарот;
хтось падла, хтось зусім яшчэ падлетак,
хтось піша і рыторыкай старой
уводзіць юнакоў у заблужджэнне:
змагар, руплівец, ходыннік, герой,
тытан, а мо й тытанік адраджэння.
Стаміліся й губляем лік гадам:
гады ў турме паўзучыя, як гады!
Дзе ж тая паўнагрудая мадам,
што ўсіх нас павядзе на барыкады?
Што маем, ёй бы кінулі да ног!
І вартавыя чуюць нашы енкі,
калі начамі ў каляровых снох
мы бачым гэту кралю без сукенкі...
Бо верым: навакольнае лайно
цудоўным гноем стане ў гасподзе.
Папраз закратаванае акно
гартуем дых, каб дыхаць на свабодзе.

Яшчэ адна крыніца ягонага аптымізму мне бачыцца ў тым, што ён дасюль застаецца беларускім патрыётам.

Кволасць беларускага патрыятызму, які то ледзь ліпеў, то крыху ўздымаў галаву, то знікаў амаль бясследна, за апошнія 100 год стала легендай, быллю і нават анекдотам. Хіба толькі напачатку 90-х мінулага стагоддзя беларушчына атрымала вялікі гістарычны аванс і рэальныя перспектывы чагось дасягнуць. Працэс пайшоў, але... у розныя, часам супрацьлеглыя бакі: нядоўгая беларусізацыя скончылася русіфікацыяй, а ўрбанізацыя і дэмакратызацыя – калгаснізацыяй уладных эліт і дэбілізацыяй працоўных ды беспрацоўных мас. Не ўсе, праўда, паддаліся гэтым трэндам. Творчыя масы працягвалі сваю лінію, і прыклад паэта Хадановіча тут будзе дарэчы. Так, ён

“маскіраваўся” (і даволі паспяхова) пад постмадэрніста, а касмапаліт – знаўца забугорных моваў і модаў – у яго пёр з усіх адтулін (тады гэта шчэ не забаранялася) і адначасова (во дзівак!) стаяў за белмову ды ніяк не пагаджаўся прагнуцца пад “вялікі і магучы”. Гэта тлумачыцца проста, нават прагматычна: “беларускі праект” (і белліт у прыватнасці) быў сапраўды як даўно закінуты недабуд: меўся падмурак з айцоў-заснавальнікаў, некалькі пахілых і пару больш-менш трывалых слупоў, але ні муроў, ні вышэйшых паверхаў, ні даху ці страхі не было і ў паміне. Не кажучы пра нацыянальны пантэон – тут вакансій было больш, чым жаданцаў. Як любая новая дзяржава ці маладая нацыя, Беларусь мела толькі прывідныя перспектывы і ніякіх гарантый, страховак альбо камфортных умоў дзеля іх рэалізацыі. Але для маладых, амбітных і крэатыўных, хто адчуваў сілу і патрэбу ў самастойнасці, такая недагледжаная “руіна” была някепскай пляцоўкай для старту, для творчасці, эксперыментаў ды іншых вычварэнстваў. Адылі ж, мары, праекты, віртуальныя абсягі і свет будучай Беларусі – гэта прыгожа, цудоўна, натхняльна, ды рана ці позна даводзіцца сутыкнуцца з рэальнасцю. Асабліва жорстка і бескампрамісна жыццё вяртае з аблокаў і віртуалу ў трох выпадках: калі ты моцна захварэў, патрапіў у турму ці на вайну. Тут ужо застаешся сам-насам з сабою, бядою і нечакана блізкай смерцю. Бадай, усе гэтыя беды здарыліся з намі за апошнія тры гады. Хіба што вайна грыміць за гарызонтам і не ўвайшла пакуль у кожны дом, аднак, немагчымае ўжо стала магчымым: самая чорная антыўтопія акрыла нас сваім вусцішным крылом. Ці магчыма мастацтва пасля апакаліпсісу? Ці магчыма творчасць, калі энергія зла і нянавісці спальвае словы раней, чым яны паспяваюць нарадзіцца, а аглушэнне і спусташэнне пасля сусветнага выбуху, як пліта магільнага маўчання, расціскае непамерным цяжарам парасткі жыцця.

Але Андрэй Хадановіч, нягледзячы на драматычныя абставіны апошняга часу, не губляе надзеі, жыццялюбства і творчых ініцыятыў, бо мэты пакуль не дасягнутыя і працы наперадзе не менш, чым было раней. Вось, дарэчы, галоўнае адрозненне аптыміста ад песіміста: першага наперадзе чакае больш, чым пакінута ззаду, а будучыня для яго лепшая, чым мінулае. Дзякуй часу і гісторыі, бо цяпер для такога шляху ёсць магчымасці, якіх не было ў Юркі Лявоннага: кароткая дарога ў Курапаты альбо доўгі гулагаўскі шлях, насамрэч, не выбар, дый ад цябе ён ніяк не залежаў.

У гэтым бадай, галоўнае адрозненне нашай эпохі: з’явіліся спосабы не толькі фізічна выжыць, але і захаваць у сабе (хай не ў родных краявідах) і чалавека, і паэта. Нягледзячы на ўсе прароцтвы і вынаходніцтвы постмадэрнізму, зрынанне каштоўнасцяў і аўтарытэтаў, застаюцца рэчы, якія заўсёды будуць неабходныя чалавеку і чалавецтву – свабода думаць і выказваць свае думкі, не баяцца быць паэтам і апанентам “нудзе і прозе” жыцця. А калі дужа карціць, то, калі ласка, – зранку прачынацца нацыяналістам, удзень пачувацца касмапалітам, а к вечару – постмадэрністам. І каб табе за гэта нічога не было. І каб кожны на *лю*бай мове і пры люб*ым* надвор’і мог радавацца жыццю. Бо жыць весела і сапраўды куды лепш, чым існаваць сумна альбо ўвогуле не жыць.

---

“Дзеяслоўцы” сардэчна віншуюць
шаноўнага **Андрэя Хадановіча**
з пяцідзесяцігоддзем і зычаць яму моцнага здароўя,
душэўнае моцы, Божае ласкі і, вядома ж, –
новых яскравых твораў ды перакладаў!

сумоўе

# Анкета «Дзеяслова»

***1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным "хросным бацькам"?***

***2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх "тэхнічных прыладаў" Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, кампутар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы "творчыя стымулятары": кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?***

***3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?***

***4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?***

***5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б перажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?***

***6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: "Ні дня без радка"? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі "не пішацца", што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?***

***7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?***

***8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?***

# Вольга Бабкова



***1.*** Ад словаў “нябеснае прызванне” і “грамадзянскі абавязак” крыху ніякавею як ад выразаў з кепскай п’есы. Штуршка дакладна не згадаю. Мая маці, калі я ёй чытала ўголас які-небудзь свой тэкст, дзівілася і казала, маўляў, як у цябе гэта атрымліваецца? А я цяпер чытаю яе ўспаміны дзяцінства ў сшытку, куды яна пачала іх запісваць па маёй просьбе, і разумею, што атрымала сваё ўменне складаць словы ад яе. А таксама здольнасць прыкмячаць з удзячнасцю дэталі навакольнага свету.

Першае апавяданне “Крумкач і Франка” было надрукаванае ў “Нашай Ніве” ў 2000 годзе. Вось тут дакладна быў “штуршок”, а хутчэй здзіўленне. У ім сышліся мая любоў да горада з ведай пра тое, што крумкачы-вароны праз сваё доўгажыхарства захоўваюць памяць пра мінулае, сведкамі якога былі, і якую мы, на жаль, счытваць не здольныя. Доўга насіла ў сабе гэтую думку, пакуль узялася пісаць аповед. Пісаўся ён лёгка, нават неяк урачыста, з ахвотай. Быў пасля бязлітасна раскрытыкаваны Пятром Садоўскім. Але паколькі замест пісьменніцкіх амбіцый я мела чыстую радасць ад магчымасці ствараць новы свет, то і крытыку прыняла спакойна і станоўча.

“Хросным бацькам”, бадай, быў сам Час. Беларускай мовай тады размаўляла каханне, сяброўства і найярчэйшыя праявы жыцця. Мова сталася каштоўным творчым набыткам на ўвесь далейшы шлях.

***2.*** Гарой на паліцы ляжыць сціжма спісаных нататнікаў розных колераў і формаў. Па іх можна адшукваць і згадваць пра што чытала, што натхняла, здзіўляла, абурала... Чорны, Набокаў, Шмеман, Рушдзі, Мілаш, Памук..., уласныя думкі, цытаты са старых дакументаў, пераважна тэстаментаў узору 16 стагоддзя – *Памяць чалавечая вельмі кароткая, калі б пісьмом падпірана не была*. Таксама маю адмысловы зялёны нататнік-слоўнічак з выпісанымі цікавосткамі, якія вышукаваю і прыкмячаю ў розных аўтараў. А вось пісаць люблю выключна на кампутары. І толькі тады, калі адчуваю ўнутраную свабоду, а разам з ёй і пэўную адважнасць. Але гэта – раскоша.

***3.*** Тое, што падавалася цяжкім, у пэўны момант робіцца лёгкім, і наадварот. Вельмі чуйна рэагую на рытм у творы. У чужым, у сваім. Рытм як рух, як праява жывога і зменлівага. Рытм напаўняе тэкст паветрам, задае дыстанцыю паміж словамі, а гэта, як і ў жыцці паміж людзьмі, – неабходная рэч. Люблю чытаць прозу, у якой прысутная хаця б кропля паэзіі, і тады тэкст набывае зусім іншы подых. Уздымае, развінае далягляды. У Чэслава Мілаша ў “Зямлі Ульры” прачытала, што паводле ісламскай традыцыі, Адам, калі жыў у Раі, размаўляў вершамі – рытмізаванай мовай. Цікава.

Найчасцей карыстаюся сваімі незлічонымі нататнікамі, зрэдку іншымі даведнікамі.

***4.*** Спрыяю хіба сама сабе, калі толькі сапраўды спрыяю, а не адкладаю на потым. Толькі ад мяне самой залежыць – зраблю/напішу ці змарную задуму. Ніхто гэтаму перашкодзіць не можа. Нават калі дзень заняты клопатамі, гэта не прычына, каб не знайсці час зранку ці ўначы, каб пабыць адной. Замінае хіба сумнеў. Часта лаўлю сябе на думцы: жыццё багацейшае за літаратуру. Вучыся пражываць яго напоўніцу – *у радасцях і раскошах ці згалочаны і нічога не маючы* – як пісалі нашыя продкі

ў сваіх тэстаментах. Кожны пражыты дзень – старонка. Ці таленавіта ён пражыты табой, ці проста кануў у *нівеч*?

Недзе прачытала, што чалавеку апроч іншага неабходныя дзве рэчы – паветра і пахвала. Пагаджуся. Увага чытача вельмі патрэбная, і каля яна станоўчая – радасна, а гэта ж такая каштоўная рэч – радасць. Дарэчы, пісаць, удала занатаваць думку, выказаць словамі эмоцыю – вялікая радасць для мяне. Нават складана параўнаць з нейкай іншай. Ствараючы тэкст, а гэта значыць – новы свет, ты нібы пазбаўляешся ад самоты. Не той гаючай, так неабходнай для разумення самой сябе ў гэтым свеце, а вусцішнай і маркотнай, ад якой складана ўцячы.

Не перапісваю, бо тады, магчыма, губляецца штосьці невымоўнае, праўдзівае, няхай нават і нягеглае. У гэтым сэнсе, я не прафесіянал і зусім не перфекцыяністка.

***5.*** Радуюся, калі яны зрэдчас здараюцца, і пасля забываюся на іх. Але нябачная іх прысутнасць усё ж істотная. Не атрымліваецца, бадай, тое, што больш узіраюся, чым запісваю. Доўга выношваю і, бывае, пераношваю. І хаця сам працэс пісання вельмі-вельмі люблю, часам сумняюся ў вартасці напісанага.

Хацела б перажыць яшчэ раз настрой і атмасферу 90-х. Яшчэ раз схадзіць на прэм'еру "Народнага альбома", размаўляць з Міхалам Анемпадыставым пра Менск, заходзіць у госці да бацькоў і ўжо ў пад'ездзе адчуваць неверагодныя водары прыгатаваных страў, якія так прыгожа будуць чакаць на стале... З вялікай удзячнасцю згадваю бацькоў і іх любоў, якая, магчыма, працягвае трымаць у гэтыя змрочныя часы. Іх сэрцы не вытрымалі б сённяшняй бядоты. Маю невялікае апавяданне "Дом", што калісь было надрукаванае ў "Нашай Ніве", якое, напэўна, самае біяграфічнае з усіх.

***6.*** Не дзённік і не кожны дзень, проста запісы ў асаблівым файле. Калі ў папяровых нататніках пераважна запісваю цытаты іншых, то тут – уласныя зацемкі пра ўсё на свеце.

З пачуццём ляноты знаёмая блізка. Але ж яна дазваляе лепш прыслухацца да сябе ў няспешнасці. Калі "не пішацца" – малюю, ці фатаграфую, ці ляплю з гліны... Нішто так не змяняе ўнутраны свет, як творчасць, бо тады змяняецца для цябе і вонкавы свет. Удакладню, што індывідуальны вонкавы. На жаль, я не магу змяніць звонку сённяшнія выродлівыя злачынныя праявы. Вельмі запалі мне ў душу словы дзіцячага аўтара з Ізюма, светлай памяці Уладзіміра Вакуленкі: "Да ўсяго можна прызвычаіцца, галоўнае – кім ты пры гэтым застанешся".

***7.*** Вядома, чытаю. Не ўсіх і не запар, але ж маю ўлюбёных і ўсіх не пералічыць. З нашых аўтараў вылучу тых, хто не толькі ўразіў сюжэтам, мовай, талентам, а хто моцна зачапіў, пакінуўшы ўнутры залатую стрэмку і ўзбагаціў. Вячаслаў Адамчык, Марыя Вайцяшонак, Ева Вежнавец, Мойшэ Кульбак, Таццяна Сапач, Валянцін Акудовіч, Наста Кудасава, Таццяна Скарынкіна... Імёнаў насамрэч значна больш. Сярод сусветных вылучу Вольгу Такарчук. Якраз цяпер чытаю яе "Dom dzienny, dom nocny" ў арыгінале, і вельмі цаню беларускія пераклады. Прыкладам, "Правек" Марыны Шоды. Гэта адтуль – *бо толькі няўлоўнае і зменнае найбольш падобнае да б-га.* Менавіта гэтым здаўна і кіруюся, напрыклад, калі фатаграфую навакольны свет. Зафіксаваць зменлівае, тое, што праз імгненне ўжо будзе іншым. Цікава, што нешта блізкае да гэтага прысутнае і ў літаратурнай творчасці. Перачытваю пераважна паэзію. На перачытванне вялікіх твораў папросту ўжо не стае часу. Але здарыцца можа ўсялякае. Дарэчы, раман Кульбака "Мэсія з роду Эфраіма" перачытала ўжо тройчы. І гэта не апошні раз, спадзяюся. Геніяльны.

***8.*** Для першага кроку патрэбна адвага і ўвага. Да сябе, да іншых, да наваколля. Сучаснай беларускай літаратуры не стае адкрытасці да свету, разняволення і арыстакратызму (вясковага і гарадскога). Час, у якім даводзіцца жыць, пры ўсіх жахах і пагрозах – выключны для адважнай творчасці, пазбаўленай фігавых апранах.

# Фелікс Баторын



***1.*** Чым бачыцца мне літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Усім разам, і без містыкі. Творчы пачатак закладзены ва ўсіх людзей у генах. Любы від дзейнасці звязаны з нейкімі творчымі прыёмамі. Нават праца дворніка вымагае ў пэўных выпадках творчага падыходу. У адных людзей больш выражана схільнасць да адмысловых відаў творчасці, у іншых – да інакшых. Магчымасць жа рэалізаваць свой творчы патэнцыял залежыць ад канкрэтных жыццёвых акалічнасцяў і ад якасцяў асобы такіх, як уседлівасць, сіла волі, цікаўнасць, працавітасць альбо ленаватасць, ад матэрыяльнага дастатку сям'і, выхавання, адукацыі і г.д. Як усе без выключэння дзеці ранняга ўзросту, я ў маленстве меў схільнасць да рытмічнай мовы і рыфмавання. Мая старэйшая сястра Святлана, якая вельмі любіла мяне (і я яе не менш), ганарылася маімі "поспехамі" і без канца ўводзіла мне ў вушы, што я буду паэтам. Яна нарадзілася ў траўні 1941 года, немаўляткам з маці трапіла ў эвакуацыю, дзе жыць давялося ў вялікай нястачы. Святлана цяжка захварэла і, нягледзячы на ўсе намаганні дактароў, памерла ў шаснаццаць год. Незадоўга да смерці яна ўзяла з мяне, дзевяцігадовага, слова, што я не кіну складаць вершы. Я паабяцаў.

Мае дзеці, дарэчы, таксама ад нараджэння мелі схільнасць да творчага працэсу, звязанага з музыкай і са словам. Дачка Святлана скончыла музычнае вучылішча, інстытут культуры па класе віяланчэлі, выступала з музычнымі ансамблямі. Але на гэтай ніве ў яе, як той казаў, не склалася. Урэшце яна зрабілася педагогам-арганізатарам, працуе ў школе, арганізуе працу гурткоў самадзейнасці, сустрэчы дзяцей з музыкантамі, паэтамі. Сын Дзімітрый – кандыдат філалагічных навук, аўтар шматлікіх навуковых прац па беларускай філалогіі і культуралогіі.

Што ж тычыцца майго творчага дэбюту, калі ім лічыць першую публікацыю, то адбылося гэта так. У 1966 годзе мяне, актыўнага наведвальніка літаратурных аб'яднанняў пры некалькіх беларускіх перыядычных выданнях, запрасілі на семінар маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах. Ініцыятарам запрашэння быў А. Русецкі. На семінары разам са мною былі вельмі таленавітыя хлопцы і дзяўчаты: Іван Кірэйчык, Валянціна Коўтун, Леанід Калодзежны, Ніна Мацяш, Ніна Шклярава, Анатоль Кірвель, Галіна Каржанеўская, Марыя Баравік... Усе яны былі куды больш таленавітыя за мяне, і пачуваўся я з гэтай нагоды ніякавата. Вялі семінар Анатоль Вярцінскі, Васіль Вітка, Мікола Аўрамчык. Вось менавіта Мікалай Якаўлевіч і звярнуў на мяне ўвагу, папрацаваў са мной індывідуальна. У выніку ў 1967 годзе ў 7-м нумары "Маладосці" ўбачыла свет мая першая падборка вершаў. Мікалай Якаўлевіч актыўна цікавіўся маімі поспехамі і дапамагаў добрымі парадамі доўгія гады. Потым у маім станаўленні як паэта адыгралі вялікую ролю У. Паўлаў, М. Стральцоў, Р. Барадулін. З падачы В. Сёмухі і В. Рабкевіча я пачаў займацца перакладам. Шмат мне дало сяброўства з Л. Дранько-Майсюком, творчасцю якога я зачараваны з самага яго дэбюту. Духоўна ён вельмі блізкі мне. Часцяком у мяне мільгае нават зайздрослівая думка: ну чаму гэта напісаў ён, а не я... Вось колькі ў мяне "хросных бацькоў".

***2.*** Чытаючы біяграфіі многіх творцаў, сутыкаешся з тым, што ў пераважнай іх большасці ўсталяваны і пэўным чынам арганізаваны рабочы дзень. Я неарганізаваны чалавек. Спецыяльнага часу на творчасць не вылучаю. Рабіў спробы прымусіць сябе нешта напісаць. Нічога з гэтага не атрымалася. Задумкі ў мяне ўзнікаюць нечакана ў любыя гадзіны сутак і часцей за ўсё ў самы неспрыяльны час. Галоўнае, нешта павінна мяне моцна ўразіць. Не абавязкова падзея павінна адбыцца менавіта са мною. Гэта можа быць нешта прачытанае, пачутае ад людзей альбо сустрэтае ў СМІ. Іншым разам мною авалодвае нейкі рытм. Я мармычу нешта ў гэтым рытме, потым пачынаюць з'яўляцца адпаведныя рытму словы, страфы. Не заўсёды, пачаўшы верш, я ведаю, чым ён скончыцца. Калі б вы бачылі, на якіх выпадковых паперках накрэмзаныя мае чарнавікі!

Запісваю я іх звычайна шарыкавымі ручкамі. Здараецца – і алоўкам. Потым пачынаецца праца з вершам, бо адразу, на адным дыханні, не ўсё атрымліваецца найлепшым чынам.

Вось тут ужо я саджуся за працу спецыяльна. Бывае, што ўдзень, бывае – і сярод ночы, тым больш што бяссонне – нярэдкі мой госць. "Стымулятараў" дзеля творчай працы не ўжываю. Не куру, віна амаль не п'ю, не аматар. Каву п'ю ў час адпачынку. Гатовыя вершы апрабоўваю на жонцы, дзецях, сябрах. Амаль заўжды чую ад іх нейкія слушныя заўвагі, асэнсоўваю іх і перарабляю напісанае. Кампутарам карыстаюся для захавання і перасылкі тэкстаў. Калі згаданае вышэй і ёсць натхненне, то пішу я, значыць, толькі зазнаўшы натхненне. Вось калі я пісаў мастацка-дакументальную аповесць "Чорны год", тады я працаваў, паставіўшы перад сабою творчую мэту. Я сустракаўся з удзельнікамі падзей, вёў з імі гутаркі, чытаў іхнія ўспаміны, вывучаў дакументы і садзіўся за стол мэтанакіравана.

***3.*** Пры апрацоўцы чарнавікоў я, безумоўна, звяртаю ўвагу на тэхнічныя дэталі, бо ў стыхійна паўсталых вершах не ўсё бывае ідэальна. Я прыхільнік класічнага рыфмаванага сілаба-танічнага верша, але з такой паэтычнай тэхнікі абсалюту не раблю. Ёсць творы, якія вымагаюць дольніка, верлібра, белага верша. Тут спрацоўвае і творчая інтуіцыя. Бывае, што дзеля большай выразнасці думкі трэба паламаць рытм. Здараецца, што нейкае слова здаецца не зусім адпаведным. Тады разгортваю сінанімічны альбо тлумачальны слоўнік. Слоўнікі я вельмі люблю, іншым разам зачытваюся імі, як мастацкім творам. Яны адкрываюць неверагодныя моўныя скарбы. Усім калегам, асабліва маладым, я раю: чытайце слоўнікі – дзвюх- і болей моўныя, арфаграфічныя, тлумачальныя, спецыяльныя, абласных гаворак, энцыклапедычныя – не пашкадуеце!

***4.*** Спрыяе мне ў творчасці перш за ўсё натхненне, а таксама зычлівае стаўленне да маёй творчасці рэдактараў выданняў, куды я дасылаю свае вершы. Да слухачоў, чытачоў, сяброў і блізкіх, рэдактараў я прыслухоўваюся безумоўна, але не бяздумна, прымаю не ўсе заўвагі, а толькі тыя, якія бачацца мне слушнымі. Перашкаджае ж часцяком творчаму працэсу неспрыяльны збег жыццёвых акалічнасцяў. Ад гэтага ніхто не застрахаваны. Часам у мяне ўзнікае жаданне перачытаць напісанае раней. Часцей за ўсё мае даўнейшыя творы мне ў нечым здаюцца недасканалымі, не ўсё ў іх падабаецца, за некаторыя робіцца сорамна. Але я іх не перарабляю, немагчыма перарабіць жыццё, якое ўжо адбылося. А вершы – гэта маё жыццё. Хай застаюцца такія, як ёсць. Бывае, трапляецца кінуты на паўслове чарнавік, у ім нейкая цікавая думка, вобраз, але ў час напісання не хапіла нечага, каб давесці верш да канца. Вось у такіх выпадках я пачынаю працаваць над вершам нанова. Здараецца гэта не так і часта, але здараецца.

***5.*** Я ўжо часткова адказаў на пастаўленыя пытанні. Ёсць у мяне дзясяткі са два вершаў, якія мне цалкам удаліся і вытрымалі выпрабаванне часам. Задаволены я і тым, што мне ўдалося апублікаваць аповесць пра ўдзел майго

бацькі і яго таварышаў у супраціве фашысцкай навале. Застаецца дадаць, што ў мяне нямала вершаў, якія можна лічыць аўтабіяграфічнымі. У іх занатаваныя мае перажыванні як сына, мужа, бацькі, урача, выкладзена тое, чаму я быў сведкам. Ды йнакш, напэўна, і не бывае. І ўсё ж не варта ставіць знаку тоеснасці паміж лірычным героем і аўтарам твора. А што б я хацеў перажыць нанова? Сустрэчы з дарагімі мне людзьмі, якіх больш няма. Але гэта немагчыма.

***6.*** Дзённікаў я не вяду. Думаю, тут я не маю рацыі. Памяць – інструмент не надта надзейны, з цягам часу прытупляецца. Аднак праз сваю неарганізаванасць пераступіць не магу. Калі не пішацца, не пішу. Плінія з ягоным *nulla dies sine linea* паважаю, але я супраць пісання радкоў дзеля радкоў. Пачуццё ляноты? Калі чытаю ў Пушкіна, як ён аддаецца ляноце, я яго добра разумею. Натхнення не шукаю: яно само знаходзіць мяне.

***7.*** Чытаю я менш, чым хацелася б, праз праблемы са здароўем і бытавыя варункі часу катастрафічна не хапае, але перыёдыку праглядаю рэгулярна, маладзейшых аўтараў чытаю , а старэйшых калегаў – і пагатоў. Любімыя аўтары: Янка Купала, Максім Багдановіч, Лермантаў, Пастарнак, Мандэльштам, Стральцоў, Гейнэ (правільней – Гайнэ), Аўсей Дрыз, Ганна Ахматава, Ніна Мацяш, Самуіл Маршак, Анатоль Вярцінскі, Лёня Дранько-Майсюк. Перачытваць люблю Купалавыя "Курган" і "Магілу льва", Караткевічавыя "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" і "Ладдзю роспачы", франтавыя дзённікі Канстанціна Сіманава, розныя вершы Ніны Мацяш і Лёні Дранько-Майсюка, навелы Стэфана Цвейга (правільней – Цвайга). Не ведаю, можа я безнадзейна састарэў, але ў сучаснай моладзевай паэзіі прымаю далёка не ўсё. Засмучае павярхоўнасць, катэгарычнасць, неахайнасць тэхнікі. І яшчэ, часам мне здаецца, што ў нас памёр альбо ўпаў у летаргію інстытут рэдактарства. Робіцца горка, калі пад выглядам вытанчанасці думкі і высокай асацыятыўнасці чытачу прапануецца выяўная бязглуздзіца, набор цытатаў і псеўдарэмінісцэнцый, а то і (проста дзеля эпатажу) брыдкаслоўе, пры гэтым нічым не апраўданае. Засмучае высакамернае стаўленне некаторых юных геніяў да набыткаў папярэднікаў і да творчасці класікаў, імкненне да ідаласкідання і высмейвання. Чытайце, хлопцы-дзеўкі, Запавет: не судзі і асуджаны не будзеш. Вам у класікаў яшчэ дзесяць год трэба ваду насіць і дзяцей калыхаць!

***8.*** Сучаснай беларускай літаратуры перш за ўсё не хапае чытача. Нават шмат хто з тых, што лічаць сябе пісьменнікамі, не чытае нікога, апроч сябе. Гэта бяда ўсёй сённяшняй сусветнай літаратуры. Мы жывем у часы "масавай культуры", калі запатрабаваная літаратура забаўляльная, над якою не трэба ламаць стомленай бытам і ўсёю рэчаіснасцю галавы. Але ў Беларусі становішча больш трагічнае, бо фактычна робіцца мізэрна мала для прапагандавання роднага слова. Занядбанне мовы і праз гэта знікненне чытача непазбежна прывядуць да краху літаратуры.

Што пажадаць тым, хто робіць першыя крокі па дарозе на Парнас? Перш за ўсё Багушэвічава: "не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі". Чытайце не толькі свае "неўміручкі", але як мага больш твораў высокай літаратуры, вучыцеся працаваць са словам, будзьце жорсткімі крытыкамі сваіх тэкстаў, прыслухоўвайцеся не столькі да тых, хто вас хваліць, але раней да тых, хто тыцкае вас носам у вашыя хібы. І – *per aspera ad astra* (праз церні – да зор)!

---

"Дзеяслоўцы" сардэчна віншуюць
шаноўнага **Фелікса Барысавіча Баторына**
з сямідзесяціпяцігоддзем і зычаць яму моцнага здароўя,
бадзёрасці, новых творчых адкрыццяў, Божае ласкі!

# Нашыя аўтары

**Аксак Валянціна** – паэтка, журналістка. Аўтар кніг «Цвінтар», «Капліца», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца», «Дзікая сліва». Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф» (2008). Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Аўраменка Васіль** – публіцыст, паэт, бард, лекар-неўролаг. Аўтар кнігі-эсэ «Нябачнае і ява (фрагменты інтымнай аўтабіяграфіі)», паэтычнага зборніка «Кругі і колы». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мазыры. Жыве ў Магілёве.

**Бабкова Вольга** – літаратарка, гісторык-архівіст. Займаецца даследаваннем і выданнем тэстаментаў беларускай шляхты XVI–XVIII стст. Аўтарка кнігі эсэ па гісторыі штодзённасці ВКЛ «...І цуды, і страхі». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Францішка Багушэвіча (2010). Нарадзілася ў Мінску ў 1961 годзе, дзе і жыве.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў», «Яблычны пах цішыні», дакументальнай аповесці «Чорны год» ды інш. Перакладае на беларускую мову вершы нямецкіх, яўрэйскіх, польскіх, рускіх паэтаў. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Валасюк Лявон** – паэт, мастак. Аўтар кніг вершаў «Блики дня», «Краски души», «Под знаком Стрельца», «Леаніды», «Чырвоная вежа», «Познія сны» ды інш. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Песцяныкі на Кобрыншчыне. Жыве ў Берасці.

**Гарбацкі Уладзіслаў** – перакладчык, празаік, сацыялінгвіст. Дацэнт Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Аўтар кніг «Песьні тралейбусных рагуляў», «Гід па фэмінізацыі беларускай мовы» ды інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Віцебску. Жыве ў Вільні.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» ды інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Далідовіч Генрых** – празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя», «Кліч роднага звона» ды інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1987), дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1996). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі (разам з А. Клешчуком), «Скарб» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Зуёнак Васіль** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг паэзіі «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» ды інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2018). Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Ластаўскене (Ластоўская) Марыя** – летувіская пісьменніца, больш вядомая пад псэўданімам *Lazdynų Pelėda* (Ляшчынавая Сава). Самы вядомы твор — аповесць «У паўночнай сталіцы» (1928-1930). Лічыцца пачынальніцай фемінізму ў Летуве, у прыватнасці – у мастацкай літаратуры (раман «Святло і цені»). Нарадзілася ў 1872 годзе ў Шаўлях (Летува). Памерла ў 1957 годзе ў Коўне.

**Ліс Дар’я** – празаік, паэтка, журналістка. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М. Танка. Аўтарка кнігі паэзіі і прозы «Вясновы джаз». Каардынатарка па працы з дарослымі пацыентамі са спінальнай мышачнай атрафіі пацыенцкай арганізацыі «Геном».

Нарадзілася ў 1981 годзе ў вёсцы Залессе на Смаргоншчыне, дзе і жыве.

**Мацеша Дар'я** – паэтка. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Цяпер даследуе помнікі старабеларускай публіцыстыкі ў магістратуры. Піша вершы і лірычную прозу. Нарадзілася ў 2000 годзе ў Крупках. Жыве ў Мінску.

**Міхно Уладзімір** – празаік, публіцыст. Аўтар кнігі «Горкі зефір», «Азартныя гульні». Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Чэрцы на Лепельшчыне. Памёр у 2019 годзе.

**Навіцкая Ірына** – украінская паэтка, празаік, перакладчыца. Аўтарка кнігі вершаў «МрЗ». Лаўрэатка розных літаратурных конкурсаў, сярод якіх «Паэтычныя майстэрні», пераможца конкурсу «Урба_Перехрестя», пераможца конкурсу «Поетичний рушник», дыпламантка конкурсаў «Культрэванш», «Гранаслоў» ды інш. Адна з найлепшых спартовак з інваліднасцю на Гарадоччыне ў 2016 годзе. У конкурсе «Краса без абмежаванняў – 2016» (Краматорск) здабыла тытул «Міс Крэатыўнасць». Нарадзілася ў 1981 годзе на Львоўшчыне. Жыве ў Крывым Рогу.

**Някляеў Уладзімір** – паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі», «Знічы кахання» ды інш., прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» ды інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013), прэміі імя Наталлі Арсенневай (2017) ды інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Пятровіч (Сачанка) Барыс** – празаік. Аўтар кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце быць», «Жыць не страшна», «Піліпікі», «Плошча», «Спакушэнне», «Спачатку была цемра», «Пуціна», «Ідзі адзін», «...Роўна і трошкі ўправа» ды інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойнічыне. Жыве ў Мінску.

**Сцепанюк Андрэй** – паэт. Творы друкаваліся ў газеце «Ніва», часопісе «Дзеяслоў», альманахах «Белавежа» і «Тэрмапілы». Аўтар кнігі вершаў «Расπісаны квадрат». Дырэктар ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Бельску-Падляшскім, дзе і жыве.

**Шапран Сяргей** – журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным», «Беларускі гістарычны анекдот» ды інш. Лаўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча (2011). Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

**Лаўрэаты літаратурнай прэміі**
**«Залаты апостраф» —**
**за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2022 годзе:**

***«Паэзія»*. Усевалад СЦЕБУРАКА. За нізкі вершаў «Ты мне скажы...», №116 і «Інстытут туманаў», №121.**

***«Проза»*. Віктар КАЗЬКО. За цыкл аповедаў «Лёнькі, Ваські, Валодзькі», №№118-120.**

***«Дэбют»*. Ксенія ФЁДАРАВА. За апавяданне «Мост», №118.**





**Найшчыра віншуем нашых новых лаўрэатаў!**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Алены Адамчык, Анатоля Клешчука, Джона Кунстадтэра, Глеба Лабадзенкі, Дырка Скібы, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.